## ЗМЕСТ



**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# ПАСЛЯ ВАЙНЫ

*Раман**

## X

Якава Арыстархавіча арыштавалі ў 1948 годзе. Не адразу пасля выгнання немцаў і аднаўлення савецкай улады ў 1944-м, крыху счакалі, далі магчымасць пажыць, пацешыцца воляй.

Сядзеў Якаў Арыстархавіч яшчэ да вайны, «пры тых Саветах», як называлі той час, «за эксплуатацию чужого труда». Асуджаны быў 23 красавіка 1941 года на пяць гадоў турэмнага зняволення і вызвалены з пачаткам вайны. Сталася так, што не адбыў і года, вызваленне прыйшло само сабой, і ў турэмнай робе пяшком прыдыбаў дахаты. Цяпер улады зноў вярнуліся да гэтага пытання і хаця нічога заганнага ў яго паводзінах за час акупацыі не знайшлі, пастанавілі, каб даседзеў недаседжанае. Рабілі зачыстку перад калектывізацыяй. Амброжыя пакуль што не чапалі, трымалі ў спакоі.

Нкусаўцы, каму было загадана забраць Якава Арыстархавіча, прыехалі з Камянца ноччу (найбольшую актыўнасць гэтая ўстанова праяўляла ўначы) на грузавой машыне, «палутарцы». Іх было двое: малодшы лейтэнант Ступін і вадзіцель старшы сяржант Гарачка. Спыніліся ў Прусцы. «Палутарку» паставілі каля царквы, непадалёк ад Васілёвай хаты. Перашкодзіла ім рака. У машыне застаўся Гарачка, а Ступін пайшоў у Альбэрцін пяшком. Сказаў, што пойдзе адзін, ды тут і недалёка.

— А не ўцячэ? — засумняваўся Гарачка.

— У мяне яшчэ ніхто не ўцёк! — абражаны такой засцярогай, працадзіў скрозь зубы Ступін. — Панятых пашукай, пакуль я вярнуся!

Абмінуў Крухмальню і далей ішоў берагам Лосьны, пад покрывам ночы. Над рачной плынню вісеў лёгкі туман. З неба пазіраў месяц, і добра было відаць цупка ўтаптаную сцяжыну, што бегла ўздоўж ракі. Праз раку, на другі бераг, на якім стаяў фальварак, Ступін перайшоў па кладцы, трымаючыся за поручань. Восень выдалася сухой, і рака прыкметна абмялела. Кладка з акораных сасновых бярвенняў, хісткая і досыць слізкая, абгабляваная чалавечымі нагамі, вісела даволі высока над вадою, але ад непрыемнасцей ратаваў поручань. З яго дапамогай Ступін удала справіўся з пераходам. Абмінуў каменны крыж, што стаяў воддаль ад ракі, як бы ахоўваў навакольную прастору. За крыжам віднелася прыземістая хата, накрытая бляшаным дахам. Ступін незадаволена крутнуў галавой: «Людзі бедствуюць, а ён дом бляхай

---

* Працяг. Пачатак у № 4, 2015 г.

крые, ды яшчэ і цынкавай!» Грозна бразнуўшы ланцугом, забрахаў сабака. Ступін падышоў да акна, пастукаў, потым яшчэ раз, мацней. Гаспадары, быццам чуючы нядобрае, доўга не адчынялі. Нарэшце ў накінутым на плечы доўгім кажуху на ганку паказаўся Якаў Арыстархавіч. Ступін дастаў з кішэні і сунуў яму пад нос паперу.

— Што гэта?

— Ордэр на арышт! Паўгадзіны на зборы!

Бровы Якава Арыстархавіча ад нечаканасці палезлі ўверх, але спакой яго не пакінуў.

— Зайдзіце ў хату, крыху адпачніце, — прапанаваў ён, — бо, відаць, здарожыліся.

Ступін павагаўся, туды-сюды пакруціў галавой, але вырашыў зайсці, каб не выпускаць «кліента» з вачэй.

— Я ж ужо, хоба на яго, сядзеў, — вінавата напомніў Якаў Арыстархавіч, калі яны за адным скрыпам — ён паперадзе, госць за ім — апынуліся ў хаце. — Столькі часу прайшло. Я ўжо не помню, калі гэта было.

— Трэба апрадзяліцца, высветліць ваш сацыяльны твар.

Якаў Арыстархавіч, відаць, не ўцяміў, бо перапытаў:

— Твар? Які твар? З падаткамі мы разлічыліся поўнасцю. Пра ўладу нічога дрэннага я не казаў...

— Там разбяруцца!

— Ну, так, разбяруцца, бо межы дазволенага я не пераступаў. Не маю такой прывычкі. Дык за што? За што? Я абсалютна невінаваты.

Людзі з суседніх Бранавіч пагражалі — слухі такія да яго даходзілі, што, яго, Якава, даўно пара выправіць собалі пасвіць, але собалі пакуль што абыходзіліся без яго. Аднак, відаць, прыйшла гэтая пара...

— Наіўны вы чалавек. Гэта толькі так здаецца. Калі ўжо на тое пайшло, дык кожнага трэба было б пасадзіць, таму што невінаватых людзей няма, кожнага ёсць за што прыжучыць. Быў бы чалавек, а справа знойдзецца.

Якаў Арыстархавіч ціха ўздыхнуў. У хату зайшла напалоханая Хвядося, стала прыслухоўвацца да таго, пра што ідзе размова.

— Чаму вам не падабаецца савецкая ўлада? — раптам спытаў Ступін.

— Адкуль гэта вам вядома?

— Ну такі хутар! — Ступін пасміхнуўся. — Не можа быць, каб яна вам падабалася.

Якаў Арыстархавіч ізноў вінавата ўздыхнуў.

— Апранайцеся! — загадаў нкусавец. — Дзяржава — інстанцыя цвёрдая і памятлівая, яна памятае ўсё, — дадаў ён, намякаючы, пэўна, на тое, што Якаў Арыстархавіч не даседзеў свайго колішняга тэрміну і вызваліўся дачасна. — Там знойдуць канцы! Дзяржаву яшчэ ніхто не падмануў, з савецкай уладай шуткі плохі.

Хвядося загаласіла, заскавытала, аднак тут жа аціхла, сцяміўшы, што трэба нешта рабіць, збіраць мужа. Замітусілася вакол гаспадара. Захваляваўся і Якаў Арыстархавіч, на вочы накруціліся слёзы. Зірнуў у покут, дзе пад абразамі стаяў стол, накрыты абрусам і абстаўлены зграбнымі крэсельцамі.

Уздыхнуўшы і падвязаўшы фартушок, Хвядося сказала:

— Якаў, вазьмі хоць сухароў, сала кавалак! Сыру вазьмі! Ты ж любіш сыр! Я табе зараз пакладу. — Апроч правізіі, паклала ў вузельчык пару ніжняй бялізны.

— Можа, і вам сыру? — звярнулася яна да службоўца.

— Не.

Ступін прайшоўся па хаце. На нейкі момант стала ціха, чуліся толькі яго крокі, рып маснічын. Звярнуў увагу на мноства ікон у кутку, цэлы іканастас, і падумаў з нейкім нават спачуваннем: «Цёмныя людзі, цемната, адсталасць...» Прыглядзеўся да фатаграфій, што віселі на сценах, але яны настолькі былі заседжаны мухамі, што немагчыма было разабраць, хто на іх зняты.

З'явіўся, пачуўшы, што ў братавай хаце дзеецца нешта нядобрае, Амброжый. Моўчкі спыніўся каля дзвярнога вушака, цярэбячы ў руках шапку і здзіўлена пазіраючы то на Ступіна, то на брата, то на Хвядосю.

— А можа, памылка якая? — прамовіў нарэшце ён.

— Ніякай ашыбкі быць не можа! — устрапянуўся Ступін, нервова перасмыкнуўшы вуснамі. — Органы дзейнічаюць па законе. Бяром, значыць, нада. Асабіста я памылак не раблю.

— Земцы мы, — пачаў тлумачыць Амброжый, захоўваючы выраз крайняга здзіўлення на твары, — багацця ў нас няма. Земцы і толькі. З зямлі жывём.

Ступін маўчаў, толькі чутно было, як ён соп, нібы нёс нешта вельмі цяжкае.

— Каб быў у чымсьці вінаваты, — загаварыў арыштаваны, — дык хай бы тады каралі, а так... Я ні ў чым не вінаваты, віны не заўважаў.

— Я аб гэтым ужо сказаў, — суха напомніў нкусавец.

— І што цяпер будзе?

— Вы звярнуліся не па адрасе, — гэтаксама суха адказаў Ступін.

Апранаўся Якаў Арыстархавіч непаспешліва, з заўсёднай сваёй акуратнасцю: нацягнуўшы на сябе сарочку, не забыў падвязаць і гальштук. Паверх надзеў світку. У кутку стаяла кульба, якую Якаў Арыстархавіч браў з сабою, калі куды ішоў.

— Якаў, кульбу сваю возьмеш? — клопатна папытала Хвядося, падаючы мужу гэтую яго прыладу.

— Адставіць! Адставіць! — напудзіўся на яе Ступін і замахаў рукамі. На кульбу пазіраў з выразам жаху на твары: — Вы што?! Вы што?! Не паложана! Не паложана!

Хвядося паставіла прыладу на месца, дзе яна стаяла. Апрануўшыся, арыштаваны насунуў на галаву капялюш, узяў наладкаваны Хвядосяй вузельчык і, не чакаючы каманды, сашчапіў рукі за спінаю, не выпускаючы вузельчыка. Ён памятаў, што гэтак патрабалася ад «зэка» пры тых Саветах. Не думаў, што магло што-небудзь змяніцца. Службовец скамандаваў, і яны рушылі. Выйшаўшы з хаты, азірнуўся, паглядзеў управа, улева: гаспадарчыя пабудовы, плот, дрэвы, — усё знаходзілася на сваіх месцах, толькі ён сам ужо як бы адсутнічаў, яго тут ужо не было. Бралася на золак, залачаў прастор неба.

За плотам насцярожана маўчаў сад, стаялі высокія чарэшні, паміж імі — пчаліныя вуллі. Не чутно было аднак пчол, ці то яшчэ спалі, ці паляцелі за ранішнім узяткам, ад вуллёў соладка пахла мёдам. «Там мэду не дадуць», — сумна падумаў фальварковец. Душыла крыўда: «І тады нізашто пасадзілі, і зараз зноў валакуць. Ужо ж столькі часу прайшло, вайну пераэжылі...»

Развіталіся на падворку. Прыпала да грудзей і ўголас плакала Хвядося.

— Ну, не плач ужо гэтак, — спрабаваў суцешыць жонку Якаў Арыстархавіч.

Моўчкі стаяў Амброжый. Арыштаваны моцна абняўся з братам.

— Ой, нашто нам кара такая? — плакала Хвядося.

Прачнулася і прыбегла Паўліна, накінуўшы на плечы сачык. Якаў Арыстархавіч абняўся і з ёй. Туліў да сябе і сціскаў. Нарэшце пацалаваліся і раз-

няліся. На Хвядосю гэта, мусіць, зрабіла ўражанне, бо яна сцішыла плач і, румзаючы, выцірала вочы падалом фартушка.

Перад ганкам стаялі свінні і гучна рохкалі — прасілі есці. Брахаў, ірваў ланцуг сабака.

— Хвядося, свіней пакармі і яго! — Якаў Арыстархавіч кіўнуў у бок сабакі.

— Ой, Якаў, пра гэта не клапаціся, усё будзе дагледжана!

— Дагледзім! — паабяцаў Амброжый, а Хвядося зноў загаласіла:

— Божа святый! Што гэта будзе?! Зноў забіра-аюць!

Ступін прыспешваў, падганяў. На беразе арыштаваны спыніўся, паставіў каля сябе вузельчык, прысеў і жменяй зачарпнуў рачной вады, абдаў твар і выцерся рукавом. Яшчэ раз агледзеўся. Ціха плыла ў рацэ вада, пад раніцу яна пасвятлела пад берагамі. Звычайна прыемна было чуць, як плешчацца, размаўляе з берагам вада, цяпер ён гэтай асалоды не адчуваў. Расчуліў толькі знаёмы пах падвялага аеру, удыхнуў яго глыбей і адчуў, як на вока наварочваецца слязіна. «Добра, што застаецца Амброжый, — падумаў ён, — будзе каму дагледзець гаспадарку. Ён хоць і праставаты, але ж тое-сёе разумее. І з Мірыкам не развітаўся, — пашкадаваў ён. — У Берасці ён, сваю долю шукае. Можа, і ўбачыцца не давядзецца... Хто яго ведае, як там усё павернецца». Яшчэ раз зірнуў на Паўліну: «Папрыгажэла з таго часу, як, галодная, прыбілася ў фальварак, выраўнялася, папраўілася, на шчаках з’явіўся румянец, даўжэй стала каса бліскучых чорных валасоў. Сапраўдная спакусніца...»

Прыбег, запыхаўшыся Нупрэй. Зірнуў на Ступіна і ўсё зразумеў.

— Што гэта? — памкнуўся нешта сказаць, але Ступін спыніў, уладна падняўшы руку і даючы зразумець, хто тут гаспадар становішча.

— Прашу не выступаць! Разбяромся!

Яшчэ раз абняліся. Туман паступова рассеяўся, агаліўшы раку, кусты, утравелы бераг.

— Бог — бацька! Не прападзём! Я ж ужо быў там! — стараўся супакоіць сямейнікаў арыштаваны. Пра сябе падумаў: «А можа, як выкруцімся?»

Наблізіўшыся да кладкі, азірнуўся на нерухомыя постаці тых, хто яго праводзіў, яшчэ раз развітаўся, на гэты раз вачыма. Усе пачулі, як ён шумна ўздыхнуў, ступаючы на кладку. За ім па бярвеннях затупаў Ступін, аберуч ухапіўшыся за поручань. Ціха плыла рака. Ні ўсплёску, ні шолаху. Адпачывала яшчэ ў сваіх схованках рыба.

— Асцярожна! — папярэдзіў Якаў Арыстархавіч. — А то яна, хоба на яе, хістаецца.

Адзін і другі трымаліся за поручань. Ступін рухаўся ўслед за арыштаваным, не адставаў, абмацваў падэшвамі слізкія бярвенні. Перайшлі кладку, пайшлі супрацьлеглым берагам. Сямейнікі засталіся ззаду.

Лосьна плыла, як вечнасць, ад свайго далёкага пушчанскага пачатку, утвараючы зялёную пойму з дрэвамі, кустамі, травой і кветкамі, адбіваючы ў сваёй люстранай плыні высокае неба, берагі, навакольны свет і ўсё, з чаго гэты свет складаецца, а найперш чалавека з яго жаданнямі, намаганнямі, лёсам. Здрадлівая гэта рэч — лёс! Вечнасць — пастаянная, а лёс — ой, які здрадлівы...

Амаль развіднела. Прачнуліся раскошныя вадзяныя ліліі, шырока раскрыўшы чашачкі мясістых белых пялёсткаў. Да вуха данёсся плюскат хвалі пад берагам. «Гэта рака развітваецца», — падумаў арыштаваны. Затрымцеў прыбярэжны трыснёг. З-за лазовага карча вылецеў вялікі белакрылы матылёк і стаў

снаваць каля арыштаванага, нібы нешта хацеў паведаміць. Каля балотнай купіны ўбачыў вужа і жабу ў яго пашчы. Упаляваў і цяпер імкнуўся заглынуць сваю ахвяру, з пашчы тырчэлі жабіны ногі. Цяпер ёй ужо нічым не дапаможаш.

Канваір прыспешваў. Вузейшую Плісу пераходзілі таксама па кладцы, але без поручня. Над плынню, па абодва бакі кладкі, навісалі карчы вербалозу, алешнік. Ступін на нешта загледзеўся, страціў раўнавагу і па пояс уваліўся ў ваду, стаў крычаць і брыдкасловіць, нібы хтосьці быў у гэтым вінаваты. Якаў Арыстархавіч кінуўся на выручку, спачуваючы, дапамог яму выбрацца. Ступін, ціха мацюкаючыся, сцягнуў з сябе боты і зняў галіфэ, пачаў выкручваць. Гімнастёрку з партупеяй не здымаў.

Наперадзе паказаліся ўжо абрысы палутаркі, каля якой дзяжурыў Гарачка. Арыштаваны паўзіраўся, зразумеў, што гэта за ім, і, паказаўшы ў той бок рукой, спытаў дазволу:

— Дык я пайду...

Ступін моўчкі кіўнуў.

Непадалёк, ля вярбы, стаялі ўсхваляваны Васіль Платонаў з Мікітам Галёнкам. Васіль заўсёды з глыбокай пашанай ставіўся да кума. Успомніў, як сядзелі ў Чырчове, у 1944-м, у вайну, у адным падвале, куды запраторылі немцы, палічыўшы за савецкіх дэсантнікаў. Можа, дзякуючы куму, і выратаваўся.

Гарачка захваляваўся. У галаву стрэліла шалёная здагадка: «Відаць, укакошыў Ступіна ды кінуў у раку. І канцы ў ваду!..» Намацаў і на ўсялякі выпадак расшпіліў кабуру. Нарэшце з таго боку ў ранішнім змроку паказалася чыясьці рослая, крыху прыгорбленая постаць чалавека ў капелюшы. Пазналі Якава Арыстархавіча.

— Маё шанаванне! — мірна павітаўся Якаў Арыстархавіч. Павітаўся, падаў руку, спачатку Гарачку, потым Васілю і Мікіту, і зноў залажыў за спіну.

У Гарачкі акругліліся вочы.

— Вось так незвязаныя ідзяце? — здзівіўся ён, звяртаючыся да Якава Арыстархавіча на «вы». — А ён дзе?

— Ваш таварыш, хоба на яго, у рэчку ўваліўся, на маіх вачах...

— Утапіўся! — ахнуў напалоханы Гарачка.

— Там ён, — Якаў Арыстархавіч паказаў кіўком галавы назад, — адзенне выкручвае.

— Што здарылася? — запытаўся Мікіта.

— Заарыштавалі...

— За што?

— Застаецца толькі здзіўляцца, — фальварковец пацiснуў тоўстымі плячыма.

Надта перажываў Васіль, заклапочаны тым, што адбывалася (збольшага расказаў Гарачка, калі шукаў панятых), і не ведаў, як дапамагчы Якаву Арыстархавічу. Затрымаў кумаву руку ў сваёй і пазіраў яму ў вочы, як бы абяцаючы, што не пакіне ў цяжкім становішчы.

Падышоў Ступін. Адзенне на ім было мокрае. Гарачка супакоіўся. Якаў Арыстархавіч памкнуўся да Васіля:

— Куме, будзь за сведку, скажы ім, што мы разам у турме сядзелі за сувязь з партызанамі.

— Сядзелі! Што праўда, то праўда! — памкнуўся даказваць Васіль. — Магу пацвердзіць.

— Спыніце, панімаеш, кумаўство! — рашуча абсек яго Ступін. — А вы, — зірнуў на арыштаванага, — сядайце ў кузаў.

Каб хоць трохі падбадзёрыць арыштаванага, Васіль прамовіў:

— Пагавораць ды адпусцяць.

— Дык і я, хоба на яго, на гэта спадзяюся, — прызнаўся фальварковец, ступаючы на кола, каб залезці ў кузаў. — Вялікі аўтамабіль прыслалі! — падзівіўся ён, сеўшы ў кузаве, у самым кутку.

— Пацягнулі-такі «хобу», — загаманіў Мікіта, калі матор завурчэў, рухавік набраў абароты і «палутарка» пасунулася ў бок Камянца. — І тады сядзеў і, відаць, зноў сядзе...

## XI

Раніцай таго ж дня Васіль зайшоў да айчыма.

— Кума забралі.

— Як забралі? Зноў?

— Зноў. Ноччу павезлі ў Камянец. Двое нкусаўцаў. Адзін з кладкі ўпаў, у рэчку ўваліўся, дык Якаў Арыстархавіч яго на бераг выцягнуў.

Арышт Якава Арыстархавіча зрабіў на Лявона цяжкае, гнятлівае ўражанне. «Што з гэтага ўсяго будзе?» — думаў ён.

— Відаць, даседжваць павезлі, тое, што да вайны не даседзеў, — выказаў меркаванне пасынак.

— Здзекуюцца з чалавека. Цікава, ці ведае пра гэта той Афінагенаў, пра якога ён расказваў.

Васіль пацiснуў плячыма. Думка звярнуцца да Івана Мітрафоравіча з'явілася адначасова — і ў Васіля, і ў Лявона.

— Можа, падскочыў бы ты ў Камянец, пагаварыў з ім. Куму трэба дапамагчы, — сказаў Лявон.

— Трэба.

У Камянец Васіль паехаў у той жа дзень, не адкладваючы на больш позні тэрмін. Ехаў на ровары. Дзень выдаўся спякотны, але, націскаючы на педалі, якія абдуваў ветрык, Васіль гэтага не адчуваў. Высока ў небе махала крыламі, купалася ў паветры, нібы суправаджала яго, нейкая птушка. Уз'ехаўшы на Бабіцкую гару, успомніў, як у 1943-м ён сустракаўся тут з Іванам Мітрафоравічам. Забілася сэрца, захваляваўся. Цяжкі, рызыкоўны быў час. Смерць па ўсіх дарогах хадзіла, усюды магла перастрэць.

Праехаў спаленую карнікамі ў 1944-м Ліпну. На некаторых абсадах хаты адбудоўваліся, але большасць народу яшчэ жыла ў зямлянках. Затым было Мікалаева, з блакітнай драўлянай, як і ў Прусцы, царкаўкай на ўзгорку. Знаёмыя з маленства мясціны.

Прамільгнулі Замасты і, нарэшце, на другім беразе Лосьны, Камянец. Пад'ехаў да райвыканкома. Кабінет Афінагенава знаходзіўся ў будынку райвыканкома. Да стала вёў тоўсты чырвоны ходнік. Гаспадар сустрэў прыязна, выйшаў з-за стала, пацiснуў руку.

— Па якім пытанні? Чым змагу, дапамагу.

Курносы, драбнаваты з твару, ён крыху пастарэў, раней бялёсыя валасы пабялелі яшчэ больш, але на вуснах усё тая ж прытоеная ўсмешка, якую ён хаваў у сваіх сталінскіх вусах.

Ніколі не ведаеш, што яна можа азначаць.

Іван Мітрафоравіч вярнуўся да стала, сеў у крэсла, расшпіліў верхні гузік свайго адмысловага фрэнча, пашытага з сіняга сукна, пакруціў шыяй.

— Сядай! — запрасіў госця.

— Паца арыштавалі.

— Гэтага Якава?

— Яго. Кум ён мне.

— Я ў курсе справы. Дык ты заступіцца за яго хацеў? З гэтым прыехаў?

— Варты ён.

— Я яго ведаю яшчэ з даваенных часоў, і ў вайну, здаралася, зналіся, — Афінагенаў зрабіў паўзу, быццам бы нешта прыгадваючы. — Аднака тут, відаць, нічога не зробіш. Яго, адкрыю табе сакрэт, у кулакі залічылі, а да кулакоў у савецкай улады літасці няма. Пісьмо на яго паступіла, пісьмо без подпісу. У ім сказана, што хазяйства кулацкае, прыведзены дадзеныя, плюс эксплуатацыя чужога труда. Твар Афінагенава пазмрачнеў, стаў сухім і строгім, нібы на яго апусцілася нейкая хмурынка.

— Гэта па-першае. Па-другое, не даседзеў ён таго, што да вайны па суду атрымаў. Закон ёсць закон — нічога не папішаш. З законам нада згаджацца, абхадзіць закон нельга. Закон суровы. Гэта трэба разумець. Гарачыцца не варта. У мяне пасля партызанкі сэрца халоднае стала, ахладзела. Нічым ужо не здзівіш. Ты таксама не гарачыся. Час складаны...

— Складаны, — згадзіўся Васіль. — А калі ён быў просты? Я дык і не прыпомню...

— Гэта праўда.

— У вайну, між іншым, ён з братам Амброжыем партызанам дапамагалі.

— Я ведаю, — хітнуў галавой Афінагенаў.

— Але даведкі наконт гэтага не далі. Па праўдзе кажучы, няма такой даведкі і ў мяне.

— Тады, у сорак чацвёртым, не далі, а цяпер позна ўжо. Поезд ушол. Я той сілы ўжо, дарагі Васіль Аляксандравіч, не маю. Не тыя часы.

«Не ўсемагутны ты, чалавеча, — апусціўшы галаву, падумаў пра яго Васіль, — не ўсемагутны. Відаць, што і ты баішся...»

— З архівам не так атрымалася, не так, як я хацеў...

Васіль слухаў, маўчаў.

— Ну, а сам ты як?

— Працую на гаспадарцы.

— А над маёй прапановай думаў?

— Думаю, Іван Мітрафоравіч. Спецыяльнасці не маю — вось што дрэнна.

— А што ты ўмееш?

— Вясковую работу.

— Навучышся! Авалодаеш спецыяльнасцю. Хай айчым твой за зямлю трымаецца, а табе наперад трэба глядзець. Ну, як? Я, зрэшты, не тараплю. Кожная думка павінна саспець. Але помні, што не богі гаршкі абжыгаюць.

Думаючы пра сваё, Васіль уздыхнуў, нічога не казаў, маўчаў. Жыццё, асабліва вайна, навучылі, што смеласць рашэнняў і ўчынкаў трэба спалучаць з асцярожнасцю. Аднак часам не шкодзіць і рызыкнуць...

— У Камянец пераязджай! Працаваць будзеш. Магчыма, і па гандлёвай частцы. Работу знойдзем...

— Падумаю, з жонкай параюся, з бацькамі.

— Што ж, без гэтага нельга.

Дома сустрэла Прося. Чакала, раздзьмухвала пліту, збіралася варыць бульбу. Ён расказаў пра сустрэчу з Афінагенавым, якога Прося таксама ведала з часоў вайны, і пра тое, што дапамагчы Якаву Арыстархавічу няма магчымасці. Хочуць, каб даседзеў яшчэ той даваенны тэрмін. Пра Афінагенава Прося спытала, кормячы малую Ліліянку:

— Гэта той, што прапаўшыя паперы шукае?

— Той. Пераязджай, кажа, у Камянец, работу знойдзем, пры пасадзе будзеш.

— У Камянец?

— Ну.

Прося няўцямна зірнула на мужа:

— Пры пасадзе? А ты што?

— Кажу — у мяне спецыяльнасці няма падхадзяшчай. А ён сваё: «Перабірайся!» Паабяцаў падумаць. Можа, дарэмна паабяцаў?

Прося нейкі час маўчала. Усё гэта было так нечакана, што не ведала, што і казаць, як да гэтага ставіцца. У яе вялікіх зеленаватых вачах з'явіўся выраз трывогі.

— А што ў нас малое, ты не казаў? — спытала Прося, кладучы Ліліянку ў калыску.

— Не казаў. А нашто?

— З малымі дзецьмі цяжка вандраваць па свеце.

Толькі-толькі пайшлі ў школу Віталік, а за ім і Лёнік. Цяпер яны спалі, раскінуўшыся на ложку. Прося паправіла коўдру.

— Ну і чым ваша размова скончылася?

— Я ж кажу: абяцаў падумаць, з табой параіцца.

Прося была ўражаная, перавяла размову на іншае.

— Прынёс бы вады! — папрасіла Васіля.

Ён узяў вёдры, схадзіў да калодзежа, прынёс, паставіў на лаву і ўсміхнуўся, жартуючы:

— Будзем жыць у горадзе, дык і па ваду не трэба будзе хадзіць, водаправод будзе, прама на кухню. Павярнуў кран — яна і цячэ.

— Не кажы абы-што. Нязбытна гэта.

— Чаму ты так думаеш?

— Хату кінуць? Зямлю? Дзе нарадзіўся, там і згадзіўся.

— Яно быццам і так, але...

— Што — але?

— Відаць, будзе калгас і ў нас. А куды ад яго дзенешся? — прамовіў ён. — Так што і зямля ўжо не твая стане...

Прося замаўчала, задумалася, потым падсунулася да яго бліжэй.

— Ну, прыгалуб мяне... — папрасіла яна.

Ён абняў яе і пяшчотна прытуліў да сябе...

Назаўтра пра паездку ў Камянец расказаў бацькам — Лявону і Фёкле. Фёкла толькі што вярнулася з агарода, нарвала парсюкам зелля, знаходзілася, як звычайна, у будзённых клопатах.

— Бачыўся з Афінагенавым, прыняў мяне, успомніў.

— Не забыў, значыць. А з Якавам што?

— Усё ён памятае і кума памятае, але дапамагчы не можа, бо, атрымліваецца, што кум не даседзеў яшчэ таго, што да вайны далі...

Айчым сумна ўздыхнуў.

— І пра тую гаворку напомніў.

— Пра якую? — не зразумеў Лявон.

— Наконт пасады. Каб у Камянцы працаваць. Работу, кажа, знойдзем. У Камянец, кажа, перабірайся.

— Дзіва што! Упаўнаважаным якім-небудзь прызначаць, з тэчкай[1] будзеш хадзіць, — падкалоў Лявон, выслухаўшы аповед пасынка. — З тэчкай далёка можна пайсці, не тое, што з плугам.

---

[1] Партфель (*польск.*).

— Вы, тато, крыўдуеце, пра нейкую тэчку гаворыце, жартуеце, вядома. Не, я да гэтага не імкнуся.

— Тут жартуй не жартуй, а справа сур'ёзная.

— Ну, так. Вы ж, тато, самі казалі: не ўвесь свет той, што ў акне. Пражыць жыццё на адным месцы — значыць, не пазнаць сябе, свой, як кажуць, намінал, на што ты здольны...

— І што ты яму адказаў?

— Не ведаю, кажу, з бацькамі трэба параіцца.

Умяшалася Фёкла:

— А Прося? А дзеці? Пра іх трэба думаць!

— Я казаў Просі, яна плакаць пачала. Потым, праўда, аціхла. Дзеці, кажа, малыя...

Фёкла ўспомніла колішнюю сынаву настаўніцу пані Пакорскую (калісьці хадзіў у польскую школу), якая казала, што з Васі можа атрымацца добры ксёндз. Але казаць пра свой успамін не стала, загаварыла пра іншае:

— Цяпер людзі ў гарады ўцякаюць, калгасаў баяцца. Плывуць чуткі пра калгасы...

Лявон над гэтым пытаннем, відаць, ужо думаў.

— Хто яго ведае, — зноў уздыхнуў ён. — Час пакажа. Адразу, сходу, такое не вырашыш. Адно відаць: усё пачало мяняцца, з месца скранулася. Але толькі чалавек можа вырашыць, куды падацца, што рабіць. Той, хто за ўсё адказвае.

— Хто?

— Ты сам. Як я калісьці, калі ў Амерыку кінуўся. Зрэшты, дарога жыцця шырокая ды і не адна. Справа твая, якую выбіраць і што вырашаць. Вырашаць — самае цяжкае для чалавека.

— Лавіраваць трэба, тато.

Лявон нічога не прамовіў, толькі няўцямна паціснуў плячыма і апусціў галаву. Яны закурылі, але курыць не хацелася. Лявонава запаленая цыгарка адразу ж і пагасла.

— Кожны павінен жыць сваім жыццём і кіравацца тым, куды яго цягне. Гэта ўпаўне натуральна, — прамовіў ён. — Слухаць трэба ўсіх, але напарэшту сябе самога.

Лявон размаўляў нібы сам з сабою. Стараўся не падаваць выгляду, але яго вельмі засмучаў гэты накірунак думак пасынка, яго хай пакуль што яшчэ неакрэслены намер развітацца з гаспадаркай і знайсці сябе на местачковай пасадзе. Гаворыць ласкава: «Тато, тато..», — а накірунак свой. А ён спадзяваўся, што пасынак будзе апорай, яму і Фёкле, у жыцці, у старасці, як родны сын. Спадзяваўся, што будуць гаспадарыць разам. Значыць, не выходзіць, не атрымліваецца, як думаў. А нядаўна плот у Лявонавай абсадзе разам паднаўлялі, слупы ставілі, праслы мянялі...

— Ой, ой! — толькі ўсяго і прамовіла Фёкла.

Развітаўшыся, Васіль пайшоў. Размова з пасынкам прымусіла Лявона задумацца. Ён імкнуўся заглушыць пачуццё крыўды, якое ахапіла яго, але яно не пакідала. Неспакойна стала на душы і ў Фёклы.

— Праўду кажуць, што малыя дзеці спаць не даюць, а вялікія — жыць, — уздыхала яна. — Каб з Просяй разладу не атрымалася.

— Не трэба бедаваць заўчасна, будзем спадзявацца на лепшае, — казаў Лявон. — Бог не без міласці. Трэба верыць у лепшае. Дзед Кірыла заўсёды так гаварыў.

Фёкла думала пра сына: «Бацькаў характар у ім прачнуўся. Сашу стаў нагадваць. Ёсць у ім нешта. Сашына ёсць! Але што тут дзіўнага? Характар перадаецца па спадчыне, ад бацькі да сына, гэта ўсім вядома, такі ўжо закон прыроды. Саша яшчэ і выпіваў. Добра, што хоць Вася не п’е, не навучыўся...»

* * *

У нядзелю, вяртаючыся з царквы пасля набажэнства, зайшоў Амброжый, адзін, без Якава Арыстархавіча. Забрахала Нэрка, але, прызнаўшы знаёмага, змоўкла. У хаце застаў Лявона з Фёклай.

— Забралі Якава, — прамовіў ён, павітаўшыся.

— Мы ведаем, але, можа, адпусцяць, — выказала спадзяванне Фёкла. — Ён жа ні ў чым не вінаваты.

— Не прымай блізка да сэрца! — параіў Лявон, каб падбадзёрыць Амброжыя, сказаць нешта ў падтрымку. — Васіль назаўтра ж кінуўся ў Камянец, да Афінагенава, каб за кума заступіцца. Нічога не дамогся. Афінагенаў кажа, што даседжваць забралі, што ў той раз не даседзеў.

— Афінагенава таго мы ведаем, — сказаў Амброжый. — Калі вайна была, дык не раз прыходзіў, нават дняваў. А што даседжваць? Чалавек жа не курыца, якой трэба да канца выседзець, каб куранят дачакацца.

Шкада было Амброжыя, надта самотны ён выглядаў без брата.

— Праўду тады Якаў Арыстархавіч казаў, калі да нас заходзіў: на ўсход вывозяць людзей, на поўнач, у Комі, — паспачуваў Лявон. — Але можа як абыдзецца.

— Хто яго ведае.

— Можа, якую агульную супліку[1] скласці?

Амброжый уздыхнуў.

— З суседзямі, бранавіцкімі людзьмі, у нас ладу не было, — адгукнуўся ён. — Гэта яны нашкодзілі.

— Злы чалавек шкодзіць іншым па ахвоце, без усякай для сябе выгады. Гэта я яшчэ ад дзеда свайго Кірыла чуў.

— Няма ў людзей міласэрнасці, — пашкадавала, прамовіўшы так, як бы гэта было даўно ёй вядома, Фёкла. — Няма.

— А вы як пачуваецеся? — у сваю чаргу папытаў госць.

— Нічога.

— Ну, то добра. А я пчоламі апякуюся. На пчэльніку. Бяру ў рукі дымар, закрываю твар сеткай і іду даглядаць пчол. Кацюбкаю выгортваю з вуллёў смецце, стаўлю ім сіроп. Клопатаў хапае.

— Хапае, — згадзіўся Лявон.

— Паўліна дапамагае, апякуецца мной, часам вячэру згатуе, а па гаспадарцы Нупрэй крыху дапамагае, швагер наш. Яшчэ адну ікону купіў. Брэсцкі мастак Чураба намаляваў. — Амброжый наморшчыў лоб. — А што далей будзе, тое толькі адзін Бог ведае. Каб горай не было.

Пасядзеўшы крыху, госць пачаў развітвацца.

— Ну, то шануйся! — пажадаў яму Лявон, правёўшы да веснічак.

---

[1] Супліка — петыцыя (*старасл.*)

## XII

Вальдэмара незразумелым чынам, але неадольна цягнула да яе, да Сняжаны. Ён быў як зачараваны, сумаваў па ёй, нудзіўся, млеў, не мог дачакацца вечара. Штодня ён пазіраў на пахілае сонца, нецярпліва чакаючы, калі яно апусціцца за далягляд. З ёю ён забываўся на ўсё. Ужо адзін яе выгляд узнімаў настрой. Неяк, пакінуўшы кампанію сябрукоў і зайшоўшы да яе, сказаў, паўзіраўшыся ў яе аблічча:

— А вы яшчэ больш пахарашэлі!..

— Гэта толькі здаецца.

— Гэта — праўда. — Яму здалося, што яна пазірае на яго неяк дзіўна, засяроджана, праз апушчаныя вейкі.

Ён рукою крануў — гэта яна ўжо дазваляла — яе валасы, адвёў залацістую пасмачку ад ілба, пяшчотна прыгладзіў. Яна адчула, як моцна ён ёю захапіўся, нібы мармышку праглынуў.

І ўсё гаварыў, гаварыў:

— Вашы вочы, вашы вусны, вашы светлыя валасы і гэты цудоўны абруч на галаве, — тут яму нават перахапіла дых, — я бачу нават уночы і не магу заснуць! А які прыгожы ў вас нос, з гарбінкай...

— Ты ведаеш, а я ганаруся сваім носам, ён у мяне ўсё чуе.

Вальдэмар быў у захапленні ад таго, што перастаў быць для яе чужым. Ён бачыў у ёй нейкае азарэнне, прамяністасць душы, што не кожнаму і не заўсёды можа адкрыцца, і адкрываецца толькі тады, калі кахаеш. Але нездарма кажуць, што няма кахання без прытуляння. Гэтая ісціна засвойваецца закаханымі адной з першых.

Твар яе палаў макавым цветам, яна сарамліва апусціла вочы, баючыся паказаць, як працінаў яе востры агеньчык юрлівасці. Але ініцыятыву праявіла яна. Запытала:

— А ў цябе ёсць жаданне, каб ведаць, што такое каханне?

Ён не зразумеў сэнс яе пытання, але на ўсякі выпадак адказаў:

— Думаю, што ёсць.

— А ты таксама папрыгажэў, дарослым стаў, — сказала яна і, нібы жартуючы, хуценька пацалавала. Ён адчуў гэты п’янкі пацалунак і хвалю, якую ён выклікаў і якая паплыла аднекуль знізу і ўпёрлася ў грудзі. Яму зноў заняло дых.

Яна гаварыла нібы ў нейкім одуме:

— Не многія валодаюць здольнасцю кахаць.

— Я валодаю! — упэўнена прамовіў ён.

— Ты яшчэ не ведаеш, што такое насалода, што такое атрымаць насалоду.

Ён маўчаў. З неба, з-за хмар, пазіраў ветах, яўна спачуваючы і адначасова падбадзёрваючы маладога каханка. Гарэла газавая лямпа, звычайна яны сядзелі пры святле, але на гэты раз яна сказала:

— Ну, добра, гасі святло! — Яна моўчкі паклала рукі яму на плечы, пацалавала яго ў вочы і ў скронь. — Давай я цябе пажмакаю трохі. — З гэтымі словамі яна пяшчотна абвіла яго шыю рукамі, моцна прынікла да вуснаў.

— Бедны, ты гатовы занадта шмат цярпець...

Пад раніцу дадому на гэты раз ён вяртаўся вялым і бляклым. Удыхаў свежае паветра. На панскай сядзібе, на былых клумбах, раслі стракатыя кветкі, карэнне якіх засталося тут ад даўніх часоў. Пялёсткі зіхацелі кроплямі расы. Ён нарваў цэлы букет, вярнуўся, разбудзіў Сняжану, якая ўжо спала, і падарыў ёй.

Гэтак пачалося і працягвалася іхняе сумеснае жыццё, іхняе каханне. Яна аддавалася яму шчыра, з любоўю, самааддана, дарэчы аказалася не блага абазнанай у плоцевых радасцях кахання. Зрэшты, кожны бок сведчыў, на што ён здольны...

* * *

У яе была свая, жаночая, самапавага, і яна надта ганарылася тым, што ён гэтак моцна яе кахае і што мае над Вальдэмарам уладу, што ён яе слухаецца.

У пачатку жніўня ён прынёс ёй у кішэнях і запазухай спелых папяровак, выклаў чырванабокія яблыкі на стол. Думаў, што пахваліць.

— А дзе нарваў? — пацікавілася яна.

— У Восіпа Дзванарыка.

— Не, ты гэтак не рабі. Чужога не бяры.

— Дык усе гэтак робяць.

— А ты не рабі.

— Вы для мяне як маці, — прызнаўся ён з трымценнем у голасе. Сказаў і апусціў вочы.

— У дзяцінстве я таксама вельмі любіла маці, — як бы ўспомніла яна, — яшчэ зараз помню, як яна карміла мяне грудзьмі і лашчыла. Ой, мама мая, мама!.. Яна была мне бліжэй, чым бацька. Бацька падгульваў, выпіваць стаў. Каб мама не пакутавала, я ўзяла ды развяла іх.

— Развяла?!

— А што тут такога? Развяла. Хай ведае, як здраджваць. Прасіўся, прабачэння прасіў, а я настаяла на сваім. Я такая. А што?

— Можа, не трэба было?

— Трэба.

Яна прысела каля яго ног, прытуліўшыся тварам да яго каленяў, потым паднялася, села на лаўку побач. Гэтак яны і сядзелі, прыгарнуўшыся адно да аднаго.

— Не бойся, паміж намі гэткае не здарыцца, — запэўніла яна. — Толькі ты слухайся мяне.

— Сэрца маё ў вашых руках, — загаманіў ён з нейкім рамантычным запалам, узіраючыся ў яе вочы. — Мне шчасце — глядзець на вас, шчасце — бачыць вас! Мне здаецца, што я кахаю вас больш і больш! — гаварыў ён у захапленні.

— Ой, Вальдэмар, наша каханне чыстае, без прымесі, як крынічная вада.

— А вы крынічную ваду каштавалі?

— Вядома, каштавала.

— Смачная...

Размовы, размовы, размовы. Цікава і незвычайна было б збоку пачуць, як яны перамаўляліся паміж сабой:

— Вальдэмар, — няўцямна шаптала яна.

— Сняжа-ана, — ціха, пяшчотна адказваў ён, — я цябе абажаю. — У голасе чулася каханне.

— Мой герой!

— Мая царыца!

— Думка пра цябе ні на хвіліну не пакідае мяне. У нас з табой нейкая вышэйшая любоў, вышэйшае каханне!

— Мая ўладарка!

— Я веру табе, веру, што ты ніколі не расчаруеш мяне, Вальдэмар! — Яна шчыльна абвівала яго рукамі, туліла да сябе, моцна прыціскалася да вуснаў. Ён адказваў тым жа.

Аднаго разу ён не прыйшоў. Бацька, Лаўр Яўсеевіч, ездзіў у Брэст па сваіх справах і ўзяў яго з сабой. Як Вальдэмар ні ўпіраўся, але Лаўр Яўсеевіч настояў. Вярнуліся позна. Сняжана пакрыўдзілася.

— Забыў ты мяне, Вальдэмарчык, забыў. Але я, між іншым, так і думала.

— Не забыў, не забыў! Выйшла так... — апраўдваўся ён. — У Берасці быў, з бацькам ездзілі.

— У Брэсце ваенных шмат.

— Там каго хочаш сустрэнеш. Наблізіўшыся, ён пяшчотна пацалаваў яе ў шчаку.

— Шкада, што ты не афіцэр, мне афіцэры падабаюцца. Ну, не ўсе, а некаторыя.

— Афіцэры?

— Ваенныя. Жыццё б аддала за пагоны! — Яна зарагатала, пераводзячы свае словы на жарт. Ён таксама засмяяўся.

— Дык, можа, і я афіцэрам буду.

— Афіцэрам добра.

— Спакуса вы мая, — радасна бубнеў ён, шукаючы яе вусны, абдымаючы і тулячы да сябе. — Вусны ў вас і лагодныя, і шалёныя адначасова. Вы ні на кога не падобная, вы прыгожая...

— Ты ўмееш гаварыць прыемныя рэчы. Лагоднік ты мой! Любезніча-ак!

— Я кажу шчыра, пазіраючы ў вочы, я ў вочы гляджу.

— Кахаць — гэта значыць не толькі глядзець адно на адно, але і разам глядзець у адным напрамку, — павучальна сказала яна. Не забывала, відаць, сваю настаўніцкую прафесію.

— Пажаніцца нам трэба, — прыходзіла яму часам у галаву, і ён казаў пра гэта.

— Ой, не рві сэрца!

— Чаму?

— Гэта немагчыма.

— Усе ж жэняцца.

— Нам гэта не падыходзіць.

— Чаму? — дапытваўся ён.

Яна прыдумвала, што сказаць, часам адказвала жартам.

— Нашто — шлюб? Шлюб — магіла кахання.

Вальдэмар хмурнеў ад немагчымасці ўцяміць тое, пра што казала Сняжана.

— Потым, ты ж маладзей за мяне, ты яшчэ дзіця.

— Сняжана Валер’еўна, я ўжо даўно не дзіця, я дарослы.

— Дарослы? Чаму ж ты да гэтага часу на «вы» да мяне звяртаешся? Гавоорыш мне «вы».

— Добра, пастараюся казаць «ты».

— Я люблю прыгожа апранацца.

— І я люблю.

— Але ў нас няма за што, ні ў мяне, ні тым болей у цябе. Бедныя мы.

— Я зараблю.

— Дзе ж ты заробіш? Гэта ж спецыяльнасць трэба мець.

Вальдэмар змоўк. Відаць, прытаміўся або не ведаў, як адказаць на яе пытанне. Сняжана таксама нейкі час маўчала, думала. Чутно было яе роўнае дыханне. Потым нібы прахапілася ад думак.

— Колькі гэта часу прайшло? — спытала, папраўляючы на галаве валасы.

— Яшчэ ноч.

Ноччу яны не раз выходзілі з гэтага панскага палаца, у якім месціўся пакойчык Сняжаны, на панадворак і любаваліся зарападам. Затым вярталіся, пабраўшыся за рукі, і пяшчотнае лабжэнне працягвалася. Яна бачыла сябе ў яго вачах і адчувала яго адносіны, яго ласкі. Часам аднак у ім нараджаліся сумненні:

— Ты кожны раз па-іншаму да мяне ставішся, то кахаеш, то быццам чужая, недатыкальная.

— Датыкальная! — смяялася яна.

— Ой, вушам сваім не веру.

— Кахання ў нас будзе столькі, колькі дзён у нашым жыцці! — абяцала яна.

Гэтак, бывала, да раніцы не раздымалі абдымкаў.

— Ой, Вальдэмар, жыццё маё, кахай мяне, бо інакш я памру! — не то ўсур'ёз, не то жартам казала яна, а хутчэй за ўсё ўсур'ёз. Ён раз-пораз абсыпаў яе пяшчотнымі ласкамі. На ліпу, што расла пад акном Сняжанінага пакоя, на тоўсты сук павесіў гушкалку, і яны забаўляліся, гушкаючы адно аднаго.

Такому палкаму каханню Вальдэмара і Сняжаны Валер'еўны прускаўцы нямала дзівіліся.

— Ну і сцерва! — гаварылі некаторыя. — Гэткія любошчы!

— Любоўныя шашні!

— Я гэтага не разумею, — бязладна круціў галавою Гамон.

— Дзіва што! — рагатаў з яго Мікіта. — Табе каб на нос павесіў, і то не чхнеш.

— Ад жанчыны не проста выбавіцца, — казалі знаўцы. — Кожная прагне любошчаў.

Словам, у каментарыях недахопу не было.

— Задурыла хлопцу галаву, адурманіла, прысуха нейкая. З усіх бакоў аплютала.

— Любістаю апаіла, няйначай!

— Але ж і ён улюблівы. Як прысох да яе! Закахаўся, як чорт у сухую вярбу...

Асабліва прадузята і нават варожа паставілася да гэтай гісторыі і да самой Сняжаны Валер'еўны Аляўціна Дзіядотаўна:

— Гэта савецкаму чалавеку не дазволена.

— Залішняя любоў да жанчыны — гэта хвароба, — па-філасофску разважліва вырашыў Павал Гальяш.

Ад гэтых насмешак і папрокаў сціскалася Вальдэмарава сэрца і станавілася вельмі крыўдна. Ён пакутаваў ад знявагі і ўніжэння. Тым не меней ён гатовы быў перацярпець невядома якія ўдары лёсу і перашкоды, але каб толькі не разлучацца са Сняжанай. Аднак знаходзіліся і такія, што пярэчылі незычліўцам, казалі:

— За любоў не судзяць.

Некаторыя спрабавалі абараніць:

— Каханне — такая рэч, што прычыны для яго не знойдзеш...

— Але ж і краля!

— Прынада вялікая!

— Губы, як маліна!

Хто быў у захапленні ад паводзін Вальдэмара і Сняжаны, дык гэта Амелія. Яна здзіўлена, утрапёна ківала галавой з насунутым на лоб старым капя-

люшыкам і казала: «Матка Боска! Якія жарсці! Адно без аднаго не могуць! Як калісьці!»

Аднойчы раніцой, калі сын вярнуўся ад «вучыцелькі», Лаўр Яўсеевіч спытаў:

— Дык і што? Меў яе?

— Меў.

— Ну і дурань. Цяпер яна ад цябе не адвяжацца.

Айцец Клаўдзій, да якога таксама дакацілася рэха гэтай гісторыі, сказаў: «Першая жанчына ў мужчыны — гэта дар Божы». Пасля гэтага Лаўр Яўсеевіч крыху супакоіўся, і ўсё, як было, так і працягвалася.

Дарогу закаханым заступіў аднак, у адпаведнасці са сваёй пасадай, дырэктар Рытатуй Раман Дарафеевіч. Апрача таго, што Раман Дарафеевіч з'яўляўся дырэктарам, ён вёў яшчэ і ўрокі фізкультуры, дзеля чаго паставіў на плошчы перад школай турнік, і выкладаў ваенную справу, любіў вайсковы строй. Ваенрук — так называлася гэтая яго пасада. Усім у прыклад Раман Дарафеевіч ставіў Суворава, які быў цалкам адданы вайсковай справе.

— Першае дзела, таварышы, строй! — казаў ваенрук. — А другое — песня! З песняй трэба дружыць!

Ідучы праз вёску, вучні спявалі:

И от тайги до британских морей
Красная Армия всех сильней!

Прускаўцы паспелі ўжо нават прывыкнуць да гэтай песні.

— Вораг не дрэмле! — казаў Раман Дарафеевіч і прымусіў хлопцаўшкольнікаў змайстраваць драўляныя вінтоўкі. Іх бралі на страявыя заняткі.

Роўнымі радамі, з драўлянымі вінтоўкамі, ішлі школьнікі, чулася бадзёрая песня:

Если завтра война,
Если завтра поход, —
Мы сегодня к походу готовы...

Вядома, драўляныя вінтоўкі ваенрука не задавальнялі, але даводзілася імі абыходзіцца.

— Раней вучылі, як чытаць і пісаць, цяпер — як з вінтоўкі цэліцца, — дзівіліся прускаўцы.

Дзівіліся і самому Раману Дарафеевічу. Гэта быў тып вынаходніка. У школьным садзе Рытатуй правёў ад яблыні да яблыні, ад камля да камля, тонкі вайсковы кабель. Канцы з прымацаванымі ад іх званочкамі ішлі ў дырэктарскую кватэру. Дасціпны вартаўнік чуў, днём і ноччу, што робіцца ў садзе. Як толькі зазвіняць званочкі, Рытатуй з крыкам выбягаў на вуліцу і выпудждваў парушальнікаў. Часам гэта былі проста вясковыя свінні, дык выганяў і іх. «Замініраваў садок!» — гаварылі пра яго прускаўцы, дадаючы, акром таго, яшчэ і якое-небудзь непрыстойнае слова.

Не чужымі былі для Рытатуя і, як ён казаў, навуковыя інтарэсы. Надумаўся ён быў падлічыць колькасць лісцяў на бярозе і на клёне — дрэвах-аднагодках, што стаялі каля школьнага плота. Падлічыўшы, можна было параўнаць вынікі. Размеркаваў паміж вучнямі галіны на адным дрэве і на другім. Вучні — гэта былі хлапчукі — лазілі па дрэвах, адны лічылі, другія правяралі падлік. Рабілі гэта нават з нейкім незразумелым захапленнем, дамагаліся дакладнасці. Эксперымент доўжыўся да таго часу, пакуль Гога Пахолак, які

ўзлез на бярозу вышэй за ўсіх, не зваліўся на дол. Моцна ўдарыўся нагой. Пасля гэтага падлік спынілі.

Рытатуй, калі даведаўся, быў абураны адносінамі Сняжаны і Вальдэмара. Ён палічыў гэта падзеннем нораваў. Ён і да гэтага нярэдка рабіў заўвагі Сняжане Валер'еўне. Угледзеўшы ў яе падвешаныя прыгожыя завушніцы, пытаў:

— І нашто гэта ў цябе сергі? Нашто ты іх носіш?

— Для жанчыны так палагаецца, — шукала, што адказаць Сняжана Валер'еўна. — Для жанчыны гэта не лішняе.

— Вушы пракалваеш. Нашто?

— Гэта не баліць.

— І сукенка ў цябе, мне здаецца, карацей, як у іншых, і на капелюшы зашмат кветак... Непарадак!

Па натуры Рытатуй быў вельмі непастаянны, сёння добры, нават услужлівы, а назаўтра мог прыдушыць чалавека. З свайго жыццёвага досведу ён засвоіў той няпісаны закон, якім кіравалася ўсё навокал: падначалены твой павінен быць прыніжаны, запалоханы і бездапаможны. На гэта ён і разлічваў пры размове са Сняжанай Валер'еўнай.

— Ну, што, ухажора займела? З вучнем, панімаеш, шуры-муры разводзіш? Нічога іншага не прыдумала?

Рытатуй рэзка рыпнуў сваімі хромавымі ботамі і зняў з пляча сумку-планшэт. Паклаў на стол. Настроены быў больш, чым сур'ёзна.

— Я нічога не прыдумвала. Гэта, паверце, само сабою атрымалася. Не вінаватая я.

— Можа, ужо не парожняя? Можа, і пахацень[1] з'явіцца?

Сняжана Валер'еўна здагадвалася, пра што можа пайсці размова з дырэктарам, але такога тону не чакала. Раман Дарафеевіч гаварыў груба і абразліва.

— Адкуль у вас такі флірт?

— Перастаньце са мною так гаварыць! — ледзь не крыкнула Сняжана Валер'еўна. — Я не цярплю вульгарнасці. Я не легкадумная круцёлка якаянебудзь, у нас з Вальдэмарам усё сур'ёзна! — Яна ўспомніла аднаго старога выкладчыка ў інстытуце, які выкладаў псіхалогію і на адной з лекцый сцвярджаў, што відаў кахання існуе столькі ж колькі існуе людзей. Потым яна з сяброўкамі ў інтэрнаце шмат абмяркоўвалі тое, што сказаў выкладчык, і ўсе пагадзіліся, што гэта, мусіць, і сапраўды так. А выкладчыца літаратуры сказала яшчэ нават лепш. Сказала, што каханне — гэта стан душы, а душа ёсць усюды, дзе ёсць жыццё.

— Што ж ты пра мараль забыла? Хіба гэтаму цябе вучылі? Падумай! — ушчуваў Раман Дарафеевіч, разводзіў рукамі, здзіўляўся. — Гэта ж не наша, не савецкая мараль. Вось Лідзія Варфаламееўна гэтага не робіць, мараль не парушае, а між тым яна таксама Молатаўскі настаўніцкі інстытут канчала.

Лідзія Варфаламееўна Яраслаўцава, пра якую ўспомніў Рытатуй, выкладала рускую літаратуру, выкладала рупліва і патрабавальна, вучні яе паважалі. Заслухаешся, як яна разбірае ідэйны змест «Гора ад розуму» Грыбаедава. Рытатуй пазіраў на яе недаверліва і падазрона. Ніхто не ведаў, што ў яе на сэрцы, ніхто не мог гарантаваць, што яна не дасць якую-небудзь нечаканасць, падобную той, што прыключылася са Сняжанай Валер'еўнай.

[1] Пахацень — пазашлюбнае дзіця (*мясц.*).

Укрыўджаная Сняжана Валер'еўна думала пра сваё. Яна не была супраць маралі. Але чалавек павінен абапірацца на сябе, на асабістае жыццё і мараль. Агульнае не павінна пярэчыць асабістаму. Хіба яна выйшла за рамкі агульнапрынятага?

— Збіла ты, панімаеш, парня з толку! — шкадаваў дырэктар. — Абразумся!

— Не прымушала я яго. Ён сам. Ён сам мне сказаў, што любіць мяне больш, чым самога сябе.

Вярнуўшыся ў свой пакой, яна бухнулася ў пасцель і стала плакаць. Няўтульным паказаўся навакольны свет.

Скончылася ўсё тым, што Сняжану Валер'еўну перавялі кудысьці ў іншае месца, у іншую школу. А праз нейкі час знік і Вальдэмар. Знік, як у палонку праваліўся. Не інакш, як існавала паміж імі змова.

— Жаніся, каб дурні не звяліся! — сказаў на развітанне Лаўр Яўсеевіч.

Вальдэмар на гэта толькі пасміхаўся, пасміхаўся ўсмешкай шчаслівага чалавека. Казалі, што яны са Сняжанай зноў стрэліся, таму што сапраўднае каханне не мінаецца, не праходзіць

Насоўваліся між тым новыя падзеі.

## XIII

Чуткі пра калектывізацыю спараджалі сярод насельніцтва напружанасць у чаканні таго, што павінна было пачацца і адбыцца. Гаварылі пра суцэльную калектывізацыю. Рос неспакой, а разам з ім і страх перад невядомым. Па руках хадзілі «святыя» пісьмы, іх трэба было размнажаць і пасылаць сваім знаёмым, якія, у сваю чаргу, множылі іх і рассылалі далей.

Многія з Прускі, з навакольных вёсак падаліся ў гарады, у Камянец, Брэст. Найбольш — у Брэст. Там больш было работы і свабоды. Шмат хто ехаў на новабудоўлі ў Мінск, Ленінград, на Поўнач, у Данбас і Сібір. Учуўшы нядобрае, гуртам, як мышы з карабля, якога чакае дрэнны лёс, збеглі, перабраліся ў Брэст баптысты, пабудаваўшы свае дамкі-асабнякі на Кіеўцы. Калісьці тут быў пустыр, праз які пралягала чыгунка на Кіеў, а цяпер узнік новы мікрараён. Баптысты, як вядома, калектывісты паводле светапогляду, але калгасная калектыўнасць, якую ім прапаноўвалі, была ім яўна не да душы.

Аднак самым першым кінуўся ў горад артадаксальны хрысціянін прадпрымальны Міцька Балабайка з Выгнанкі. Адбылося гэта яшчэ ў сорак чацвёртым, адразу пасля вызвалення. Мясцовы вастраслоў Васіль Грудка казаў:

— Для Берасця трэба добры кашалёк і мужчынская моц.

Мужчыны рагаталі, бо ні таго, ні другога ў Міцькі не было, але Балабайка не звярнуў на гэта ўвагі, зрабіў свой выбар, які тлумачыў канкрэтна і даволі пераканаўча, заікаючыся казаў:

— Надаела на гаспадарцы кішкі рваць і нічога добрага не бачыць. Надаела! Хай яе нагла возьме!

Забраў з сабою жонку з дзецьмі. На гаспадарцы застаўся Міцькаў брат — недарэка Іван.

Думка падавацца ў горад не давала спакою і Васілю Платонаву. Афінагенаў, які закінуў яе, быў прызначаны дырэктарам новаўтворанага ў Брэсце «Міжрайгандлю» і ўжо перабраўся з Камянца ў абласны цэнтр, дзе знаходзілася кантора гэтай арганізацыі. Зваў з сабою і Васіля. Прося з таго часу, як Васіль расказаў ёй аб прапанове Івана Мітрафоравіча, пазірала на мужа

недаверліва і нават падазрона. Васіль спрабаваў пераканаць жонку, суцешыць, маляваў прывабныя перспектывы. На сенажаці яны разам сядзелі каля капіцы свежага сена, смакавалі ахалоджаны квас.

— Будзеш жыць у горадзе, — сказаў ён, хіба гэта блага? Выйшаў на базар — купляй, што хочаш.

Просю працінালі сумненні.

— Зробіш ты мяне пакіданкай.

— Не бойся, не зраблю.

Ён хацеў яе абняць, яна адсунулася ўбок, але ён паспеў затрымаць яе за рукі.

— Паабяцай мне, што ў Брэсце ні на кога заглядацца не будзеш. А то я ведаю цябе!

— Ды ты што?

— І Ліліянка яшчэ малая. Тут маці дапамагае, а там?

— Выгадуем.

У гэтую сваю паездку ў Брэст ён, магчыма, каб супакоіць Просю, узяў Валодзю. Хацеў паказаць сыну горад. Хлопец страшэнна ўзрадаваўся, і чым бліжэй надыходзіў гэты дзень, тым болей хваляваўся.

Заўтра — у Брэст. Думаў пра гэтую паездку з нецярпеннем, нават спаць пайшоў раней, чым звычайна, і ў чаканні яе незаўважна заснуў.

Да Камянца падвозіў Лявон, запрогшы ў воз Паню. З Камянца ў Брэст меліся ехаць аўтобусам. З Лявонам развіталіся на Брэсцкай вуліцы, дзе знаходзілася аўтастанцыя. Аўтобус ужо стаяў, і на пасадку чакаў цэлы натоўп. Калі шафёр нарэшце адчыніў дзверы, усе без чаргі кінуліся ў вузкі праём, штурхаючыся і душачыся. Пасадка ператварылася ў штурм. Трашчалі гузікі і клункі, цяжка дыхалі і саплі людзі, перашкаджаючы адзін аднаму. Усё выглядала вельмі непрыгожа. Разам з іншымі цудам уціснуліся і Васіль з Валодзем. Білеты на праезд куплялі ўжо ў аўтобусе, які нагадваў бочку з селядцамі. Пасажыры войкалі і стагналі, але па дарозе ўсё неяк устаканілася, публіка паспакайнела. Аўтобус павольна рушыў з месца.

Валодзя рукавом працёр запыленае аўтобуснае акно і стаў прагна сачыць за дарожнымі краявідамі. А там шмат было незвычайнага. Столькі разбітай нямецкай і савецкай тэхнікі валялася па абодва бакі шашы! Горы металалому! Асабліва ад Камянца да Відамля, але і далей, пад самыя Більдэйкі і Чарнаўчыцы. У Чарнаўчыцах праехалі каля прыгожага, высокага касцёла. Перад Брэстам, аддзеленыя ад шашы калючым дротам, доўга цягнуліся склады з вайсковай маёмасцю і казармы. У адным ці дзвюх месцах, за калючым дротам, Валодзя ўгледзеў змрочныя постаці нейкіх людзей, што стаялі невялічкімі купкамі і пра нешта, відаць, перамаўляліся.

— Немцы, палонныя, — патлумачыў нехта побач.

Чутны былі паравозныя гудкі. На рэйках, каля чыгуначнага пераезду, стаяў з прычэпленымі вагонамі паравоз. Вагоны займалі пераезд. Лязгнулі буферы, і паравоз з вагонамі папоўз кудысьці ўбок, саступіўшы дарогу аўтобусу. Пачаўся горад, Граеўка, як сказаў бацька. Вуліцы ў Брэсце прамыя, не павілястыя, як у Камянцы, але вузкаватыя. Аўтобус марудна плыў, падскокваючы на бруку.

Спыніліся каля вялікай, пафарбаванай у сіні колер, цаглянай царквы. Будынак раскошны, аздоблены прыгожымі карнізамі, з бліскучай бляшанай макаўкай. Па другі бок — настаўніцкі інстытут, двухпавярховы будынак. З аўтобуса з мяшкамі і клункамі выбавіліся заціснутыя і напаўжывыя пасажыры. Пачалі азірацца, перамаўляцца, шукаць патрэбныя арыенціры, куды

ісці. Васіль з сынам рушылі ўздоўж вуліцы. Валодзя спачатку пайшоў проста па бруку.

— Пойдзем па тратуары! — сказаў бацька.

Горад напоўнены несціханым шумам, чалавечымі галасамі і крыкам, тарахценнем вазоў і аўтамабіляў, пахам конскага гною і поту. Дамы з асноўным двухпавярховыя. Спякотна паліла сонца. Гарадскія вуліцы здаліся Валодзю высахлымі рэчышчамі нейкіх даўніх рэк, па гэтых рэчышчах плыла, цадзілася летняя спёка, гарачым цяплом дыхаючы ў твар і ў грудзі. Адчуваліся вынікі нядаўняй вайны. Адны дамы стаялі цэлыя, іншыя побач знаходзіліся ў руінах. На закураных сценах вісела пакручанае, пакарабачанае жалеззе. Туды-сюды, здавалася, бязмэтна хадзілі знясіленыя гарачынёй месцічы, не звяртаючы ўвагі на знявечаны вайной горад.

На вуліцах, на абшарпаных фасадах устаноў шмат партрэтаў вусатага Сталіна ў вайсковай форме і лозунгі на чырвоных палотнішчах з яго ўслаўленнем.

Надзвычай гнятлівае, жаласнае ўражанне рабілі інваліды-калекі — сляпыя, без рук, без ног, з мыліцамі, на дашчатых вазках з калёсікамі. Іх было безліч, асабліва на базары. Шмат п’яных. Усё, што хлопец бачыў навокал, здалося яму дзіўным, незвычайным, інтрыгуючым.

Васілю трэба было знайсці той «Міжрайгандаль», дзе працаваў яго знаёмы Іван Мітрафоравіч. Пытаўся ў сустрэчных. Нарэшце, усё-такі знайшлі. Дырэкцыя «Міжрайгандлю» размяшчалася па вуліцы Камсамольскай, побач з універмагам, але дырэктар, гэта значыць, сам Іван Мітрафоравіч, быў у ад’ездзе. Сказалі, што вернецца заўтра.

Начаваць збіраліся ў Міцькі Балабайкі, які жыў каля Малога базару. Накіраваліся туды. Уразіла вялікае скопішча людзей на базары. Усё тут круцілася, як вада ў віры. Людзі нешта прадавалі, таргаваліся, жавалі, выплёўвалі шалупінне. Бацька купіў белую булку, і згаладнелы Валодзя пачаў прагна яе комшыць, такой смачнай булкі, здалося яму, ён ніколі не еў. Сабе Васіль узяў куфель піва, даў пакаштаваць сыну, патлумачыў:

— Піва вараць з ячменнага соладу.

Хлопец не ведаў, што такое солад, але калі солад, дык значыць салодкае. Аднак на смак піва аказалася горкае, Валодзю не спадабалася.

Міцька Балабайка жыў з сям’ёй у адным невялічкім пакойчыку — метраў на пятнаццаць. Сям’я — жонка Вольга і двое сыноў, якія адсутнічалі, занятыя, відаць, дзённымі справамі. Зырка гарэла падвешаная да столі электрычная лямпачка, асвятляючы ўсю небагатую абстаноўку, сцены, абклееныя палосамі выцвілай паперы з бледна-жоўтымі кветкамі, нефарбаваную падлогу.

Міцька з выгляду нізенькі і шчуплы, пра якіх кажуць: «Кату па пяту», — але ініцыятыўны і пракідкі. Удзельнічаў у аднаўленні горада, разбіраў завалы, цяпер працаваў сантэхнікам. Землякоў сустрэў ветліва, гасцінна. Вольга адварыла бульбы. Васіль паставіў на стол бутэльку гарэлкі, дастаў з мяшка акраец вясковага сала. Міцька мітусліва заміргаў вачыма і, заікаючыся, здзівіўся:

— Дык ты, браце, са сваімі прыпасамі!

— Піва не ўзяў, шкада, піва ў вас смачнае, — сказаў Васіль, каб для пачатку нешта сказаць.

— Цяпер яно якраз у моду ўваходзіць, — азваўся Міцька, — але дарагое!

— Піва ёсць, а па хлеб чэргі! — абсекла яго жонка. — А без хлеба — як?

Селі за стол, выпілі па кілішку, закусілі. Міцька запіў гарэлку вадой.

— Цяпер многія гарэлку вадой запіваюць, — патлумачыў ён.

— Гэта каб п’яным не быць? Дык нашто тады піць?

— Затое з вадою болей вып’еш!

Вольга пачала распытваць, як жыве Прося, яе колішняя сяброўка, з якой яна была з адной вёскі. У маладосці сябравалі, і цяпер Вольга прасіла перадаць прывітанне.

— А ты, Міця, дзе цяпер працуеш? — пацікавіўся Васіль.

— Падвышэнне атрымаў, — пахваліўся той, жуючы скварку, — электраманцёрам працую. — Міцька кіўнуў на запырсканую вапнай электрычную лямпачку, што вісела высока пад столлю.

— І я працу шукаю, — прызнаўся Васіль.

— Пераязджаеш? У вас жа пакуль што калгаса няма, наколькі я ведаю, не зрабілі.

— Не зрабілі, але рыба шукае, дзе глыбей, чалавек — дзе лепш.

— Лёгкага хлеба тут, напэўна, не знойдзеш.

— А я і не шукаю.

Васіль наліў, і Міцька гулькнуў яшчэ адну чарку, хукнуў у кулак і паставіў кілішак на стол. Вадой на гэты раз не запіваў.

— Гарадское жыццё не мае жаласці да чалавека, — прыгубіўшы кілішак, прызналася Вольга. — Хлеб дарагі, а грошы танныя. Свайго агарода няма, жывём на бруку, усё трэба купіць.

— Усюды можна жыць, — сказаў Міцька.

Валодзя ўважліва слухаў, што гаварылі дарослыя.

— А што я — лыкам шыты? Я не лыкам шыты, — як бы самому сабе прамовіў Васіль. — Я такі, як усе.

Вярнуліся Міцькавы сыны — два хлопчыкі, дробненькія, як і сам бацька. Хуценька павячэралі і пакладіся на свае ложкі, адзін зверху, другі знізу. Перад гэтым схадзілі на двор, дзе стаяў выходак. Паводле іх прыкладу зрабілі і прускаўцы. Ім гаспадыня паслала на падлозе нейкую радзюжку, але ніхто не крыўдзіўся, бо пярын на ўсіх не напасешся. Дзякуй хоць за які прытулак!

Валодзя доўга не мог заснуць, але не ад таго, што на падлозе было мулка ляжаць, а ад таго, што надта хроп Міцька. Вольга, чутно было, колькі разоў штурхала яго пад бок, і ён спыняў сваё храпенне, але толькі на кароткі час, пасля чаго зноў вяртаўся да надзвычай моцных, прарэзлівых фістулаў, быццам хацеў кагосьці папярэдзіць аб небяспецы, якая аднекуль пагражала. Па сценах, за выцвілай паперай, чутно было, шамацелі, займаючыся сваімі справамі, прусакі. Валодзя бачыў іх у Гамонавай хаце — рудыя, непрыемныя, але надта шустрыя.

Стомлены Васіль спаў. Нарэшце сон адолеў і Валодзю. Заснуў і ўжо не прачынаўся да раніцы. Падняліся рана. Апрануліся, памылі рукі, асвяжылі вадой твары. Папіўшы рэдзенькага («фельдфебельскага» — як сказаў Міцька) чаю, пайшлі да Афінагенава. Валодзя застаўся чакаць на вуліцы, а Васіль накіраваўся ў кантору. Прабыў там з паўгадзіны, а можа, і болей. Выйшаўшы, паведаміў:

— Ну, сынок, я, можна сказаць, уладкаваўся на працу. Іван Мітрафоравіч прапанаваў месца заўхоза.

— А што гэта такое?

— Гаспадарку буду весці, за маёмасць адказваць.

Хлопец не ведаў, пра якую гаспадарку ідзе гаворка, але ўдакладняць не стаў. Моцна шкадаваў, што цяпер бацька ўжо напэўна з’едзе ў горад.

Зайшлі ў магазін пад назвай «Головные уборы» на Пушкінскай вуліцы. Васіль купіў сыну кепку-васьміклінку. Гарачыня даймала ўжо з раніцы. На рагу

Савецкай і Пушкінскай нейкая жанчына ў белым халаце з густа нафарбаванымі вуснамі стаяла каля цялежкі і прадавала газіраваную ваду з сіропам. Яны выпілі па шклянцы. Салодкая вада прыемна халадзіла нутро. Але асабліва спадабалася марожанае. Белае, салодкае, духмянае, у картонных кубачках з драўлянымі лыжачкамі. Бацька купіў дзве порцыі — сыну і сабе. Валодзя з'еў бы яшчэ адну, але пасаромеўся пра гэта казаць, трэба было ашчаджаць грошы.

Дадому вярталіся на выпадковай спадарожнай машыне. Шафёр давёз да Відамля. Далей, сем кіламетраў, ішлі пяшком. Там-сям на лузе яшчэ зеўралі незасыпаныя варонкі ад снарадаў, побач ляжала вывернутая зямля. Шумеў сасновы лес. Лосьну перайшлі па кладцы.

Вось, нарэшце, і Пруска. Каля хаты, на падворку, пявун вадзіў курэй. «А ў горадзе курэй няма, — падумаў Валодзя, — і пеўні не спяваюць, і надта гарачы тратуар, паліць сонца».

Пасля наведвання Брэста прускаўскае жыццё паказалася млявым, надта павольным і абыякавым.

Пра сваю паездку і пра яе вынікі Васіль адчытаўся перад Просяй, перадаў прывітанне ад Вольгі. Памаўчаўшы, пасля паўзы, запэўніў:

— Па часе забяру і цябе з дзецьмі. Як жа я цябе пакіну, я ж люблю цябе. Я ж не забыў, як ты кінулася ў Камянец, калі мяне гестапа арыштавала.

Прося рыхтавалася карміць парсючкоў. Высыпала ў цэбар цэлы чыгун са зваранай у мундзірах бульбай, дадала свежанарванай травы і ўсё гэта пасекла і перамяшала секачом і пасыпала вотруб'ем.

— А як жа там Вольга Лукашова?

— Гараджанкай зрабілася, усё ў Берасці ведае. Каля базара жывуць, дык ведаюць, што па чым.

Распытвала Прося і сына:

— Ну як ты там жыў, сынок?

— У Міцькі Балабайкі начавалі.

— Ну, што там у Берасці?

— Хлеб дарагі, а грошы танныя.

У збанку на стале стаяла малако, ён наліў у кубак, без перадыху выпіў.

— А ў Берасці малака няма, — сказаў Валодзя, чамусьці адчуваючы, што маці павінна спадабацца гэткае яго назіранне.

— Ёсць, толькі ты яго не бачыў, — усміхнулася Прося. — Як жа без малака?

— І яшчэ, мамо, надта спякотна там, паветра гарачае.

Яна глядзела на сына, пазнаючы ў яго абліччы Васілёвы рысы. Не хацела яна кідаць абжытае месца і пераязджаць у іншае.

Зноў у Васіля была размова з бацькамі. Цяпер у Лявонавым голасе загучаў папрок пасынку:

— Уцякаеш? І нас кідаеш?

— Тато! Чаму вы так кажаце! Берасце — хіба гэта далёкая краіна? Побач. Я вас ніколі не кіну. Як вы маглі так падумаць!

— Забудзеш, як пахне чорны хлеб.

— Там хлеб таксама чорны.

— А жонка? Дзеці? Ты ж сям'ёй абцяжараны! — далучылася да Лявона Фёкла.

— Перавязу і іх, хату перавязу. Яна ў нас на высокім фундаменце, амаль гарадская.

— Ты ж толькі Валодзю ад нас не бяры, прывыклі мы да яго.

— Хай пры вас застаецца, хай школу заканчвае. Вы да яго прывыклі, а ён да вас яшчэ болей.

Лявон павесялеў.

— Тато! Я і вас з сабой забяру! З цягам часу і вы пераедзеце! Прыбудову зробім і жыць будзем разам.

— Жыццё пакажа, — Лявон уздыхнуў, пашкроб лоб, прыгладзіў пасмачку. — Мы ў свет, наша доля ўслед.

— Ахці мне, беднай! — уголас заплакала, скардзячыся на лёс, Фёкла. Счакаўшы крыху, Лявон стаў яе суцяшаць.

## XIV

Завітаў неяк буднім днём дзядзька Хведар-свішчавец. Даўно не быў, даўно з Лявонам не бачыліся. Мелася пачацца восень. Адшумела жніво, звезлі з поля снапы. Той-сёй, хто счакаўся на хлеб з новага ўраджаю, пачаў ужо іх малаціць.

Паветра пахла яблыкамі, але пах струменіўся не з садоў, а з гарышчаў, дзе ляжалі на сене даспелыя сарваныя з дрэў плады. У агародах, сярод кменнага духу, жаўцелі гарбузы, быццам хтосьці параскідаў іх па шырокіх градах. Як вежы, стаялі павернутыя да сонца даспелыя сланечнікі.

У верасах яшчэ ваўсю гулі чмялі, збіралі позні мёд, але пацягнулі ўжо ў вырай жураўлі. Закрываваліся пры дарогах рабіны. Халоднымі сталі ночы. Вось-вось дуне лістабой і пачне здзіраць з дрэў лісце.

Набліжаўся час асенніх работ. Фёкла з Просяй мачылі каноплі, адбівалі на таку лён. З ім шмат клопату. Хведар завярнуў з возам на Лявонава прыгуменне, пачуў, што ў клуні нехта ёсць, што бухаюць пранікі.

— Добры дзень! — гукнуў ён, шырэй адчыніўшы дзверы ў клуню. — Як жыццё?

— Дзядзька Хведар! — узрадаваўся Лявон, які таксама знаходзіўся ў клуні.

Абняліся крыж-накрыж, пацалаваліся. Даўно не бачыліся, але дзядзька ўсё той жа жвавы і вясёлы, у даматканай паддзёўцы, тоўстых ялавых ботах.

— Жывём, на жыццё не наракаем, — адказаў Лявон на дзядзькава пытанне.

Лета — гарачая пара, не для паездак, бо цяжка адарвацца ад гаспадарчых клопатаў, а цяпер на дварэ стаяла восень, рыхтуючыся здаць ключы ад свайго дома і перайсці ў зазімак. Час такі, што можна з’ездзіць у госці, праведаць радню.

Хведар быў у добрым настроі, агледзеў пляменніка, зрабіў заўвагу:

— Сівееш, браце, патроху, чуб ужо зусім сівы.

— Гэта вам, дзядзьку, так здаецца, бо даўно не бачыліся.

— Даўнавата!..

Дзядзька прыехаў не адзін, а з дачкой Грунькай, крэпкацелай маладзічкай у старасвецкай хустцы-апінанцы. Лявон абняўся і з ёю, стрыечнай сваёй сястрой. Грунька выйшла замуж у Лускалы — вёска побач з Вайской — за тамтэйшага хлопца Васіля. Паспела ўжо нарадзіць дачку. Захацела разам з бацькам адведаць сваякоў у Прусцы. Фёкла таксама сардэчна прывітала гасцей, пацалавалася і з Хведарам, і з Грунькай. Прося таксама павіталася і прыязна ўсміхалася. Фёкла запрасіла, і ўсе разам рушылі ў хату.

Дзядзька, зайшоўшы ў хату, выцягнуў з кішэні паўлітэрку і са звонкім прыстукам паставіў на стол. Фёкла пачала збіраць на стол, ёй дапамагала нявестка.

Прыбег са школы Валодзя, павітаўся, кінуў сумку з кнігамі на лаўку і накіраваўся на кухню.

— Гадованік ваш! — заўважыў хлопца Хведар. — Вялікі ўжо вырас, хай бы выпіў з намі.

— Не, ён у нас з гарэлкай яшчэ не знаёмы, — стала на бок унука Фёкла і следам за ім пайшла на кухню.

— А дзе Васіль? — запытаў Хведар.

Па Васіля паслалі Валодзю. Васіль пакуль што заставаўся ў Прусцы. Падавацца на працу ў Брэст запланаваў бліжэй да зімы.

— Авечак гадуеш? — спытаў дзядзька.

— Ёсць, завёў, — адказаў пляменнік.

— Га-га-га!

Кужалі ведалі, што дзядзька Хведар — майстар здзівіць нейкай нечаканасцю. Не адбылося без нечаканасці і на гэты раз.

— Баранчыка табе прывёз. Маркача! Вытворнік хоць куды! Невераемная сіла! Няўтомны!

— Няўжо?

— Каб я так жыў!

— Ой, тато, перастаньце хваліцца! — азвалася дачка. — Вы так хваліцеся, што ажно слухаць бывае няёмка.

— Маркач! — паўтарыў Хведар.

— Няўжо? — здзівіўся Лявон дзядзькаваму дарунку.

— Далібог.

— Звычайны баран, — пасміхнулася Грунька. — Дарогай гэтак жаласліва бляяў ды мэкаў, што ажно шкада было. Хоць ты яго ўгаворвай.

— Гэта ён пытаўся, куды яго вязуць, а ты не магла яму растлумачыць, — знайшоў, што сказаць, Хведар.

Тут ужо ўсе зарагаталі.

— Са сваімі падапечнымі расстаўся, — блазнаваў Хведар. — Жыў жа на выгодзе! Ён на возе ляжыць. Давай, братка, тым часам, у катух яго паставім, да дзела прыладзім. Ён табе на племя будзе! Хадзем да воза!

Дзядзька з пляменнікам пайшлі да воза, які стаяў на прыгуменні каля хлява. Над кельняй тырчэла галава баранчыка з пукатым круглым ілбом і прыгожа завітымі моцнымі рагамі. Аказаўся цяжкаваты, але дзядзька з пляменнікам справіліся, перанеслі жывёліну ў катух, развязалі ногі. Авечкі насцярожана і палахліва сустрэлі неспадзяванага госця, згрувасціліся ў кутку. Лявон укінуў навічку снапок лубіну.

— Ён табе іх падвоіць! — запэўніў Хведар. — Мацак!

Вярнуліся ў хату, і якраз прыйшоў Васіль. З ім Хведар таксама моцна абняўся, павіншаваў з вяртаннем.

— Як ваявалася?

— Па-ўсякаму, але неяк выкараскаўся.

— Не дай бог туды трапляць, — адгукнуўся Лявон.

— Ацалеў, — прамовіла Фёкла, засцілаючы на стол свежы абрус.

— Малайчына, што ацалеў, жывым застаўся! — пахваліў Хведар. — Не ўсе выжылі, некаторыя там і засталіся.

— Пашанцавала! — дадала Грунька, развязаўшы сваю прыгожую хустку-апінанку і зняўшы ясёнку і жакетку. Сукенку прыемна тапырылі высокія грудзі.

— Ну што ў вас новага? — пытаўся дзядзька, распранаючыся, здымаючы паддзёўку. Вочы яго выпраменьвалі цікаўнасць, і сам ён выглядаў вельмі жвавым.

— А вы як? — у сваю чаргу папытаў Васіль.

— А няблага! — азваўся Хведар.

— А што яму! Ён у нас вунь які здаровы! — кіўнула на бацьку Грунька. — Розу з балота выцягнуў.

— Якую Розу? — не зразумела Прося.

— Цялушку.

Памыўшы рукі, паселі за стол. Лявон напоўніў кілішкі.

Гаспадыня паставіла на стол салату з памідораў са смятанай, нарэзаную кружочкамі каўбасу, хлеб.

— Ну, а цяпер каб на дабро! — пажадаў дзядзька Хведар. — Каб пладзілася, множылася і расло, каб на спажытак! За гэта і вып’ем!

Мужчыны чокнуліся. Хведар першы паднёс чарку да вуснаў і, не паморшчыўшыся, выхіліў яе ў рот. Тое ж зрабілі і астатнія. Фёкла з Грунькай і Прося толькі прыгубілі.

— Крэпкая, зараза! — скрывіў вусны Хведар і дадаў: — На выспелай шыпшыне настоеная.

— Крэпкая! — ацаніў дзядзькаву «карчоўку» і пляменнік.

Хведар адламаў ад буханкі акрушчык, паклаў у рот.

— Смаката!

— Бульбу дамешваю! — прызналася Фёкла.

— Ой, дзядзюхна, умееце пячы хлеб! — пахваліла Грунька.

— Можа, перабольшваеш? — сціпла спытала Фёкла.

Застукалі лыжкі і відэльцы.

— У госці да нас чамусьці не прыязджаеце, — закусваючы, папракнуў Хведар. — У нас на хутары проста любата! Навокал прырода, лес, паветра. Жыві, дыхай напоўніцу ды працуй па сваёй ахвоце, па сваім распарадку. Хутар — гэта, выратаванне. Ніхто над табой не стаіць. Сам і для сябе. На хутары жыццё — цікавае. Сад у мяне разросся, а яшчэ колькі яблыняў пасадзіў. Хай растуць! Вішні маем, абрыкос хачу пасадзіць... Вядома, працаваць даводзіцца шмат, але ж затое і аддача ёсць. Сёлета бульба ўрадзіла, мяшкоў сто маем. Хопіць і сабе, і жывёле. І вам пазычыць магу.

— Дзякуй! — адказаў Лявон.

Хведар працягваў пачатую гаворку:

— Вам бы таксама добра было б хутар мець. Пры Польшчы такая магчымасць была, а цяпер... Цяпер на хутар не перабярэшся, а наш бацька калісь ахутарыўся, на хутар перабраўся жыць. Дык вось яно і няблага.

Успомнілі пра сумны лёс Якава Арыстархавіча, якога дзядзька Хведар няблага ведаў.

— Пасадзілі кума, — са скрухаю ў голасе прамовіў Васіль. — Быццам бы яшчэ тое, даваеннае, не даседзеў. Даседжваць пасадзілі.

— Шкада, шкада, — паспачуваў дзядзька. — Не хочуць даравать.

— А як там Ульяна? — запытала Фёкла пра Хведараву жонку.

— А нічога, кратаецца.

— На паясніцу скардзіцца, — дадала Грунька, прыгладжваючы валасы на скронях і каля вушэй.

Выпілі яшчэ па адной.

— Сёлета я пшаніцы шмат пасеяў, — пахваліўся Хведар. — Недзе з паўдзесяціны, не менш. Хачу пашырыць гаспадарку, каб на ўсё хапіла.

— Пшаніца наша патрабуе азотавых угнаенняў, — зазначыў Лявон.

— А што я не ведаю? Гною хапае.

— Ой, я рукі надарвала, выкідаючы з хлява! — паскардзілася Грунька.

— Эх, каб яшчэ зямліцы прыкупіць! — уздыхнуў хутаранец, выказваючы, відаць, пад уздзеяннем выпітай чаркі, нешта з даўніх, патаемных думак.

— Ну, гэта нязбытна! — адмоўна пахітаў галавою Васіль.

— Чаму?

— Дык цяпер зямля не прадаецца. Хіба вы не ведаеце?

Хведар памаўчаў, а потым сказаў:

— А той Мачала, што ў вайну ў мяне жыў, у Камянцы вялікім начальнікам пастаўлены. Начальнік! Не мог бы дапамагчы?

— Наўрад ці, — ізноў уключыўся ў гаману Васіль. — На такое ён наўрад ці пойдзе. За такое не пахваляць, здымуць з пасады. Ды яшчэ з партыі выключаць, партбілет адымуць.

Такой жа думкі быў і Лявон:

— Не пойдзе.

Хведар пачухаў за вухам.

— А я ўжо думаў да яго звярнуцца.

Гаспадыня клапацілася, каб на стале ўсё было, прынесла скавараду з яечняй і міску з маласольнымі гуркамі. І ўсё запрашала: «Перакусвайце, госці дарагія!»

— Яшчэ добра было б, калі б падаткамі не душылі, — працягваючы размову, паскардзіўся пляменнік. — Надта падаткамі абкладаюць.

— І ў нас тое самае! Ледзьве спраўляемся, — прызнаўся Хведар і ўздыхнуў, але тут жа, як чалавек па натуры не сумны, павесялеў, нават засмяяўся і сказаў: — У Расіі таксама падаткі. Галоўны падатак — два фунты прусакоў на адну гаспадарку. Здасі, дык астатнія падаткі можаш і не здаваць.

— Умееце выдумаць, дзядзьку! — недаверліва варухнуў галавой пляменнік.

— Татка жартуе! — патлумачыла дачка. — Ён у нас такі! — Грунька засмяялася, паказаўшы роўны рад прыгожых зубоў.

— Не жартую. Бальшавікі Расію разарылі, цяпер наша чарга, за нас бяруцца.

— У Расіі калхозы, — напомніў Васіль. — Сталін абяцаў Жукаву адмяніць калхозы, але слова не стрымаў. Пакінуў усё, як было. Як раней, да вайны.

— Жукаў? А дзе ён зараз — Жукаў той? Нават Дзень Перамогі адмянілі, ужо не святкуюць. Сталін што хоча, тое і робіць, — гэтак разважыў Лявон. — Яго гаспадарка — увесь Савецкі Саюз.

— Сястра Домна піша, што ў калхозе не сахар, цяжка, беднасць! — пачулася з кухні, дзе была Фёкла.

Прося моўчкі слухала, што гаварылася за сталом.

Хведар спытаў:

— А ў вас, у Прусцы, пра калхозы што чуваць?

— У нас, у Лускалах, жанчыны нават прасці перасталі, заяўляюць: «Усё адно ў калхоз!» — азвалася Грунька.

— Ад каго ты чула? — павярнуўся да дачкі Хведар.

— Чула.

— На сваім, калі хачу, раблю, калі хачу, адпачываю. Тыя Саветы былі лепшыя, у калгас не заганялі. Праўда, мала яны і прабылі.

— Пра калхозы пакуль што маўчаць, не згадваюць, — падумаўшы, прамовіў Лявон, — але людзі гавораць. Відаць, і зямлю будуць абагульняць. Пакінуць толькі некалькі сотак, каб кошык бульбы пасадзіць, пад лапату.

— Ты так думаеш? — Хведар здзіўлена крутануў галавой.

— Так яно і будзе, каб роўныя ўсе былі, каб ніхто не вытыркаўся, нікому не зайздросціў.

— Не веру я нешта, каб усе людзі былі роўныя ды аднолькавыя, — заўсміхаўся дзядзька. — Усё роўна, адзін здатнейшы да чаго-небудзь, больш пра-

кідкі, а другі — гультай, лежань, трэці наогул нягоднік. А калгас, выходзіць, усіх раўняе.

— Ну, так.

— Калектывізацыя — гэта як бы яшчэ адна вайна, — не пераставаў разважаць дзядзька. — Дамовая, як кажуць палякі.

— Куды ж мы ідзём тады? — захвалявалася Прося. — Што з таго будзе? Чалавеку ж нічога не застаецца. А чым дзяцей карміць? Кідаць усё і ў свет падавацца?

— Не люблю такіх размоў, — сказаў, нібы нават засердаваў Хведар. — Такое чалавека расхаloджвае, ад працы адрывае. Трэба, як бацька калісьці казаў, рабіць, што трэба і хай будзе, што будзе.

Лявон з Васілём маўчалі, няйнакш кожны думаў пра сваё.

— Мне здаецца, — працягваў ужо ахмялены Хведар, — амераканцы не дапусцяць, каб калгасы былі. Распусцяць!

Кульнулі яшчэ на кілішку.

— А канюшыну сееш? — нечакана запытаў дзядзька?

— Сеем, — хітнуў галавой пляменнік, — у гэтым годзе ўсю Крухмальню засеялі.

Пасядзеўшы, пабавіўшы час са сваякамі, з якімі даўно не бачыліся, Хведар з Грунькай зазбіраліся ў дарогу, дадому.

— Застаяўся наш Цуцык, — гэтак дзядзька называў свайго каня- стаенніка, на якім яны з Грунькай прыехалі і якога ён запрагаў толькі на выезд, — пара ўжо адбываць. Карова мае ацяліцца, вясною папалявала, трэба глядзець...

— Ну, дарагія родзічы, ашчодрылі вы нас! — дзякаваў Лявон. — Часцей прыязджайце, не забывайце.

— Цяпер чакаем у нас, у нас чакаем! — запрашала Грунька. — Прыязджайце вы да нас! Сустрэнем вас хораша, як трэба!

Лявон з Васілём праводзілі гасцей. Злёгку накрапаў цёплы дождж, але хутка перастаў.

— Цікавы чалавек дзядзька Хведар, — сказала Фёкла, калі яны, правёўшы Хведара з Грунькай, вярнуліся дахаты, — надта сардэчны і клапатлівы, але дзівак.

— Чаму — дзівак? — не зразумеў Лявон.

— Ды яшчэ, кажа, зямлі б купіў. Усё яму мала.

Васіль з Просяй нават засмяяліся.

— Мамо, хіба вы дзядзьку Хведара не ведаеце? — азваўся Васіль. — У яго заўсёды былі свае планы.

— Натура такая ў чалавека, — патлумачыў Лявон. — Можа, гэта і добра. Яму ж ужо за семдзесят, але старэць не хоча!

Васіль дакінуў:

— Гэта як кум Якаў Арыстархавіч. Ветрака хацеў купіць. Тады мы ў Шчырчове разам сядзелі. Кругом вайна, небяспека кругом, а яму вятрак трэба...

Кожны меркаваў па-свойму.

## XV

Прускаўскі каваль Пахолак развітаўся са сваёй кузняй і падаўся ў Камянец. Падагнала яго, відавочна, перспектыва стаць калгаснікам. Размовы на гэтую тэму заходзілі ўсё часцей. Лявон усё ж такі хацеў адраіць яму ехаць у мястэчка, а Цішка, відаць, ужо ўсё для сябе вырашыў.

— А куды мне з маёй кузняй? Работы тут мне не будзе...

— Чаму не будзе? Каваль заўсёды патрэбны.

Цішка прымружыў вочы, як бы нешта прыкідваючы.

— Не.

— А бароны хто будзе кavаць, а плугі? Каня ў галаледзіцу хто падкуе? А вобад хто нацягне?

— Не, — не згаджаўся Цішка, — у калгасе трактары будуць араць. Трактар я не адрамантую. Мне пра нешта іншае трэба думаць, на праізводства трэба ісці. Свету я пабачыў! У Канадзе быў, на праізводстве працаваў. Справа мне вядомая!

Каваль гаварыў павучальным тонам, пераканана гудзеў сваім пракураным басам.

— Вядома, ты, Ціхан, чалавек абцёрты, — пагадзіўся Лявон.

— Абцёрты, — пацвердзіў Цішка.

— Службоўцам хочаш быць?

— Не. Гэта не па мне. Я пралетар. Мая прафесія — малаток жалезны. Малаток і кавадла. Апроч усяго, прызнаюся табе, Лёня, як другу, не хачу з гэтым любахватам Кухтам у адным калгасе быць, у адным калякціве. Нікчэмнасць! Мне не шкада расставацца.

— Нашто гэтак казаць?

— Я і ў прамкамбінаце малатком сваім буду грукаць. На кавалак хлеба зараблю. З голаду не памру.

— А гаспадарка? А кузня?

— А хай яно тут усё морам заплыве — мне яно не патрэбна! Мяне на праізводстве чакаюць, у райпрамкамбінат запрашаюць. Там болей зараблю.

Кужаль не знайшоў, што на гэта адказаць, адно толькі пачасаў за вухам.

— А ведаеш, — Цішка адвёў вочы ўбок і ўздыхнуў, — калі б можна было, я б зноў у Канаду з’ехаў.

Сябар пасміхнуўся:

— Не пусцяць, добра яшчэ, што ў Камянец ехаць дазваляюць...

— І табе раю, перабірайся ў Камянец, нешта знойдзем і для цябе. Ты таксама абцёрты.

— Не, я ўжо, мабыць, тут буду. На месцы.

Цяпер Цішка ўжо ў Камянцы. Яго даўні незычлівец Лаўр Яўсеевіч Кухта таксама зрабіў свой выбар. Прайшоў рукапалажэнне і стаў святаром, атрымаў сан свяшчэнніка, — як казаў пра гэта ён сам. Казаў, што пры гэтым вельмі перахваляваўся, хаця псалтыр ведаў на памяць. Неўзабаве ён атрымаў свой прыход — у Лютаўскай царкве, што пад Высокім.

З Волькай сумеснае жыццё не атрымалася, званнем матушкі ён яе не ўганараваў. Пры развітанні абмежаваліся вельмі сухімі словамі: «Бывай!» — сказаў ён. — «Бывай!» — адказала яна.

Зайшоў развітацца і да Кужалёў. З’явіўся ў звычайнай вопратцы, святарскага адзення яшчэ, відаць, не пашыў.

— Дык як вас цяпер называць? — запытаў Лявон.

— Завіце проста — айцец Лаўр. Я цяпер айцец духоўны. Хіратонію прайшоў, з архірэем душавыратавальную гаворку меў. Словам, усё, як належыць. На адказную сцязю ступіў.

У гэтым, зрэшты, не было нечаканасці. Лаўр Яўсеевіч даўно марыў аб святарскім сане і ніве дзейнасці. Сялянская праца яго ніколі не вабіла, займаўся ён ёю паводле крайняй неабходнасці і заўсёды лічыў сябе створаным для іншага.

— Свяшчэннікаў цяпер не хапае, — зазначыла Фёкла.

— Не хапае, Фёкла Цімафееўна, востра не хапае! — паправіў яе айцец Лаўр.

У Кужалёў збіраліся палуднаваць, Фёкла ставіла на стол, запрасіла далучыцца і госця, аднак айцец Лаўр, падзякаваўшы, адмовіўся, прысеў на хвіліну на лаўку каля сцяны.

— А пра сына так нічога і не чуваць? — пацікавілася Фёкла. — Такі вясёлы быў, усмешлівы.

— Відаць, за ёю падаўся. Я хацеў яго адгаварыць, адраіць — не атрымалася. Ачмурэнне на чалавека найшло, адурэў. Мне ён на нервы дзейнічаў...

— На Палессе паехаў, — сказаў Валодзя, які ўжо ўзяў лыжку, каб сёрбаць капусту, — Сняжану Валер'еўну туды перавялі. Я чуў, хлопцы нашы казалі. На яе ўроках цікава было.

— Ну, вось, ваш гадаванік ведае лепш за мяне, — айцец Лаўр кіўнуў на хлопца, нервова цярэбячы бародку.

— Усялякае здараецца, — ізноў азвалася Фёкла.

— Жыццё — штука такая! — пацвердзіў Лявон, прыгладжваючы сівую пасмачку над ілбом.

— Я яму на развітанне прымаўку нагадаў: «Каб ажаніцца, даў бы вала, каб разжаніцца, даў бы два».

Да Валодзі сэнс прымаўкі, напэўна, не дайшоў, а Лявон з Фёклай пераглянуліся і ўсміхнуліся.

Айцец Лаўр, відаць, спяшаўся. Перахрысціўся на покут, пажадаў усяго добрага і пайшоў.

Апошнім часам да Кужалёў, па нядзелях, ідучы з царквы, стаў наведвацца стары Лявонаў дружбак і равеснік — Зміцер Зуб. Ішоў перакінуцца словам, абмяняцца думкай. Неяк пасля жніва яны сустрэліся ў Камянцы на млыне і дадому ехалі разам. Зміцер па-ранейшаму жыў у Бабічах, меў трацяк зямлі[1]. Рыбачыў — Лосьна побач. Прывучыў да рыбацкай справы сына Колю. Бабічы і Пруска былі, як казалі даўней, пад адным званом, гэта значыць, адносіліся да аднаго прыходу, і жыхары мелі магчымасць часта сустракацца.

Сямнаццаты год і грамадзянскую вайну ён пераажыў у бежанстве, у Феадосіі. Вярнуўся дадому, у Бабічы, пасля таго, як немцы пакінулі Украіну і Беларусь і заспяшаліся ў сваю Германію. Унутраны змест людзей і з'яў адкрыўся Лявону даўно. У Зміцеры ён адчуваў сяброўскую шчырасць і адданасць. Сябар да ўсяго ставіўся з развагай. Нешта надзейнае было ў яго абліччы, і яно вабіла да сябе, прыцягвала, размаўляць з ім было прыемна. Як чалавек непрытворна набожны, Зміцер наведваў царкву, пасля чаго і заходзіў звычайна да Кужалёў. У гэтую нядзелю завітаў таксама, зайшоў разам з Лявонам. Абапіраўся на кульбу, світка падпяразана рамянём, на нагах чосанкі (гэтак тут называлі валёнкі). Зміцер кульгаў, і лёгкія чосанкі былі ў самы раз.

— Добры дзень! — сказаў гаспадыні. Зміцер паважаў яе чуласць і ветлівасць.

— Добры дзень! — адказала тая. Зміцера Фёкла таксама паважала.

Госць зняў шапку і світку, павесіў на цвік, застаўшыся ў паркалёвай кашулі.

— Як здароўе, Фёкла Цімафееўна? — Зміцер ведаў і яе імя, і імя па бацьку.

— Яшчэ цярпіма.

— Ну і дзякуй богу.

[1] Трацяк — 5—6 га.

— А вы як?

— На ўколах жыву.

Зміцер даволі нязграбна павярнуўся, кульгнуў на левую нагу і, абапіраючыся на кульбу, прысеў на лаўку. Калека. З кульбаю хадзіў ужо даўно — для падмогі. А ўсё з-за чаго! Пілаваў дровы з сынам Колем, і, як на тое, здарылася няшчасце: звалілася з козлаў тоўстае бярозавае бервяно — і якраз Зміцеру на нагу. Адбылося гэта яшчэ ў вайну, пры немцах. Павёз Коля бацьку ў Хатынава, да кастаправа, той склаў і направіў косць, узяў у лешчаткі, але нага зраслася крыва, і яе пасля вайны, калі ў Камянцы адчынілася бальніца, зноў давялося ламаць. Зміцер мужна цярпеў пакуты. Косць зраслася дрэнна і на гэты раз, нага стала крыху карацейшай, і Зміцер добра-такі пакульгваў. Нага балела, і даводзілася рабіць уколы, але гэта слаба дапамагала. Скардзіўся жонцы: «Колюць, колюць гэтыя ўколы, а нага ўсё адно баліць». Жонка Прузына разважала па-свойму, у яе на гэты конт была свая думка: «Бо колюць у сцягно. Каб калолі ў нагу, то вылечылі б». З такіх разваг Зміцер толькі сумна ўсміхаўся.

— Ну, што новага? — запытаў ён, звяртаючыся галоўным чынам да Лявона.

— Каваль наш Цішка Пахолак у Камянец перабраўся, і наш Вася ў Брэсце работу шукае.

— Так, так, — хітнуў галавой Зміцер. — Цяперашнім часам іх можна зразумець. Калгасаў баяцца, кідаюцца хто куды, Савецкі Саюз вялікі.

Пабедавалі з прычыны таго, што пасадзілі іх даўняга прыяцеля Якава Паца, з якім зналіся з малых дзён.

— Салідны быў чалавек, — сказаў Зміцер, — пракідкі!

— З галавой, — дадаў Лявон, — і зла нікому не рабіў.

— Не рабіў.

— Ну, а ты, Зміцер, сына яшчэ не ажаніў, — спытаў гаспадар, ставячы на стол бутэльку.

— Яшчэ не. Марудзіць нешта, не спяшаецца. Рыбу ловіць. Шкада, што вам не прынёс. Пакуль, думаю, дакульгаю, дык прасмердне.

— Ёсць у нас чым закусіць.

Стараннямі гаспадыні з’явілася закуска: нарэзаная тонкімі кружочкамі каўбаса, якую трымалі для паважаных гасцей, сала, маласольныя гуркі, хлеб. Паселі за стол.

— Нядзеля сёння, — сказала Фёкла, — можна і пасядзець.

Лявон наліў у кілішкі. Выпілі за Якава Арыстархавіча: «Хай там яму не цяжка будзе».

— Каб лёгка дыхалася! — пажадаў Зміцер.

Разам з мужчынамі прыгубіла, паднёсшы да вуснаў, і Фёкла. Госць агледзеў стол, дастаў відэльцам кавалачак сала, у другую руку ўзяў хлеб.

— Зміцер, перакусвай! — запрасіла гаспадыня.

— У нас яшчэ, дзякуй богу, ёсць чым перакусіць, а ў Расіі, сястра яе піша, не хапае, — сказаў Лявон.

— Што сястра піша? — пацікавіўся Зміцер у Фёклы.

— Нічога добрага не піша, — уздыхнуў Лявон. Фёкла дадала:

— Расія багатая, але без хлеба сядзіць.

— У Расіі зноў голад, — пачаў Зміцер, зірнуўшы на бутэльку. — Гэта я па радыё чуў. Радыё называецца «Свабодная Еўропа», па-беларуску размаўляюць.

Дзверы адчыніліся, прыбег Валодзя, павітаўся з госцем і пасунуўся на кухню, хацелася есці.

— Я табе скажу, радыё гэтае — «Свабода», — працягваў Зміцер, — Еўропу, кажа, вызвалілі, ну, усходнюю частку, але падначалілі Сталіну. Абвінавачваюць Савецкі Саюз за тое, што захапіў краіны Усходняй Еўропы і гвалтоўна насаджае там камуністычнае праўленне, камуністычныя рэжымы. Войскаў савецкіх там шмат...

— Амерыканцы не дазволяць! — Лявон пахітаў галавой. — Камуністаў яны не шануюць. Кляновіка калісь па этапе справадзілі. Быў такі камуніст, надта, дарэчы, прыстойны чалавек. Нам дапамог, калі з бежанства дадому вярталіся.

— Выходзіць, мяркуючы па ўсім, што зноў вайна будзе, на гэты раз з амерыканцамі! Іх таксама ў Еўропе шмат. Цэлае войска!

— Усяго можна чакаць, — далучылася да гамонкі гаспадыня.

— Амерыканцы, як кажуць, атамную бомбу прыдумалі, усё навокал знішчае! — нагадаў Зміцер.

Гэта было ўсім вядома. Лявон выказаў сваё меркаванне:

— А ты думаеш, што Сталін яе не мае? Напэўна мае!

Зміцер на гэта нічога не адказаў, стаў закусваць. Загаманіла Фёкла, якая доўга сядзела моўчкі:

— Столькі пакутаў у вайну перанеслі — няўжо яна так нічому і не навучыла? Няўжо пра ўсё забыліся? Дзіўна і толькі.

Унук на кухні сёрбаў капусту. Слухаючы гэтыя размовы, ён сумняваўся, што, як некалі немцы, могуць прыйсці ў Пруску амерыканцы. Але калі нават і прыйдуць, дык дзядулю чапаць, напэўна, не будуць, таму што ён быў калісьці ў Амерыцы і для іх ён свой.

— У Расіі калхозы, — зноў пачаў Зміцер, — але хутка тое будзе і ў нас. Абдзяруць, як сідараву казу.

Азвалася Фёкла, якая моўчкі, слухала, што кажуць мужчыны:

— У калхозах людзей голадам мораць. Гэтак і ў Расіі было, Домна ж пісала...

— Камуністы, бачыш, павярнуліся да старых расійскіх парадкаў, — патлумачыў Зміцер. — Калхозы буйныя, зямлі ў іх шмат. На чале калхоза прадсядацель, але мяне не абманеш: гэта той жа памешчык, калхоз — яго маёнтак, а калхознікі — яго прыгонныя, нявольнікі. Прыгон ізноў вяртаецца, толькі пад іншай вывескай. Для дзяржавы гэта вельмі выгадна: зямля, коні, плугі і мы з табой робімся яе ўласнасцю. Усякую незалежнасць трацім. Словам, усё мяняецца і ўсё застаецца нязменным, — скончыў Зміцер на надта сумнай ноце.

Лявон пачасаў за вухам:

— Выходзіць, што паны засталіся — не тыя, дык іншыя.

— Засталіся.

Зноў выхілілі па кілішку.

— Перакусвай, Зміцер! — нагадваў гаспадар, каб дагадзіць госцю. Той перакусваў не спяшаючыся, паважна. Хмель разгладзіў яго твар, прымусіў весялей глянуць на свет. Падмацаваўшыся, ён дастаў з кішэні пачак махоркі і кніжачку тонкай курыльнай паперы. Яны закурылі.

— Дык ты, Зміцер, ажно радыё маеш?

— Маю, дэтэктарнае. Коля прыдбаў. Антэну на бярозу павесіў. З навушкамі слухаем. «Свабодную Еўропу» добра ловіць. Я, братка, навіны ведаць люблю, без навін не жыццё.

Пагаварылі пра тое-сёе яшчэ, зноў згадалі Якава Арыстархавіча.

— Помніш, як мы калісьці ў Камянецкім вучылішчы вучыліся і забароненыя кніжкі чыталі? — запытаў Лявон.

— Помню.
Развітваючыся з Фёклай, Зміцер сказаў:
— Я ў нагах цвёрды, хоць і накульгваю.
Потым звярнуўся да Лявона:
— Цяжка было... Апошнюю тую чытаць ты мяне прымусіў, братка!
— Што зробіш — прымус наша традыцыя.
— Так яно і ёсць.
— Выглядаеш ты бадзёра!
Зміцер зарагатаў:
— Нап'юся — нікога не баюся; працплюся — і ценю баюся.

## XVI

Радзей стаў паяўляцца ў Прусцы Кузёмка. Ужо і восень, лічы, прайшла, а яго не чуваць было.

— Нешта Кузёмку даўно не відаць, — успомніла неяк Фёкла, зірнуўшы ў акно.

— Недзе ходзіць, навіны збірае, — пасміхнуўся Лявон. — Наведаецца!

Позняя восень ужо змянілася зазімкам, зацвярдзеў дол, пачаліся халады. Раз за разам дзьмуў рэзкі лістападаўскі вецер, скідаў з амаль голых ужо дрэў апошняе лісце. Пахла зімой, яна была на падыходзе. На шэрай, прыбітай да зямлі няспыннымі дажджамі лістоце серабрыўся іней. Тонкім лядком прыхапілася на дарогах вада. Паплыло па Лосьне сала — тонкі лёд і змерзлыя камы снегу. Яшчэ трошкі пачакаць — і ўсталюецца завейная зіма.

Фёкла пратапіла печку-«галандку», і ў хаце стала досыць цёпла. Перад вокнамі праплыла чыясьці постаць, затым у дзверы невыразна пастукалі, і на парозе з'явіўся чалавечак. Усе параскрывалі раты ад здзіўлення. Гэта быў Кузёмка.

— А мы цябе толькі што ўспаміналі! — падзівіўся Лявон.

Вандроўнік, як заўсёды, загадкава пасміхаўся.

— Добры дзень! — павітаўся госць, ведаючы, што ў Кужалёў яго заўсёды прыхільна сустрэнуць. Зняў шапку, перахрысціўся на покут і паставіў у куток свой ядлаўцовы кіёк.

Гаспадары далі «добры дзень» у адказ, запрасілі за стол, аднак госць адмовіўся, сказаў, што сыты, і сеў на лаўку ля сцяны, агледзеў боты. Боты ў яго былі, як заўсёды, добра начышчаныя, наглянцаваныя, у халявах, як у люстры, адбівалася ўсё наваколле. Потым ён распрануўся, зняў з сябе бравэрку і павесіў на цвік. Зноў апусціўся на лаўку. Седзячы, выцягнуўся, выпрастаў спіну, памацаў паясніцу.

— Здарожыўся? — паспачувала Фёкла.

— Крыху.

— Колькі праз Пруску хаджу, вас ніколі не мінаю, — прызнаўся вандроўнік. — Цягне зайсці да вас. Дзе ні бываю, а да вас цягне.

— Смелы ты! — зірнуўшы на вандроўніка, здзіўлена варухнуў галавой Лявон, наважыўшыся пачуць ад госця нешта новае.

Валодзя, які знаходзіўся тут жа, таксама падзівіўся з Кузёмкі. Ходзіць, вандруе чалавек па свеце — з таго і жыве. Але ж страшнавата, рызыкоўна хадзіць па незнаёмых мясцінах, сярод чужых людзей, а ён як бы і не баіцца!

— Зіма! — сцепануў плячыма Кузёмка, зноў апускаючыся на лаўку. — На двары падвей гаспадарыць.

— Хай гаспадарыць, — сказала Фёкла. — Нам якая справа...

— Падвея трэба баяцца, — заасцярожнічаў Кузёмка, — ён у ветры круціцца і разбурэнні прыносіць. Разбурэнні і хваробы, скразняком можа прыхапіць. Я яго ведаю! Калі ў спіну дзьме, дык добра, а калі ў твар? Яго адолець цяжка, злы бывае. Не любіць ён, калі зямлю, скажам, біць ядлаўцовым кіем, ці разбураць мурашнік, ці стары венік у агонь кінуць, ці ў Раздво на агонь дзьмуць...

— Усё ты ведаеш, усё спазнаў! — з прыхаванай усмешкай прамовіў, хмыкнуўшы ў вусы, Лявон. — Памудрэў!

— Паеў бы чаго! — пасяшалася праявіць гасціннасць гаспадыня.

— Кутні зуб выпаў, хай загаіцца. Я потым паем.

— Ну, што чуваць? — запытаў Лявон.

— Сталін сямідзесяцігоддзе спраўляе! — паведаміў ва ўрачыстым тоне вандроўнік, кашлянуўшы.

Пра гэты юбілей Лявон ведаў ад айца Клаўдзія, які каторы ўжо раз пачынаў нядзельнае набажэнства ў царкве з пажадання благаздравія Яго Светласці Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну — бацьку ўсіх народаў, арганізатару і натхніцелю ўсіх нашых перамог.

Кузёмка як быццам угадаў Лявонавы думкі, бо пачаў тлумачыць:

— Царква цяпер не апостальская, не грэчаская, а нестарыянская. Яны калісьці цара памазаннікам лічылі, усё адно як Богам, а на гэты раз Сталіна, а ён жа не Бог, а звычайны чалавек, як мы.

Лявон і Фёкла ў гэтых сакральных тонкасцях не цямілі, таму маўчалі.

— Падарункаў надарылі, — працягваў Кузёмка, — незлічоную колькасць, нават целявізар атрымаў, а ўжо віншаванняў адусюль столькі, што кожны дзень у газетах друкуюцца і канца ім не відаць, ідуць і ідуць. Ад працоўных усяго свету, кажуць.

— А што гэта такое — целявізар? — пацікавіўся Валодзя.

— А гэта машына такая, — патлумачыў Кузёмка, які ведаў усё, — з акенцам. Праз яго ўсё можна ўбачыць, нават тое, што на другім канцы свету. З таго канца свету перадаюць на гэты, і правадоў не трэба. Па паветры!

— Чаго толькі не прыдумаюць! — недаверліва паглядзела на вандроўніка Фёкла. — Канца-краю тым прыдумкам няма.

— Каб толькі на спажытак, як Якаў Арыстархавіч калісьці казаў, — прамовіў Лявон. — Няма нешта ад яго ліста.

— Не даюць яму пісаць, забараняюць, — патлумачыў Кузёмка.

На нейкі час усе прымоўклі.

— Сталін, кажуць, у Крамлі сядзіць і працуе, і ніколі не спіць, нават ноччу, — сказаў пра недзе пачутае Лявон. Верыць такім чуткам ці не — не ведаў і сам. — Думае шмат.

— У вайну яшчэ крыху спаў, пад шынялём, а цяпер не спіць, — пацвердзіў Кузёмка. — Ён не спіць, і меншыя начальнікі не спяць. Гэтак да самага нізу.

— Няўжо ажно ўсе да нізу? — усумнілася Фёкла.

— Мая справа казаць праўду, але прымусіць у яе паверыць я не магу, — сціпла напомніў вандроўнік, па-блазенску ўсміхнуўшыся.

— Наш упаўнаважаны па вёсцы Хвядзюшка і ноччу спіць, і днём, — запярэчыла Фёкла.

— Гэта начальства пра яго не ведае, а то б разбудзілі...

Кузёмка вёў свой аповед далей, расказваў, што пачуў, ходзячы, аціраючыся паміж людзьмі:

— У Сталіна жонка памерла, але ўжо новая ёсць. Дачка Кагановіча Роза Кагановіч. Прыгажуня! — тут расказчык нават прыцмокнуў сваімі звялымі

вуснамі. — Што яна скажа, тое ён і робіць, усімі ягонымі дзеяннямі кіруе. Усё так, як яна загадае.

Прысутныя, Лявон з Фёклай, слухалі, хаця і не ведалі, наколькі можна пачутаму верыць, праўда гэта ці выдумка дзівака-валацугі. Валодзя таксама наставіў вушы. Нядаўна, гартаючы ў школьнай бібліятэцы падшыўку газеты «Известия», Валодзя наткнуўся на артыкул пісьменніка Леаніда Лявонава, у якім аўтар прапаноўваў пачынаць адлік новай гісторыі з дня нараджэння Сталіна. Выходзіла, быццам яшчэ адна «эра» пачалася ці мае пачацца.

— У Відамлі Сталіну помнік паставілі. Пад вусамі ўсмешка, руку ўпярод працягнуў, на камунізм паказвае. А ноччу нехта яму на тую руку торбу павесіў. Дык ён і ўсміхацца перастаў, злосны стаў.

— Дык, можа, ты, Кузёмка, і павесіў, — крыху грубавата, усміхаючыся, пажартаваў Лявон.

Вандроўнік пакрыўдзіўся:

— Гаварыць я гавару, але на ўчынак не здольны, — уздыхнуўшы, сказаў ён.

— Я нядаўна быў у Чамярах — пад Слонімам, — зноў пачаў ён. — Дык вось там паэтаў шмат. Вершык сачынілі. Я нават пераказваць яго баюся.

— Калі баішся — не кажы, а сказаўшы — не бойся, — нагадаў Лявон старую мудрасць, як бы падахвоціўшы госця.

Кузёмка, колькі разоў кашлянуўшы, прадэкламаваў:

Ні каровы, ні цяляці —
Адзін Сталін толькі ў хаце.

Уцяміўшы сэнс вершыка, зарагатаў Валодзя. Лявон з Фёклай строга на яго паглядзелі, той адразу ж змоўк.

Кузёмка павучальна сказаў:

— Пад Слонімам апроч Чамяроў ёсць яшчэ і вёска Васілевічы. Я неяк паначаваць папрасіўся, у крайняй хаце. У Васілевічах нарадзіўся Уласік. Гэты, каторы цяпер Сталіна ахоўвае. Целааховец! Калі ён пра гэты вершык дазнаецца ды Сталіну скажа, то далёка загрыміць той паэт. Можа, нават на той свет... Словам, застаецца толькі здзіўляцца.

Пад'еўшы, унук бразнуў клямкай, пабег па сваіх хлапечых справах.

— Але ж хто сачыніў, невядома, — запярэчыў Лявон. — Дзе ж ты яго знойдзеш?

— Знойдуць. Знойдуць і арыштуюць. Сталін знойдзе, дапытаецца. Ён такі, што ўвесь час павінен кагосьці браць, каб астатнія не драмалі, а будавалі тое, што будуюць. Краіна вялікая, за Уралам для ўсіх месца хопіць. Кулакоў з жанкамі і дзецьмі вывозяць у люты мароз. Кажуць, загад нават быў, каб да юбілею правадыра ніводнага кулака не заставалася. Але ўсіх не вывезеш. Часам і вызначыць не проста, кулак перад табой ці не кулак. Зрэшты, а каму якая розніца? Гінуць людзі, гінуць...

Надта палохала тое, што гаварыў вандроўнік.

— Пры немцах хіба мала людзей загінула? — падала голас Фёкла, усхваляваная пачутым.

— Тады вайна была, а цяпер? — зірнуў на Кузёмку Лявон.

Вандроўнік даводзіў сваё разуменне падзей:

— Сталін сусветнымі справамі варочае! Лёс асобнага чалавека для яго нічога не значыць. Ноль без палачкі. Вялікімі справамі варочае. Надта агромністую ідэю мае, увесь свет да рук хоча прыбраць. Гэтак да ўлады імкнецца.

— Дык улады ў яго быццам бы хапае! — падзівіўся Лявон.

— Мала! Над усім светам уладыкай хоча быць.

— Ну а тады што?

Кузёмка доўга маўчаў, нарэшце прызнаўся:

— Не ведаю.

Потым дадаў:

— У кожным чалавеку ёсць і дрэннае, але ёсць і добрае. А вось у Сталіна добрага я нешта не бачу. Сатана. Ён толькі паводле аблічча чалавек, а па сутнасці Сатана. У Евангеллі пра Сатану сказана, што няма ў ім ісціны. Калі гаворыць ён хлусню, гаворыць сваё, таму што ён хлус і бацька хлусні.

— Што ж гэта такое? — у адначассе захіталі галовамі здзіўленыя гаспадар і гаспадыня.

— Кара гасподня — што ж яшчэ!

Усіх працяў страх, усталявалася цішыня. Зноў загаварыў Кузёмка:

— Вока Божае бачыць усё, што робіць чалавек, нават што думае! Неіспавядзімыя шляхі Гасподнія, а куды яны вядуць, гэтага ніхто не ведае.

Да Кужалёў забегла суседка Дзякрэта, як звычайна, чагосьці пазычыць. На нагах — галёшы з тоўстай гумы. Такія клеілі і насілі паўсюль. Кузёмка зноў прадэкламаваў:

Дзякуй Сталіну-грузіну,
Што абуў нас у рызіну.

Дзякрэта, відаць, пакрыўдзілася. Не ведаючы, што адказаць, упікнула жартаўніка:

— Ну што, так і не ажаніўся?

— Можна ажаніцца, пара валасін на галаве яшчэ ёсць, — пасміхнуўся вандроўнік і памацаў лысіну, потым скептычна агледзеў прысутных — Лявона з Фёклай, Дзякрэту. — Але нашто? Які сэнс памнажаць чалавечы род? Чым болей нараджаецца людзей, тым драбней, мізэрней становіцца чалавечая душа. На кожнага Бог не настараецца. Чалавек, самі бачыце, не разумнее, а, наадварот, дурнее.

Дзякрэта, як бы не чуючы, што казаў Кузёмка, працягвала сваё, насмешліва прыжмурыўшы коса прарэзаныя вочы:

— Халасцяцкі падатак плаціш?

— Халасцяцкае з мяне не спаганяюць, бо я пэўнага прыстанішча не маю, на месцы не стаю, хаджу сабе. Я паўсюль бываю. Усюды цікава.

— Ой, загаварылася я тут з табою і забыла, па што прыйшла. Солі пазычыць! Усё ў лаўку да Салівэся не збегаю, Апанаса трэба будзе паслаць.

Атрымаўшы паўшклянкі солі, Дзякрэта пабегла.

— Шпіёнаў, кажуць, процьма, — памаўчаўшы, прамовіў Кузёмка, — але я ніводнага не бачыў. Прасіў вашага ўчастковага Сценгарыева, каб паказаў. Дык ён кажа: «А можа, ты і ёсць шпіён, бо ходзіш, падглядаеш». Выходзіць, што цяжка адрозніць шпіёна ад нешпіёна.

— Такога яшчэ не было, — пахітаў галавою Лявон.

Кузёмка вёў гамонку далей:

— Ой, яшчэ не тое будзе! Турмаў шмат, а калі ёсць турма, дык ясна, што нехта ў ёй сядзець павінен. Гэта — лагічна.

— Лагічна, — згадзіўся Лявон. Фёкла маўчала.

— Калгасы кругом, — працягваў вандроўнік. — Саветы намагаюцца перайначыць свет на свой лад. Я яшчэ тады прадракаў.

— Відаць, і нас тое не міне, — ціха азваўся Лявон. — Такі ўжо лёс. Мы людзі пакладзістыя, дык з нас вяроўкі і ўюць. У Амерыцы такое немагчыма.

— У Берасце перабірацца не думаеце? — спытаў Кузёмка.

— Наш Васіль мае такі намер, — адказаў Лявон, — а мы не.

— Каб у Берасці жыць, то трэба грошы мець.

— Грошы нідзе не зашкодзяць.

— Ну, відаць жа, не ад дабра бягуць, — прамовіла Фёкла.

— Калгасаў баяцца. Дзела яснае. Усё пазабіраюць! — падхапіў вандроўнік. Падумаўшы, дадаў: — Зноў пра лесавікоў гавораць. Каля Кобрына старшыню калгаса забілі, забілі і поўны рот жыта насыпалі. Гвалт з абодвух бакоў. З боку тых, хто заганяе ў калгасы, і боку тых, каго заганяюць. — Кузёмка няўцямна паціснуў плячыма, уздыхнуў і як бы ў кагосьці запытаў: — Як жа можна дайсці да добрага праз гвалт? Але ж, калі падумаць, дык на насіллі, на прымусе трымаецца свет. Адолелі людзей бесы. У мінулым гэта ўжо здаралася неаднойчы.

— Ой, што ж гэта будзе? — не вытрымала, пляснула рукамі Фёкла.

— Свет заўсёды быў жорсткі, — уздыхнуў і Лявон. — Чалавек змагаецца за сваё існаванне, не хочуць людзі па-добраму дамаўляцца. Але ж гвалтам мілы не будзеш.

Кузёмка зноў спаслаўся на Бога:

— Усё ва ўладзе Бога. Без яго парадак немагчымы. Божым запаведзям пярэчыць нельга.

Колькі часу яны маўчалі, нібы ў маўчанні, у цішыні, спасцігалі сутнасць рэчаў і тое, што чакае іх наперадзе.

Вячэраў вандроўнік разам з усімі. Еў не спяшаючы, хваліў бульбу і капусту-шаткаванку, якую ў глыбокай місцы паставіла на стол гаспадыня.

— Прабач, малака няма, Красуля наша запусцілася.

— Дык і пост пачаўся, — нагадаў вандроўнік, на ніякія прысмакі не прэтэндуючы.

Начаваў госць на гарышчы, а назаўтра зазбіраўся ісці далей. Пры гэтым сказаў:

— Першы дзень госць залаты, другі — сярэбны, трэці — пайшоў вон.

— Дык сёння, выходзіць, ты яшчэ толькі сярэбраны, — пажартаваў Лявон.

Кузёмка строга глянуў у яго бок.

— Не, на адпачынак часу няма. На тым свеце адпачываць будзем. Зрэшты, хто адпачываць будзе, а хто ў смале гарэць.

Кужалі маўчалі, не пярэчылі.

На развітанне вандроўнік са шкадаваннем і бездапаможна развёў рукамі:

— Слеп чалавек розумам сваім, слеп! А Бог жа ўсё бачыць!

## Частка III

### I

Новы год у Прускаўскай школе сустракалі з ёлкай, рыхтавалі канцэрт. Ёлку — стройную, высокую, да столі, — ссек і прывёз на кані, на санках-развалах школьны вартаўнік Ляксандар Гальяш, яе паставілі ўнізе, у вялікай зале, раскрыўшы прасценак паміж двума класамі. Цацкі ляжалі на гарышчы, яшчэ польскія, пераружылі там вайну і, нарэшце, дачакаліся, што іх адтуль знялі і аздобілі ёлку. Прыгажуня ўсіх зачаравала сваёй паставай, убраннем, бліскучымі цацкамі і свежым густым пахам. Валодзю надта захацелася, каб такая ёлка

стаяла дома, у хаце, каб цешыліся Віталік з Лёнікам, хай сабе і з самаробнымі цацкамі. А то раптам захоча завітаць Дзед Мароз, — як жа ён прыйдзе, калі няма ёлкі? Дзе ён пакладзе падарункі, якія звычайна пакідае пад ёлкай. І бацьку прыемна будзе, калі з Берасця вернецца. Паехаў уладкоўвацца на працу. Вернецца — ёлку ў хаце ўбачыць! Ніколі ж такога не было, а тут ёлка! Хлопец надта ўзрадаваўся гэтай сваёй думцы і цвёрда вырашыў ісці ў лес па ёлку. Каб не сумна было і для смеласці, узяць з сабой Віталіка. Лёнік яшчэ малы, у лес яму рана, хай сядзіць у хаце. З сярэднім братам дамовіўся хутка:

— Віталік, давай па ёлку сходзім!

Той горача падтрымаў:

— Давай! А куды?

— У Бярэзіну.

— Пойдзем!

Ісці! Другой думкі не было. Бярэзіну Валодзя ведаў, летам не раз хадзіў туды з сябрукамі ў грыбы.

— Пойдзем гасцінцам, — спланаваў ён, — а там, калі Бабіцкай гары звернем налева, і вось табе Бярэзіна. Знойдзем ёлку, ссячом і прынясём дадому.

Выйшлі з хаты, прыхапіўшы сякеру. Віталік паспрабаваў лязо — сякера была наточаная.

— Ёлку ссячом і трэсак на распал нашчапаем, — сказаў ён. — Знойдзем недзе смалісты пень, нашчапаем, а то мама кожнай раніцы пакутуе, распальваючы ў печы сырыя дровы.

Дзень выдаўся пахмурны, туманны. Сонца ўжо даўно ўзышло, але яго засланялі хмары, што нізка апусціліся над зямлёй, на якой зіма шырока разаслала сваю мяккую, пяшчотную коўдру. Ісці наважыліся так, каб не заўважыў меншы брат, але ад яго не схаваешся.

Упырлівы Лёнік дагнаў ужо каля могліцаў. Браты паскорылі крок, але пачулі ззаду лямант. Пашкадавалі малога, узялі з сабою.

У твар, падбадзёрваючы падарожнікаў, дыхнуў вецер, і яны паднялі каўняры сваіх палітончыкаў. Дайшоўшы да Бабіцкай гары, павярнулі ўлева, у Бярэзіну, у лясны масіў, спадзеючыся сустрэць ёлку. Мацней падзьмуў вецер, але цяпер ён быў ім не страшны, ад завеі ахоўваў лес. Адразу ж пачалі азірацца навокал, але ёлкі не трапляліся. Рушылі ўглыб лесу, ішлі па цаліку, прадзіраліся праз зараснікі. Сякера была напагатове. Усе трое ўвесь час азіраліся, шукалі вачыма ёлку. Углядаліся ў лазовыя кусты, беразнякі ды асіннікі. Навокал густа стаялі стромкія сосны, мажныя прыгажуні, а ёлак сярод іх не было. Над вершалінамі дрэў гуляла завея, па небе, кудысьці спяшаючыся, рухаліся суровыя кудлатыя хмары, а ў лесе стаяла казачная цішыня. Укрыты інеем лес драмаў. Вось пад цяжарам снегу нахілілася маладая бярозка. «З такой тонкай і гонкай, — падумаў Валодзя, — магло б атрымацца неблагое вудзілішча для вуды на шчупака. Варта прыйсці сюды ў другі раз, вясною. Каб не забыць гэтае месца...»

Маўчалі птушкі, ды іх і не відаць было, перасяліліся бліжэй да чалавечага жытла. Толькі колькі разоў патрывожылі курапатак, якія, узбіўшы снег, пераляцелі пад іншы куст. Снег у лесе мяккі, пульхны, пушысты, і навалена яго столькі, што не прайсці. Каля дрэў утварыліся высокія белыя сумёты. Ісці цяжка, ногі правальваліся ў глыбокі сыпкі снег. Часам вецер накідваўся на лес, тузаў кашлатыя галіны соснаў, гуляў з бярозамі, успорваў на палянах снежныя сумёты. Абышлі вывернутае з карэннем дрэва і пайшлі далей, агінаючы непраходныя мясціны.

— Галоўнае — не збіцца з дарогі, — напомніў старэйшы брат.

— Не заблудзім! — азваўся Віталік, нагадаў, што з паўднёвага боку кара на бярозе святлейшая, а з паўночнага цямнейшая. Па гэтым, маўляў, можна арыентавацца, маючы на ўвазе, што зайшлі яны ў лес якраз з паўднёвага боку. Браты пагадзіліся. Страху не было: усё ж трое — не адзін. Рушылі далей. Перайшлі замерзлую рачаіну, што пятляла паміж кустоў. Зрэдку, побач з пачарнелай асакою, на тонкіх сцяблінах, што вытыркаліся там-сям з-пад снегу, чырванелі азяблыя шарыкі журавін. Яны паспрабавалі ягады на смак: паказаліся кіславата-горкімі і надта халоднымі. Прыемна спаткаць ручай у лесе летам, папіць з яго халоднай вадзіцы, асвяжыць твар. Зімой ручай, завалены снегам, нябачны, ледзь чутна шапоча сваю песеньку пад тоўстым белым сумётам, у які можна і праваліцца, вымачыць ногі. Улетку гэтыя мясціны — балота непралазнае. З-пад нізу, з глыбінь, б'юць цёплыя крыніцы, якія замярзаюць хіба што ў самы вялікі мароз. Зыбалася, прасядала пад нагамі прысыпанае снегам травяністае балотнае покрыва. Павярнулі ў другі бок, ад мэты не адступалі.

Сасоннік станавіўся усё гусцейшы. Гэта была ўжо, відаць, Крымянка, як называлі ў наваколлі гэтую мясціну. Кругом глуш, буралом.

— Я стаміўся, — паскардзіўся Лёнік, — давайце адпачнём.

Селі на палеглае дрэва і прымоўклі. Уверсе зашумеў вецер, і дрэвы пагрозліва закалыхалі высознымі верхавінамі, нібы незадаволеныя і абураныя тым, што побач знаходзіцца хтосьці чужы. Злосна зарыпела ўчарнелая сухадрэвіна. Прайшоў ужо добры кавалак часу, як яны блукалі па лесе, шукаючы ёлку, але так і не знайшлі. Цяпер у галаву пачалі лезці розныя страхі. «А што, — занепакоіўся Валодзя, — калі раптам натрапім на лесавікоў? Гэта ж пра іх расказваў Кузёмка! Яны ўжо ад сябе не адпусцяць, каб не выдаць свайго месцазнаходжання...» Падняліся і пабрылі, цяжка цярэбячы сцяжыну ў глыбокім снезе. Віталік падышоў да пахілай сасны, счасаў сякерай сухі сучок.

— Можа, сасну ссекчы? — спытаў ён.

— Не, — не згадзіўся старэйшы брат, — сасна не тое, яна падобная на ёлку, але ў яе ігліца доўгая і не такая зялёная, як у ёлкі. Толькі ёлку!

У другой палавіне дня завея аціхла, неба пасвятлела. Сонца паспела перамясціцца на захад і схавалася ўжо за дрэвы, нагадваючы, што дзень у снежні, асабліва ў канцы, кароткі. Зноў блукалі па лесе — бярозы, сосны, асіны, ядловец, лаза, — а ёлкі як пахаваліся. І ўсё ж такі надзея не пакідала: «А можа, яшчэ пашанцуе, — думаў Валодзя, — можа, яшчэ натрапім дзе-небудзь у гушчыні, ды ссячом, паставім у хаце! Вось будзе радасці для ўсіх!..» Прайшлі нейкае гала. Відаць, чыясьці сенажаць, бо скраю стаяў стажок сена. Блізка Прускі такіх мясцін не было, значыць, далёка забрылі. Далей ішлі па пояс мокрыя.

Сутонне наплывала хутка і з усіх бакоў, у цемрыве хаваліся хмызняк, кусты, асобныя дрэвы. Няспынна наступаў вечар. Яны пачалі крычаць, галёкаць з надзеяй, што, можа, хто адклікнецца, але наваколле зацята маўчала.

— Дадому хачу! — ныў Лёнік.

Валодзя ўзяў яго за руку, памацаў пальцы. Пальцы былі цвёрдыя, як арэхі. «Адмарозіў — не інакш!» — мільганула трывожная думка.

— Хукай на іх! Расцірай! Снегам расцірай! — сказаў ён загадным тонам і, зачэрпнуўшы ў жменю снегу, стаў церці пальцы малодшаму брату. — А то акалееш!

Добра яшчэ, што ногі не змерзлі, — дзякуй бабулі Фёкле, якая ўсім траім звязала цёплыя шкарпэткі.

Пасунуліся далей. Адолелі прагаліну, парослую маладым лесам. Лес пакрысе пачаў радзець. Паміж дрэў замільгала ўкрытае снегам поле. Поле сустрэла калючым ветрам, ад якога яшчэ болей пачырванелі насы і шчокі. Перад імі, як кінуць вокам, прасціралася халодная бель снягоў. Сонца зайшло. Чырвоным полымем успыхнуў, адлюстраваўшыся на снезе, апошні прамень. Па небе ўжо плыў палавінны месяц. Чутно было, як недзе ў глыбіні Крымянкі завыў воўк. Адзін, потым другі. Лёнік павёў вухам, прыслухаўся, паглядзеў на старэйшага брата. Узрасла трывога.

— Ім не да нас. Гэта яны паміж сабой гайнююць, — супакоіў братоў Віталік.

Стомленыя, галодныя, яны марылі толькі чаго-небудзь паесці і спаць. Стала страшна. Лёнік, прадчуваючы нядобрае, плакаў, не паспяваючы аціраць слёзы, і яны замярзалі на шчаках. Сярэдні брат, дзякуй богу, трымаў сябе болей бадзёра. Грэўся, прытупваючы і б'ючы аб плечы наапашкі рукамі.

— Мярзляк! — кінуў ён у бок Лёніка. — Студзька!

Відаць было, што той надта цярпеў ад холаду. Пара было вяртацца, хай сабе і без ёлкі. Але як? Праз лес, як яны ішлі сюды, ці пашукаць іншай дарогі? Лес ужо схаваўся ў цёмным вечаровым мораку. Зайсці ў лес — усё адно як у глухую пячору. Праз поле? А ў якім напрамку, кудою?

Прыйшло гнятлівае адчуванне, што заблудзілі. Паспрабавалі крычаць, галёкаць. Ім адгукалася глухое, далёкае рэха. Валодзя ўспомніў апавяданне «Малыя дрывасекі» ў школьнай чытанцы. Праходзілі яго з настаўніцай Надзеяй Дзмітрыеўнай. Шкада было іх, працавітых хлопчыкаў-дрывасекаў, замерзлых у зімовым лесе пад ціхую песню завеі. Каб, не дай бог, не паўтарыць іхні лёс!

А яшчэ ён прыгадаў кнігу «Таямнічы востраў», якую пераказваў у начным мінулым летам Лёнька Куксіч з Брэста, тых людзей, якія апынуліся на маленькім востраве пасярод акіяна. Вось ім было страшна! А тут жа кругом зямля, кругом людзі. Калі ісці, дык абавязкова натрапіш на якое-небудзь паселішча.

Віталік з Лёнікам прыпыніліся, стомленыя, сталі побач. «Калі ж гэта ўсё скончыцца?» — стаяла ў вачах братоў. Пачалі абмяркоўваць, што рабіць, як вяртацца, у якім напрамку Пруска. Арыентацыю яны страцілі. Навокал стаялі аціхлыя дрэвы, нібы чагосьці чакаючы.

— Пойдзем вось так! — як старэйшы, прапанаваў Валодзя, паказаўшы рукою ўлева ад таго месца, дзе схавалася за даляглядам сонца.

— Не-е, — не згадзіўся Віталік, — Пруска не там, Пруска ў тым баку. — Ён паказаў правей, на паўночны захад.

І вось тут яны заспрачаліся. Кожны даводзіў сваё, свой накірунак, як вяртацца дадому. Віталік паказваў рукою на палявы прасцяг, хукаў у далонькі, пераступаў з нагі на нагу, нібы прытанцоўваў на снезе. Лёнік, хныкаючы і аціраючы кулачкамі слёзы, трымаўся каля старэйшага брата, відаць, больш яму давяраў. Скончылася тым, што Віталік пайшоў у адзін бок, а Валодзя з малодшым братам — у другі. На развітанне Віталік узяў з сабою сякеру, не трацячы, мабыць, яшчэ надзеі сустрэць дзе-небудзь ёлку і ссекчы. Напомніў, што трэба яшчэ і трэсак нашчапаць.

Яны разышліся. Валодзя ішоў з малодшым братам. Хваляваўся і перажываў тое, што адбылося, і сам быў няўпэўнены ў правільнасці выбранага накірунку. Ішлі полем, напрасткі. Увесь час свядомасць свідравала думка аб Віталіку: «Навошта рассталіся? Пагарачыліся і ад таго разбрыліся. Навошта?! Лепш, каб былі разам. Гэта я вінаваты, бо я старэйшы...»

Прайшлі каля адзінокай, закіданай снегам сціrты саломы. Набіраў начную сілу мароз. Недзе далёка, у напрамку лесу, зноў завыў воўк. Завыў сумна і над-

рыўна, як бы чагосьці чакаючы ці на не нешта спадзеючыся. Браты пераглянуліся паміж сабой. Адзін і другі падумалі пра Віталіка. Валодзя адчуў, як па спіне пабеглі мурашкі. «А можа, ён ужо дома?» Нарэшце ў далечыні ўбачылі селішча, атуленае сядзібнымі прысадамі. Гэта было Сухаволле. Яго можна было пазнаць па высокай стогадовай елцы, што расла пасярэдзіне вёскі. Да Прускі заставалася яшчэ кіламетраў шэсць. Ад сэрца адлягло, але не давала спакою трывога за брата. «А можа, ён знайшоў дарогу і з'явіцца дадому раней за іх?»

За Сухаволлем, у лагчыне, — Валодзя ведаў, — знаходзіліся Пакупчыкі, дзе жыў дзед Мікалай і бабуля Наталка — маміны бацькі. Затым была Выгнанка, а за ёю Пруска. Сухаволле і іншыя вёскі яны абмінулі, пайшлі напрамую, каб нікому не паказвацца надта на вочы і хутчэй дабрацца да дому.

— А маме што скажам? — ціха папытаў Лёнік.

Старэйшы брат толькі ўздыхнуў. Адказу на гэтае пытанне ў яго не было.

У хатах ужо запальваліся агні, ад чаго станавілася чамусьці страшнавата на душы. Абодва надта здарожыліся, ледзь валаклі ногі, нылі калені, падэшвы гарэлі агнём.

Нарэшце прыдыбалі дадому. У хаце поркалася маці. На пліце, у чыгунку, варылася бульба.

— Дзе вы цэлы дзень былі? На коўзанцы?

— А дзе Віталік? — пытаннем на пытанне адказаў Валодзя.

— Скуль жа я ведаю? Каб вы не з'явіліся, я б не ведала і пра вас, дзе вы. Вы ж мне не дакладваеце.

Значыць, брата дома не было, не прыйшоў.

— А дзе ён можа быць? — насцярожылася Прося, падумаўшы пра сына.

— Я ж не сторож яму, — грубавата адказаў Валодзя, спадзеючыся, што брат з хвіліны на хвіліну паявіцца на парозе з сякерай за поясам, а можа, і з ёлкай за спінаю.

Яны распрануліся. Стомлены Лёнік марудна здзяваў з сябе адзенне і маўчаў. Толькі сапеў, уздыхаў і шморгаў носам. Зварылася бульба, Прося адцадзіла яе, паставіла на стол. Віталіка ўсё яшчэ не было. Валодзік з упалым настроем з'еў колькі бульбін, зноў апрануўся і выйшаў у двор.

— Куды ты? — удагонку спытала маці.

— Я зараз.

Спыніўся каля бэзавага куста і прыслухаўся. Пруска ўжо ахінулася начным цемрывам і цішынёй, якая здалася яму злавеснай, напоўненай нейкай нямой, гнятучай пагрозай. Уявіў сабе: «У лесе яшчэ цямней і яшчэ цішэй. Адны толькі ваўкі выюць. Дзе ж Віталік? Што з ім? Гэта я вінаваты. Я старэйшы і павінен быць разумнейшы. Але ж ён таксама не паслухаўся, упёрся, колькі ні ўгаворваў. А павінен быў бы! Надта самаўпэўнена павёў сябе. Так таксама нельга». У душу ўсё глыбей запаўзаў страх, з'явілася думка пра самае дрэннае. «Трэба, пакуль не позна, аб усім расказаць маме...»

— Ой, божачкі! Ой! — пачулася раптам з хаты.

Ён зразумеў, што Лёнік пра ўсё ўжо расказаў.

Адчыніліся дзверы.

— Дзе ты?! — з крыкам гукнула Прося.

Ён вярнуўся ў хату і таксама распавёў, куды яны хадзілі і што здарылася.

— Дзе ж ён? Куды ён дзеўся? Ужо ж ноч! — загаласіла маладзіца і кінулася да Лявона з Фёклай. Тыя, пачуўшы страхотлівы аповед нявесткі, пасля хвіліннага роздуму, што рабіць, пайшлі па дапамогу да суседзяў, аднасельцаў. Па Прусцы панеслася:

— Мужыкі, запрагайце коней, Віталіка Васілёвага трэба шукаць! Прапаў хлапчына!

Фёкла стагнала і божкала. У вачах — адбітак жаху, Віталіка яна любіла за дабрату і працавітасць, гаварыла пра яго: «Боскае дзіця!» І вось здарылася такое.

Прося пабегла да бацькоў у Пакупчыкі. Сталі паднімаць радню. Людзі адгукаліся дружна. Запальвалі ліхтары і выходзілі ў поле бліжэй да Крымянкі. Падавалі галасы, гучна крычалі. Зіма ўвабралася ў самую сілу, па полі гуляла, прысвістваючы, завіруха, кідала ў людзей снегам, сляпіла вочы, біла па тварах. Для канца снежня такая завея не рэдкасць. Разам з усімі шукаў брата Валодзя, паказваў, як яны ішлі і тую мясціну, дзе расталіся, пайшлі ў розныя бакі. Вецер прадзімаў навылёт, рукі ўжо адубелі зусім, але трэба было знайсці брата. Валодзя помніў дзядулін аповед, як ён, яшчэ ў тую, царскую, вайну, паранены ляжаў адзін сярод снежнага поля ў навагоднюю ноч і ўжо ні на што не спадзяваўся. Віталік здаровы, на нагах, хоць і вельмі здарожаны...

Шукалі ўсю ноч, але безвынікова. Прося была ў роспачы.

— Ой, гора, гора! — не пераставала галасіць бедная маці. — Што ж гэта такое? Ой, доля мая горкая-я!..

Стаміліся ўсе, галёкаючы і па калені грузнучы ў снезе.

— Прапаў! Прапаў! — енчыла Прося. — Можа, ужо недзе акалеў!

Валодзя ледзь трымаўся на нагах, зусім абяссілеў. Жах і разгубленасць — гэта ж ён вінаваты! — здаваліся непераадольнымі. Трэба было перадыхнуць, хоць крыху адпачыць, а назаўтра працягнуць пошукі.

— Хай прыкархне на хвілінку, паспіць, — сказаў Лявон, кіўнуўшы на свайго гадаваніка і шкадуючы яго.

Вярнуліся ў вёску. Валодзя заснуў, разуваючыся. Яго давялося распранаць і класці на ложак, заснуў, як забіты, але спаць доўга не выпадала. Хутка збудзілі, расштурхала яго бабуля, не даўшы дагледзець сон. А сон быў такі. Прысніўся Віталік. Стаяў каля свежага смалістага пня, наважыўшыся адшчэпваць ад яго трэскі. І не бачыць, што за спінаю ў яго, побач з паваленай сасною, ашчэрыў клыкі воўк, наважыўся, сумніву не было, накінуцца на хлопца. «Воўк! Воўк!» — закрычалі яны, Валодзя з Лёнікам, але Віталік іх не чуе, не бачыць небяспекі. Браты ў адначассе кінуліся на дапамогу, аднак воўк паспеў учапіцца за каўнер і стаў туды-сюды яго шкуматаць. Віталік стараўся дастаць звера сякерай, якраз падаспелі браты і агрэлі ваўка дубцамі. Той не здаваўся, але выпусціў-такі нарэшце з пашчы каўнер і, як жалеззем, клацнуў клыкамі. Віталік зноў пусціў у ход сякеру, стаў ёю махаць... У гэты момант найвялікшага напружання і страху Валодзя і прачнуўся, адчуўшы, як хтосьці торгае за плячо. Гэта была бабуля Фёкла. Падхапіўся і агледзеўся. Усе былі ўжо на нагах. Ён памыўся і апрануўся. Пра свой страхотлівы сон нікому нічога не казаў.

Крыху адпачыўшы, прадоўжылі пошукі пры ранішнім святле. Дзед Мікалай запрог каня, паклаўшы ў сані-развалы кельню з саломай. Накрыў радзюжкай. У сані сеў сам і пасадзіў унука. Прося вырашыла ісці пешкі. Начная завея аціхла, стала вусцішна. Фурман цмокнуў на каня і махнуў пугай. Фёкла з Лявонам засталіся прыглядзець за Ліліянкай і за гаспадаркай, доўга пазіралі ім услед, пакуль яны не зніклі ў ранішнім сутонні. Даехалі праз нейкі час — Валодзя пазнаў яго — да таго месца, дзе яны расталіся. Яшчэ відаць былі прысыпаныя снегам сляды, што вялі па лясной дарозе. Прося пабегла па слядах паперадзе санак. Калацілася ад страху. Вельмі баялася знайсці сына замерзлым. Палохалася кожнага куста. Або ваўкі расправіліся, якіх у лесе шмат. Жанчына

была ў роспачы. Да горла падступала пачуццё адчаю. Моцна перажываў і Валодзя. Зімовае ранне цьмянае, шэрае. З-за дрэў, здавалася, нехта выглядаў, хаваючыся за тоўстыя камлі. Пачаў церусіцца дробны сняжок.

«Што зрабіў ты з братам тваім? — стукалася ў скроні. — Кінуў аднаго ў полі, сярод зімы, у невядомасці. Можа, замёрз, а можа, ваўкі напалі? Ніхто табе за гэта не даруе... Сам сабе не даруеш...»

Лясная дарога заўсёды некуды прывядзе. На гэты раз, пятляючы па пералесках, прывяла яна ў Селяхавічы — невялічкую вёску паміж Камянцом і Высокім, мясцовымі мястэчкамі. Мікалай пачаў распытваць сустрэчных, ці не бачылі яны хлапчука гадоў на дзесяць-адзінаццаць у шэрым паліточчыку, ці не паяўляўся ён часам у гэтых мясцінах. Людзі пацiскалі плячыма, і толькі адна цікаўная дзяўчынка, яшчэ дзіця, азвалася:

— Бачыла. У шэрым пальце з сякерай за поясам. Пытаўся дарогі на Пруску. Вельмі сумны быў і змерзлы.

— Куды ж ён пайшоў?

— Я яму паказала туды, — дзяўчынка зрабіла няпэўны жэст рукой у канец вуліцы, — ён і пайшоў. Позна ўжо было. Маці ўжо печ тапіла...

Рушылі, куды паказала дзяўчынка. Наступнай вёскай была Робанка. Зноў пачалі апытваць. Пад'ехалі да гурта кабет каля калодзежа.

— Тут ён! Тут! — наперабой загаманілі жанчыны. — У Полькі! А чый жа ён? Можа, ваш?

— Наш, — упэўнена адказаў Мікалай. — Бачыш, ажно ў Робанку прыбіўся...

Пачуўшы нарэшце добрую вестку, Валодзя глыбока ўздыхнуў і адчуў, як крыху спала напружанасць і стала лягчэй.

— У Полькі? — схамянулася Прося, вусны нервова перасмыкнуліся.

— А дзе яе хата? — спытаў Мікалай.

— Вунь там, з сінімі ліштвамі, бліжэй да сярэдзіны вёскі, — патлумачыла ружовашчокая маладзіца з двума вёдрамі ў руках, — з левага боку.

Паехалі ўперад. Параўняўшыся з хатай, вокны якой былі ўпрыгожаныя сінімі ліштвамі, спыніліся. З хаты выйшла жанчына на выгляд гадоў пад сорак, у накінутым на плечы цёплым сачыку. Убачыўшы Просю, усё зразумела і сказала, прамовіўшы грудным непаспешлівым голасам:

— На печы твой хлопец. Ужо ноч была. Гляджу, дзіця на вуліцы ідзе ды яшчэ з сякерай. Змерзла. Пальцішка на ім задубелае. Пытаюся, чый ты, адкуль. З Прускі, — кажа. Платонавых сын. Дамоў іду. Ёлку шукаў. — Мне гэтак дзіўна стала. А маё ты дзіцятка! Пруска ж далёка, а цяперака ноч на дварэ. Усякае можа здарыцца. Не дай бог, ваўкі задзяруць!..

— А божачкі-і! — завойкала Прося, адчуўшы, як упала сэрца.

— А мы яго ўсю ноч шукалі! — азваўся ўсцешаны Мікалай. — Ажно ён тут! Вялікі дзякуй, што прытулілі. Ёлку захацелі, а таго не ведаюць, што ёлка любіць вільготную зямлю, сырую, а ў нас тут пясок, суш.

Зноў загаманіла Полька, усміхнуўшыся паўнаватымі вуснамі:

— А ён на печы ў нас. Завяла яго ў хату. Ён распрануўся і палез на печ. Сякеру пад лаўку кінуў, пальцішка зняў. Павячэраў. Міску бульбы з'еў.

Полька запрасіла прыезджых у хату, дзе сапраўды на печы спаў Віталік. Спаў, ні на што не звяртаючы ўвагі, «як пшаніцу прадаўшы».

— Вунь куды ён запёрся! — дзед Мікалай узрадаваўся і адначасова здзівіўся. У хату ён зайшоў, трымаючы ў руках пугу.

— Азяб надта, дык я яго адварам напаіла і на печы паслала, каб адагрэўся. Падушку дала, — гаманіла гаспадыня. — Яму там добра.

— Вунь ён! — павесялела і Прося. — Ой, зязулька ты мая! Куды прыблукаў! Ой, пташачка ты мая!

— Будзі яго! — загадаў Мікалай і сам узлез на лаўку, што стаяла прытуленая да печы, паторгаў унука за нагу: — Уставай! Досыць ляжаць! Прачынайся! Разаспаўся!

Хлопец абудзіўся не адразу. Надта соладка, відаць, спаў, а калі падняў галаву, дык туды-сюды агледзеўся, цяжка ўздыхнуў і, пасопваючы, пачаў злазіць з печы. Прося абняла сына, прытуліла да сябе.

— Апранайся! — загадаў Мікалай.

Віталік пачаў апранацца. Трымаўся, але не вытрымаў, зарумзаў, аціраючы слёзы далонню.

— Можа б паабедалі? — прапанавала Полька. — Зараз мой чалавек прыйдзе, пайшоў да бацькоў па крупы. Яны толькі што нацерлі.

Прося не супраць была зірнуць на мужа колішняй сваёй суперніцы, але час не чакаў. Разам з бацькам падзякавалі за прытулак і за гасціннасць і сталі збірацца ў адваротную дарогу. Прося ахінула сына хусткай, паверх якой накінула яшчэ і радзюжку.

— Эх ты, знайда! — бурчэў дзед Мікалай, назіраючы, як унук умошчваецца на сані, на самы задок. — Знайда-а! Блукальнік! Знайда!

— Ну што ж там такога — пайшлі па ёлку... — бараніла сына Прося.

Мікалай казаў:

— Не абараняй — вінаваты. Варта было б і пужалнам перацягнуць, каб памятаў!

Пра гэты выпадак потым гаманіла ўсё наваколле. Так на нейкі час да хлопца і прычапілася гэтая мянушка — «знайда».

## II

Васіль тым часам знаходзіўся ў Брэсце на працы, асвойваў новую для сябе пасаду загадчыка гаспадарчай часткай «Міжрайгандлю». Начаваў пакуль што ў Міцькі Балабайкі. Вярнуўшыся на выхадны дадому, у Пруску, пачуў ад Просі, што адбылося з дзецьмі. Слухаў і жахаўся, уяўляючы, што магло б быць. Але цяпер усё ўжо мінула.

— Добра, што ўсё гэтак абышлося, — сказаў ён, седзячы побач з Просяй і трымаючы яе рукі ў сваіх. Увесь цяжар таго, што адбылося, прыпаў на яе. — Але глядзі ты — ажно да Полькі трапіў!

— Да яе, да каханкі колішняй тваёй.

— Нават дзіўна.

— Ну, як табе там, у Берасці? — спытала Прося, жадаючы ўсё ведаць пра мужа.

Ён распавядаў ёй пра горад, пра «Міжрайгандаль», у якім працаваў.

— Уся маёмасць на мне. Адказваю, каб хто чаго не ўкраў, не знёс.

— Гэта што — фірма такая? — пацікавіўся Лявон, калі яны, Васіль і Прося, наведаліся да бацькоў.

— Накшталт.

Фёкла сказала:

— А твая Прося проста гераіня. Гэта яна падняла людзей на пошукі, і сама паперадзе бегла.

— Малайчына, — згадзіўся Васіль. — Яна мне ўжо распавядала.

— Дык ты ўжо стала ўладкаваўся? — працягваў Лявон.

— Стала.

— А начуеш дзе? — зноў далучылася да размовы Фёкла.

— У Балабайкі колькі разоў начаваў. Кватэру шукаю, ну і прапіска патрэбна. Ну, і пляц пад хату шукаю.

— Холад зараз, зіма! — пабедавала Фёкла.

— Дык нам, мамо, не прывыкаць.

У нядзелю вечарам, правёўшы суткі з сям’ёй, Васіль ізноў зазбіраўся ў Брэст. Да Відамля ішоў пяшком, адольваючы галалёд і сумёты. Далей дабіраўся спадарожнай машынай, седзячы наверсе, у кузаве.

* * *

...Доўгай чарадой пацягнуліся гарадскія дні і справы. Справы клопатныя, і іх было не мала. Вяртаючыся неяк з працы, сустрэў на Савецкай даўняга знаёмага Свісціяна. Свісціян доўга ўглядаўся, вырачыўшы на яго свае, пазначаныя цёмнымі пражылкамі, вочы, пазіраючы з-пад ілба, але прызнаў і ўдавана здзівіўся:

— Жывы, ліха яго матары?

— Жывы, як бачыш.

— Помніш мяне?

— А то ж! Не забыў.

Свісціян паблажліва паляпаў яго па плячы.

— Свет, браце, цесны, людзей не паменела. Вайна прайшла, ды якая яшчэ вайна, а людзей больш стала! Адкуль толькі яны бяруцца? Дзіва нейкае!

— Дык гэта і добра, што людзей большае!

— Дык усім жа хлеба не хопіць?

— Хопіць.

Не пастарэў Свісціян, спіну трымаў прама і выгляд меў горды, нават ганарысты, пазіраў навокал зверху ўніз, абнюхваючы паветра сваім прыплюснутым носам. На лбе чырванеў глыбокі шрам. Васілю гэтая сустрэча была, мякка кажучы, не надта прыемная. Кальнула думка, што гэтаму чалавеку не аднойчы даводзілася забіваць: «Забіваў, і ўсё яму сыходзіла, быццам так і трэба. Тыя адпраўляліся на той свет, а яму хоць бы што». У Свісціянавым паглядзе пракідалася нешта ваўчынае, ён час ад часу выскаляў свае клыкаватыя зубы і шморгаў носам.

— Павінен помніць. Я ж цябе тады забіць хацеў. Памылка атрымалася. Прабач...

Васіль маўчаў.

— Прабач! — паўтарыў Свісціян. — Вайна. Партызанка. Добра, што ўсё абышлося. Датумкаў?

— Датумкаў, — уздыхнуў прускавец.

— Мяне жыццё прымусіла ісці ў партызаны.

Калматыя, з сівізной Свісціянавы бровы пагрозліва тырчэлі над нерухомымі вачыма і шырокім носам. Гэты шырокі, прыплюснуты нос з часам добра-такі ўчырванеў, а верхняя губа па-ранейшаму грэбліва навісала над ніжняй.

Успамінаючы, відаць, тую пару, ён загаманіў ізноў:

— Я без ваганняў на той свет адпраўляў. Зірну ў вочы і бачу: «Сволач!» Націскаю на цынгель — і ўсё. А ты жывы застаўся. Значыць, сваім аказаўся, свой чалавек. Вось так, ліха яго матары! — Свісціян шумна дыхнуў, і Васіль адчуў непрыемны пах гарэлачнага перагару і запушчаных зубоў.

— Учора крэпка выпіў, — патлумачыў ён, — на раніцу цяжка было, але кіпетнем прапарыў — адлягло. Каб дзе расолу, расол добра асаджвае, але дзе ты яго ў горадзе знойдзеш!

— У горадзе, відаць, няма.

Свісціян насцярожыўся.

— Ты што, да Берасця перабраўся? — прыдзірліва паглядзеўшы на Васіля, спытаў ён.

— Лічы, што так, перабраўся.

Непадалёк ад таго месца, дзе яны сустрэліся, на перакрыжаванні Савецкай з Міцкевіча, знаходзілася піўная, так званы «Галубы Дунай» — дашчаны дамок, пафарбаваны ў блакітны колер.

— Давай у «Галубы Дунай» зойдзем! — прапанаваў Свісціян, бесклапотна ашчэрыўшы зубы. Глядзі, маўляў, я свой. Ляпнуў Васіля па плячы.

Зайшлі ў піўную, у нос тхнуў застаялы піўны водар. У зале знаходзілася некалькі кліентаў, ніхто на іх не звярнуў увагі. Селі за незаняты столік, накрыты абрусам з цыраты і заказалі па куфлю піва. Мажная буфетчыца пампавала яго проста з бочкі, што стаяла за прылаўкам. Дзяўчына-афіцыянтка, падвязаная белым фартушком, неўзабаве прынесла заказ. Свісціян адпіў ледзь не да дна і адразу адчуў «кайф». Змоўк і аб нечым задумаўся.

Цяжка сказаць, пра што ён мог думаць. Больш за ўсё ён думаў пра сябе. Нешта, магчыма, успамінаў. У сорак чацвёртым, пасля вызвалення, перад ім паўстала нярадасная перспектыва — неабходнасць працаваць, зарабляць на хлеб. Спадзяваўся атрымаць салідную кіраўнічую пасаду, узнагароду, але атрымаў толькі партызанскага медаля другой ступені. «Дажыўся, ліха яго матары! — дзівіўся ён. — Замест «героя» медаля далі...» Угневаны, на грудзі ўзнагароды не пачапіў, кінуў у кішэнь. Вырашыў падацца ў Брэст. Жыў на Граеўцы ў далёкіх — сёмая вада на кісялі — родзічаў. Уладкаваўся тапіць у Трышыне лазню і аднойчы натапіў так, што лазня згарэла. Ледзь пазбег пакарання, віну спісалі на будаўнікоў, якія дзеля ўцяплення нацягалі на гарышча сухога лісця. Затым яго прывабіла пасада выкідалы ў рэстаране. Узялі. Выдалі форму з лампасамі, як у генерала. Меў даход і аўтарытэт, але, будучы чалавекам нервовым, аднойчы надта збіў кліента, які запатрабаваў здачы. Збіў, не вывеўшы нават з залы. Таго давялося адпраўляць у бальніцу, а Свісціяна звольнілі.

Нейкі час быў без працы. Пасля гэтага займаўся тым, што на веласіпедзе развозіў па горадзе размаляваныя рэкламныя шчыты, з якіх абвяшчалася пра новыя кінафільмы. Настрой псавала малая зарплата, але прагналі і адтуль. Аднойчы павесіў рэкламны шчыт дагары нагамі. Зрабіў гэта сумысля, каб звярнуць увагу на сваю асобу.

З таго часу заставаўся без працы. Тое, што прырода чалавека складаная, а паводзіны часта непрадказальныя, нястрымна праяўлялася ў Свісціяна. Немалую ролю тут адыгрываў алкаголь. Схаваныя ў цвярозым Свісціяне дурнота і злосць пасля першай чаркі вылазілі наверх. Так здарылася і на гэты раз. Ён раптам так грымнуў кулаком па стале, што ажно падскочылі куфлі з рэшткамі піва.

— Ты паслухай, што я табе скажу!

— Што?

— Жыццё патрабуе спрыту, умення не прамаргаць, схапіць удачу на гачок!

— Гэта як пашанцуе.

— Пашанцуе!

Апошнім часам Васіль таксама стаў раздражнёны, ледзь што — кідаўся ў спрэчку. Але са Свісціянам спрачацца не стаў, бо невядома было, што ад гэтага чалавека можна чакаць. У сваіх паводзінах ён быў непрадказальны.

— Вы там цішэй! — гукнула з-за прылаўка мажная буфетчыца. Свісціян моўчкі паказаў на яе вачыма: паглядзі, маўляў, якая дурніца, так мы цябе і паслухаемся.

— Знойдзеш работу, — сказаў прускавец, — ты яшчэ і сёння не стары, ніводнай маршчыны.

— Не, адна ёсць, але яе не відаць, бо на ёй сяджу! — Свісціян зарагатаў з свайго досціпу. Ён закурыў, зацягнуўся папяросай, шумна выдыхнуў дым і зноў пачаў гаварыць:

— Мне трэба, каб праца па мне была, каб грашавітая.

Счакаўшы крыху, сказаў, нібы хвалячыся:

— Я не чалавек гурту, я сам па сабе. Я не дазволю, каб мне наступалі на нагу.

Васіль ужо даўно адчуў, што размовы паміж імі не атрымліваецца, але згадзіўся ўзяць яшчэ па куфлю піва.

— Няма вайны, скажу я табе, — расшчыраваўся Свісціян, — і жыць не хочацца. А пра партызанку ў мяне, калі хочаш ведаць, неблагія ўспаміны. Бывала, што цяжка даводзілася, не без таго, але справядлівасць была. Кожны атрымліваў сваё.

— Я таксама быў на сувязі з партызанамі, — напомніў Васіль.

— Быў звязаны, а даведкі не маеш. Шпронька купіў даведку. Два літры самагонкі даў!

— Ты ўжо кажаш лішняе, Свісціян.

— А табе не далі даведкі, бо ты солтысам быў. Два тыдні, але, ліха яго матары, быў. Датумкаў?

— Тут і тумкаць няма чаго, я пра гэта ведаю, на памяць я моцны!

Свісціян абапёр галаву на моцна сціснутыя кулакі.

— Цягне, ведаеш, на роднае котлішча, на папялішча, Палагу ўспамінаю. Дашчэнту спалілі, некалькі абвугленых бярвенняў пакінулі. Палагу замардавалі...

Свісціян шморгнуў колькі разоў носам, увабраў галаву ў плечы, прымоўк.

— Шкада Палагі, надта шкада, — паспачуваў Васіль і спытаў: — Паца забралі не так даўно, Якава Арыстархавіча. Чуў?

— Куркуля таго?

— Даседжваць забралі. Тое, што да вайны не даседзеў.

— Ну і хай сядзіць!

— Шкада чалавека.

— Шкада, не кокнулі мы яго тады. Гэта было б па-савецку. А ў гэтага мудака было што ўзяць. Ровар у яго быў ды, відаць, не адзін.

— Другі Амброжыю належаў, толькі ён ездзіць на ім не ўмеў, — пасміхнуўся Васіль.

— І жыта лішняга меў шмат, у мяшках. Поўная клуня! І бараніц[1] у яго было да халеры! А мы ў лесе з гэтых бараніц кажушкі шылі. Зіма, ліха яго матары, зіма! Бараніцы я ў яго на гарышчы знайшоў. На гарышчы ён іх трымаў.

---

[1] Бараніца — авечая шкура (*мясц.*).

Заставалася толькі дзівіцца са Свісціянавай абазнанасці.

— Грошай там у яго — да халеры! Можа, і цяпер ёсць залатоўкі мікалаеўскія.

— Наконт залатовак не ведаю.

— Мы тады, ліха яго матары, жартаваць не любілі. Партызаны! Не да жартаў было, — Свісціян пацёр свой мясісты нос і зноў нешта ўспомніў:

— А як там Хвядзюшка?

— Дык вы з ім, здаецца, сваякі.

— Сваякі! — Свісціян зарагатаў. — Як мой дзед гарэў, то яго — сраку грэў.

— Гэта добра, што ты пра ўсё помніш, — азваўся Васіль.

— Памяць у мяне добрая, — пахваліўся суразмоўца, — але наперад трэба глядзець. Я ўжо прыдумаў, чым заняцца.

— Чым?

— Волі хачу!

— Няўжо табе яе бракуе?

— Волі шмат не бывае.

З гэтым Васіль быў згодзен. Яны дапілі піва і пачалі паднімацца.

— Слабая ад вас выручка! — пагардліва сказала мажная буфетчыца.

Свісціян азірнуўся на яе, але нічога не сказаў. Яны выйшлі на вуліцу і развіталіся.

## III

Упэўнена збіралася пабрацца са сваім Аркадзем Параска, але — ці лёс распарадзіўся, ці Аркадзева радня вырашыла — выйшла інакш. А ўжо і да Лявонавай Фёклы хадзіла, наконт «шпарагусу» дамаўлялася. Рос ён у Прусцы ў адной Фёклы, у агародзе. Доўгія зялёныя сцяблiны ўзвышаліся над плотам ад ранняй вясны да позняй восені, да зазімка, радуючы вока густымі пяшчотна-ізумруднымі галінкамі. Усе, хто ладзіў вяселле, бралі «шпарагус», каб аздобіць вэлюм, які клала на галаву маладая. Фёкла звычайна нікому не адмаўляла і грошай за «шпарагус» ні з кога не спаганяла.

Параска чакала, што з Аркадзевага боку, ад бацькоў, у прапыткі прыйдуць. Спытаць, ці згодная. Не прыйшлі. І вось табе — на! Кінуў! Выракся! Адмовіўся!

— А твой Аркадзь Наталлю бярэ, — сказала Сонька Дземідзюкова, з якой Параска жыла па-суседску і крыху сябравала.

— Якую Наталлю? Ты што? — сумелася Параска. — Гэта, напэўна, зайздроснікі плётку пусцілі. Плётка! Не можа такога быць, пусцілі плётку. Ай, людзі! Ай, людзі!

— Не плётку. Наталлю Анапрыюкову з Царкоўнікаў. Учора вечарам яна перастрэла мяне і пра ўсё расказала. Да цэрквы паедуць, каб шлюб браць. Самагонкі нагналі. Наталля такая радасная, такая радасная! Дзіва што!

Апошнім часам у Парасчыным жыцці пачалася нейкая чорная паласа. З'ехаў у Данбас, на шахты, брат Валодзька, арміі пазбягаў. Лепш на шахты, чым у войска. Бацька — стары Цімоша — са старэйшай дачкой Нінай паехалі праведаць яго. Пры сустрэчы, на радасцях, перабралі ў пітве, і Цімоша памёр, там жа, у Данецку, і пахавалі. Вярнулася Ніна сама, без бацькі. Надта галасіла, ідучы па вёсцы...

На мінулым тыдні прыязджаў чалавек са следчых, як ён сказаў, органаў і

паўдня дапытваўся, пад прымусам яна паехала ў Германію, у 1942-м, ці добраахвотна.

— Пад прымусам мяне пагналі! — тлумачыла дзяўчына. — Уся Пруска — сведкі!

Следчы з некаторымі размаўляў, распытваў, тыя распавядалі ўсё, як было, і ён, здаецца, адвязаўся.

А тут ізноў — Аркадзь.

— Можа, загрубела? — спытала Сонька.

— Не.

— Ну то добра, што хоць з гэтым пашанцавала, што не загрубела.

Усю ноч Параска не спала. «Да цэрквы паедуць, вянчацца, шлюб браць! — раілася ў галаве. — Гэта ж ганьба для мяне, зняславіў... А я ўжо пра пасаг думала, пра бялізну, пасцель...» Ранкам устала і зноўку адчула млоснае пачуццё, якое гняло, цяжка ціснула, сціскала грудзі.

Ён даўно перастаў для яе быць чужым чалавекам. Столькі было пераговорана! А цяперака звычайным хахалем аказаўся!.. «Падмануў! А я ж ужо і ручнікоў наткала! Зняславіў...» Месца сабе не знаходзіла: «А хадзіў жа за мной, як цень, хадзіў. Сто разоў казаў, што кахае. Гаварыў. Ніхто за язык не цягнуў. Блізкімі зрабіліся. У інтымную сувязь уступілі крадком, амаль не распранаючыся, у панскім садзе, у кустах. Цалаваў і казаў, што надта падабаюцца яе шырокія сцёгны, цёплыя і гладкія. Абяцаў: «Буду шанаваць, як кветачку», а што атрымалася? Падмануў!..

Сонька, іншыя сяброўкі спачувалі, спрабавалі супакоіць, прасілі:

— Параска, мілая, сэрца надарвеш, не плач! Ты ж бачыш, што нягоднік ён. Што з такога возьмеш?

Пачуцці, людзі кажуць, трэба перасіліць. А як ты іх перасіліш, калі яны мацней за цябе! Успомніла, як ён, хвалюючыся, шаптаў: «Параша! Параша!» — «Што?» — «Прыгожая ты! Жыць без цябе не магу!» — і яна яму верыла. — «Ой, салодкая ты мая!» — задыхаючыся, гаварыў ён. Галава кружылася ад яго слоў. А што атрымалася? А я, дурніца, да замужжа падрыхтавалася: і пасцель прыдбала, і радзюжкі, і коўдру — і ўсё з лёну! Да Берасця ездзіла, глянцавітага паркалю на вясельную сукенку купіла, нават фасон прыдумала: з адкрытай шыяй і бліжэй да таліі. Але нездарма кажуць, што пасля вялікіх любошчаў гэтак вось і здараецца.

Яе ахапіў адчай:

— Няшчасная я-я, няшчасная я-я-я!..

Грудзі разрываліся ад рыданняў і ўсхліпаў. Потым адчай змяніўся іншым, у падсвядомасці, як на дражджах, забрадзіла злосць: «Анапрыюкова Наталля перайшла дарогу. Спакусніца! І што ў ёй знайшоў? Нічога ў ёй няма. Канапатка, з рабаціннем на твары, плоскі нос, як бы хтосьці яго расплюскаў. Даўгалыгая, на нагах заўсёды чуйкі. На музыках звычайна сядзела ля сцяны на ўслоне, не танцавала, адмаўлялася нават калі хто і запрашаў, больш назірала, як скачуць іншыя. Адно што багатая, зямлі шмат. Гэта, відаць, і паўплывала на выбар бацькоў. Дарма кажуць, што сілай не быць мілай. Сілай узяла».

Параска ўся гарэла ад перажыванняў, ледзь стрымлівала сябе ад яраснага гневу і рэўнасці. Нешта трэба было рабіць, ратаваць становішча, але як — Параска не ведала. Успомніла пра Амелію і кінулася да яе паваражыць і прасіць парады, што рабіць. Каб аддзячыць варожцы, паклала ў хустачку дзясятак яек і паімчалася. Расказала пра сваё трапяткое каханне, і пра тое, што адбылося і чым яно абярнулася. Называла варожку «пані Амелія», што ёй надта лесціла.

— О, якія жарсці! — захвалявалася і пляснула ў далоні варожка. Яна была моцна ўзрушаная гэткім рамантычным паваротам справы.

Пра Аркадзя Амелія сказала:

— Якая разбэшчанасць! Ён, відаць, лічыць цябе ніжэй за сябе. Можа, ён цябе саромеецца?

— Але ж да гэтага не саромеўся! На музыках не адыходзіў. Увесь час за сукенку трымаў. А злаўчыцца, дык за што іншае ўхопіць.

— Мужлан! Спакусіўся на багацце! Не інакш!

— Напэўна! Дык што рабіць, пані Амелія? — Параска ўздыхала і плакала.

— Трэба ім насаліць, каб ведалі!

— Якім чынам?

— А ты, мілая, попелам іх, попелам! Будуць ехаць, а ім тазік попелу ў рылы! Бо нячыстае гэтае вяселле! Нячыстае! Я б нават не тазік, а ўсю выварку вываліла б!

Параска так і зрабіла. Яна доўга назапашвала попел, і ў той дзень, калі мела адбыцца вяселле (гэта была нядзеля), яго накапілася амаль поўны тазік.

Пара вяселляў, шлюбная пара, як вядома, восень, а гэтае адбывалася ранняй вясной. Не паспела нават ажыць прырода. Снегу не было ўжо даўно, растаў, зямля набракла вадою, але цяпла ўсё яшчэ не адчувалася. Не паказвалася з-за хмараў сонца. Дзьмуў парывісты вецер, задзіраў саламяныя стрэхі, шкуматаў і рваў раскідзістую ліпу, што стаяла насупраць Давыдзюковай хаты, скрыпеў веснічкамі, хапаўся за што папала. Бязладныя, абрывістыя гукі вясельнага поезда пачуліся здалёк. Роў, як ад страху, гармонік. Дапамагаючы гармоніку, біў, нібы крыху заікаючыся, бубен. Няўцямна заліваліся бразготкі.

Поезд, не збочваючы з дарогі, абагнуў выган са ставамі, праімчаўся, не збаўляючы хады, каля школы. Паязджане набліжаліся. Вось ужо вяселле з гіканнем уварвалася ў Пруску і неслася па вуліцы, распырскваючы шырокія калюжы, якія з раніцы пакрыліся ледзяным шклом. На вазах, кожны з якіх быў запрэжаны параю коней, сядзелі захмеленыя вясельнікі. На ўсю моц спявалі:

Ой, чыя то хата,
Ой, чыя то вішня,
Ой, чыя дзяўчына
На вуліцу выйшла?..

Кавалёва хата,
Кавалёва вішня,
Кавалёва доня
На вуліцу выйшла-а...

Параска стаілася каля веснічак, каля ног стаяў тазік з попелам. Яна, напружыўшыся, чакала. «Гэта ж ці не пра мяне спяваюць? — падумала дзяўчына і ўголас зарыдала, але тут жа сцішылася, падрыхтавалася: — Ну, будзе табе, падманшчык! — пачула, як зазванілі ў царкве. Гэтак заўсёды рабілася перад вянчаннем, каб далей адпрэчыць нячыстую сілу, якая імкнулася ўчыніць нейкую перашкоду. Параска пра гэта ведала і каварна пасміхнулася. Яна міжвольна падняла, наблізіла да твару свае рукі і, плачучы, паглядзела на іх. «Лепш бы за здраду задушыць цябе гэтымі вось рукамі! За ліслівыя словы твае, за падман! Але пачакай!..»

Нарэшце гэты момант наступіў. Калі вясельны поезд параўнаўся з Цімафеевай хатай, яна схапіла тазік, выскачыла з веснічак, з-за плота, і сыпанула попелам у той вазок, дзе сядзеў Аркадзь. Жаніх і нявеста пад вянец ехалі паа-

собку. Хацелася сыпануць і на саперніцу, але не было ўжо попелу. Зрэшты, відаць, не сыпанула б, каб быў: седзячы ў вазку, Наталля трымала ў руках абвітую ручніком ікону. Кідаць попелам на абраз Параска, як і кожная вясковая дзяўчына, пабаялася б. І яшчэ паспела заўважыць у Наталліным вяночку каліну — галінку з чырвонымі ягадамі. «Гэта ж чапляюць, каб кахалі адно аднаго ўсё жыццё!» — падумала яна, і зноў ад крыўды пырснулі з вачэй слёзы. Зноў зарыдала...

Каля царквы Аркадзя тэрмінова адчышчалі ад бруду — касцюм, манішку, гальштук і шапку, але сляды Парасчынай помсты ўсё ж засталіся.

Вянчанне прайшло як звычайна, з усёй атрыбутыкай. Адзінае, што цырымонія трывала нядоўга, усё адбылося вельмі хутка. Людзі, што былі ў царкве, на ўсё пазіралі моўчкі. У час вянчання здарылася, аднак, нечаканае: ахрыпла і зайшлася ад кашлю маладая і, відаць, ад хвалявання, не магла адказаць на пытанне айца Клаўдзія аб сваёй згодзе на шлюб з Аркадзем. Не разгубіўся і адказаў за яе сам Аркадзь: «Згодна!» Маладая пара — нявеста і жаніх — тройчы, услед за айцом Клаўдзіем абышлі вакол аналоя. Наталля наском туфліка падчапіла і валакла за сабой кавалак палатна, на якім стаялі маладыя. Гэта каб следам за ёй выходзілі замуж сяброўкі.

Калі яны спыніліся, і святар адвёў іх на прызначанае месца, у руках у маладой пагасла вянчальная свечка, што зноў выклікала атарапеласць у натоўпе абступіўшага люду, які зашумеў і здзіўлена загаманіў. Адно і другое здарэнні хоць і насцярожылі прысутных, але яны хутка пра іх забыліся.

З царквы маладыя выходзілі насцярожаныя, наструненыя, чакалі, пэўна, новай неспадзеўкі, нейкага падвоху яшчэ, але ўсё абышлося. Сядаючы ў вазок, цяпер ужо разам з маладым, маладая кінула дзецям — такі звычай, лавіце! — жменю цукерак. Ляндрынкі ды падушачкі. Падлеткі кінуліся лавіць, але дзе ты зловіш на ляту! Давялося шукаць іх у траве, ачышчаць ад пяску. Усё адно смачныя! Пачулася каманда: «Па конях!» — і коні, зазвінеўшы бразготкамі, рушылі, рванулiся з месца, паімчаліся наўскапыт.

Назад аднак паехалі ў аб’езд, сценкаю. Змоўк, нібы захліпнуўся, гармонік. Пацверазелі паязджане. Дадому, у Пакупчыкі, вярнуліся, можна сказаць, цвярозыя, як і не выпівалі. Пры самым уездзе ў вёску мясцовыя хлопцы перагарадзілі дарогу, патрабавалі выкупу. Вобык такі — хлопцы патрабуюць за дзяўчыну выкуп. Доўга таргаваліся, і нарэшце вясельны маршалак саступіў, даў гарэлкі, загарадзь рассунулі.

Бацькі маладога, Мікодым з Аграфенай, з дапамогай родзічаў, суседзяў накрылі вясельныя сталы, і госці, у асноўным сваякі, не чакаючы лішніх запрашэнняў, занялі адпаведныя месцы. На сталах — гарэлка, закуска. Мікодым пазанавешваў вокны. Кінуў погляд на нявестку, твар якой ніякім чынам не прэтэндаваў на прыгажосць. «Прыгажосць прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца», — падумаў ён, успомніўшы старую прымаўку.

— Каб такая доля, як у небе столя! — пажадаў аднапаселец Макар Сілюк, які быў сярод гасцей.

Крыкнулі «горка-а!», маладыя ўсталі, сціпла, як бы нехаця, пацалаваліся, а госці выпілі, пачалі закусваць.

Але далей вяселле пайшло незвычайным чынам: падмацаваўшыся і хільнуўшы пару кілішкаў «карчоўкі», частка гасцей накіравалася ў клуню і запрацавалі цапамі, як малацьбіты. На шуле вісеў ліхтар, цьмяна асвятляючы памяшканне, кідаючы мутнае святло ў застаронкі і на ток, дзе ішла работа. Малацілі збожжа, не чакаючы, пакуль яго трэба будзе здаваць у калгас. Міко-

дым хацеў падзяліцца маёмасцю з сынам, якога аддаваў у прымы. Хай забірае з сабой і каня, і карову, і збожжа. Жыта пуховае, гэта значыць, нявеенае, неачышчанае, ссыпалі ў бочкі і вазілі да сватоў у Царкоўнікі. Працавіты Мікодым баяўся калгаса, як нейкай нячыстай сілы.

— Нашто мне калгас? Мне сям'ю трэба карміць. Аркадзя ажаніў, але апроч яго пяць душ і я, кармілец.

Мікодым лічыўся заможным гаспадаром, зямлі меў трынаццаць гектараў, ну і, вядома, коні, каровы, сельгасінвентар, сад, хлявы, клуня. Здаваў усе пастаўкі, але на яго накладалі зноў, падвойвалі, а выканаць трэба было тэрмінова. Мясцовы актывіст Казюсік — кароценькі чалавечак з вялікай галавой — пагражаў раскулачваннем:

— Мы зробім так, што яму моташна стане! Усё забяром, а самога да белых мядзведзяў адправім.

Вось таму і вяселле адбывалася ў такім хуткім тэмпе: пасядзеўшы за сталамі, мужчыны ішлі змяніць тых, хто махаў у клуні цэпам, а тыя вярталіся ў хату, сядалі за сталы.

Каравай дзялілі пад раніцу, калі ўправіліся са збожжам.

А ў Прусцы плакала ў падушку Параска. Плакала і каялася, шкадавала: «Ой, нашто я з той Германіі ехала!» Людзі асуджалі гэты ўчынак Аркадзя.

— Што і казаць, зняважыў...

— Абняславіў дзеўку, ды яшчэ і плётку пусціў, быццам бы ў ліфчык вату пхала, — гэтак казала Ганна Бочка.

Дзяўчына перажывала. Але што ж, жыцця не вернеш, не выправіш усіх памылак. Добра яшчэ, што не загрубела. Атрымалася амаль як у песні:

У каго шмат дочак,
Роўна доля ўсім.
Я ў мацеры адна —
Мне долі няма...

Параска стала чахнуць. На твары ў яе застыў выраз нерухомага смутку. Пагас бляск у вачах, калісьці вясёлых і ўсмешлівых. Урэшце захварэла Параска на сухоты, надта схуднела, стала, як трэска. Сухотніца — значыць асуджаная, бо адкуль узяць тыя лекі. Пасля вайны іх і не было. Выкарыстоўвалі самаробныя сродкі: абкурвалі яе яловай смалой, ядлоўцам. Яшчэ нейкі час спадзявалася: «А можа, дактары памыліліся?» Здавалася, яна адчувае сябе не так і блага, але стала гаснуць на вачах. Згасла і памерла.

— Чалавек чалавеку толькі і робіць — што пакуты! — жалілася маці, старая Хрысія. Жалілася і ціха галасіла:

Ой, доню мая, а мая ты хароша-а,
А на каго мяне ты пакінула?..
А родненькая мая,
А забяры мяне з сабой...

Пахаваўшы дачку, казала:

— З акна мне яе магілка відаць. Учора вечарам глянула: ідзе мая донька да мяне. Засумавала, думаю, адна. Ідзе, але ж павольна надта. Прыгледзелася я, а гэта ручнічок на крыжыку трапечацца.

Не пажыў доўга і Аркадзь. Жылі з Наталляй у Камянцы. Ехаў аднойчы на грузавой машыне, на «газоне», як казалі ў Прусцы, з Камянца ў Брэст. Наверсе сядзеў, у кузаве. Зіма была, галалёд. На павароце каля Баранкаў машыну занесла, і яна перавярнулася. Аркадзь быў нежывы.

* * *

Як толькі сышоў снег, Валодзя падмёў венікам падворак каля хаты, зазелянела травіца. Лявон закончыў абрэзку дрэў у садзе, што рос паміж хатай і агародам, замазаў раны садовым варам. Вясна 1950-га хоць на пачатку і марудзіла з цяплом, але прынесла перамены, і не толькі ў надвор'і. Зайшоў неяк да Кужалёў Павал Гальяш, прынёс газету «Іскра», што выдавалася ў Камянцы. У хаце застаў гаспадара, які збіраўся ісці ў клуню.

— Зірні, дружа, што газеціна піша! У калгасы зганяюць людзей. Пачалося!

Прыйшла Фёкла, зняла з шыі хустку, павесіла на спінку ложка. Лявон уздзеў на нос акуляры, разгарнуў газету, паднёс да вачэй. Натрапіў на загаловак: «Колхозное строительство». Пачаў чытаць:

«В деревне Голя в колхоз имени Калинина абъединились 36 хозяйств. Крупное коллективное хозяйство «Советский пограничник» организовалось в деревне Волковичи, в котором объединилось 60 хозяйств. Еще семь крестьян подали заявления, которые будут разобраны в ближайшие дни.

Крестьяне деревни Тумин организовали колхоз «Вперед».

— Заўтра і ў нас будзе! — загаманіў, нібы падсумоўваючы прачытанае, Павал. — Да вайны арганізаваць не паспелі, дык зараз хочуць...

Далей, у пацвярджэнне гэтага, газета пісала:

«Крестьяне Ратайчицкого сельсовета изъявляют массовое желание абъединиться в сельскохозяйственные артели. За последние дни они организовали еще три колхоза».

— Гэта ж наш сельсавет!

— Наш, — пацвердзіў Павал.

Лявон разгладзіў пасмачку над ілбом, задумаўся.

— Не ўсё так проста, дружа, — пракаменціраваў ён прачытанае. — Калгасы яны, дапусцім, арганізуюць — гэта, можа, не так і цяжка, але ці загаспадараць на зямлі?

— А што, думаеш — не?

— Думаю, што не. У Расіі ж калгасы сябе не апраўдалі, людзі жывуць дрэнна, бедна. Зямля родзіць слаба, бо недагледжаная. Агульнае — гэта як нічыё.

— Гэтак цяжка працавалі, — як бы камусьці паскардзілася, уздыхнуўшы, Фёкла, — і ўсё на глум, нейкаму чорту нятруджанаму. Нажывалі, да чагосьці імкнуліся...

Дзверы адчыніліся, зайшоў Мікіта Галёнка, даў «добры дзень», прысеў на лаўку. Убачыўшы газету, спытаў:

— Што там у газеце?

— Пра калгасы пішуць, — адказаў Павал.

Мікіта паглядзеў у куток, дзе на столаку стаяла вядро з вадой, падышоў, зачарпнуў поўны кубак і без роздыху выпіў. Выказаў сваё меркаванне:

— Будзе калгас, відаць, і ў нас.

— Выключэння нам не зробяць, — пагадзіўся гаспадар.

— Напэўна ж і на кулакоў пачнецца ганежа, — прыкінуў Мікіта, няблага дасведчаны ў бягучых падзеях.

Ён меў рацыю. Калектывізацыя патрабавала «зачысткі» ад сацыяльна няпэўных элементаў, непрымірымага да іх стаўлення.

***Працяг будзе.***



**Сяргей ДАВІДОВІЧ**

# ХАТЫНІ ВЕЧНЫЯ ЗВАНЫ

*Паэма*

Людзей заўжды прыцягвалі святыні
Падзей і дат — яны часоў пячаць.
Таму я зноў у спаленай Хатыні,
Каб памянуць, схіліцца, памаўчаць.

Тут не музей, хоць ёсць экскурсаводы,
Тут боль, як свет — такой велічыні,
Тут попел тых, хто згінуў назаўсёды,
Каму баліць і сёння, у нашы дні.

Хатынь дапамагае памяць рухаць.
І чэрствасці людской — прысуд яна.
Душой тут трэба бачыць, сэрцам слухаць,
Каб зразумець, які ён жах — вайна.

Вось я маўчаў і слухаў сэрцам чулым,
А думкі свідравалі мне душу.
Здавалася б, трагедыя ў мінулым,
А я той боль заўжды ў сабе нашу.

Хто прагнуў і крыві, і слёз, і мукаў,
Няхай той будзе кляты ў вяках.
Чужых дзяцей паліў, сваіх жа ўнукаў
Люляў на акрываўленых руках.

Бездапаможнасць мне душу вярэдзіць,
І крыўдна, і балюча, хоць крычы

---

***Давідовіч Сяргей Фёдаравіч** нарадзіўся 20 ліпеня 1942 года ў вёсцы Карпілаўка Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Вышэйшую школу Міністэрства ўнутраных спраў СССР (1982). Працаваў у сістэме МУС БССР, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Спасцігнуў тайну» (1991), «Люстэрка лёсу» (1992), «Нясу свой крыж» (1995), «Горкая кропля» (1997), «Зямлі святая памяць» (2010), «Званы часу» (2011) і інш., кніг прозы «Душы маёй бяссонніца» (1999), «Развод па-славянску» (2005) і інш.*

За тое, што не змог вас папярэдзіць,
Не змог жыццё ў пажары зберагчы.

І я нібыта ў гэтым вінаваты:
«Не дапамог…» — і горка ад таго.
Які тады з мяне быў памагаты?
Мне быў гадок няпоўны ўсяго.

А вёсачка мая за сотню вёрстаў
Стаяла ад хатынскае зямлі.
Ды і яе бязлітасна і жорстка
Фашысты знішчыць полымем змаглі.

Нас нечакана хтось падняў з пасцелі,
Ледзь толькі ранак бліснуў залаты.
І ўсе вяскоўцы збегчы ў лес паспелі —
І ўратавалі лепшыя гады.

* * *

Душа баліць і шчыра спачувае
Усім ахвярам той ліхой вайны…
Мне сніцца, што Хатынь яшчэ жывая
І даглядае ранішнія сны.

Ды жыць Хатыні засталося мала —
Віхурыў час трагедый і нягод.
Нямецка-паліцайская навала
Ашчэрыла над ёй крывавы рот.

Раўлі машыны. Катаў зброд шалёны
Гадзючыў да Хатыні ўсё бліжэй.
А я імчаў наперадзе калоны,
Каб папярэдзіць, зберагчы людзей.

А бегчы ў сне — ўсё цела нібы з ваты,
Слабелі ногі ў хібах каляін,
Таму мяне мінулі шумна каты,
Дыхнуўшы едкай чаднасцю машын.

Я бег і бег без дум, што гэта сніцца,
Нібыта я — ад смерці абярэг.
Не прапусціць бы толькі, не спазніцца!
Бо не паспець да іх — вялікі грэх.

А золак шэры фарбаваўся сінню,
Збіраўся зазірнуць у вочы дню.
Ды смерці цень навіснуў над Хатынню,
Палохаў цішынёю цішыню.

Каб зnуліць, затрымаць намер звярыны,
Каб кроў не пасмактаў ніводзін кат,
Крутнуў я цераз лес, праз гушчарыны,
І нацянькі імчаў да сонных хат.

Я ў вокны грукнуў: — Уставайце, людзі!
Я біўся ў дзверы: — З дзецьмі ў лес! Хутчэй!
І выбягалі людзі з хат у спудзе,
Да сэрца прыціскаючы дзяцей.

Я расштурхаў вяскоўцаў, сном спавітых,
Я папярэджваў іх, са скуры лез.
Ад цёплых ложкаў, ад вуглоў абжытых
Пабеглі людзі ў ратавальны лес.

Я побач бег, як кажуць, спадарожна,
Усцешаны — бяда людзей міне…
Я бег — і раптам хтосьці асцярожна
І далікатна паштурхаў мяне.

Мой сон спыніўся. Я расплюшчыў вочы
І здзіўлена абвёў вачмі пакой,
Мяне дачка будзіла сярод ночы,
Штурхаючы маё плячо рукой.

Затым сказала неяк вінавата:
— Прабач, што не дала твой сон дасніць.
Ты так стагнаў, ты штось выкрыкваў, тата,
Я мусіла той жах перапыніць.

Я сеў на пакамечанай пасцелі,
І пад уплывам бачанага сну
Сказаў дачцэ: — Хатынцы не згарэлі,
Яны цішком схавацца ў лес паспелі,
Ім удалося перажыць вайну.

І раптам зразумеў — мой сон не спраўдзіць,
Бо сэрца чула рэха той вайны,
Бо над зямлёй, дзе зноў хтось ліха ладзіць,
Гучаць Хатыні вечныя званы.

* * *

Мінае час, а мне начамі сніцца
Хатынь жывая — як адна сям'я…
Чаму ж я так спазніўся нарадзіцца?
Магчыма, вас ўратаваў бы я…



Алесь ДЗЯТЛАЎ

# СПАГАДЛІВАЯ ДУША

*Апавяданне*

На трэці дзень вайны па брукаванцы пацягнуліся бежанцы з горада — жанчыны, старыя, дзеці, падлеткі. Спачатку ішлі рэдзенькія купкі людзей, а як грымоты наблізіліся да горада, павалілі суцэльным патокам — цягнуліся і па шашы, і па ўзбочынах. Вяскоўцы дзівіліся і спачувалі ўцекачам — столькі людзей ратуецца ад бяды! Што-колечы са свайго нажытку, які ў спешцы паспелі ўхапіць з дому, кацілі на цялежках, веласіпедах, неслі на сабе, а большасць брылі без паклажы, абы ўратавацца. Некаторыя неслі на руках і за плячыма малых дзяцей. Плач, гвалт і таўканіна на брукаванцы, і ў гэтым тлуме зліваліся разам і словы-праклёны абяздоленых нявінных людзей, і жудасны страх пагібелі, які гнаў іх у невядомасць.

Над шашой па двое-трое з грамавітым гулам праносіліся нямецкія самалёты, некаторыя з іх апускаліся зусім нізка, палівалі натоўп з кулямётаў, і калі ў небе грукатала, людзі ў паніцы кідаліся ў прыдарожныя пасадкі, каб уратавацца, а многія падалі на камяні шашы там, дзе заспела іх страляніна. Некаторыя не падымаліся ці курчыліся ад болю, не маглі ўстаць. Калі гул самалётай сціхаў, бежанцы зноў высыпалі на дарогу і нястройным натоўпам брылі далей, палахліва ўзіраючыся ў неба.

Вяскоўцы, чые хаты стаялі пры шашы, выходзілі на дарогу, моўчкі пазіралі на бежанцаў, спачувалі чужому гору, прапаноўвалі ўцекачам што з яды, адпачыць у хаце, але яны адмаўляліся, на начлег не прасіліся — кожны імкнуўся выбавіцца як мага хутчэй і далей ад бяды, бо ззаду насоўвалася смерць.

Два самалёты са страшэнным грукатам нізка праляцелі над брукаванкай, суха лескатнулі кулямёты, пасярод дарогі выбухнула бомба, і людзі ў страху сыпанулі да кюветаў. На шашы задымілася неглыбокая варонка, а вакол яе ляжалі мёртвыя і параненыя. Людзі з крыкамі і плачам разбягаліся далей ад дарогі, а самалёты развярнуліся і з ровам пранесліся над хатамі вёскі, але на гэты раз не стралялі і не бамбілі.

---

***Дзятлаў Алесь (Аляксандр Мікалаевіч)*** *нарадзіўся 3 чэрвеня 1936 года ў вёсцы Туркі Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1959). Працаваў у глыбоцкай раённай газеце «Сцяг камунізму», у газетах «Чырвоная змена», «Звязда», на кінастудыі «Беларусьфільм», у часопісе «Родная прырода».*

*Выдаў кнігі прозы «Росы на поплаве» (1974), «Белы месяц сакавік» (1977), «Сляды» (1981), «Вяртанне» (1987), «Парог» (1993), «Над безданню» (2007), «Чорная эмка» (2008) і іншыя.*

Ганна пастаяла каля шашы, паспачувала гаротнікам а калі з'явіліся самалёты і пачалі страляць, забілася ў хату — усё ж бяспечней, хоць якая ахова ад куль. Пачуўшы моцны выбух і стрэлы, закалацілася ад страху, выбегла ў двор, была памкнулася схавацца пад паветкай, але самалёты ўмомант прагрукацелі, і ўсё сціхла. Асмелілася, вызірнула з-пад паветкі, асцярожна наблізілася да веснічак. На шашы каля свежай варонкі ляжалі людзі, ці жывыя, ці мёртвыя, яна не ведала, але падалося ёй, што быццам нейкі камячок варушыцца сярод нерухомых цел. Хоць было страшна вытыркацца на шашу, бо ў любы момант самалёты маглі вярнуцца, вопрамеццю кінулася да дарогі, падбегла бліжэй і ледзь не самлела ад відовішча. Яна не памылілася: на спіне жанчыны, якая нерухома ляжала ніцма ў лужы крыві, варушылася дзіцё, загорнутае ў белы абрус — відаць, несла яго. Яно ціхенька хлімкала, шавялілася і ніяк не магло выбавіцца з абруса, у якое было захутана. Ганна як у тумане, ужо нічога не цямячы, сутаргава памкнулася да жывога клубочка, выхапіла малога і, не азіраючыся, паспешліва адбеглася да ўзбочыны. У першы момант не ўсвядоміла, навошта ёй гэтае дзіцянё, што будзе рабіць з малым — проста жаласць да жывой душы, якая апынулася ў бядзе. Стаяла каля кювета, разгублена азіралася навокал і спадзявалася — можа, хто з родзічаў ці іх суседзяў падбягуць, забяруць малога. Нельга ж пакідаць дзіцё адно ў бядзе. Але бежанцы беглі міма, абміналі варонку, ачмурэлыя ад страху, крыві і гора, некаторыя памкнуліся на поле за шашой, каб ўратавацца ад страшных самалётаў.

— Людцы, мо хто з радні ёсць жывы? Вазьміце! Хлопчык жа адзін застаўся, — у роспачы разгублена пытала-прасіла Ганна. — Вазьміце, ён жа жывы… Людцы!

Прыгледзелася да дзіцяці — чарнявы хлопчык, валосікі злёгку кучаравяцца, на выгляд каля двух гадкоў, мо трохі меней ці болей, уздыхнула, пастаяла яшчэ, але ніхто не адгукаўся на яе просьбу. Паволі рушыла да свайго двара, і яшчэ не задумвалася, куды падзець малога, як будзе жыць з ім, як гадаваць. Ці аддаць каму, у каго ёсць дзеці, ці пакінуць у сябе? А мо хто са сваякоў жанчыны адумаецца, вернецца і забярэ малога? «Хай пакуль пабудзе ў хаце, не збяднею, бульба ёсцека, а малака ў суседзяў вазьму, — ужо заспакоена думала Ганна. — Жывая ж душа».

Яна асцярожна несла хлопчыка, які яшчэ мала што разумеў, толькі пужліва бліскаў чорненькімі, бы спелыя ягадкі, вочкамі, туліўся да грудзей жанчыны.

— Яўрэйчыка падабрала? — стары Карп, сусед, перавесіўся праз веснічкі, пахмурна супіўся на жанчыну. — Мала свайго гора, дык і яшчэ прыдбала етага…

— Дык дзіцё не вінавата, што такая бяда прыйшла, які ж ён яшчэ, нічагусенькі не разумее… Згіне адзін, хай пабудзе ў мяне, а там мо хто з яго радні адшукаецца. Шкада дзіцяці, жывая душа…— пярэчыла Ганна і сама не ведала, ці правільна зрабіла, што выхапіла хлапчанё, добра не падумаўшы.

— Ой, дзеўка, глядзі, нагаруешся з ім, час які. Кажуць, немцы не вельмі шануюць яўрэяў, вот бачыш, як яны пабеглі. Чуюць бяду. Немец не будзе жартаваць, слух такі ідзе папярод яго. Таму яўрэі і грабуцца далей ад бяды, бо цяперака тут няможна ім жыць.

— Ад бяды, кажаце? Дзядзька Карп, кожная душа хоча жыць. А што рабіць ім, калі такая навала сунецца на нашу зямлю, — Ганна, каб не чуць звягі суседа, расхінула веснічкі, паспешліва патэпала да дзвярэй, а за спінай чуўся кплівы, помслівы смяшок старога.

Не вельмі шанцавала жанчыне ў жыцці — у маладосці не знайшоўся жаданы хлопец, каб ашчаслівіць дзеўку, пасля з гадамі пасталела-пастарэла

і гэтак нікога не пакахала Ганна, жыла з бацькамі. Спачатку працавала на сваёй гаспадарцы, а як сталі калгасы, штодзень хадзіла рабіць у паляводчую брыгаду. Так і цякло памалу яе жыццё-быццё. Неўзабаве пасля калектывізацыі памёр бацька — надарваўся на торфараспрацоўках, куды паслалі ад калгаса, а незадоўга перад самай вайной сышла і маці. Доўга хварэла, і дактары не маглі даць рады — так і згасла дома. Паспела выдаць замуж старэйшую дачку Любу — у суседняй вёсцы Зарэчча знайшоўся ўдавец з дваімі дзецьмі, і Ганна засталася жыць адна ў бацькоўскай хаце. Па-ранейшаму хадзіла рабіць у калгас, завіхалася на прысядзібных сотках, цягнула сваю нялёгкую лямку — так і жыла. Не заўважыла, як вяскоўцы за вочы сталі зваць яе перастаркай, а калі да яе вушэй даходзілі гэтыя размовы, не крыўдзілася на іх. Людзям языкі не завяжаш, а жыць жа трэба, ды ў кожнага чалавека свая бяда і клопат.

Вайна сталася для яе вялікай нечаканасцю, як і для ўсіх простых людзей, адчувала, што навалач гэтакая страшная насоўваецца, што цяжка будзе перажыць. Быццам прызвычаілася да таго жыцця, якое ўсталявалася, уцягнулася ў работу, і вось цяпер рушыцца ўсё, і невядома, што будзе далей. Аб'явілі мабілізацыю, маладых мужчын і хлопцаў на калгаснай палутарцы павезлі ў горад у ваенкамат. Ганна нікога не праводзіла, не плакала, як іншыя бабы — хоць тут палёгка. А калі з горада пацягнуліся бежанцы, сярод якіх шмат яўрэйскіх сем'яў, калі пачалі лятаць нямецкія самалёты, вяскоўцы зразумелі, што хутка трэба чакаць чужынцаў. Гарадскія людзі больш ведаюць, хто каго пераважае ў сіле, уведалі, што вораг лютуе, дазналіся, што немцаў не стрымалі на граніцы, папёр нямчур па нашай зямлі, вось і ратуюцца ад навалы, як могуць.

Надвячоркам, калі з пашы прыгналі кароў, Ганна збегала да суседкі Мар'янкі, папрасіла паўгладыша сырадою для дзіцяці.

— Такі прыгожанькі, кучаравенькі хлопчык, — распавядала яна суседцы. — Спіць цяпер, наперажываўся бедненькі. Заснуў адразу, як у хату ўнесла. Толькі не прамаўляе анічога, мо ад перапуду? Такое перажыць! Але ўсё разумее, па вочках бачу.

— Перажыць такую бяду — не кожны дарослы ета вытрымае, — паспачувала Мар'янка. — І ўзрыў страшэнны быў! Думала, што дах на хаце рухнуў. Ой бяда-горачка, сунецца на нас няведама што.

— Не кажы, Мар'янчка, ліха нас чакае, што і прыпомніць не магу, калі яшчэ такое было. Бяда за бядою стаіць на парозе. Жылі хоць бедна, ды без вайны. І што етаму немцу трэба на нашай зямлі? Чуе мая душа — не абяромся горачка.

Пасля таго, як пакрысе схлынуў паток бежанцаў, па шашы пацягнуліся рэдкія групкі чырвонаармейцаў. Брылі яны моўчкі, стомленыя, унураныя, некаторыя спыняліся перадыхнуць на паўгадзіны і цягнуліся далей, зрэдзь праязджалі вайсковыя машыны з салдатамі ў кузавах. Апошнімі з'ехалі з вёскі старшыня калгаса і парторг — пакідалі на калёсы сякі-такі хатні скарб і адбылі на чыгуначную станцыю.

Аднойчы чэрвеньскім ранкам вяскоўцы пачулі не такія далёкія грымоты, потым к абеду з боку горада загулі машыны, трывожны гул пагрозліва насоўваўся, нёс небяспеку, і людзі ў страху прыціхлі, стаіліся па хатах. Некаторыя пахаваліся ў паграбах, палезлі ў падполле — ці мала што, пачнуць яшчэ страляць, дык хоць якая схова ад куль. Але большасць засталіся ў хатах — усё роўна не абміне бяда, калі прыйшла, лепей сустрэць яе ў сваім кутку.

Ганна сядзела каля акна, з трывогай назірала, што дзеецца на бруакаванцы. Спачатку з трэскам праімчалі нямецкія матацыклеткі, за імі пралязгалі танкі, а потым грукатліва пакаціліся грузавікі з салдатамі, якія шчыльна сядзелі ў кузавах.

Трывожыўся і Карп, болей за сына, якога забралі ў войска на другі дзень вайны. Стары з ранку да вечара вісеў на весніцах, як сыч, моўчкі дзівіўся сіле немцаў, і аднойчы, калі Ганна несла ад калодзежа ваду, прабурчаў, быццам па-суседску параіў:

— Ты, дзеўка, прыхавай дзе свайго жыдка, чалавек ішоў з горада, казаў, што яўрэяў, якія не паспелі збегчы, зганяюць на ўскраіну, абносяць калючым дротам і нікуды не выпускаюць. Такія дзялы. Так што, глядзі, каб і цябе не высачылі…

Можа, і не звярнула б Ганна ўвагі на ягонае папярэджанне, калі б не ўчарашні выпадак. Нямецкая калона прыпынілася каля калодзежа, салдаты вычарпалі ўсю ваду — залівалі ў маторы машын, пілі, пырскаліся голыя па пояс, дурэлі і рагаталі. А двое немцаў забеглі ў двор да Ганны, пашнырылі ў хляве, на седалах сабралі ў пілотку яйкі, адкруцілі галовы дзвюм курам, якіх здолелі злавіць. Ды, відаць, мала ім здалося здабычы, убіліся ў хату, нешта загергеталі па-свойму, тыцкаючы пальцам у пілотку з трыма яйкамі, і жанчына зразумела, што патрабуюць ад яе яшчэ. Аддала ўсе, што былі ў хаце. А адзін, малады, паўнаваты і рыжы ўпяўся ў малога, які прыбег за нечым у куханьку, ажно змяніўся ў твары, злосна нешта загаўкаў. Ганна не разумела, што хоча гэты немец з кароценькім аўтаматам, які матляўся на грудзях, са спалохам уставілася ў чужынца, прыгарнула дзіцё да сябе. Разабрала толькі, што немец часта паўтарае слова «юдэ», тыцкае пальцам у хлопчыка. Урэшце, калі на вуліцы засігналіла машына, і немцы спехам выбавіліся з хаты, грукнуўшы дзвярамі, уздыхнула з палёгкай.

Паставіўшы вёдры на ўслончык каля акна, Ганна ўспомніла ўчарашняе наведванне немцаў. І вось сённяшняе папярэджанне Карпа. Сапраўды, небяспека ёсць, немцы чамусьці не любяць яўрэяў, а чаму такое, яна не ведала. Нездарма ж зганяюць за калючы дрот, калі праўду кажуць людзі. «Мо дарэмна здуру ўвязалася ў прыгоду, прытуліла гэта гаротнае дзіцё? — роспачна думала-гадала. — Неяк праківалася б адна, а тут такі клопат. З Вовікам, як пачала зваць хлопчыка, можа здарыцца бяда, калі патрапіць на вока якому злому немцу. Чужакі пакуль мінаюць вёску, калі праяджаюць па брукаванцы, рэдка спыняюцца, а што будзе, калі стануць тут пастаянна?»

Цяжкія, трывожныя думкі не давалі жанчыне спакою, бо ўжо стала прывыкаць да хлопчыка, лічыла яго як не сынам. І так звыклася з гэтай думкай, што не магла ўявіць, што яго забяруць ад яе ці заб’юць, ці куды адправяць. Не вытрымала, пабегла да Мар’янкі расказаць пра свае турботы, каб параіцца, што рабіць.

— А ты, Ганначка, як заўважыш немца ля хаты, прыхоўвай гэта дзіцё, — параіла суседка. — Хустачку павяжы, цёмныя валосікі скрыеш ад чужога злога вока. У сенцах ці ў падполлі зрабі схову, патлумач, каб сядзеў ціха, голас не падаваў, покуль чужыя ў хаце.

— А Вовік такі панятлівы, усё на ляту схоплівае, што скажу, разумее, — пахвалілася Ганна. — Я думала, што нямко, за першыя дні слова не вымавіў. Ажно не. Неяк рана прачнуўся, залапатаў па-гарадскому, ды гэтак складна, што заслухаешся. Праўда, не ўсе словы яшчэ ведае, але збольшага прамаўляе.

— Беражы дзіцё, Ганначка, мо пасля вайны, дасць Бог, знойдуцца родзічы ягоныя, а не, дык вырасце ў цябе, будзе як сын. Ды на вуліцу не выпускай, хай у хаце ці на двары бавіцца.

— Карп на хлопчыка нядобра паглядае, супіцца, як незадаволены, што ўзяла яго, — клопатна жалілася суседцы Ганна. — Не ведаю, як быць, Карп можа пры выпадку плявузгнуць немцам. Нядобры чалавек.

— Карп злы на уласць, на калектывізацыю, адабралі ад яго ўсё дабро, якое нажыў, — прамовіла Мар'янка. — Як сталі калгасы, прыціх, куды дзявацца, быў як усе, а цяпер хто ж ведае, куды нос паверне. Ваўкаваты чалавек.

— Можа, абыдзецца, Мар'янка, не дурны ж ён даносіць на суседзяў. А яшчэ невядома, колькі тут пратрымаецца немчура. А хлопчыка шкада, буду глядзець, покуль сілы ёсцека.

Ганна бегла дахаты і надумала: Вовік маленькі, калі што, у падпечку памесціцца — і цёпла, і бяспечна там. Кіну туды якое рыззё, затуліцца ў куточку, у цямноце — не ўгледзяць, калі і будуць шукаць. Але пакуль ціха, мо і абыдзецца. Прыйшоўшы дадому, на ўсялякі выпадак паказала малому, дзе хавацца, і наказала сядзець ціха, калі ў хату зойдуць незнаёмыя дзядзькі. На дзіва, хлопчык адразу ўсё зразумеў, без боязі палез пад печ, пасядзеў там, прывыкаючы.

На пачатку ліпеня прыбрыў аднекуль малодшы сын Карпа Сцяпан, якога ў першыя дні вайны забралі ў войска. Зарослы і змарнелы, чорны ад перажыванняў, ваўкавата, потайкам, каб ніхто не прыкмеціў, пракраўся ад лугавога боку да сваёй хаты, пашкрабаў у акенца ў глухой сцяне. Як улез у хату, стаіўся, з тыдзень не вылазіў на людзі, адыходзіў душою ад перажытага і, мабыць, прыглядаўся, што да чаго.

Неяк у сярэдзіне лета нечакана прыкацілі ў вёску нямецкая машына-аўтобус і грузавік з салдатамі. Немцы па двое-трое хадзілі па вёсцы, заходзілі ў двары — збіралі людзей на сходку да былой калгаснай канторы: меліся прызначаць старасту. Сцяпан не паказаўся на людзях, зашыўся ў хляве ў салому. А на сходцы ў першых радах бадзёрыўся ў прадчуванні дзейства рахманы мужычок, гарбаты Шыпенька, па вясковай мянушцы Рыпач, бо на пагулянках ці вяселлях, калі запрашалі, сяк-так граў польку, кадрыль ды лявоніху на старой хромцы, мабыць, яшчэ дзедаўскай. Ды і налаўчыўся толькі сяк-так рыпаць з горам папалам тры-чатыры танцы — пераняў колісь падлеткам у адмысловага старога гарманіста Казубы. Так і прыляпілася мянушка да мужычка — Рыпач. Харытон быў няшкодны, ціхі, але да працы асаблівай схільнасці не меў. Як сам казаў, болей мкнецца душа да гральнай дзейнасці, на пагулянках весела ды яшчэ і пачастуюць. І на калгасных сходах Шыпенька дужа актыўнічаў, першы ахвотна цягнуў угору руку, калі трэба было падсабіць начальству, асабліва стараўся для старшыні калгаса і брыгадзіра. Вельмі любіў Рыпач сядзець і ў прэзідыумах, ганарыўся гэтым, хаця яго запрашалі на сцэну рэдка, хіба на якое свята — заканчэнне сяўбы ці дажынкі, як бядняцкага элемента. Ды жыў Харытон, як кажуць, абы пракіквацца з ранку да вечара, не дужа клапаціўся, як пракарміць, апрануць сваіх чацвярых дзяцей-гаротнікаў. І вяскоўцы ведалі пра гэтыя звычкі гора-мужычка, адносіліся да бедака паблажліва, незласліва пасміхаліся — што возьмеш з такога няўдачніка!

Нямецкі афіцэр, худы, доўгі, як жэрдка, з гарбатым носам, які пачаў гаварыць перад людзьмі, паабяцаў выдзеліць таму, хто зойме пасаду старасты і будзе верна служыць новай уладзе, тры гектары зямлі. Пачуўшы гэта абяцанне, Харытон прыбадзёрыўся, а як немец паабяцаў, што ў прыдачу дадаецца карова, пасунуўся наперад, выгукнуў пра сваю згоду стаць старастам. Выпнуўся Шыпенька ў начальнікі, і гэтаму ніхто не здзівіўся — дурны галяк, вытыркаецца, не думае, што чакае наперадзе. Толькі моўчкі адзначылі, што ў Харытона нечакана праявілася імкненне да нажывы. Карп жа, хітры і біты жыццём мужык, затуліўся ў задніх радах натоўпу сярод жанок. Разважыў — навошта вытыркацца, яшчэ не ясна, чый бок пераважыць: нямецкі ці савецкі, Расія ж вялікая, не перасіліш з наскоку, можаш атрымаць па рэбрах. Дужа здзівіліся вяскоўцы іншаму. На заканчэнне сходкі немец строга абвясціў, што

калгас нельга распускаць ні ў якім разе, трэба клапаціцца, як агулам сабраць ураджай і выканаць пастаўкі харчоў для пераможнай нямецкай арміі.

Калі аўтобус у суправаджэнні грузавіка з салдатамі ўязджаў у вёску, Ганна якраз брала ваду, жахнулася, пабляднела, сэрца самлела, ледзь не спынілася, ціха войкнула і паспяшалася дахаты. Вовік адчуў, што яго маці хвалюецца, не такая, як заўсёды, і гэты непакой нейкім чынам перадаўся малому. Заплакаў, ручкамі моцна ўчапіўся за яе спадніцу, і яго кволенькае цельца ўздрыгвала ад страху і плачу.

— Дурненькі, не плач, — супакойвала Вовіка Ганна. — Узяла малога на рукі, прытуліліі да грудзей. — Немцы прыехалі, разумееш? Немцы. Яны чужыя для нас, ад іх трэба хавацца. А са мной ты нічога не бойся, я абараню цябе ад іх.

Ражком хусткі яна выцерла малому слёзы, пагушкала на руках, пасадзіла на ложак, а сама матнулася да акна, потым, каб лепей прасачыць, выбегла да веснічак. Аўтобус і грузавік стаялі ля калгаснай канторы, салдаты тоўпіліся побач з машынамі. Хуценька памкнулася ў хату, затрывожылася, што рабіць з малым, калі немцы пачнуць абшукваць хаты ды прыкмецяць Вовіка. Што наўме ў гэтай немчуры, хіба ж спазнаеш. Угледзела праз шыбку, што тры немцы паказаліся на вуліцы, ішлі на гэты край сяла, заходзілі ў хаты. Ганна падбегла да ложка, дзе сядзеў хлопчык. Малы спалохана плюскаў вачанятамі, памкнуўся да яе, і яна пяшчотна пагладзіла яго па галоўцы, заспакоіла:

— Ты не бойся, сынок, нічога не бойся, — у пярэпалаху назвала Вовіка сынком і сама здзівілася, што гэтак кліча чужое дзіцё, апусцілася побач на ложак. — Мы пагуляем з табой у хованкі. Добра? Помніш, я паказала табе, дзе хавацца, калі ў хату зойдуць чужыя дзядзькі? Помніш, як ужо лазіў у падпечак і ніколькі не спалохаўся? Ну, залазь цяпер і сядзі ціхенька.

Вовік усё зразумеў, хуценька забіўся ў падпечак, зашыўся ў самы куточак, прыкрыўся дзяружкай, заціх. У акно Ганна ўгледзела, што ўжо каля хаты тупаюць немцы, кінулася ў сенцы, каб пераняць іх на двары. Сутыкнулася каля ганка з двума пажылымі салдатамі і паракладчыкам, які строга загадаў жанчыне:

— Збірайся на сход, да канторы, немцы загадалі. Неадкладна ідзі.

Ганна стаяла ў гурце старых і жанок — ніхто з маладых не прыйшоў, слухала, што гаварыў падгалісты насаты немец-афіцэр, перакладчык тлумачыў яго гаворку па-нашаму, сэнс ягоных слоў мала даходзіў да яе. Усе думкі жанчыны былі пра Вовіка: хаця б не выпаўз у двор праз акно. Здаецца, дзверы прыкрыла, палачку засунула ў прабой, не адчыніць, а ўсё ж душа была не на месцы. Хуценька бегла дахаты, як распусцілі сходку, палачка была на месцы — трохі адышла душой, аддыхалася. У хаце зазірнула ў падпечак — Вовік сядзеў у куточку, як і наказвала яму, моцна спаў. «Панятлівае дзіця, гаротнічак мой, які ж паслухмяны, — падумала гэтак, супакоілася, ціхенька паклікала, выбавіла малога са сховы. — Як жа далей жыць? А мо міне нас бяда?»

К восені, як пачалі капаць бульбу, у школе сталі паліцаі. Нямнога, чалавек дваццаць. Усе не мясцовыя: адны з мястэчка, што каля чыгуначнай станцыі, некаторыя з Сіманавіч, з далёкай адсюль вёскі, колісь, да калектывізацыі, заможнай, кулацкай, як тады гаварылі. Нацягнулі паліцэйскія шынялі і два акружэнцы, якія ў тую восень прыбіліся да кульгавай Настулі, сёе-тое рабілі на яе небагатай гаспадарцы, набіраліся сіл. Намерыліся падавацца да фронту, каб злучыцца са сваімі, ды чырвоныя адкаціліся далекавата. Усё роўна падаліся ў дарогу. Казалі людзі, што ля Сіманавіч мясцовыя «бобікі» іх і перахапілі, дапытвалі, білі, а потым здалі немцам на згубу. Трымалі бедакоў у горадзе ў

лагеры ваеннапалонных, марылі голадам. Не вытрымалі акружэнцы, слабакамі аказаліся — змушаны былі ісці ў паліцыянты, каб не сканаць з голаду. І дужа здзівілася Ганна, калі аднойчы сустрэла сына Карпа Сцяпана ў паліцэйскай форме і з вінтоўкай. Ішоў да бацькі, важны і заклапочаны, але паздароўкаўся з суседкай, прыпыніўся, спытаў як бы між іншым:

— Яўрэйчык у цябе, маладзіца? Ну, ну, глядзі, цяпер ета апасна. Не пагладзяць па галаве, запруць у каталажку, а мо куды далей затарабаняць.

— Сцяпанка, а што я благога зрабіла? Сірацінку гаротную прыгарнула, ад пагібелі ўратавала. Бог жа кару пашле на таго, хто пакрыўдзіць малога. Ды хіба вечныя тутака немцы? — з апаскай паглядзела на паліцая, сумелася, што балбатнула лішняе, бо не варта гаварыць пра немцаў благое іхняму служку, яшчэ данясе каму не варта чуць, збянтэжана змоўкла, апусціла вочы. А Сцяпан быццам не прыкмеціў выказвання жанчыны, весела прагаварыў:

— Ты, цётка Ганна, не сумнявайся, хана бальшавічкам будзе. Я пабыў паўмесяца ў тым пекле, набачыўся і нагараваўся. Сіла немалая ў немца, арганізацыя, не тое, што ў рускіх. А мальца збывай куды, свая галава даражэй.

— Дай час, Сцяпанка, завяду куды-небудзь хлопчыка. Нікому ж ён не замінае, пачакай трохі, агледжуся, — баязліва прасілася жанчына, абы не чапіўся да яе паліцай.

Зразумела Ганна пасля сустрэчы са Сцяпанам, што ходзіць па коўзкай кладцы, адзін няпэўны крок — і не ўтрымаецца, саслізне ў вір. Свае людзі, вяскоўцы, не выдадуць, а Сцяпан ды Карп ненадзейныя, сабе выгоду шукаюць, могуць пры выпадку здаць малога і яе заадно немцам. Але што будзе, тое і будзе, не абмінеш злыбеду, такі мой лёс. Ды толькі ведала жанчынка пэўна: Вовіка яна не зможа кінуць, аддаць нелюдзям на згубу. Чалавек жа, хоць і маленькі, а душа жывая, бязгрэшная.

Неяк у вёску нахапіліся карнікі — падбіралі па наваколлі былых актывістаў, хто затаіўся, каб перачакаць бяду, жыў ціха, непрыкметна. Схапілі і павезлі ў горад былога калгаснага бухгалтара, беспартыйнага, кульгавага Арцёма Каваля. Злавілі старога настаўніка, партыйца Касюка: хаваўся ў лесе ды досвіткам сунуўся да хаты, каб узяць харчу, меркаваў, што ў ранні час ніхто не заўважыць яго. Перанялі ля лесу, не разбіраліся — швэндаецца чалавек раннем, значыць, падазроны. Запхнулі ў кузаў крытай машыны, і нічога не чутно пра яго з тае пары, як і пра іншых арыштаваных.

Ганна ўся перакалацілася, пакуль іхнія машыны стаялі каля школы, а карнікі гойсалі па вёсцы, нікога не выпускалі з селішча. Усё чакала, што прыйдуць з вобыскам і да яе, нямела сэрца, калі яны шаркалі па вуліцы, калацілася ўсё ўсярэдзіне, як у ліхаманцы. Адышла трохі, калі карнікі выбраліся з вёскі, пераканалася, што яны паехалі: выйшла за веснічкі, паўзіралася за ваколіцу — сапраўды, машыны завярнулі на шлях, схаваліся за лесам, гулі дзесьці далёка. Толькі тады ўбегла ў хату, паклікала Вовіка з падпечча. Дзівілася пасля: не выдаў дзіцёнка Сцяпан, не навёў карнікаў, хаця і хадзіў з імі па вёсцы. «Мабыць, пераб'ёмся як-небудзь, не звер жа ён, усе пад Богам ходзім. Карп, мабыць, стрымлівае яго, — думала-меркавала жанчына бяссоннымі трывожнымі начамі. — Калі немцы пакрапчэюць, то Карп з сынам, пэўна, навядуць чужынцаў на малога, і мне бяда будзе. А цяперака не з рукі Карпу марацца, відно, вычакоўвае, які бок пераважыць — савецкі ці нямецкі», — цяжкія, пакутлівыя думы змучылі душу, Ганна ўздрыгвала, калі чула гул машыны, кідалася да акна, цікавала за ёй, гадала, спыніцца ці паедзе далей.

Бліжэй к новаму году пазмрачнеў Сцяпан, унураны, прабягаў міма Ганнінага двара, калі зрэдзь наведваўся да бацькі, стараўся нават не глядзець

на вокны хаты. Не ведала жанчына, у чым прычына такіх дзіўных паводзін, насцярожвалася, калі бачыла постаць паліцая на вуліцы.

Да вяскоўцаў даходзілі чуткі, што ў лясах па той бок горада аб'явіліся партызаны, паляць нямецкія машыны, караюць здраднікаў. Мо і гэта занепакоіла паліцая, ці што іншае, Ганна не ведала. Людзі, што часам хадзілі пяшком у горад мяняць прадукты на адзежу ці на які абутак, прынеслі аднойчы навіну: немцаў адагналі ад Масквы, пабілі многа іх салдат, знішчылі шмат танкаў, гоняць немчуру далей ад сталіцы на захад. Абрадавалася Ганна, але на людзях не паказвала сваёй ціхай радасці, употайкі спадзявалася, што мо і іх чырвоныя вызваляць к вясне. Здагадалася, чаму замаркоціўся Сцёпка, дрыжыць за сваю шкуру — прыйдуць нашы, давядзецца адказваць за паліцыянства. Апошнім часам перастаў чапіцца да гэтага дзіцёнка, не пытаецца нават пра яго. Мо гэта і да лепшага. Забудзе пра сваю пагрозу.

Пад вясну Сцяпан усё ж знайшоў дарогу да Ганнінага парога. Быў ён крыху на падпітку, задумлівы. Надвячоркам адчыніў дзверы хаты, не распранаючыся, прысеў на лаўку каля стала, задыміў тонкую нямецкую цыгарэтку. Вінтоўку прыставіў да сцяны каля сябе — пужаныя сталі паліцаі пасля таго, як партызаны разграмілі іх гарнізон у Сіманавічах.

— Як маладзічка жывеш? — спытаў нібы спачуваючы ёй. — Дзіцё пры табе?

— А куды ж яму падзецца, Сцяпанка. Хлопчык ціхі, спакойны, нікому не назаляе. Сірацінка, гаротнічак, — Ганна казала жаласна, сумотна, стараючыся даўмець, да чаго хіліць паліцай, і нічога добрага ад яго не чакала.

— Хм, прыгрэла мальца чужога, не паслухалася, як раіў зрабіць. Так і запішам — мая справа старана. Толькі пазнач сабе на лбе — я нічога не ведаю, што ў цябе яўрэйчык жыве. Панятна? Немцы дазнаюцца, я — убаку. А яны не любяць шуткаваць, вунека ў горадзе гета ўстроілі, тры разы на тыдні выводзяць людзей да рову.

— Што ты, Сцяпанка, у етай справе ты ні пры чым, — у душы абрадавалася Ганна такому павароту справы і імкнулася запэўніць, што не выдасць яго ні ў якім разе. — Адкуль жа табе ведаць, што ў мяне дзіцятка гадуецца? На вуліцу мальца не выпускаю, нават па двары не гуляе. Чужое вока яго не бачыць.

Сцяпан чэпка паўзіраўся ў жанчынку, цяжка ўзняўся з лаўкі, закінуў за плячо вінтоўку, ад парога абярнуўся, з пагрозлівасцю ў голасе кінуў:

— Глядзі, маладзіца, плявузгнеш каму лішняе, галавой адкажаш.

Паліцай зачыніў дзверы, прасунуўся ў двары паўз вокны. Калі ляснулі веснічкі, Ганна з палёгкай уздыхнула, кінулася за занавеску — Вовік ціхенька сядзеў на ложку, і здалося жанчыне, разумеў, якая бяда вісіць над ім, памкнуўся да яе, выставіў ручкі насустрач, быццам просячы ахаваць яго.

— Не бойся, сынок, чужы дзядзька пайшоў, можаш пабегаць па хаце, — прытуліла малога да грудзей і потым спусціла на падлогу. — Зараз бульбачкі звару, з малачком павячэраем, а потым спаць пакладу цябе. А еты дзядзечка нам бяды не прынясе, ён наш сусед, казаў, яшчэ наведаецца.

Улетку Сцяпан прыкметна прыбадзёрыўся, павесялеў. Калі праходзіў міма Ганнінай хаты, зласнавата зіркаў на двор, але не заходзіў. Разумела Ганна, з-за мальца супіцца, баіцца, каб яго не абвінавацілі, калі выявіцца, што суседка дала прытулак яўрэйскаму хлопчыку. Год назад быў загад нямецкай улады — даносіць пра асоб яўрэйскай нацыянальнасці, якія збеглі з горада і стаіліся па вёсках. А калі хто не заявіць, кара будзе самая жорсткая.

Неўзабаве ў вёсцы сталі немцы, чалавек сорак — разам з паліцаямі ахоўвалі мост на шляху. Размясціліся ў школьных класах, сталы і парты павыкідвалі. Людзей не чапалі, толькі часам салдаты нахопліваліся ў хаты, патрабавалі яйкі ў гаспадароў, у якіх засталіся куры, ды кавалак шпеку, як яны называлі сала. Калі ў хаце было тое і другое, людзі аддавалі — не дасі, яшчэ раз'юшацца, пачнуць шукаць і выграбуць усё чыста.

Найбольш смелыя і рызыкоўныя вяскоўцы зрэдку хадзілі на гарадскі базар. Яны прыносілі весткі, што немцы зноў наступаюць, ачухаліся ад зімовага паражэння пад Масквой, сабралі сілы і рушылі наперад на поўдні, займаюць гарады, падышлі як не да Растова, нацэльваюцца на Сталінград. Казалі, шмат параненых салдат лечацца ў гарадскім шпіталі, для іх бяруць кроў у дзяцей — адбіраюць у матак малых, хто здаравейшы. Людзі верылі гэтым чуткам, перажывалі, уздыхалі, але што зробіш. Неяк па брукаванцы прагналі пеша са станцыі калону змарнелых чырвонаармейцаў-палонных, можа, з гадзіну цягнуліся па дарозе гаротныя людзі. Ахоўнікі і блізка не падпускалі да іх вяскоўцаў.

«Што ета дзеецца на свеце? — горасна казалі людзі. — Ці немец-нахаба перасіліў Расію? Не дай божа, стане тут надоўга» А хто і сумняваўся, казаў, што не можа тое быць, каб немчура на нашай зямлі запанавала, такога ніколі не было, каб чужынцы тут доўга распараджаліся.

Увосень паліцаяў выправілі ахоўваць чыгунку кудысьці за горадам — партызаны ўзрывалі масты, чыгунку, спусклі пад адхон варожыя эшалоны, якія кіравалі да фронту. «Ну, дзякуй божанька, пачуў маю малітву, злыдзень з'ехаў, — у душы Ганны варухнулася пачуццё ўдзячнасці да Усявышняга. — Можа, там і галаву пакладзе Сцёпка, не выдасць дзіця».

Усю зіму Ганна ківалася-гаравала ціха і спакойна, ніхто не турбаваў яе, ды і рэдка хто з суседзяў наведваўся ў хату. Толькі калі хадзіла па ваду, часам сустракалася з Карпам, унураным, неразгаворлівым — мабыць, моцна перажываў за сына. І яшчэ нешта трывожыла старога, але што, Ганна даўмецць не магла: ці мала якія нягоды і клопаты ў жыцці. У кожнага цяпер свая нядоля. Гэтак цягнуліся дні за днямі, яе не радаваў ні мароз, ні сонца, якое часам выблісквала на хмурым небе на кароткі час.

Пад канец студзеня нарэшце Карп дачакаўся Сцяпана — паліцаяў прывезлі на крытай нямецкай машыне. Дзень выдаўся завірушны, марозны. З дваццаці вярнуліся дванаццаць, змерзлыя «бобікі» паныла чакалі немца-каменданта, каб засведчыў іх прыезд, зябка патупвалі ў рэдзенькай шарэнзе на сцюдзёным ветры. Карпу наказалі, што прывезлі паліцаяў, якіх выправілі для аховы чыгункі, стары пабег да школы, яшчэ здалёку прагна ўзіраючыся ў купку людзей каля машыны, вышукваючы вачамі Сцяпана. Адлягло ад сэрца, калі заўважыў у гурце цыбатую постаць сына, выдыхнуў з палёгкай — жывы, патупаў павольней.

Аднойчы раніцай немцы, якія па-ранейшаму стаялі ў школе, прыспусцілі свой сцяг, які матляўся на рагу будыніны, ды ўнурана прыціхлі, хадзілі пахмурныя, як што страцілі. Вяскоўцы з трывогай гадалі-турбаваліся, што гэта значыць, потым даўмелі, што, мабыць, здарылася нешта дужа непрыемнае для іх. «Мо якая жалоба? Можа, хто высокі іхні сканаў?» — разважалі людзі.

У той дзень Ганна выправілася да калодзежа, толькі параўнялася з хатай Карпа, як ён вызірнуў з каліткі, даў дзень добры, што здзівіла жанчыну — да гэтага ніколі не здароўкаўся першы, заняў гаворкай. Ганна прыпынілася, паставіла вёдры на снег — адчула, што стары хоча нешта сказаць ёй, і захвалявалася, наструнілася слухаць.

— Не чула, Ганна, навіну? — пачаў загадкава. — Ета, знаеш, чаму сцяжок свой апусцілі на школе? Хрыцы хаўтуры спраўляюць: на Волзе апякліся — іх чырвоныя акружылі, шмат знішчожылі і ў плен захапілі. Плачуць цяперака. Мне Сцёпка надоечы па сакрэце шапнуў. Немцу капцы свецяць, мяркую.

— Ой, дзядзька, ці праўда ета? — Ганна не паказала сваіх пачуццяў, бо асцерагалася Карпа, не выказала ўголас сваёй радасці. — Цяпер такое сплятуць, то і не разблытаеш, як ніткі ў клубку.

— Павер, маладзічка, чутка верная, сцяжок так не спускаюць, прычына важкая трэбуецца для етага. Вот так, маладзічка.

Ганна ўзняла вёдры, пацягнулася да калодзежа, і радасная, спадзеўная думка пасялілася ў душы, цяпліла і бадзёрыла: калі праўду сказаў Карп, то і да нас фронт калі-небудзь ды дакоціцца, прагоняць немца, прыйдзе вызваленне. Але яшчэ доўга чакаць — дзе тая Волга! Дзесьці далёка, ажно за Украінай. Але хоць якая надзея будзе цяпліцца ў душы, не дасць сагнуцца ў бядзе.

Недзе праз тыдзень пасля абеду ў хату да Ганны ўбіўся Сцяпан, на ім тая самая шынелька, у якой быў у мінулы раз, але без вінтоўкі. Нават не прысеў, стаяў у парозе, клопатны, унураны, як што згубіў і шкадуе аб прапажы. Насцярожылася жанчына, сэрца спачатку замерла, а потым забілася часта-часта, але выгляду, што захвалявалася, не падала, прапанавала госцю прысесці і застыла пасярод хаты ў трывожным чаканні.

— Жывеш памаленьку, цётка Ганна, — загаварыў спакойна, роўным голасам. — Вот наведаў бацьку і да цябе зайшоў, справа ёсць. — Патаптаўся ў парозе, быццам яшчэ вагаючыся, гаварыць далей ці не. — Ты на ўсялякі выпадак прыхавай дзе свайго яўрэйчыка, пакуль пярэпалах уляжацца. На тым тыдні партызаны станцыю разбілі, паравоз узарвалі, вагоны пакарожылі, то немец лютуе. Прачэсваюць вёскі, уродзе, данёс нехта, паранены партызан дзесь стаіўся па хатах. Кажуць, ператрасуць і хлявы, і падворкі. Ды язык, цётка, моцна прытрымай за зубамі, ад мяне ты нічога не чула.

Змоўк, пільна зірнуў на жанчыну, быццам хацеў упэўніцца, ці зразумела яго, узяўся за клямку дзвярэй, але абярнуўся, сцвердзіў яшчэ раз:

— Не балбачы нікому, а збірайся, калі кулю не хочаш ухапіць. Адвядзі малога куды-небудзь, а то разам з ім перасядзі з тыдзень-другі, перачакай. Ды скажы дзякуй бацьку майму, наказаў саабшчыць табе. Прымі папярэджанне ды ратуйся.

Як кіпнем лінулі на жанчыну, замітусілася, кінулася шукаць цяплейшую апратку для Вовіка — добра, што мінулай зімой здагадалася пашыць з матчынага андарака яму світку на кудзелі, бурачкі ў Мар’янкі выпрасіла — ад яе меншанькага захаваліся. Так што малец не змерзне, як-небудзь патрывае. «Адвяду да Любы, сястры, тут недалёчка напрамую, за рачулкай вёска ейная, — рашэнне прыйшло само сабой. — Сыдзе Вовік за яе сына. А сама вярнуся, перасяджу ў хаце, каб падазрэння не было. Упраўлюся за паўночы. Паспею, шчэ цемра доўгая. А ў сястры дзяўчынкі чарнявыя, па бацьку пайшлі. Трохі пачне прыцемнівацца, і выправімся. Пасты нямецкія толькі каля школы і ля моста на брукаванцы. Ужвейку пяройдзем па кладцы, а мо лёд яшчэ трымае. А за рэчкай на ўзвышэнні вёска, тама ўжо недалёчка, толькі цераз лужок і поле перайсці».

Ганна адхінула фіранку — цямнела за акном хутка, вецер памацнеў, мабыць, збіралася завея. І добра, замятуха скрые сляды, ды і слядоў тых не пакінем — шарпак сцвярдзеў, і па балоце пройдзем, замерзла. І ніхто не ўгледзіць, цемень такая.

У полі за вёскай ціха і глуха. За вузкай паласой колішняга калгаснага поля ляжыць нешырокі поплаў, роўны і цвёрды, далей купістае балотца доўжыцца

да самай рачулкі. Ганна спяшалася адысціся ад вёскі, спачатку несла малога на руках, задыхалася ад хуткай хады і хвалявання, на лузе паставіла мальца на ногі, аддыхалася. Вовік падрос за два гады, тэпаў наперадзе, а як намацаліся пад нагамі купіны, яна зноў узяла хлопчыка на рукі. Густое лазавінне ўперамежку з альхоўнікам апляло берагі рачулкі, у адным месцы быў прагалак да кладкі — сукаватага бярна, перакінутага на той бераг. Ганна спынілася, паставіла на дол малога. Пачалася пакуль яшчэ рэдкая завея, але вецер мацнеў з кожнай хвілінай, і Ганна захвалявалася: бярно вузкае, коўзкае, а калі на яго наліпне снег, то як ступаць — слізгота. Адна, без малога, неяк перабралася б на той бок, а з Вовікам? Заспакоіла хлопчыка, які прытаміўся, пачаў хныкаць:

— Ужо блізка, сыночак, во адпачнём трошкі, пяройдзем рачулку па кладачцы, у хаце адагрэемся. Пацярпі яшчэ…

У цемры намацала нагой край бярна, узяла малога на рукі, асцярожліва ступіла на коўзкую кладку, трохі прыцярушаную снегам. Дайшла да тоўстага сука, які тырчаў з кругляка пасярэдзіне і замінаў рухацца, і не ведала, што рабіць далей. Мабыць, у палавень хуткае цячэнне скранула і павярнула калоду другім бокам, а можа, хто знарок перавярнуў кладку. Ганна паставіла хлопчыка на бярно паперадзе сябе, апіраючыся на сук адной рукой, апасліва апусціла нагу на лёд, саступіла на яго другой. Тонкі лёд, падмыты знізу хуткім цячэннем, трэснуў, праламаўся, і яна правалілася і адразу, адчула, што стаіць на дне. Холад апёк ногі, скруціла паясніцу, з грудзей вырваўся роспачны крык.

Ганна імгненна адной рукой падхапіла малога, які стаяў на кладцы, трымаючыся за яе, вязнучы ў глеі, з апошніх сіл памкнулася да лазавіння, што цямнелася зусім блізенька. Неўзабаве ўхапілася за голыя галіны, выбіваючыся з сіл змагла ўзабрацца на цвёрды, слізкі бераг, абяссілена ўпала на снег. І адразу ж ёй стала цёпла, нібыта накрыла якая лёгкая хвалька і пачала гушкаць на сваіх далонях.

Апрытомнела, калі як быццам праз сон памроіўся ёй дзіцячы плач, з цяжкасцю разняла павекі — Вовік тармасіў яе за адзежу, зваў, заходзіўся ў плачы. Ачыналася цяжка, пакутліва, урэшце зразумела, што ляжыць мокрая на снезе, і не магла зразумець, чаму прылегла ў завіруху на беразе, не спяшае ў мароз у вёску да сястры, а побач плача малы, тузае за рукаў. Ачнулася поўнасцю, у галаве пачало праясняцца, і толькі цяпер зразумела, спахапілася, што трэба падымацца, ісці, а то загубіць дзіця і замерзне сама. З цяжкасцю ўзнялася на ногі, спадніца злубянела на марозе, плюшаўка ўнізе як ледзяная, ухапіла малога за ручку і спатыкаючыся, нібы ў сне, пабрыла па лузе. Ледзь адчувала ногі, але Ганна ўпарта ішла і ішла. Ужо блізенька поле, а далей, на грудку, вёска. Вецер быццам памагаў жанчынцы з дзіцем, пругка падганяў у спіну, і яна з апошніх сіл ішла да пагорка, на якім стаяла вёска, да цёплай хаты, і толькі адна думка балюча пульсавала ў галаве: хаця б ногі вытрымалі. Хаця б не ўпасці...



Таццяна МУШЫНСКАЯ

# А ЛЮДЗІ ДУМАЮЦЬ, ШТО ГЭТА — ПЕСНЯ...

* * *

Росная раніца…
Выйду за вёску,
Рукі раскіну.
І — упаду!

У глыбіні
Сіні бясконцай
Сэнс я бясконцы
Раптам знайду.

* * *

Няўлоўна-тонкі
водар пачуцця
Сагрэе і атуліць,
абнадзеіць.
Бо сэрца хоча
шчыра свету верыць,
І радасць поўніць
кожны дзень быцця.

---

*__Мушынская Таццяна Міхайлаўна__ нарадзілася 26 чэрвеня 1958 года ў Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1981). Працавала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». З 1991 г. — рэдактар аддзела музыкі часопіса «Мастацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Я вандрую ў стагоддзях» (1998), «Рабро Адама» (1999), «Сны кахання» (2006), «Души ожиданье» (2006), кніг прозы «Доўгае развітанне» (1997), «Джульета і экстрасенс» (2013), кніг для дзяцей «Калі тата — Дзед Мароз» (2000), «Свята печанай бульбы» (2003), «Вожыкі ў футбол гуляюць» (2008) і інш.*

* * *

Мерны пошум ляснога дажджу
Будзе гукам майго вызвалення.
Стаўся ён увасабленнем малення,
Урачыстую ладзіць імшу.

Мудры гук вызвалення лясоў
Ад смяротнае летняе спёкі.
Даўганогі, срабрысты, высокі,
Смагу ты наталі каласоў!

Мерны пошум ляснога дажджу…
Дождж пачую, а потым убачу.
Дождж празрысты падасца ўдачай,
Ён няўдачы змывае іржу.

Ратавальны мой дождж, ты шумі!
Ад начы не сціхай і да рання.
А празрыстым, пяшчотным світаннем
Мне бясконцасць нябёс расхіні!

* * *

Раяля чорнае крыло
Увысь паднята,
І вецер з поля прынясе
Мне водар мяты.

А рукі раптам узляцяць —
Нібы над лёсам,
Над клавішамі ўзляцяць,
Над белым плёсам.

Раяля чорнае крыло,
Дзе — блаславенне,
Душа твая чамусь пяе —
Міне імгненне.

Раяля чорнае крыло,
Дзе гром грымотны.
І рэха гукаў, рэха мар,
Ужо самотных.

Раяля чорнае крыло
Увысь паднята,
А вецер з поля прынясе
Мне водар мяты.

* * *

Нашто, скажы, ісці вайной?
Нашто, скажы, збіраць мне раць?
Пакіну моўчкі горад твой —
Каб выйграць, трэба і прайграць.

* * *

Асэнсаванне прыходзіць услед,
Як раскаты грому
Услед за зігзагамі маланак.
І таму бясконцае рэха пачуццяў
Мацней за тое,
Што адбылося ў рэальнасці.

* * *

Толькі адно нахабнае слова
Спужае знянацку цэлую чараду
Ненароджаных вершаў.
Яны — пырх! — і ўзляцяць,
Нібыта на гэтай галінцы
Іх ніколі не было.

* * *

Паэт — нібы напятая струна.
Калі струну кранаюць
Ці б’юць па ёй,
Яна звініць ад болю.
А людзі думаюць,
Што гэта песня…



**Яўген ШЫШКІН**

# КАНЦЭРТ

*Аповесць*

## 1

Горад, расквечаны да Першамая сцягамі, лозунгамі і транспарантамі, застаецца на ўзлобку берага, электрычка ўзбягае на чыгуначны мост, грукочa па ім; за яе вокнамі мільгаюць гіганцкія перакрыжаваныя бэлькі, унізе паблісквае шырокая ў паўнаводдзе рака, наперадзе мільгаціць нешматколернае правінцыйнае жыццё...

У вагоне малалюдна, сядзяць у асноўным паасобку, і толькі ў сярэдзіне на процілеглых лавах — чацвёра з адной кампаніі.

— Дарога доўгая, хлопчыкі. Можа, пулечку ў прэферансік, ці, хаця б, у дурня? — белазуба ўсміхаецца Сіма, адкрывае валізку, запускае ў яе сваю спрытную руку і дастае адтуль новенькую калоду карт, якой яшчэ не карысталіся.

Коля Дзерыбас камячыць свой барвовы нос, мацней нацягвае фетравы берэт на правае вуха.

— Не, ігрышчы пачакаюць. Спачатку крыху квакнем. — І ён дастае з жоўтага дапатопнага сакваяжа бутэльку гарэлкі і ежу.

— Так, бацечка, астаграміцца не грэх. У мяне штосьці галасавыя звязкі дранцвеюць, — падтрымлівае яго Васіль, масажыруе пальцамі тоўстую шыю і нягучна бярэ любімую ноту: — Мі-мі-і-і... Кха, кха! Мі-і-і... — Яго грудны пеўчы барытон гучыць хрыплавата, прастуджана.

---

*__Яўген Васільевіч Шышкін__ нарадзіўся ў 1956 годзе ў г. Кіраве (цяпер Вятка). Скончыў філалагічны факультэт Горкаўскага ўніверсітэта імя М. І. Лабачэўскага і Вышэйшыя літаратурныя курсы (Масква).*

*Выкладаў рускую літаратуру і філалогію ў ВНУ Ніжняга Ноўгарада, працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Нижний Новгород», вёў майстар-клас па раздзеле прозы на Вышэйшых літаратурных курсах. Цяпер — загадчык аддзела прозы часопіса «Наш современник» (Масква). Яўген Васільевіч шмат робіць для папулярызацыі і прапаганды ў Расіі сучаснай беларускай літаратуры: пад яго рэдакцыяй у гэтым выданні надрукаваны дзясяткі твораў нашых празаікаў розных пакаленняў.*

*Аўтар кніг прозы «Погода на завтра», «Только о любви», «До самого горизонта», «Монстры и пигмеи», «Южный крест», «Правда и блаженство» і інш., шэрагу п’ес, пастаўленых у маскоўскіх тэатрах.*

*Лаўрэат расійскіх літаратурных прэмій імя В. М. Шукшына, А. П. Платонава, І. А. Ганчарова.*

Закуска раскладваецца на «стале», замест яго — пластмасавы «дыпламат» Васіля, у якім ён возіць канцэртныя лакіраваныя чаравікі, запакаваныя ў капронавыя панчохі, што засталіся яму яшчэ ад першай жонкі. Сіма наразае складаным нажом батончык сервелату, крышыць на дробныя кавалачкі цёмна-зялёны доўгі агурок. Тут жа — плаўлены сырок «Дружба» з замшэлымі шызымі плямкамі на фользе-абгортцы, вараныя яйкі, аржаны хлеб, хвост вяленага ляшча.

— Васіль, банкуй, калі ласка, — Коля Дзерыбас працягвае суседу бутэльку, сам жа выдзьмухвае з поліэтыленавай шклянкі хлебныя крошкі.

Васіль тоўстымі пальцамі адкручвае корак, выпускае з бутэлькі джына…

— Сіма, будзь дабрай, пасалі агурок.

— Добра, Колька. А яйкі, хлопчыкі, пачысціць?

— Пачысці, душачка, — нібы між іншым ківае галавой Васіль. Тым часам гарэлка срэбнымі булькамі напаўняе шклянку.

З-пад шырокага поля капелюша, глыбока пасаджанага на вялікую галаву, за ўсім гэтым пільна назірае трэці з «хлопчыкаў» — Якаў Спірыдзёнак. Яго квадратны падбародак упіраецца ў груваскі баян у скураным падшываным футарале, які ён трымае на каленях ад самага горада. Якаў Спірыдзёнак не п’е, і да стала яго пакуль не запрашаюць, але паесці ён мастак і цяпер нецярпліва прынюхваецца да паху каўбасы, упіваецца ў яе маленькімі чорнымі вочкамі.

— Ой, хлопчыкі, я не буду! Зусім не буду, — Сіма адхіляецца ад шклянкі, якую ёй падаюць, але потым плаўна падаецца наперад. — Ну хіба што грамульку. Змерзла крыху...

Якаў Спірыдзёнак касавурыць на яе вока. «Вечарам яшчэ не так змерзнеш, пачакай!» — думае ён і зларадна ацэньвае куртаты тонкі плашчык суседкі. Сіма бярэ двума пальчыкамі шклянку, злёгку закідвае назад галаву з капой абсалютна белых валасоў, а Якаў Спірыдзёнак яхідна чакае, калі яна зморшчыцца і дробныя рысы яе твару прымуць нейкі мышыны выраз, а тоўста нафарбаваныя вусны торгнуцца ад гаркаты. Але Сіма амаль не моршчыцца і не крывіць вусны — далонькай наганяе паветра ў разяўлены рот. Якаў Спірыдзёнак крыху злуецца.

«Цікава, які кавалак яна возьме?» — пільна сочыць ён за суседкай; адзін з кавалкаў сервелата самы прынадны — таўсцейшы за астатнія. Сіма, аднак, каўбасу не бярэ, закусвае агурком, і Якаву Спірыдзёнку становіцца крышачку лягчэй...

— Ну што, бывалы шаравік? — кпліва, на артыстычным жаргоне звяртаецца да яго Коля Дзерыбас. — Можа, глынеш? На дарэмшчыну і воцат салодкі.

— Не, ты ж ведаеш, — бурчыць Якаў Спірыдзёнак.

— Тады папалудный, бацечка, — запрашае яго Васіль.

— Бліжэй, Яшачка. Вось сюды, зручней, — падказвае Сіма. Якаў Спірыдзёнак задаволена крэкча, здымае з калень дарагі баян «Вельтмайстар», кладзе зверху на яго капелюш, агаляе чырванаватую лысіну. Росту ён маленькага, але вельмі шчыльны, камлюкаваты — нібы нейкі магутны каменны валун на зямлі, які і ломам не скалупнеш... Ён прысоўвае свой шырокі азадак бліжэй да суседкі, і яго рука адразу ж, не цырымонячыся, цягнецца да самага вялікага кругляша каўбасы.

— Мі-мі-мі-і-і, — выдае Васіль, выпіўшы шклянку гарэлкі.

— Ці лепш стала, Васечка? — цікавіцца Сіма.

— Так, душачка, дзякуй богу.

Тым часам гарэлку п’е Коля Дзерыбас, ён надта ж любіць яе, да таго ж сягоння ён пасля моцнага бадуна, гэта значыць, з перапою.

Якаў Спірыдзёнак не спяшаецца браць другі кавалак, чакае, калі пасля выпіўкі таварышам вельмі захочацца закурыць. І сапраўды: хутка яго калегі ідуць на пляцоўку, каб пакурыць, а Якаў Спірыдзёнак тытуню не прызнае, застаецца адзін. Ён пацірае далоні, у вачах успыхвае радасны агеньчык.

Такі ж агеньчык азараў маленькія вочы Якава Спірыдзёнка ў юныя гады, калі яму вельмі карцела ўчыніць які-небудзь падвох... Дагэтуль помнілася яму пачуццё акрыляючага захаплення і жахлівай жудасці, калі ў дзяцінстве ён ажыццявіў сваю першую адчайную ідэю… Але тады маленькі Яша адламаў ад паркавай скульптуры на алеі Асветы шар з цэменту — гэта быў глобус, які трымаў у руках школьнік, — абраўнаваў яго, пачысціў і пафарбаваў паўшар'і пунсовай і сіняй фарбай. Атрымаўся цудоўны важкі мяч — здалёк і не заўважыш падробкі. Маленькі Яша паклаў свой твор на тратуар бязлюднай вулачкі, а сам заняў пазіцыю паблізу, за кустамі шыпшыны. Да пары да часу мяч сіратліва ляжаў, і вось на вуліцы з'явіўся высокі, мужчына, ішоў ён пахістваючыся, сарочка на ім была расшпілена да пупа. Вочы маленькага Яшы адразу загарэліся. «Гэты і патрэбен», — падумаў ён, прыўзняў галаву над кустамі і гучна падахвоціў мужчыну: «Дзядзь, піхні мячык!» Незнаёмец і рады дагадзіць дзіцяці: даверліва ўсміхнуўся, разбегся — быў ён у летніх пляцёнках на босыя ногі... За такія штучкі-дручкі маленькага Яшу па галаве не гладзілі, а іншы раз нават запіхвалі яму ў штонікі крапіву, але пераламаць натуру ўжо не маглі. Аднак, рабіць усялякія падвохі іншым — гэта былі праявы толькі аднаго боку ягонай натуры — як бы жыццёвай, распазнаваўся ў ёй і іншы бок — творчы. Вызначаючыся прыродным музычным нюхам, Якаў Спірыдзёнак вывучыўся па-заліхвацку іграць на баяне, займеў славу юнага генія. У сваіх імправізацыях ён уражваў багатай фантазіяй і рызыкай, — шукаў і ў музыцы такіх жа востранькіх пачуццяў, якія атрымліваў, учыняючы падвохі.

Жаданне рабіць іншым дробныя непрыемнасці Якаў Спірыдзёнак панёс і ў войска. Тут ён звяртаў увагу на тое, каб засцерагчы ад небяспекі сябе, робячы непрыемнае іншым, ужо дужа рызыкоўнага нічога не ўчыняў, але бяскрыўднага вытвараў нямала. Мабыць, толькі яму магла прыйсці ў галаву задума з «паклонным» рублём… Знаходзячыся ў нарадзе на кантрольна-прапускным пункце, радавы Якаў Спірыдзёнак побач з прахадной прыклеіў на асфальт металічны рубель «арлом» уверх. Ён знайшоў такі клей, дзіўныя ўласцівасці якога намертва схоплівалі і жалеза, і камень. З вечара ўладкаваўшы ўсе справы, раніцай радавы Якаў Спірыдзёнак заняў сваё месца каля прахадной і стаў чакаць, калі афіцэры пачнуць кланяцца перад ім. Ніхто з іх і пятаком не пагрэбаваў бы, а тут зіхоткі цалковы на самым відавоку… І якіх толькі начальнікаў не прымусіў згінаць перад сабой спіну радавы Якаў Спірыдзёнак! Нават сам камандзір не пазбег спакусы, пацягнуўся па рубель, паспрабаваў яго падняць, але зламаў пазногаць... А радавы Якаў Спірыдзёнак стаіць на сваім пасту па стойцы смірна, у вачах свецяцца агеньчыкі, душа ап'янёная.

Праўда, войска падрыхтавала Якаву Спірыдзёнку свае непрыемнасці: неўзабаве пасля службы — хутчэй за ўсё, з прычыны нечаканага радыяцыйнага апрамянення, як лічыў, — ён аблысеў і страціў мужчынскую патэнцыю. Але з-за гэтага Якаў Спірыдзёнак надта не гараваў: два бакі ягонай няўрымслівай натуры: адзін — жыццёвы, які спаганяў на іншых сваю дробна-зладзейскую вынаходлівасць, другі — творчы, які імкнуўся да кансерваторскага дыплома з адзнакай, — цалкам абыходзіліся без шавялюры і сексуальнасці.

Ад выхадак Якава Спірыдзёнка нямала сербанулі і ў філармоніі. Прычым ахвяр сваіх ён ніколі не шкадаваў: як вытрыманаму даследчыку людскіх душ, яму быў важны працэс, калі чалавек з-за наіўнасці ці неабдуманасці

раптам трапляў у такое становішча, што яго інакш, як сапраўдным дурнем, не назавеш.

Несумненна, за такія эксперыменты Якава Спірыдзёнка адлучылі б ад філарманічнай дзейнасці, калі б яго не аберагаў творчы бок натуры. Дзе знойдзеш такога баяніста-віртуоза?! Ды і хіба жарт: Якаў Спірыдзёнак ажно ў самой Францыі, у самым Парыжы на конкурсе лаўрэатам стаў!

...А электрычка бегла наперад, калыхалася на рысорах.

Курцы на пляцоўцы вагона выказвалі здагадкі, чым і калі скончыцца іхняя цяперашняя паездка.

— Мінулы раз у такой жа глухамані цэлыя суткі пратырчалі, — казаў Коля Дзерыбас.

— Нас там, бацечка, частавалі не слаба — барана засмажылі, — успамінаў Васіль.

— Спярша баранчыка, а потым ледзь каламі не забілі... Ой, хлопчыкі, як у раён едзем, усё прыгоды...

Калі ж вярнуліся да сваіх месц, моўчкі пераглянуліся і ўтаропіліся ў лаўрэата парыжскага конкурсу. На стале было пуста, калі не лічыць крошак, шалупіння, рыбнай лускі і плаўленага сырка са здзеклівай для такога выпадку назвай «Дружба». Якаў Спірыдзёнак выцер даланёй рот, крэкнуў, нібы імкнуўся ўтрамбаваць у страўніку ўсё, што з’еў, і насунуў на спацелую лысіну капелюш.

— У нас яшчэ трэць бутэлькі засталася, а ты ўсю закусь з’еў! — узлаваўся Коля Дзерыбас.

— Так, бацечка, — пакруціў галавой Васіль. — Ты зноў у сваім амплуа.

— Нічога, хлопчыкі. У Яшачкі апетыт прарэзаўся. Ён, можа, дома не паеў, — заступілася за віртуоза Сіма. У гэтай філарманічнай брыгадзе яна заўсёды была міратворцай — як сашчэпка, што злучае разрозненыя аркушы, злучала рознахарактарных мужчын калектыву. — У карцішкі, хлопчыкі! Зараз — у карцішкі! — каб пагасіць канфуз, сказала Сіма, і калода карт ізноў сагрэлася ў яе руках.

Гуляць вырашылі ў «храпа». Ад прэферансу адмовіўся Васіль: яго флегматычнаму розуму і непаваротліваму целу станавілася неяк няўтульна, калі трэба было выбудоўваць карцёжныя камбінацыі. Прагаласавалі і супраць «дурня».

— Яшка сёння нас ўжо ў дурнях пакінуў, — сказаў Коля Дзерыбас. Немудрагелісты «храп» задавальняў усіх, а каб гульня не была сумнай, на кон паставілі па рублю.

— Так, хлопчыкі, раздала. Колечка, што там? Крэсці... Як ты?

— Я — пас.

— Ты, Яшачка?

Якаў Спірыдзёнак з апаскай паглядзеў на размораны Васілёў твар, ціха буркнуў:

— Змяню дзве.

— Парачку? Калі ласка!.. Табе, Васечка?

— Пяць штук наўздагад, душачка.

— Добра, дружочак, вось табе пеўнічак, — Сіма імгненна адлічыла пяць карт, роўным стосікам паклала Васілю на калена. — Што, Колечка, падтрымаеш? Ну і правільна! — Яе галава з капой белых завітушак рухалася з шырокай амплітудай, блакітныя вочы глядзелі на партнёраў сардэчна і замілавана, але ўсе ведалі, што ігрок яна непрадказальна каварны і чужыя карты адгадвае, быццам яны крапленыя.. — Так, Васечка, хадзі... Віновы валецік... Не, бубны

не пойдуць... Першая бітачка мая... Так... Што там у цябе, Яшачка? Караля лепш пабeрагчы. Ну вось і цудоўненька і другая бітачка мая... — Сіма забрала ўсе біты.

Коля Дзерыбас пацiскаў свой чырвоны алкагалічны нос. Якаў Спірыдзёнак паёрзаў на лаве, Васіль разгублена ўсміхнуўся, — і ўсё палезлі ў кішэні па грошы. Кон імкліва прырос. У Сіміных руках прыемна трэснула калода карт.

— Не так, Яшачка, паздымаюцца.

Палову карт не здымаюць, кладуць побач... Ах, Васечка, ты «храпеш»!.. Ну я дапамагу. Чырвоная масць удачлівая... Колечка, табе карту? Прабач, дружок, я думала, ты пасуеш...

Пасля гэтага раўнда ў кішэнь палез толькі Васіль. І пасля наступнага — зноў толькі ён. Сёння Васіль трапіў у няміласць карцёжнага лёсу.

— Ужо, пэўна, стольнік прайграў, — сказаў Якаў Спірыдзёнак.

— Чаго ўжо там, бацечка...

— Не бяда, дружок, у картах не шанцуе — у каханні пашанцуе, — суцешыла няўдачніка Сіма.

— Але, будзем чакаць, — добразычліва кіўнуў Васіль. Цікавасць да гульні ў яго, аднак, знікла, ды і грошай у кішэні больш не было, адзіная каштоўнасць — праязная картка на трамвай.

— Вы без мяне пагуляйце. Я перадыхну, — сказаў ён, пазяхаючы.

— Аднаго абчысцілі, — усміхнуўся Коля Дзерыбас.

— Падрамі, Васечка, падрамі, — сказала Сіма, і карты зноў замільгалі ў яе спрытных руках.

Васіль ямчэй уладкаваў сваё стокілаграмовае цела ў куце на лаве, прыхіліўся галавой да жоўтай рамы, пакрытай лакам, асалавела паглядаў у акно на пахмурны дзень запозненай вясны. Цяперашні красавік быў скупы на сонца, аддаваў перавагу някідкім, змрочным танам: сенажаці былі пацягнуты бляклай леташняй травой, іх перасякалі бурыя бязлістыя хмызнякі; у хмурным волкім лесе прагледжваліся брудна-шэрыя азярцы снегу; сумны непрывабны бярэзнік уздрыгваў на ветры павуціннем голых вяршыняў. Васіль сонна пляскаў вейкамі, абыякава назіраў, як унізе побач з насыпам бяжыць-спяшаецца за цягніком пясчаная дарожка, але вось яна вільнула кудысьці ў бок, збегла ў равок, а пасля ён паленаваўся яе шукаць — склеіліся пацяжэлыя павекі. Спакой з'явіўся на яго буйным твары, авалодаў усёй істотай, хоць Васіль яшчэ не спаў — думкі пакуль варушыліся. «У картах не шанцуе — у каханні пашанцуе», — меланхалічна паўтараў ён, шукаючы які-небудзь матыў, што адпавядаў бы настрою, каб праспяваць самому сабе.

Але патрэбнага матыву не знайшлося, і ён сумна падумаў: «Калі ўжо тут, пашанцуе, бацечка...» На гэтым Васіль зусім супакоіўся, і мяккая дрымота спыніла ўсе яго думы, аддаліла перастук колаў і галасы іграко ў, нібы з галавой ахінула коўдрай.

У каханні Васілю сапраўды не шанцавала. Быў ён тройчы жанаты, і ўсё па каханні, але гэтае каханне пасля абгортвала душу гнятлівай хмарнасцю. Першая жонка, Вольга, прадаўшчыца з «галантарэйкі», модніца і задавака, убачыўшы зарплату, якую прынёс муж-спявак з опернага тэатра, сарданічна ўздыхнула: «Мне гэтых грошай на калготкі не хопіць!» І з тых часоў занялася спекуляцыяй... Васіль спадзяваўся, што як толькі з'явіцца дзіця сумленне ў жонкі абудзіцца, але Вольга і слухаць не жадала пра спадчынніка: «Нараджай сам! Я галечу пладзіць не буду!» А потым прыйшоў дзень, калі Васіль дачасна вярнуўся дадому з рэпетыцыі. Ён заспеў голай жонку з вусатым таваразнаўцам базы гарпрамгандлю. Вусы таваразнаўцы засталіся цэлымі, ды і Вольга

не атрымала аплявуху, якую заслужвала, але Васіль адразу ж парваў з ёй. «Прадажная лялька!» — сказаў ён ёй на развітанне, забраў з кватэры толькі «дыпламат» з лакіраванымі чаравікамі.

Аднак халасцяцкай воляй Васіль цешыўся нядоўга: яго вялікае ўлюбчывае сэрца не ўстаяла перад новым пачуццём.

Яго другая выбранніца, худая смуглянка Ліза, рэзкая ў рухах і ўспыльчывая па характары, аказалася па-сатанінску раўнівай. Пасля тэатральных гастроляў, канцэртных паездак, а іншы раз і пасля вячэрніх спектакляў Васіля чакаў скрупулёзны зневажальны Лізін допыт: «З кім, дзе, калі і колькі?..» Васіль быў верны ёй, але Ліза яму не верыла, псіхавала, патрабавала прызнанняў. І тады ён пачынаў патураць жонцы: выдумляў уласныя здрады і чыстасардэчна каяўся ў іх. Такая ідыёцкая гума не магла цягнуцца доўга, і аднойчы душа спевака не вытрымала: «Ліза, я працую ў тэатры і не магу сядзець каля тваёй спадніцы!» — «Ведаю я тваю кабяліную працу! — завішчала яна і шпурнула ў яго хатні чаравік. — Ідзі да д'ябла са сваёй працай!» Васіль пацёр лоб, куды трапіў чаравік, узяў «дыпламат» і толькі яго чулі.

Але сышоў ён не на волю вольную, а менавіта да д'ябла, таму што яго трэцяя жонка, Ксенія, была сапраўдным д'ябалам... Шчодралюбівая, ласкавая, як котка, ашалелая ў запале, яна часам на шлюбным ложы звала Васіля Анварам.

Змірыцца з Анварам было куды цяжэй, чым з Андрэем, Анатолем ці хоць бы з Абрамам, але гарачы магнетызм Ксеніі стрымліваў Васіля ад бунту, — стрымліваў, пакуль цешча не выявіла сябе такой, як ёсць. Але д'яблы ад д'яблаў нараджаюцца… Знешне ахайная, маладжавая, даўно разведзеная з мужам, неяк яна, калі дачка з'ехала ў камандзіроўку, прыняўшы ванну, заскочыла ў пасцель да Васіля на пустуючае месца. «Ваду гарачую адключылі, змерзла. Сагрэй мяне, Васятка», — шапнула яна. Васіля кінула ў жар, але праз хвіліну ён вырваўся з цешчынага палону і кінуўся да шыфаньера.

«Пляваць я хацеў на вашу арганізацыю аб'яднаных нацый!» — люта бубніў ён, нацягваючы штаны. Потым падхапіў «дыпламат» пад паху і ляпнуў дзвярамі. З тых часоў Васіль пачаў шмат піць, яшчэ больш патаўсцеў, стаў безуважлівым да ўсяго, пачаў спазняцца на рэпетыцыі і неўзабаве яго выгналі са сцэны опернага.

Прытулак яму дала філармонія, дзе да Васілёвых дысцыплінарных агрэхаў ставіліся памяркоўна, бо голас яго, добра пастаўлены з моладу, яшчэ не растраціўся, не пацьмянеў. У чацвёртую шлюбную адысею Васіля пакуль не пускаў якар цяжкіх успамінаў пра былыя жаніцьбы, але ледзь прыкметнае прадчуванне нейкага новага кахання ўсё ж пачынала падкочвацца да сэрца.

...Салодкую дрымоту Васіля, што спавіла яго і адхіліла ад быцця, нечакана сарвалі ўзбуджана-забіяцкія галасы калег.

— Ды я цябе, хітразадага, зараз па сценцы размажу! — крычаў Коля Дзерыбас і хапаў Якава Спірыдзёнка загрудкі.

— Лапы прыбяры, крымінальнік! — бурчаў Якаў Спірыдзёнак, адрываючы ад сябе рукі разгневанага партнёра.

На падлозе і на лаўках валяліся карты; ноздры Колі Дзерыбаса ваяўніча раздзімаліся, лысіна Якава Спірыдзёнкі гарэла, як вечаровае сонца; галовы пасажыраў вагона паварочваліся на шум.

— Колечка, Яшачка, хлопчыкі! Хіба так можна! Людзі глядзяць... — круцілася паміж іх Сіма. Увесь сыр-бор загарэўся таму, што Якаў Спірыдзёнак змахляваў — незаконна заграбастаў біту. Сіма адразу гэта раскусіла, але змаўчала, а Коля Дзерыбас спачатку не ўцяміў падвоху і палез у кішэню па грошы, але выцягнуў адтуль кулакі...

— Васечка, дружок, супакой іх! — умольвала яго Сіма, убачыўшы, што Васіль ачуўся.

Але яго ўдзел у прымірэнні не запатрабаваўся. Коля Дзерыбас амаль бязгучна абазваў суперніка крыўдным словам, адпусціў лацкан яго паліто з цёплага шавіёту і, захапіўшы недапітую бутэльку і сырок, накіраваўся на пляцоўку. Якаў Спірыдзёнак напяліў на расчырванелую лысіну капялюш, нахмурыўся, прабурчаў у спіну Колі Дзерыбаса, якая ўжо была ў канцы вагона:

— Дарэмна яго з турмы выпусцілі!

— Нельга так, Яшачка. Ты ж ведаеш, што Колечка — чалавек эмацыянальны. Усе чытальнікі такія, — сказала Сіма, падбіраючы карты. Васіль пацягнуўся, пазяхнуў, праінфарміраваў:

— А ён жа, бацечка, у турме не сядзеў.

Чытальнік Коля Дзерыбас у турме не сядзеў — адбываў два гады «хіміі». Асудзілі яго за тое, што дапамог нейкай хеўры злодзеяў, якую прыняў за групу гастралюючых музыкантаў. Аднойчы гэтыя жулікі прыйшлі ў канцэртную залу, каб забраць нібыта сваю апаратуру. Коля Дзерыбас быў на падпітку, аказаў ім пасільную паслугу: «нейтралізаваў» шклянкай віна старога вахцёра і дапамог злодзеям вынесці скрыні з дарагім інструментам. Ягоную працу жулікі аплацілі гарэлкай, а пазней супраць яго была ўзбуджана і крымінальная справа. Вярнуўшыся з «хіміі», Коля Дзерыбас некаторы час паднімаў тосты і сыпаў байкі за вясельным сталом, наймаючыся тамадой, пакуль аднойчы не зазірнуў у філармонію. Тут яго прывецілі, працаўладкавалі, узяўшы загадзя лжывае абяцанне, што ён не будзе ўжываць спіртнога.

Наогул жа спіртное з ранніх Колевых гадоў стала мяняць ягоны лёс і знешнасць. Яшчэ ў дзесяцігадовым узросце на гулянцы ў працоўным бараку ён выпіў коўш брагі і зваліўся ў падпечак у стане поўнай непрытомнасці. Ранкам жа прагна пахмяляўся халоднай калодзежнай вадой, мачыў ёю галаву — ужо тады ў яго пачаў нездарова чырванець нос.

Гэту прыкрую асаблівасць ягонага твару прыкмячалі і ў тэатральным вучылішчы, адкуль яго выключылі з трэцяга курса за тое, што аднойчы спаіў паўгрупы. Прыкмячалі яе і на розных кіна-тэле-радыёстудыях краіны, дзе Коля Дзерыбас эпізадычна працаваў і не падпарадкоўваўся нават умерана сухому закону, — прыкмячалі і ў філармоніі, але стараліся не звяртаць на гэта ўвагі: чытальнікі-канферансье былі тут у дэфіцыце...

Высокага росту, хударлявы, злёгку прыгорблены, з доўгімі шэрымі валасамі, якія ён адкідваў назад рэзкім рухам галавы, апрануты ў скураное доўгае паліто, стыльнае кашнэ і берэт, ссунуты на правы бок, Коля Дзерыбас рабіў двайстае ўражанне: здалёк — быццам бы чалавек загадкава-творчай знешнасці, засяроджаны сам у сябе, з манерамі, не пазбаўленымі вытанчанасці, а зблізку — напаўінтэлігент-забулдыга, у якога горка ўсярэдзіне ад няспраўджаных надзей і пахмелля.

...Цяпер Колі Дзерыбасу было сапраўды горка: ён дапіў гарэлку, што заставалася ў бутэльцы. Закусваючы плаўленым сырком з ссінелымі краямі, Коля Дзерыбас разважаў пра сутычку з Якавам Спірыдзёнкам: «Дарэмна я хацеў даць па мордзе гэтаму імпатэнту. Ён і так пакрыўджаны Богам... Трэба прабачыць прахіндзея».

У вагон Коля Дзерыбас вярнуўся падабрэлым, перад тым, як сесці на лаўку, па-сяброўску працягнуў прахіндзею руку. Якаў Спірыдзёнак адарваў ад лаўкі дужы зад, адказаў прымірэнчым поціскам рукі.

— Вось і выдатна, хлопчыкі! — узрадавалася Сіма.

— Але, бацечкі, сварыцца — апошняя справа, — падтрымаў яе Васіль. — Аднак мы, здаецца, пад'язджаем.

Колы электрычкі заскрыгаталі на стрэлцы, чыгуначнае палатно разгаліноўвалася, у некалькі рукавоў цякло да правінцыйнай станцыі.

## 2

Аўтобус з калгаса «Светлы шлях» прыбыў на станцыю са спазненнем. Федзька-шафёр, малады кучаравы хлопец, у дарозе схібіў: перад адным з пагоркаў, фарсіруючы лужыну, занадта моцна ціскануў на газ — матор захлынуўся, і колы загразлі ў жыжцы. Прыйшлося чакаць дапамогі. Завэдзганы «зілок» з суседняй гаспадаркі выцягнуў аўтобус, але сам, шафёр не дагледзеў, машына спаўзла ў кювет і забуксавала. Цяпер ужо Федзька браў свайго выратавальніка на буксір. Затрымка выйшла немалая, і калі Федзька ў расхрыстанай ватоўцы выскачыў на чыгуначную платформу, след пасажыраў мог бы ўзяць толькі сабака...

«Няўжо не прыехалі? — занепакоіўся Федзька і пабег у зялёны будынак станцыі. Гнутыя фанерныя крэслы ў зале пуставалі. — Можа, артыстаў са зваротнай электрычкай назад панесла? — яшчэ больш устрывожыўся Федзька. — Вось гады!»

Ён выйшаў на вуліцу, вылаяўся, закурыў беламорыну. Злосць на артыстаў была напускной, злаваўся ж ён на сябе і на дарогу і прадчуваў, што старшыня калгаса Мікіта Сяргеевіч, калі Федзька вернецца без артыстаў учыніць яму жорсткі разнос. Прыкра шморгнуўшы носам, Федзька пакрочыў да крамы.

Сцяжынка бегла міма туалетаў, уваход у якія агароджваў высокі драўляны шчыт, пафарбаваны ў любімы колер чыгуначнікаў — зялёны. Па краях шчыта сурыкам былі нанесены дзве літары, прычым пад літарай «М» нечая свавольная рука крэйдай напісала кароткае мужчынскае слова. Праходзячы міма, Федзька пачуў за шчытом мужчынскія галасы; гаварылі пра нейкую спявачку.

— Ёй толькі ў забягалаўцы нейкай за рублёвы навар спяваць, а не ў тэатры! — сцвярджаў першы голас.

— Ну, не скажы, бацечка! Спявачка яна прывабная, — пярэчыў другі. — Вось Якаў пацвердзіць, у яго слых фенаменальны.

— А мне здаецца, — глухавата пачуўся голас трэцяга, — бабе можна спяваць і добра, і дрэнна, важна, каб мужык, які сядзіць у зале, глядзеў на яе пажадліва…

Галасы за шчытом змяніліся рогатам, і неўзабаве адтуль выйшаў маленькі кубічнага выгляду мужычок у капелюшы з кубічнай паклажай на спіне. Следам за ім — тоўсты бамбіза ў расшпіленым плашчы, чорным гарнітуры і белай кашулі; замыкаў калону яшчэ адзін — чырвананосы, у скасабочаным берэце і ў скуранцы. Твар таго, хто замыкаў шэсце, Федзьку адразу здаўся сімпатычным: штосьці мелася ў ім працяцкае, мужыкоўскае і ў той жа час мудрагелістае, асветніцкае; такога ў натоўпе ў віннай краме цікава паслухаць, калі ён будзе казаць пра палітыку ці пра мастацтва...

— Артысты? З горада? — радасна спытаў Федзька.

— Так, бацечка, з горада, — усміхнуўся Васіль.

Якаў Спірыдзёнак злёгку падкінуў баян, ямчэй уладкаваў на спіне; гледзячы на русыя кучаравыя валасы шафёра, падумаў: «Мне б на расаду такіх».

Коля Дзерыбас ступіў да Федзькі, працягнуў руку для знаёмства, дыхнуў на яго гарэлкавым пахам.

Ад поціскаў рукі артыстаў Федзьку стала лёгка і прыемна: людзей-зазнайкаў не любіў, асабліва з чапурыстага раённага начальства; тыя насы задзяруць, важнасці на сябе напусцяць, сядзяць у аўтобусе, як фыпы: я не я і рожа не мая...

А тут хоць і артысты з абласной філармоніі, а людзі без гонару: руку вунь паціскаюць, ад аднаго гарэлачкай папахвае, за спазненне не лаюцца.

— Дык што, едзем? — весела спытаў Федзька.

— Спыніся пакуль. З намі яшчэ дама, — паведаміў Коля Дзерыбас.

А вось дама Федзьку не спадабалася. Нізкая, худая, нібы састарэлая дзяўчынка; башка белая-белая — чымсьці на курыцу падобная. Не артыстка, а лабуда нейкая. Праўда, фарбы на твары шмат — хоць лапатай саскрабай, ды на гэта розуму не трэба... І што яна ў іх робіць? Галосіць, ці што?

Аўтобус праехаў паўз прысадзістыя драўляныя пабудовы, якія паўвостравам далучыліся да станцыі, выкаціў на прасёлак. Шэры абшар нізкага неба млява плыў міма вокнаў; ад гарызонту, ад цёмнай рысы, вышчарбленай лесам, насустрач колам не спяшаючыся цякла грунтавая дарога, паабапал яе ляжала карычневая камякаватая зямля, узараная летась. Часам угоддзі перамяжоўваліся з лагчынамі, густа парослымі пладавітымі кустамі, такія ж кусты абступалі вілюжыстую рэчку; дзе-нідзе на палях жаўтлява грувасціліся растрыбушаныя сцірты саломы. Дарога гутаркам не спрыяла: аўтобус падкідвала, матляла з боку ў бок, на нізкіх хуткасцях надсадна роў матор.

Толькі Коля Дзерыбас, які сядзеў бліжэй за ўсіх да шафёра, вёў з ім нядоўгія дыялогі на сельскагаспадарчыя тэмы.

— Як, Фёдар, азіміна ў гэты год паднялася?.. Не паднялася яшчэ? Вядома, халадэча на вуліцы... А надоі ў кароў тон па восем?.. Па дзве з паловай... Не фантан... Зразумела, кормяць іх, як у турме...

Якаў Спірыдзёнак аберуч прытрымліваў баян — цаніў яго, нямецкая вытворчасць, і калі падкідвала на выбоінах, злосліва касавурыўся на кучаравую Федзькаву патыліцу: «Такому б вадзілу на тачцы дзярмо вазіць...» Васіль часта пазяхаў, але задрамаць не мог — трэсла.

У адной вёсцы, што трапілася на шляху, да аўтобуса, заходзячыся ў брэху, кінуўся сабака.

— Глядзіце, хлопчыкі, які добры сабачка! — ажывілася Сіма і ласкава залюлюкала: — Чаго ж ты брэшаш, галубчык? Супакойся, маленькі, ніхто цябе не пакрыўдзіць.

Шафёр і артысты з цікаўнасцю зірнулі на сабаку, але нічога характэрнага не знайшлі: вушы вісяць, поўсць каламутна-рудая, пыса самая пасрэдная, дварняк — брэша бязмозгла на колы і ўсё тут.

— Мне чамусьці, хлопчыкі, усе сабачкі наш цырк нагадваюць, — замілавана прамовіла Сіма, калі брэх за аўтобусам адстаў.

Федзька паглядзеў у люстэрка над лабавым шклом, знайшоў у ім пасажырку. «Смешная жанчынка! Кабздоху ўзрадавалася, — усміхнуўся ён сам сабе. — Што яна, гэтая курыца, у цырку рабіла? Мабыць, коням хвасты расчэсвала...»

Але хіба мог ведаць Федзька, які зроду не бываў у цырку, які бачыў арэну толькі ў тэлескрыні, што не так даўно гэта «курыца» красавалася на велізарных афішах, раскланьвалася перад радаснай публікай прэстыжных залаў, падстаўляла прыхільнікам напудраную шчаку для пацалункаў! У цыркавым нумары Сіма выступала разам з мужам, аўтарам ілюзіёнаў, ад якіх у гледача — то валасы дыбам, то бязмежнае захапленне. Сямейная пара зладжана распілоўвала напалову сваіх асістэнтаў, з пустых кошыкаў вытрасала

катоў і зайцоў, а мядзведзя ў корабе за некалькі секунд ператварала ў арлекіна. Як шлейф магічных накідак, у якіх выходзіла яны з мужам на арэну, цягнулася за імі сапраўдная цыркавая вядомасць, пакуль Сімін муж раптоўна не памёр. Здавалася, у тое ж трагічнае імгненне пацямнела артыстычная Сіміна папулярнасць, беззваротна расталі пад купалам цырка апладысменты авацый гледачоў.

Адна яна не змагла аднавіць праграму, бо нельга было знайсці замену мужу, і Сіма пакінула трупу. Новае прыстанішча яна знайшла ў філармоніі, але хіба можна параўнаць арэну, размешчаныя амфітэатрам месцы для гледачоў, з нейкай пляцовачкай сцэны і прамавугольнай залай! Ужо абтрапаліся, пабляклі і згарэлі на звалцы афішы з Сімінымі ўсмешкамі, ужо не ступала яе худая лёгкая нага на пружыністы палас арэны, і толькі памяць захоўвала салодкі цяжар мінуўшчыны, з якім зараз для яе загадкава асацыіраваўся дурны вясковы сабака.

Федзька, канечне ж, не ведаў пра такія факты ў біяграфіі Сімы, і таму ў душы пакепліваў з яе, не заўважаючы ў дрыготкім люстэрку, што цяпер яна сядзіць задуменная, з цёмным смуткам у вачах.

Дрогкая дарога да калгаса «Светлы шлях» артыстаў добра-такі стаміла. Больш за ўсіх пакутаваў Коля Дзерыбас: у яго разбалеўся жывот. «Гэта не толькі дарога вінаватая, але і Яшка, хлюст!.. Якаснай закусі не пакінуў», — падумаў ён, прыслухоўваючыся, як бурчыць жывот. Якаў Спірыдзёнак таксама быў невясёлы: стаміўся падстрахоўваць музычны інструмент, да свербу адседзеў ягадзіцы, ногі ад стомы былі, нібы налітыя, цяжкія.

— Ужо недалёка, пацярпіце! — сказаў Федзька, лавіруючы сярод лужын. — Могілкі аб'едзем — і ўсё.

Дарога прыціскалася да рэдкага змешанага лесу, дзе знаходзіліся могілкі, абнесеныя сіняй агароджаю з аркавымі варотамі. «Сардэчна запрашаем!» — з сумнай іроніяй падумаў Васіль, гледзячы на шырокую зяпу расчыненых варот і далей — на чараду крыжоў і шэрых надмагільных камянёў.

А наперадзе на пагорку ўжо добра адрознівалася цёмнае скопішча будынкаў цэнтральнай сядзібы калгаса. Невысокія хаты з падобнымі адна на адну каньковымі стрэхамі, счарнелыя дрывотні, хлявы і адрыны, драўляныя лазенькі, што прыляпіліся да іх на падворках і panылыя, яшчэ не ўскапаныя агароды ўражвалі прастатой, спакоем і нейкай запаволенасцю жыцця тутэйшага насялення. Узіраючыся ў фасады хат, Васіль утапічна памарыў: «Знайсці б тут, бацечка, мілую пастырку ды застацца ў яе назаўжды...» Коля Дзерыбас сунуў руку пад паліто, пагладзіў ўспушаны жывот. «Не трэба было дапіваць да канца», — падумаў ён і звярнуўся да шафёра:

— А як, Фёдар, у вас наконт гарэлкі? Ці будзе пачастунак?

Федзька ашчэрыўся:

— Мікіта Сяргеевіч гэтым камандуе. Загадае — будзе, а калі не — кукіш... — Але, бачачы зморшчаны твар Колі Дзерыбаса, супакоіў: — Ды вы не сумуйце, гасцей ён звычайна частуе. Ён толькі сваіх алкашоў прыціскае.

— Арол, відаць, ваш Мікіта Сяргеевіч?

— Арол! Пашукаць яшчэ, — засмяяўся Федзька.

## 3

Аўтобус спыніўся каля доўгага драўлянага будынка з шырокімі вокнамі, завешанымі знутры фіранкамі, высокім ганкам, над якім лунаў шоўкавы трыкалор. На ганку стаяў сам старшыня. Вочы ў яго і сапраўды былі арліныя — востра чарнелі пад брылём скуранай фуражкі-васьміклінкі, — а па

камплекцыі ён больш быў падобны на плюгавага падлетка, апранутага ва ўсё бацькава. Балотнага колеру куртка са знакам замежнай фірмы на рукаве вісела на ім, як балахон, і Якаў Спірыдзёнак не прамінуў адзначыць: «Пэўна, у сельмаг іншых памераў не завезлі». Васіль таксама падумаў, што аблічча старшыні ні чым не апраўдвае гэтак вядомага гістарычнага імя і імя па бацьку.

— Дабрыдзень! — павітала Сіма калгаснага кіраўніка і шырока ўсміхнулася.

Старшыня ў сваю чаргу, адказаў ёй усмешкай, але атрымалася ў яго гэта блага: здавалася, што ён падцвельвае і паказвае Сіме непрыстойную фізіяномію. На сваю пасаду Мікіта Сяргеевіч заступіў нядаўна і адразу ж узяўся за справы з незвычайнай стараннасцю і строгасцю: ні ў працы, ні ў побыце нікому не даваў спуску і ўсміхацца на гэтай пасадзе яшчэ не вывучыўся.

Коля Дзерыбас паправіў берэт, паціскаў нос і, перасільваючы непрыемнасці ў жываце, узяў старшыню ў славесны абарот. Гаворка пайшла пра пагалоўе жывёлы, пра пестыцыды, пра жудасную якасць прадукцыі кітайскіх канкурэнтаў, пра падмену сапраўднай ялавічыны аўстралійскай кенгурацінай… Мікіта Сяргеевіч, сустрэўшы артыстаў з некаторай падазронасцю, у гутарцы з імі паступова мяняўся, станавіўся больш паблажлівым і нават падумаў: «А ці не паслаць Федзьку да прадаўшчыцы Худзяковай па пачастунак для артыстаў?» Але прысарамаціў сябе за такую паспешнасць: яны яшчэ не адпрацавалі, нап’юцца, не змогуць спяваць…

— Вы, таварышы артысты, з дарогі па шклянцы чаю выпіце. Там Сцяпанаўна прызапасіла, — адчыняючы гасцям дзверы клуба, сказаў Мікіта Сяргеевіч.

— Гэта можна, — прасоп Якаў Спірыдзёнак, нязграбна праціскаючыся з баянам у вузкі дзвярны праём.

— Так, бацечка, горла змачыць не шкодзіла б, — пагадзіўся Васіль.

— Чай — не гарэлка, шмат не вып’еш, — падхапіў Коля Дзерыбас і падміргнуў Федзьку. Федзька гарэзліва засмяяўся, а калі артысты схаваліся ў клубе, спытаў у старшыні, адгадваючы яго падспудныя думкі:

— Дык што, можа, зараз да Худзяковай зганяць?

— Я табе зганяю! — раз’юшыўся Мікіта Сяргеевіч. — Во! — І перад Федзькавым носам з’явілася маленькая старшынёўская дуля.

Клубнае фае з непафарбаванымі лаўкамі, навяснымі вешалкамі паміж вокнамі нагадвала вялікі прылазнік, не хапала толькі тазоў, паху бярозавых венікаў, ды лішнімі маглі здацца аляпаватыя плакаты з архаічнымі заклікамі. Праз нізкія дзверы ў куце можна было адразу трапіць на сцэну, другія ж такія дзверы праз вузкія, у шчылінах, сенцы вялі ў халодную прыбіральню, і нарэшце, трэція, двухстворкавая, адчыняліся ў залу... Тут падчас якога мерапрыемства наведвальніку прапаноўвалі заняць цвёрдае крэсла ў адным з радоў і глядзець наперад, на сцэну, — больш разглядаць не было чаго. Сцэна — невялікая: крокаў дзесяць у шырыню, і напалову менш у глыбіню. Дзве аб’ёмістыя электрычныя лямпы без абажураў асвятлялі яе і гэтым як бы аддзялялі ад залы. Па краях сцэны бардовым вадаспадам звісала плюшавая заслона, а ў сярэдзіне на бледна-ружовым задніку красавалася чырвоная дата, выразаная з паперы і прымацаваная да матэрыі шпількамі: «Першамай — свята працы».

Побач са сцэнай са швабрай у руках стаяла акуратная мініяцюрная бабулька ў шэрай дыяганалевай жакетцы і гумовых ботах.

— Я тут і ёсць загклуба, — прызналася яна артыстам, падаткнуўшы пад хустку сівыя пасмачкі валасоў. — Была ў нас гарадская загклуба, з адукацыяй, ды збегла.

— Што так? — зацікавіліся артысты.

— Хлопец у нас ёсць, Міцька, па мянушцы Дубаталок, ён яе аднойчы моцна прыціснуў, яна і збегла... — Бабулька Сцяпанаўна прастадушна ўсміхнулася і запрасіла гасцей у грымёрную, што размяшчалася проста на сцэне, за левай кулісай.

Грымёрная ўяўляла сабою вялікі пакой без вокнаў, з голымі сценамі і зваленым у куты састарэлым культінвентаром. Сярэдзіну пакоя займаў стол, на якім гасцей чакаў чайнік, слоік з варэннем і ваза з выпечкай.

— Шаньгі я нядаўна напякла. Пакаштуйце, не пагрэбуйце, — сказала Сцяпанаўна.

— Не пагрэбуем, — запэўніў яе Якаў Спірыдзёнак.

— Ну, размяшчайцеся, я — народ сустракаць, — сказала Сцяпанаўна і з адабрэннем паглядзела на лысаватага артыста, які адразу падсеў да стала.

А народ сёння ў клуб сцякаўся без асаблівага жадання, быццам і не на святочны канцэрт, а на чарговы сход, дзе зноў будуць тлумачыць «пра адно і тое ж...» Напэўна, вяскоўцы хадзілі б у клуб з большым жаданнем, і апрануты былі б больш фасоніста, ды і шуму ў зале было б больш, калі б мерапрыемства здарылася ў святочны дзень. Але філармонія выдзеліла калгасу канцэртную брыгаду загадзя, і святочнага настрою ў людзей яшчэ не было.

— А лехтар будзе? — спытаў у Сцяпанаўны кульгавы сівабароды Панкрат, апрануты ў стары ваенны кіцель з ордэнскімі планкамі.

— Сёння толькі артысты, — ласкава адказвала яму Сцяпанаўна.

— А прыпеўкі будуць спяваць? — цікавілася ў загадчыцы клуба немаладая пара: гарбаценькі сухарлявы Грыня і яго жонка Мышалова, настолькі паўнацелая жанчына, што яе наўрад ці змог бы абхапіць даўгарукі чалавек.

— Усё будзе, — абвяшчалі ім.

Народ у большасці быў шаноўных гадоў, моладзі наперамік, ды і тая галоўным чынам аднаполая — хлопцы, яны на чале з зухам Міцькам, па мянушцы Дубаталок, гуртам заваліліся ў клуб. Набычыўшы клінаватую, прыплюснутую з бакоў галаву, пастрыжаную пад «паўбокс», ён дурасліва кінуў Сцяпанаўне:

— Ты калі нам стрыптыз прывязеш?

Сцяпанаўна не зразумела пытання, але асуджальна замахала на яго рукой.

Сельская драбната: некалькі дзяўчатак і зграйка хлапчукоў — таксама з'явілася ў клубе, аблюбавалі першы рад, сталі лузгаць семкі, задзірацца; адзін з падшыванцаў хваліўся новай, выразанай з бэзу рагаткай.

Нарэшце настаў час адкрываць вечар. Мікіта Сяргеевіч падняўся на сцэну, пракашляўся ў кулачок.

— Хутка ў нас свята, таварышы! Яшчэ адны ўгодкі Дня салідарнасці...

— Прэмію можна было б выпісаць! — выкрыкнуў з галёркі Міцька, па мянушцы Дубаталок.

Людзі зашапталіся. Старшыня ненадоўга спыніўся, арліным позіркам агледзеў залу.

Тым часам па суседстве, у прымерачнай, артысты рыхталіся да выступлення, Сіма ў канцэртным убранні прыхарошвалася перад люстэркам; Васіль з чорным матыльком на шыі, у лакіраваных чаравіках хадзіў узад-уперад і ціха браў ноту «мі», Якаў Спірыдзёнак, паблісківаючы сытай лысінай, гладзіў аксаміткай перламутр баяна; толькі Коля Дзерыбас прыгнечана горбіўся на крэсле — яго даймаў жывот.

— Можа, чаёчку, Колечка? — параіла Сіма.

— Не дапаможа. Патрэбен напой мацнейшы, — глуха адазваўся ён. — Нальюць нам тут ці не?

— Пакуль, бацечка, думы старшынскія неспазнаны, — сказаў Васіль.

За дзвярамі, у зале, пачуліся апладысменты: прамова Мікіты Сяргеевіча скончылася, — час адкрываць канцэрт. Коля Дзерыбас строс з плячэй перхаць і, перасільваючы хваробу, пайшоў да людзей. Ён ішоў, маснічыны суха парыпвалі пад яго нагамі, адчуваў, што ідзе дарэмна: не на сцэну б яму цяпер, а ў іншае месца, — але глядач ужоназіраў за ім.

— Добры вечар, сябры! Здрастуйця! — Коля выпакутавана ўсміхнуўся і пачаў у вершаваным маналогу славіць Першамай і вясну.

Годнасць вершаў была адна — яны не былі доўгія. Коля Дзерыбас спадзяваўся, што вытрымае, хуценька іх прачытае і сыдзе. Але памыліўся. Калі засталося прамовіць пампезныя заключныя штампы, адчуў, што жывот моцна ўздуваецца, нібы там напампоўваўся паветраны шар. Акругліўшы вочы і пабляднеўшы ад болю так, што абяскровеў нос, Коля Дзерыбас запнуўся, змоўк, забыў радкі. А шар у жываце катастрафічна павялічваўся і пагражаў узарвацца... Паўза ганебна зацягвалася, але Коля Дзерыбас нават не спрабаваў успомніць як заканчваецца маналог, думаў пра іншае: «Гарэлка не свежай быць не можа, значыць, сырок тыфозны трапіўся...» Ён рашуча матлянуў галавой і хутка сышоў са сцэны за кулісы. У зале сёй-той слабенька запляскаў у ладкі, хоць усе здагадаліся, што артыст памыліўся…

Зазірнуўшы ў грымёрную, Коля Дзерыбас прашыпеў праз зубы: «У мяне — лажа!» — і імгненна вышмыгнуў у бакавыя нізкія дзверы. У зале павісла насцярожаная цішыня, маўчалі і разгубленыя артысты.

— Трэба нам ісці, бацечка, — нарэшце знайшоўся Васіль і рынуўся на сцэну.

Якаў Спірыдзёнак падхапіў з крэсла баян, але адразу ж прыпыніўся. Вочы яго бліснулі гарэзымі агеньчыкамі, паставіў інструмент на месца. «Хай ён спачатку адзін патопчацца, мнагажэнец», — падумаў Якаў Спірыдзёнак і не спяшаючыся, з зацятай разважлівасцю стаў укарочваць шлейкі рамянёў баяна. Спачатку ён перашпіліў іх на дзве дзіркі, потым яшчэ на адзін пралёт, а затым стаў даводзіць да ранейшага параметру. Сіма стаяла ў здзіўленні, нібы анямела, а Якаў Спірыдзёнак з задавальненнем прыслухоўваўся да скандальнага зацішша залы.

Васіль жа ў гэтыя хвіліны быў на сцэне, і публіка разглядала яго з такой цікавасцю, нібы племяннога быка, якога вывелі прадаваць. Крамяны, вялікагаловы, з тоўстым жыватом, цесна абцягнутым чорным пінжаком, ён злёгку пераступаў на тоўстых нагах.

Усведамляючы, у якім ён няёмкім становішчы, Васіль хмурыўся і бачыў перад сабой залу як адзін прыцемнены твар са здзекліва-дапытлівымі вачамі... У першым радзе ў руках чарнявага шпінгалета ён заўважыў рагатку, накіраваную прама яму ў лоб, і хоць не верыў, што хлапчук можа стрэліць, вельмі баяўся.

— Чаго проста так тырчаць? Танцуй! — груба выкрыкнулі з апошніх месцаў.

— «Барыню» давай! Упрысядкі! — зароў Міцька, па мянушцы Дубаталок.

Васіль збялеў ад абразы, неартыстычна рэзка пакланіўся, схіліўшы галаву і пайшоў са сцэны.

— Ты, бацечка, нахабнік! — гнеўна заявіў ён Якаву Спірыдзёнку, ляпаючы дзвярамі грымёрнай.

— Рамяні падвялі, — прабурчаў той і падняў баян, але ўжо было позна.

Парахавую цішыню залы ўзарваў пранізлівы свіст. Публіка загудзела, зашумела безліччу абураных галасоў.

— Шарлатаны!

— На мыла іх!

— Гнаць гэтых дзятлаў! — пачуліся крыкі з апошніх месцаў, а гледачы з першых радоў падтрымалі іх свістам і тупатам дзіцячых ног.

Артысты ў грымёрнай аслупянелі, міжволі ўслухоўваючыся ў вэрхал, што панаваў у зале.

— Сіму трэба запускаць! — сказаў раптам Якаў Спірыдзёнак, зноў задумваючы штосьці д’ябальскае.

— Што вы, хлопчыкі! — запішчала яна. — Лепш у клетку з драпежнікамі!

— Так, душачка, натоўп агрэсіўны, — пагадзіўся Васіль.

Нарэшце ў зале закрычаў старшыня:

— Ціха, таварышы! Бясчынствы не дапушчаць! Зараз разбяромся!

Але, на шчасце, разбірацца не прыйшлося: на сцэну з бакавых дзвярэй выскачыў Коля Дзерыбас, чырвоны, як з парылкі, стаў уціхамірваць залу.

— Трактар з жалеза і той ламаецца! Спакой, грамадзяне! — выкрыкваў ён. — Маленькая нестасоўка. Спакойна! — І не чакаючы, калі ўсталюецца цішыня, пачаў шпарыць анекдоты.

Першы анекдот глядач успрыняў з недаверлівай усмешкай, другі рассмяшыў палову залы, ну а наступны трапіў, як кажуць, у самы яблычак...

— Сядзяць каля праўлення калгаса тры дзяды. Твары ва ўсіх засяроджаныя, задуменныя... «Пра што, дзядулі, думаеце?» — пытаю я ў іх. А яны адказваюць... — Коля Дзерыбас змяніў голас на старэча-хрыплы: — «Калі нараджаецца немаўля, Бог спускаецца на зямлю. І калі ён пацалуе немаўля ў лоб, то з яго выйдзе навуковец, калі ў вусны — спявак, калі ў рукі — мастак, калі ў ногі — танцор... — Тут ён вытрымаў паўзу і паразіў фіналам: — А мы вось сядзім і ўсё думаем: куды ж ён нашага старшыню калгаса пацалаваў?»

Першай загагатала галёрка, гучней за ўсіх Міцька, па мянушцы Дубаталок. Потым хваля рогату імкліва пакацілася да сцэны — зазвінелі дзіцячыя галасы.

— Лоўка ён нашага Сяргеевіча прапясочыў, — перабіваючы сябе смехам, сказала тоўстая Мышалова свайму мужу.

— Здорава! — матаў галавой гарбаты Грыня. Зала смяялася, усе, як адзін, верылі, што сатырычная піка прабіла не якога-небудзь абстрактнага калгаснага дзеяча, а свайго, тутэйшага, Мікіту Сяргеевіча.

Федзька, які сядзеў побач са старшынёй, спачатку стрымліваў смех, толькі надзімаў шчокі, але потым не стрымаўся, далучыўся да ўсіх. Мікіта Сяргеевіч нервова ёрзаў у крэсле, спрабаваў усміхацца: маўляў, што ўжо тут, мы хоць і начальства, а гумар разумеем: але ўсмешка ў яго была пакутлівай.

Коля Дзерыбас краем вока ацаніў грымасу старшыні, зразумеў, спадзявацца, што будзе выпіўка, марна, але не шкадаваў пра тое, што сказаў: глядач змяніў ранейшы гнеў на літасць. Зараз усе, смакуючы, рагаталі над пацешнымі баечкамі, а такіх Коля Дзерыбас ведаў шмат і, расказваючы іх, умеў пераўвасабляцца ў герояў.

Зала смяялася, даючы ёй высмеяцца, Коля на хвіліну зрабіў перапынак, аглядаючы яе. І раптам угледзеў у зале старога ў кіцелі суровых часоў, стаў сур’ёзным, падцягнуўся, адкінуў назад валасы, сабраўся і стаў чытаць сіманаўскія вершы пра вайну. Было гэта ашаламляльным, але разам з тым правамерным, бо смех і слёзы ў шчырага гледача заўсёды блізкія...

Ты помнишь, Алеша, дороги Смоленщины,
Как шли бесконечные злые дожди...

Быццам да аднапалчаніна, франтавога сябра звяртаўся Коля Дзерыбас, гледзячы на ветэрана, і яго голас, не вельмі гучны, але праніклівы, па-новаму захапіў публіку.

Ты помнишь, Алеша: изба под Борисовом,
По мертвому плачущий девичий крик,
Седая старуха в салопчике плисовом,
Весь в белом, как на смерть одетый, старик.

Ён прамаўляў гэтыя драматычныя строфы, і, здавалася, глядач, які не павінен быў верыць чытальніку з-за яго ўзросту, верыў, што ён, менавіта ён, спазнаў кроў і пажарышчы ліхалецця, бачыў агонію байца, які па-руску ірвануў на грудзях кашулю, быў памілаваны варожай куляй і захаваў гонар за горкую зямлю, дзе яму было наканавана нарадзіцца і памерці.

Ён скончыў, усё гэтак жа гледзячы на старога Панкрата, і той, абапёршыся на самаробны кій, прыўзняўся з крэсла, заківаў сівой галавой, а потым запляскаў зношанымі на вайне і на працы сухімі далонямі. Пляскалі і ўсе астатнія, і хоць не з такім захапленнем, як пасля анекдотаў, але дружна, з добрай удзячнасцю.

Коля Дзерыбас нізка пакланіўся, але са сцэны не сышоў. Ён адчуваў нейкі прыліў натхнення, на які не спадзяваўся, яго самаго захапляла лірыка, ён як быццам толькі цяпер успомніў пра сваю місію артыста і прадоўжыў выступленне «Письмом матери» Сяргея Ясеніна.

Ты жива еще, моя старушка?
Жив и я. Привет тебе, привет!
Пусть струится над твоей избушкой
Тот вечерний несказанный свет.

Людзі сядзелі, баючыся паварушыцца, баяліся, што рыпне крэсла, і гэта апаганіць чуйную цішыню залы, у якой чуваць толькі голас і дыханне выканаўцы. Яны суперажывалі паэтычнай споведзі, заміралі ці то ад ціхага суму, ці то ад трапяткой мілагучнасці паэтычнага складу, якая ажно звінела, калі здавалася, што ў артыста вось-вось ад слёз перахопіць горла і яго плечы здрыгануцца ад плачу, у якім і каханне, і жаль, і просьба прабачыць.

Нават дзеці ў першым радзе не лузгалі семкі, не пераглядаліся і не штурхаліся — пацішэлі...

…Не такой уж горький я пропойца,
Чтоб, тебя не видя, умереть... —

чытаў Коля Дзерыбас і цяпер сапраўды ўспамінаў сваю старую маці.

Дагэтуль яна жыла ў драўляным бараку рабочага пасёлка каля вялікага горада. Жыла асірацела і бедна, даўно пахаваўшы мужа, якога раздушыла на заводзе штамповачным прэсам. Яна даўно адпусціла з гнязда адзінага сына, які наведваў яе з кожным годам усё радзей і радзей і амаль перастаў пасылаць ёй вестачкі.

Так забудь же про свою тревогу,
Не грусти так шибко обо мне.
Не ходи так часто на дорогу
В старомодном ветхом шушуне… —

ціха скончыў Коля Дзерыбас і спыніў пагляд на Сцяпанаўне, якая чымсьці нагадала яму маці.

Зала ўздыхнула, запляскала, а Сцяпанаўна выцерла ражком хусткі пад вачамі маршчыны, вільготныя ад слёз. Ды і ў самога выканаўцы неяк ужо занадта блішчэлі вочы...

— Ну, бацечка, ты герой! — нягучна пахваліў Васіль расчуленага Колю Дзерыбаса, змяняючы яго на сцэне.

Якаў Спірыдзёнак таксама, ухвальваючы, скасіў вочы на чытальніка, хітра падумаў: «Прабежка яму на карысць выйшла...»

У грымёрнай да Колі Дзерыбаса радасна падскочыла Сіма:

— Гэта цуд, Коленька! Я думала, нам жывымі адгэтуль не выйсці. Ты іх проста зачараваў!

— Глупства. Выступленне слабенькае, — панура адазваўся ён на камплімент і прайшоў у кут грымёрнай — саромеўся паказаць Сіме свой твар.

Некаторы час яны не размаўлялі, хоць Сіма з захапленнем не зводзіла вачэй з доўгай спіны Калі Дзерыбаса.

— Ты ведаеш, Сіма, шчыра кажучы, я даўно так не чытаў, — ціха прызнаўся ён і парушыў маўчанне. — Бывала, гоніш на канцэртах фуфло, пошленькія жарты — і сыдзе. А тут накаціла... Відаць, не ўсё я яшчэ прапіў.

— Ды што ты, Коленька! Ты ў нас вялізарны талент! — лагодна адазвалася Сіма.

— Відаць, не ўсё... — нягучна, абрываючы фразу, паўтарыў Коля Дзерыбас і надоўга змоўк, бессэнсоўна ўтаропіўся ў кут, дзе ляжалі скалечаныя балалайкі і баяны, растрыбушаныя магнітолы і іншы клубны хлам, які звалілі сюды, як непатрэбны.

А ў зале тым часам грымеў густы, прыгожы барытон Васіля, і публіка ўяўляла, як яна ўсцешна і вольна «каціла» ў народнай песні ўздоўж па шырокай Піцерскай.

Эх, поцелуй меня!
Ну поцелуй же меня,
Кума-душечка!..
Да покрепче!!! —

патрабаваў спявак напрыканцы, і зала ажывілася, заварушыліся жанчыны — у кагосьці аж марозік па целе прабег: ужо вельмі адпавядаў спявак гэтым словам, — такі абдыме, дык костачкі затрашчаць, а калі моцна пацалуе, дык галаву страціш, як піць даць...

За «Піцерскую» пляскалі яму прагна, са шчодрым авансам на будучыню, — апладзіравалі і трохі саромеліся, што асвісталі за першы яго выхад, які так нечаканана для ўсіх сарваўся.

Зараз зала не здавалася Васілю зацемнена-адналікай, як раней: кожны глядач неяк выясніўся, азначыўся, быццам навокал пасвятлела ад усцешных жаночых усмешак.

— Куплеты на музыку Хрэннікава!— не чакаючы пакуль з’явіцца канферансье, абвясціў Васіль і расшпіліў пінжак — будзе спяваць, цесным стане.

Жил-был Анри Четвертый,
Он славный был король,
Любил вино до черта,
Но трезв бывал порой, —

з гарэзлівай лісліваcцю заспяваў ён пад бездакорны акампанемент Якава Спірыдзёнка, вусны якога таксама рассунуліся ў кплівай паўусмешцы.

Песню народ памятаў па вядомай кінакамедыі «Гусарская балада», з першых жа слоў запаланіла, а ад забаўных важкіх гукаў прыпеву: «Лена-Лена, бом-бом!» — зрабілася неяк п’яна-весела.

Однажды Смерть-старуха
Пришла к нему с клюкой,
Ее ударил в ухо
Он рыцарской рукой!

Дзеці слухалі пра тое, што камусьці «пляснулі» па вуху, з вялікай асалодай, на іх адкрытых тварыках, як ліхтарыкі, успыхвалі ўсмешкі. Але песня працягвалася, і лёс вёў забіяку і валацугу Анры Чацвёртага да жаласнага канца. Каварная Смерць падпільнавала яго за вуглом, распачала панажоўшчыну, і зала зажурылася, спагадваючы няшчаснаму пестуну-каралю.

От этого удара
Кровь брызнула из жил,
И несчастливец старый
Скончался, как ни жил…

Зараз голас спевака гучаў з пахавальнай прыглушанасцю, марудлівасцю і смуткам:

Ле-на-Лена. Бо-ом-бом!
Ле-на-Лена. Бо-ом-бом!

Далей голас пачынаў гучаць хутчэй і ўсё мацней і мацней, запаўняў не толькі прастору залы, але і ўсе клубныя закуткі, і ўцягваў гледача ў нейкую прыемную збянтэжанасць.

Лена-Лена. Бом-бом!
Лена-Лена. Бом-бом!

І вось ужо магутныя гукі, як удары малатабойца, скаланалі паветра, і, здавалася, ад гэтых аглушальных «бомаў» захістаюцца сцены, і ўсё збудаванне фантастычна-бяспечна раскоціцца па бярвенцах, разляціцца па дошчачках, і дзеці ўзрадуюцца такому відовішчу...

Клуб, аднак, ацалеў, а дзеці і без такога крушэння будынка павісквалі ад радасці і пляскалі ў далонькі.

— Брава! — трохі крыўляючыся, але не без шчырасці закрычаў Міцька, па мянушцы Дубаталок.

Яго вокліч падхапіла ўся маладзежная галёрка, пачуліся хвалебныя галасы ў іншых канцах залы.

Да таго часу зала ўжо была поўнай, тыя, хто спазніўся, прытуліліся ў кутах, прыстроіліся ў праходах. Нават тыя, хто спачатку не збіраўся ісці ў клуб, каб паглядзець на артыстаў, пакідалі хатнія справы і прыйшлі на канцэрт, быццам пачулі, што сягоння тут вялікае духоўнае баляванне.

Васіль нахіліўся да Якава Спірыдзёнка, шапнуў яму ў чырвонае адтапыранае вуха:

— Мае любімыя, бацечка.

Якаў Спірыдзёнак кіўнуў галавой і далікатна ўзяў першыя ноты старадаўняга раманса.

Менавіта ў старадаўніх рускіх рамансах раскрывалася багацце і абаяльнасць Васілёвага голасу. Мілагучны дыяпазон яго абмалёўваўся выразна: ад нізкіх, тужліва-нягучных нот да меладычна-звонкіх, якія бяруць за жывое слухачоў. Спяваў ён самапаглыблена і пяшчотна, і ў кожным рамансе: няхай гэта быў «Утро туманное» ці «Только раз», выяўлялася душа рускай музыкі і паэзіі, дзе каханне і расстанне, вечнасць і тлен, безнадзейнасць і нязгаснае святло.

Цыкл рамансаў Васіль звычайна завяршаў самым жаданым, без якога і не ўяўляў музычнай класікі.

Гори, гори, моя звезда.
Звезда любви приветная.
Ты у меня одна заветная,
Другой не будет никогда.

Ты у меня одна заветная,
Другой не будет никогда.

Публіка слухала з затоенай журбой, адчуваючы ўсю тленнасць і хуткаплыннасць чалавечага жыцця, і ў супрацьлегласць гэтаму — непахіснасць і загадкавасць чароўнага святла абранай зоркі.

І зноў зала напаўнялася апладысментамі, а мацней за усіх пляскалі ў ладкі ў тых радах, дзе сядзелі сентыментальныя жанчыны.

— Дзякуй, душачкі! — мовіў Васіль, раскланьваючыся на авансцэне. Потым прыклаў да вуснаў рукі і адправіў усім душачкам паветраныя пацалункі. У жанчын шчасліва заззялі вочы.

— Голас цудоўны, — сказаў жонцы гарбаты Грыня.

— Ды і сам жа мужык прыгожы, — дадала яна.

— Жывот крыху вялікаваты.

— Ну і хай вялікаваты! — заступілася за спевака Дуня. — Лепш вялікі жывот, чым маленькі горб.

Грыня ад такіх слоў спахмурнеў, але пляскаць у ладкі не перастаў.

Дзякаваў публіцы і Якаў Спірыдзёнак, некалькі разоў схіляў галаву, як быццам пераконваў гледача, што лысіна ў яго вельмі круглая і чыстая і пры святле мае ўласцівасць пабліскваць.

— А зараз, дарагія сябры, — сказаў Коля Дзерыбас, калі пачалі заціхаць воплескі — я маю гонар перадаць эстафету канцэрта самай цудоўнай, непараўнальнай і непераўзыдзенай...

Федзька-шафёр ад такіх слоў схамянуўся, натапырыў вушы: «Пра каго гэта ён? Няўжо пра курыцу? Вось лепіць! Якое ён у яе хараство выгледзеў?»

Але калі «курыца» з'явілася з-за куліс, у Федзькі ад нечаканасці сціснула грудзі, ніжняя сківіца адвісла — акругліўся рот.

У белым атласным цыліндры, у доўгай, колеру лілеі, сукенцы, якая блішчэла срэбранай наміткай і пацеркамі, на сцэну лёгка і элегантна выйшла ўсмешлівая артыстка з маленькім куфэркам хахламской работы. Далікатна-ружовы грым надаваў яе твару лялечную чысціню і свежасць і прыглушваў дробныя надрэзы маршчын; вочы бірузова свяціліся, а чорны лясок веек разгледзеў бы нават паўсляпы... Тоненькія і высокія абцасікі белых чаравікаў і арыстакратычны капялюш рабілі яе вяршкоў на пяць вышэйшай за тую, якую Федзька вёз у аўтобусе. «Падмянілі», — дурнотна мільгнула ў Федзькавай галаве, але неўзабаве ён усміхнуўся сваёй недарэчнай думачцы, шырока адкрыўшы вочы, стаў сачыць за «курыцай», якая так нечакана перарадзілася.

Спачатку Сіма паказала публіцы пустое нутро куфэрка, а праз імгненне выцягнула адтуль пярэстыя шаўковыя стужкі; потым звязала іх моцнымі вузламі, але варта ёй толькі было страсянуць іх, як яны адразу ж распаліся; затым з чароўнай скарбніцы з'явілася клятчастая хустка, якую яна нажніцамі разрэзала на дзве роўныя часткі, але хустка засталася цэлай; потым у яе руках замільгацелі ігральныя карты: яны то рассоўваліся роўным веерам, то кулямётнай чаргой пераляталі з адной рукі ў другую, то стараннаператасоўваліся, і ўсё адно наверсе апынаўся бубновы туз; і, нарэшце, усе прадэманстраваныя прадметы зноў адышлі ў куфэрак і ў адно імгненне зніклі, нібы выпарыліся.

Публіка, здзіўленая тым, як незвычайна апранута артыстка, яшчэ больш была ашаломлена яе маніпуляцыямі і намагалася разгадаць: адкуль што бярэцца, куды што знікае? Але нічога не разумела і суцешылася ўласнымі апладысментамі. І ўсё-ткі самае неверагоднае ў выступленні было наперадзе! Пакінуўшы куфэрк, Сіма сышла ў залу, плаўна паплыла паміж радамі, адурманьваючы гледача пахам духоў і нейкім загадкавым выпраменьваннем. Дзеці глядзелі на яе, як на жывую фею.

— Сябры мае! У каго знойдуцца папяровыя грошыкі? — гучна спытала Сіма ў залы, аглядаючы яе. — Хто адважны?

Федзька вельмі расхваляваўся: грошы ў яго ў кішэнях былі не тыя, што патрэбны: дробязь ды мурзаты скамечаны паўрубель, які падаваць такой асобе недаравальна. На заклік адгукнуўся гарбаты Грыня.

— Ёсць! — ён ускочыў, выцягнуў са штаноў, з пістончыка «тысячу», прыхаваную да свята.

— На адну хвіліначку, — Сіма ўхапіла пальчыкамі купюру, падняла над галавой, паказваючы гледачам.

— Тысяча!

— Бачна!

— Сіненькая! — пачалі ўскрыкваць з месцаў.

— Агеньчык у зале ёсць?

Артыстцы адразу ж працягнулі карабок запалак. Па-ранейшаму ўсміхаючыся Сіма чыркнула запалкай, і востранькі агеньчык весела калыхнуўся ў вачах тых, хто сядзеў бліжэй да яе. Яна паднесла купюру да полымя, і пад усеагульнае здранцвенне залы сіненькая паперка спярша неахвотна, а затым імгненна занялася полымем. Грыня акамянеў, сэрца яго білася дзесьці пад горлам. Спалоханая жонка Дуня прыкрыла далонькай рот.

Купюра за некалькі секунд згарэла без астатку, лёгкім попельным камячком пырхнула на падлогу. У зале панавала цішыня, як у акварыуме. Сіма з паднятай рукой стаяла нерухома, нібы хацела даведацца, на колькі хопіць цярпення ў публікі.

Нарэшце цішыня была парушана: ў апошнім радзе заіржаў Міцька, па мянушцы Дубаталок. Сёй-той падхапіў яго рогат, а сёй-той яшчэ больш прыціх. Грыня плаксіва шамкаў вуснамі, не ведаў, як выпатрабаваць свае прыхаваныя грошы. «Вось дык пустароты! — ціха забожкала Дуня. — Тысячу дарэмна аддаў...»

— Усе бачылі? — гучна спытала Сіма.

— А як жа!

— Капут тысячонцы!

— Тыдзень працы сабаку пад хвост.

— У святы, Грыня, на бабах сядзі! — выказаўся Міцька, па мянушцы Дубаталок.

— Навошта ж яму на бабах сядзець? — запярэчыла Сіма і накіравалася да апошняга рада. — Мы такую ж тысячу ў вас возьмем! — Яна рашуча і імгненна сунула сваю гарэзлівую руку за пазуху Міцьку, па мянушцы Дубаталок, і выцягнула з яго пінжака «новенькую» тысячу.

Па зале рассыпаліся апладысменты. Сэрца ў гарбатага Грыні вярнулася на ранейшае месца, а Міцька, па мянушцы Дубаталок, зусім разгубіўся. «Можа, сапраўды маю тысячонку сцягнулі?» — думаў ён, тысяча ў яго была ў наяўнасці, назіраючы, як купюра, паднятая над цыліндрам артысткі, сплывае да першага гаспадара.

Задаволены фокусніцай і сабой, Грыня ўсеўся на месца, але жонка балюча пхнула яго локцем пад рэбры:

— Табе, разяваку, мабыць, фальшывыя грошы сунулі?

— Ды не, тыя самыя, — адказваў ён, але падазрэнне, што падробка гэта, запала ў сэрца.

Старшыня калгаса даўно дараваў артыстам тыя недарэчнасці, якія яны дапусцілі ў пачатку, хутка загадаў Федзьку:

— Мухай ляці да Худзяковай! Літру гарэлкі бяры і закусіць. Няхай запіша на рахунак праўлення.

— Адразу б так, — усміхнуўся Федзька.

— Ляці! Не, стой! — ухапіў яго за ватоўку Мікіта Сяргеевіч. — У цяплі-цы, у куце, кветкі выраслі. Белыя такія...

— А-а, вось тыя, якія завуцца, як гной?

— Сам ты гной. Калы! Штук пяць самых лепшых выберы.

— Можа, шэсць?

— Дурань! Не на магілу ж. Ляці!

Федзька жвава прашмыгнуў да дзвярэй, выскачыў з клуба, на ганку засмяяўся:

— Вось дык курыца! Такая баба як бачыш абчысціць! Цыркачка! — ён страсянуў кучаравымі валасамі і з нейкай сляпой радасцю панёсся ў краму да Худзяковай.

Якаў Спірыдзёнак, ледзь адсунуўшы ад сцяны заслону, раўніва пазіраў на публіку, якая апладзіравала Сіме. «Расхлопаліся ёй, — незадаволена думаў ён. — А я як аплёваны...» У гэтыя хвіліны ў ім закіпала творчая рызыка. Ён падышоў да Колі Дзерыбаса, дзёрзка папярэдзіў:

— Крэсла мне на сярэдзінку пастаў! Зараз мая чарга!

— Ты ім што-небудзь народнае закаці.

— Без цябе ведаю! — агрызнуўся Якаў Спірыдзёнак.

Што іграць сельскаму гледачу, ён ведаў не горш чым канферансье. Ды і як не ведаць, калі сам Якаў Спірыдзёнак каранямі глыбока ўрастаў у сялянства. Бацька яго, Іван Якаўлевіч, і бацькаў бацька Якаў Іванавіч, — выхадцы са старажытнага сяла Спірыдзёнкі. Маленькі Яша і сам прыязджаў у гэтую вёску на вакацыі, гасцяваў у бабулькі. Яшчэ ў дзяцінстве пазнаў ён, да якіх матываў ды песень цягнецца просты рускі чалавек, калі ў яго ў душы яснае сонейка ці шэрая непагадзь. І той народ, што сядзеў зараз у клубе, быў яму зразумелы і блізкі, — блізкі не па родзе службы, не па месцы жыхарства, а па сутнасці, па гістарычнай спадчыне.

Злёгку адкінуўшы назад галаву і прыжмурыўшы вочы, Якаў Спірыдзёнак няспешна павёў матыў старадаўняй песні, і чыстыя павольныя гукі баяна перанеслі гледача ў глухія бяскрайнія стэпы, дзе прамовіў апошняе слова фурман; але праз некаторы час скруха па няшчасным змянілася ўцехай слаўнага моладца, якога чакае ў смутку раўнівая прыгажуня жонка, а крыху пазней слухач адчуваў у сабе запал заліхвацкага каробачніка, якому выгадна таргавацца з чарнавокай каханай; аднак і гэты напеў неўзаметку перацякаў у іншы, і публіка то пранікалася разбойніцкай рамантыкай у вострагрудых чаўнах атамана Сценькі, то са светлым смуткам услухоўвалася ў шчырыя прызнанні тонкай рабіны, то раптам накіроўвалася на вясковую гулянку з зухам-купцом, які ехаў на кірмаш, румяным і кучаравым, у чырвонай кашулі.

— Яшка сёння ў жылу патрапіў. Бач, як наразае! — падглядваючы за ім з грымёрнай, сказаў Коля Дзерыбас.

— Так, бацечка, іграе вытанчаная, — пагадзіўся Васіль.

— Ён, хлопчыкі, пэўна, у Парыжы так не іграў, — пажартавала Сіма.

На конкурсе ў Парыжы Якаў Спірыдзёнак і сапраўды іграў інакш і зусім

не гэта. Там, у фешэнэбельнай зале, перад кампазітарамі, мэтрамі і спрактыкаванымі снобамі ён фарсіў узорнай тэхнікай і вычварнай імправізацыяй, а тут, у цесным калгасным клубе, захапляў сельскі народ душэўнасцю, самабытнасцю і геніяльнай прастатой гармоній. Выконваў ён іх асцярожна, без выкрутасаў, але па-майстэрску найграваў фрагменты — пальцы з басістых галасоў ляцелі ўніз па клавіятуры, туды, дзе галасы высокія, звонкія, і дзе ў іх чуецца плач. Слухач млеў у стыхіі роднай цёплай музыкі і неяк адчужана назіраў за лысым мажным мужчынам з баянам з чужой краіны, быццам музыка лілася не толькі з яго, а з усіх бакоў.

Нумар скончыўся. Якаў Спірыдзёнак узняўся з крэсла, нізка пакланіўся. Гледачы зноў убачылі гладкую акругленасць яго галавы. «Не бяда: лысіна — не горб», — падумала Дуня і пакрывілася на мужа — у Грыні валасы на галаве былі пруткія і густыя, як на конскім карку.

Зараз публіка добра ведала, хто з артыстаў на што здатны, і з павагай ставілася да кожнага.

Але час было заканчваць канцэрт, дзве лямпы, што гарэлі над сцэнай, павінны былі згаснуць і вярнуць вяскоўцаў да будзённага жыцця.

Пад самы канец канцэрта ў клуб прымчаўся Федзька з гасцінцамі і белымі кветкамі, якія абгарнуў «для культурнасці» шаматкім пакетам з-пад пернікаў. Артысты апошні раз выйшлі на паклон, і Мікіта Сяргеевіч ад імя светлашляхаўскіх сялян пажадаў ім «творчых здзяйсненняў», а Сіме паднёс кветкі і вельмі прыемна ўсміхнуўся.

Гледачы, апладзіруючы, падняліся з месцаў, шчыльна акружылі сцэну.

— Вось ужо дзякуй дык дзякуй вам!

— Па восені прыязджайце, да ўраджаю!

— Мы гэтакіх яшчэ не бачылі!

Каб сустрэча мела мілую завяршальную рыску, артысты спусціліся ў залу да ўдзячнага народа. Сіму тут жа абляпілі дзеці, выпытвалі пра картачныя фокусы, зайздросна глядзелі на яе цыліндр. Але Міцька, па мянушцы Дубаталок, рукамі разгроб дзятву, працягнуў артыстцы запісную кніжку і ручку:

— Ваш аўтограф жадаю!

Сіма хуткай рукой накідала: «На добрую памяць пра наша знаёмства!» — і падмалявала вусны. Міцька, па мянушцы Дубаталок, закруціў ад задавальнення галавой і ад пачуццяў, што перапаўнялі яго, уляпіў аднаму з хлапчукоў па карку.

Мясцовыя гарманісты і старыя-частушачніцы размаўлялі з Якавам Спірыдзёнкам, цікавіліся, дзе ён так вывучыўся іграць і колькі каштуе яго баян. Якаў Спірыдзёнак на пытанні адказваў сцісла, але ласкава. Ветэран Панкрат, пастукваючы драўлянай нагой, таптаўся побач з Колем Дзерыбасам, паціскаў яму руку; пералічваў франты Айчыннай.

А Васіля абступілі пераважна жанчыны. Папраўляючы хусткі, крыху бянтэжачыся за сваю не вельмі акуратную вопратку і гумовы абутак, яны ўлюбёна глядзелі на спевака і не столькі хацелі пра што-небудзь даведацца, колькі пабыць побач з ім, каб потым — употай ад сваіх мужыкоў-неартыстаў — пазайздросціць яго шчаслівай жонцы... Васіль безуважліва ўсміхаўся, гутарку вёў цёплую, але сэрца ў яго злёгеньку ныла ад нязбытнай мары знайсці сярод тутэйшых маладух сваю пастушку, якая верна будзе кахаць да труннай дошкі.

Калі зала апусцела, артысты вярнуліся ў грымёрную і крыху сумеліся: Мікіта Сяргеевіч і Федзька вымалі з кошыка Худзяковай пачастунак, у якім было дзве бутэлькі гарэлкі, а Сцяпанаўна пачала ўжо наразаць кавалкі кумпяка.

— Ваша выступленне адзначыць, — паведаміў Мікіта Сяргеевіч.

— Усё чын-чынаром, — падтакнуў Федзька.

Аднак цяпер адзначаць выступленне артысты не збіраліся, нават Якаў Спірыдзёнак выказваў абыякавасць да ежы. Быў бы канцэрт проста добры, яны, мабыць, дружна навалiліся б на ежу і пітво, але зараз, калі ўсё выйшла так нечакана цудоўна, да гэтага іх не цягнула. Не хацелася ў застольным пустаслоўі растрачваць уражанне ад цяперашняга канцэрта, не хацелася ў прысутнасці старшыні, Федзькі і бабулькі Сцяпанаўны станавіцца з артыстаў зноў звычайнымі прыземленымі людзьмі.

Зоркае вока старшыні западозрыла штосьці няладнае: артысты муляцца, маўчаць, на стол глядзяць скоса. «Можа, гарэлку не п’юць?» — захваляваўся ён і звярнуў увагу на нос чытальніка, які за вечар прыкметна страціў рубінавае адценне.

— Што ж вы, прысаджвайцеся! — сказаў ён, ніякавата жэстыкулюючы рукамі.

Наперад выступіў Коля Дзерыбас, расплывіста намякнуў:

— Нам бы адтэрміноўку. Адразу з балю на карабель — кайф не той...

— Тады ў дарогу вазьміце, — прапанаваў старшыня — і вельмі дагадзіў ім.

— Не крыўдуйце, бацечка, Мікіта Сяргеевіч, нам у дарозе ямчэй, — сказаў Васіль.

Федзька пастараўся, каб закуска і гарэлка перавандравалі са стала ў жоўты сакваяж Колі Дзерыбаса.

— Не пагасцявалі ў нас — шкада, — засмуцілася Сцяпанаўна. — Якое вы нам свята наладзілі!

Сіма падышла да бабулькі, мякка абняла яе за плечы.

— Гэта вы нам свята наладзілі. Праўда, хлопчыкі?

Якаў Спірыдзёнак у знак згоды крэкнуў, Васіль пацвердзіў:

— Так, душачка, задавальненне ўзаемнае.

Неўзабаве артысты засталіся ў грымёрцы адны. Усе маўчалі. Цішыня берагла энергію радасці, не давала ёй развеяцца ў гутарках. Сённяшні канцэрт не прынёс ім ні славы, ні прыбаўкі да нізкіх філарманічных ставак, але ўнёс у душу пачуццё нейкай своеасаблівай спрычыненасці да нечага вялікага, і ўсе баяліся спалохаць гэтае пачуццё...

Надышоў час пераапранацца, збірацца ў дарогу. Але Сіма не спяшалася змяняць канцэртную сукенку, Васіль не сцягваў з ног лакіраваныя чаравікі. Якаў Спірыдзёнак марудзіў зачахляць баян, а Коля Дзерыбас трымаў у руках берэт, і не рашаўся нацягнуць яго на галаву са звычайным перакосам на правае вуха.

## 4

Вечар быў халаднаваты, ціхі; імглістa сінеў небасхіл, абарваны цёмным лясістым краем зямлі. У хатах свяціліся вокны, кідалі размытыя водбліскі на дарогу, што прыводзіла ў калгас «Светлы шлях» і выводзіла з яго.

Развітаўшыся з гаспадыняй клуба і старшынёй, артысты зайшлі ў аўтобус, кожны размясціўся на асобным сядзенні; цішыня з грымёрнай перанеслася і сюды. Федзька плаўна пусціў машыну, у светлым конусе фар свінцовай роўняддзю бліснулі лужыны. Чарада асветленых вокнаў плыла насустрач, пачала змяншацца — наперадзе распасціраўся змрок блізкіх палёў.

Васіль з сумам паглядаў на вёску, у якой дзесьці заставалася яго надзея на шчаслівую пастараль. Коля Дзерыбас машынальна адкрываў і закрываў зашчапку саквояжа, што пацяжэў ад пачастунку, пакладзенага ў яго, аб нечым ціха ўздыхаў. Якаў Спірыдзёнак употай паглядваў на Сіму, якая трымала кветкі і часта схіляла да іх галаву.

Калідор з вясковых хат скончыўся, аўтобус, віхляючы між выбоін і папіскваючы тармазамі, пакаціўся пад пагорак. Хутка ён параўняўся з рэдкім лесам, у якім размяшчаліся могілкі. Маўчалі, у салоне да гэтага часу стала неяк паныла. Коля Дзерыбас ціскаў нос, той пачырванеў і нецярпліва крыкнуў:

— Стой, Фёдар! Прыехалі!

Федзька тут жа націснуў на тармазную педаль, і ўсіх матлянула наперад.

— Здарылася што?

— На такіх калдобінах не вып'еш, — растлумачыў Коля Дзерыбас і расчыніў сківіцы саквояжа.

Прапанову павячэраць з гарэлкай падтрымалі ўсе. Па традыцыі стол замяніў Васілёў «дыпламат», у якім у капроне ляжалі лакіраваныя чаравікі. Сіма занялася сервіроўкай. Якаў Спірыдзёнак пачаў прынюхвацца.

— Колечка, што тут у нас? Ах, рыбка вэнджаная, слаўненька... Яшачка, дружок, слоічак адкрый... асцярожненька, пальчыкі.. Хлябок, хлопчыкі, маселкам памазаць?.. Васечка, табе патаўсцей?

Коля Дзерыбас працёр кавалкам абгортачнай паперы сваю даўгавечную шклянку, крыкнуў шафёру:

— Да нас прычальвай, Фёдар!

— Дык жа я за рулём!

— Кінь, даішнікі ў лясах не водзяцца.

Федзька засмяяўся, хуценька перабраўся ў салон.

— Васечка, вяндлінкі яшчэ нарэзаць? — спытала Сіма.

— Так, душачка, нарэж.

— Калі ласка, усю парэж, каб не зацвярдзела, — прадбачліва дадаў Якаў.

Федзька радасна лыпаў вачыма, ганарыўся, што трапіў у кампанію такіх прыветлівых шаноўных людзей. Шкада, што яны не засталіся начаваць, вось бы пагулялі...

Коля Дзерыбас пачаў падаваць сутрапезнікам гарэлку. У першую чаргу — Сіме.

— Ой, хлопчыкі, я такая п'яная стану, — нараспеў сказала яна.

— Сягоння, душачка, можна і п'янай пабыць, — прыязна падбадзёрыў Васіль.

Сіма двума пальчыкамі ўзяла шклянку, прыўзняла яе, мабыць, збіралася прамовіць урачысты экспромт.

— Ну, хлопчыкі! — мовіла яна і змоўкла.

Тое, што яна зараз адчувае, усе разумелі і без тоста, ківалі галовамі. Сіма выпіла паўшклянкі, і маршчынкі на яе твары паглыбіліся, вочы прыжмурыліся. «Працяло ў гэты раз», — заўважыў сам сабе Якаў Спірыдзёнак, прасачыўшы за ілюзіяністкай. Федзьку налілі паўнюткую шклянку... «Эх, як вярнуся, унюхае старшыня!» — баязліва сцяміў ён, але адмаўляцца не стаў — выпіў да донца.

— Паеш, Федзечка. Вось цыбулька зялёная, пах збівае, — клапацілася аб ім Сіма. Федзька ўсцешана ўсміхаўся, крыху шкадаваў, што сядзіць за сталом не прычэсаны, а закуску браў так, каб Сіма не ўбачыла чорныя дужкі бруду пад яго пазногцямі.

— Будзеш? — спытаў Коля Дзерыбас лаўрэата парыжскага конкурсу. Той перастаў жаваць, адмоўна матлянуў лысінай.

— А дарэмна!

— Але, бацечка, часам зелле незаменнае, — сказаў Васіль.

Яны з Колем Дзерыбасам выпілі па поўнай шклянцы. Няспешна завязалася пуставатая гаворка, калі любы прадмет і з’ява: надвор’е, пейзаж ці салёны агурок, — выклікае непераборлівы абмен думкамі. Пра канцэрт ніхто не абмовіўся ні словам, сапраўды ў ім была нейкая святасць, а пра святое, як вядома, кепска памінаць непажадана.

Пачалі і другую бутэльку. Коля Дзерыбас панёс шклянку па крузе, але круг аказаўся вельмі вузкі: выпіў толькі Васіль ды сам разносчык.

— Тое, што застаецца, заўсёды салодкае, у электрычцы прыкончым, — сказаў Коля Дзерыбас, хаваючы недапітую бутэльку гарэлкі ў саквояж, а разам з ёй і закуску, якую Якаў Спірыдзёнак яшчэ не паспеў даесці..

— Дык што, заводзіць? — спытаў Федзька

— Пачакай, бацечка, не гані коней, — сказаў Васіль і, злёгку пахістваючыся, накіраваўся да выхаду.

Следам за ім з аўтобуса выйшлі Коля Дзерыбас і Федзька, — каб перакурыць. Яны зноў загаварылі пра паляводства і прывагі маладняка. А Васіль сышоў з дарогі на раскіслую сцяжынку, якая вяла да аркавых варот могілак.

На могілках панаваў густы змрок — пад шатамі лесу ўжо наступіла ноч. Пахла перапрэлай леташняй лістотай, ігліцай, з груды смецця цягнула кіслай трухлявасцю; каля дрэў адчуваўся тонкі саладжавы дух набраклых пупышак. Цішыня стаяла асаблівая, нейкая безабаронная і чуйная, здавалася, яна палахліва ўспрымала любы гук: трэск галінкі, шоргат шышкі, што сарвалася з дрэва, хлюпанне гразі пад нагамі позняга наведвальніка.

Васіль не спяшаючыся ішоў паміж грудкамі магіл, узіраўся ў фатаграфіі і таблічкі на надмагільных плітах і крыжах, неўсвядомлена прачытваў імёны нябожчыкаў. «Гэта ж столькі людзей, бацечка, памерла! — сумна разважаў ён, звяртаючыся да вечнай таямніцы чалавечага жыцця і смерці. — Жылі і памерлі... Як яны жылі? Для чаго? Якімі былі людзьмі? — І ён спрабаваў уявіць тых, каго навечна паклалі на могілкі нагамі да ўсходу, паставіўшы на магілках крыжы і пірамідкі ці каб ушанаваць памяць пра іх, ці то ў павучанне. — Так, бацечка, так. І я памру... Навошта жыў? Каму быў патрэбен? У чым шчасце?..» Ад гэтага роздуму яму стала вельмі самотна і сумна. У такія хвіліны паэты складаюць элегіі, а ў душы Васіля абудзілася сумная мелодыя старога рамanса. З кожным крокам яна гучала ўсё выразней, заклікала да нейкага тужлівага пачуцця, ды так, што захацелася адказаць на гэту мелодыю голасам, але заспяваць на могілках было б святатацтвам.

Раптам Васіль спыніўся, агледзіўся: ці не заблудзіўся? Пакуль яшчэ не. І хоць у пацёмках зайшоў далёка, там, дзе была дарога, віднеўся белы верх аўтобуса, а пад верхам — цьмяна свяціліся вокны.

У аўтобусе па-ранейшаму сядзелі двое: Якаў Спірыдзёнак, з туга набітым страўнікам, і Сіма, саграваючы сваім дыханнем белыя раструбы кветак з аранжавымі тычынкамі. Якаў Спірыдзёнак адчуваў сябе добра пад’еўшым. Але было ў яго і іншае адчуванне сябе — непрыкаяны, адзінокі, і паглядаючы на Сіму, апранутую ў кароткі тоненькі плашчык — яна ад холаду пацёпвала плячамі, спытаў:

— Табе, напэўна, холадна?

— Крышачку, Яшачка.

— Да мяне ідзі. Удваіх цяплей, — запрасіў яе Якаў Спірыдзёнак, расшпільваючы паліто.

Сіма перабралася да яго на сядзенне, прытулілася пад крылом тоўстага шавіёта паліто.

— Я хоць жанчын любіць не ўмею, але пагрэць магу, — прамармытаў Якаў Спірыдзёнак і мацней прысунуў да свайго боку маленькае цела ілюзіяністкі.

Сіма паслухмяна прыняла цяпло, схіліла галаву на плячо свайго апекуна. «Валасы вельмі белыя. Відаць, фарбу доўга ператрымала», — падумаў Якаў Спірыдзёнак, паглядаючы на яе прычоску, і адчуў поўны камфорт.

Праз адчыненыя дзверы ў салон аўтобуса даносіліся прыглушаныя галасы. Гэта Коля Дзерыбас і Федзька размаўлялі пра асабісты сялянскі падворак, закурыўшы яшчэ па адной цыгарэце.

— А ў нас, Фёдар, агарод быў вельмі маленькі. Лапічак зямлі побач з баракам. Маці там часнок вырошчвала. Дробны — на зуб не трапляе.

— Часнок і дробны карысны.

— Гэта дакладна! Мікробы глушыць, — пагадзіўся Коля Дзерыбас і гучна ўздыхнуў: — Эх, Фёдар! Піць мне трэба кінуць! Да зарэзу трэба! — І ён з роспаччу шпурнуў недакурак.

Цяпер перад імі ў пажухлай траве свяцілася маленькае атрутна-чырвонае вочка, а за іх спінамі, на ўзвышшы, каламутна цямнелі жоўтыя вокны вёскі. Некаторыя вокны згасалі, але яшчэ ў большасці хат людзі не спалі…

Бабулька Сцяпанаўна са швабрай у руках стаяла на клубнай сцэне, але не спяшалася пачынаць праціраць падлогу: гэта ж узяць на душу грэх — падлогу мыюць адразу толькі пасля таго, як з памяшкання вынесуць нябожчыка.

А ў праўленні калгаса ў галоўным кабінеце не спаў Мікіта Сяргеевіч. Чакаў Федзьку са справаздачай — як ён даставіў на станцыю філарманічную брыгаду.

Тоўстая Дуня, павячэраўшы капустай, стаяла перад іконай, хрысцілася, згадвала ў малітве артыстаў, прасіла, каб Бог паслаў ім здароўя і поспех, а яе муж, гарбаты Грыня, ужо ў які раз падносіў «тысячу» да лямпачкі, даследаваў вадзяныя знакі, каб пераканацца ў сапраўднасці казначэйскага білета.

Міцька па мянушцы Дубаталок, выдраў з запісной кніжкі лісток з аўтографам, прымацаваў яго да сцяны над ложкам, дзе красаваліся часопісныя выразкі з голымі жанчынамі, і быў вельмі задаволены, што схадзіў на канцэрт.

А кульгавы франтавік Панкрат ціха і бясслёзна плакаў: ён трохі выпіў на памін душ таварышаў, якія загінулі на фронце. Успаміны пра вайну, вершы, пра якую на памяць чытаў заезджы артыст, вярэдзілі яго памяць: вершы былі вельмі праўдзівыя.

У многіх хатах вёскі ўслых і моўчкі ўспаміналі артыстаў, і нямала хто адкрыта і ўпотайкі зайздросціў ім: жыццё ў іх насычанае і ўдачлівае, радасць змяняецца радасцю, усюды пашана, хвала ды букеты кветак, дома ў іх — чаша поўная, і каханнем іх кахаюць узнёслым, высакародным, асабліва таго статнага спевака з такім прыгожым душэўным голасам...

А тым часам каля аркавых варот могілак ляжаў на лаўцы захмялелы, расчулены думамі пра жыццё і смерць спявак і, склаўшы рукі на грудзях, як складаюць нябожчыкам, спяваў сумныя словы старога раманса:

Твоих лучей неясной силою  
Вся жизнь моя озарена.  
Умру ли я — ты над могилою  
Гори, гори, моя звезда!

Яго моцны голас разносіўся ў наваколлі — плыў над полем, дарогай, лунаў у пацямнелым небе, а ў драбналессі могілак яму шэптам адказвала пакорлівае рэха.

***Пераклад з рускай Максіма ПЯТРОВА.***



**Лідзія АНДРЭЕВА**

# МІЖ ЗЯМЛЁЮ І НЕБАМ ЁСЦЬ Я...

* * *

Дождж абмывае зямельчыны грудзі,
Ліжа ласкава мне твар, як шчаня.
З новаю сілай усвядомленасць будзіць,
Што між зямлёю і небам ёсць я.

Хопіць нягодаў, хопіць напасцяў,
Стукнецца сэрца ў закуткі душы,
Думкаю светлай, думкай аб шчасці
Струны зайграюць пявуча ў цішы.

І адгукнецца ёй промнямі неба,
Дол засмяецца вясёлкамі скрозь.
Сокам жывільным насыціцца глеба,
Чыстаю праўдай рамонкавых слёз.

* * *

Скрозь тонкую мгліцу бялеецца гай.
Ружовы прамень лёг на кроны,
І тчэ над зямлёй новы шаль небакрай:
Блакітным змяняецца цёмны.

---

*__Андрэева Лідзія (Мініч Лідзія Андрэеўна)__ нарадзілася 22 студзеня 1940 года ў вёсцы Рэкта Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыла Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1964). Кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт, выкладала ў БДСГА.*

*Член народнага літаратурнага аб'яднання «Роднае слова» ДУК «Горацкі раённы гісторыка-этнаграфічны музей».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Спешу сказать…» (2005), «Жыватворная крыніца» (2007), «Споведзь» (2009), «Мая сям'я ад А да Я» (2010), «На хвалях вечнасці» (2012), «І боль, і мары, і любоў…» (2013), «У сваім краі, як у раі» (2015).*

Як сонейка вып'е да донца расу
І цёплыя блікі пасцеліць —
Пяшчотна руку да ствала паднясу
І чую, як сок там струменіць.

Бярозку маю, як сястру абдыму,
Ласкавы лісток пацалую.
Люблю яе болей за іншых таму:
З ёй светла аб родным сумую.

* * *

Табе жадаю я заўжды,
Каб добры дзень быў, добры вечар —
І на спатканні, і тады,
Калі не здарыцца сустрэчы.

Даруй, што не магу я зноў
Абняць цябе хаця б вачамі.
А зоркі падаюць начамі,
З сабой хаваючы любоў.

І перад тым, як у зямлі
Навечна знікнуць — азірнуцца,
Яшчэ раз сэрцам дакрануцца,
Апошняе шапнуць: вазьмі

На памяць гэты дзіўны вечар,
Цяпло душы як светлы дар.
Бывай! А можа, — да сустрэчы
Ў краіне запаветных мар.

**Леў КОЛАСАЎ**

# АКУПАЦЫЯ

*Леў Леанідавіч Коласаў — вядомы ў нашай краіне і за яе межамі філатэліст. Доўгі час ён узначальваў Беларускі саюз філатэлістаў, сёння з'яўляецца намеснікам старшыні гэтага грамадскага аб'яднання. Чытачы часопісаў «Полымя» і «Нёман» пазнаёміліся са шматлікімі экспанатамі яго калекцыі і калекцый яго сяброў, прысвечаных Беларусі. Так, напрыклад, у часопісе «Полымя» (№ 4, 2015 г.) быў надрукаваны невядомы ліст Якуба Коласа, што захоўваецца ў прыватным зборы ў Германіі.*

*Аднак нашыя рэдакцыйныя размовы з Львом Леанідавічам часта выходзілі за «філатэлістычныя» межы, і мяне заўсёды здзіўляла яго здольнасць разглядзець і апісаць гэты свет, пражытае (якім бы цяжкім яно ні было), падрабязна і дакладна, як экзэмпляр калекцыі. Сёння ў чытачоў «Полымя» ёсць магчымасць пабачыць і гэтую грань асобы Льва Коласава.*

*«Акупацыя» — гэта самабытная дакументальная проза, распавед Льва Леанідавіча пра пачатак вайны і тры гады жыцця на тэрыторыі, захопленай фашыстамі, у маленькім Лунінцы. Сведчанне Льва Коласава набывае асаблівую ўнікальнасць з-за фіксацыі шматлікіх бытавых падрабязнасцей, праз якія праяўляецца час. Гэтыя ж падрабязнасці дазваляюць нам правесці паралелі з уласным жыццём і паспрабаваць зразумець тых простых людзей, мірных жыхароў, якія перажылі вайну. Іх маленькія радасці і вялікія беды… Значэнне той Перамогі, 70-годдзе якой мы святкуем.*

*Звяртае на сябе ўвагу асаблівая манера апавядання, інтанацыя аўтара, у якіх спалучаюцца светапогляд хлопчыка, асэнсаванне гэтага светапогляду ды вопыту дарослым чалавекам, але адначасова і пэўная бясстраснасць даследчыка.*

*Трэба зазначыць, што для сям'і Коласавых гады акупацыі скончыліся не шчаслівым вызваленнем, а вывазам на прымусовыя работы ў Германію, літаральна за некалькі дзён да таго, як у горад увайшла Савецкая Армія. Два гэтыя страшныя перыяды сталі той рысай, якая падзяліла жыццё на «да» і «пасля». Затым былі дзесяцігоддзі маўчання і змагання з графамі бясконцых анкет, якія псавалі жыццё…*

*Да 70-гадовага юбілею Вялікай Перамогі часопіс «Полымя» прапануе чытачам частку ўспамінаў Льва Коласава, прысвечаных перыяду акупацыі Лунінца нямецка-фашысцкімі захопнікамі.*

***Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ***

* * *

Летам 1941 года я закончыў 3-гі клас рускай гарадской НСШ № 1. Уручэнне табеляў аб паспяховасці арганізавалі як вялікае свята: гучалі ўрачыстыя прамовы аб савецкай школе, словы ўдзячнасці партыі і Сталіну за шчаслівае дзяцінства, што мы атрымалі, за новае жыццё ў Заходняй Беларусі; былі кветкі, сцягі, плакаты, аркестр і падарункі (кнігі), канцэрт мастацкай самадзейнасці. Тут жа прадстаўнік райкама КП(б)Б паведаміў, што многія школьнікі на летнія канікулы ўпершыню паедуць адпачываць у піянерскія лагеры.

Дружына ў нашай школе была створана яшчэ ў канцы 1939 года. Арганізацыя яе адбывалася з цяжкасцямі: мясцовыя дзеці не асабліва жадалі ўступаць у піянеры. Не ведалі дакладна, што гэта такое, нечага баяліся. Але сярод нас было многа прыезджых вучняў з Саюза, якія склалі касцяк дружыны. Пастунова пад іх уплывам юныя лунінчане сталі ўступаць у піянеры. Давалі ўрачыстую клятву добра вучыцца, быць адданымі справе партыі, Леніна-Сталіна. Піянерам уручаліся чырвоныя гальштукі і спецыяльныя клямары для іх. На зборах нам расказвалі, што такое піянерскае лета, лагер, паведамлялі пра цімураўцаў, забітага кулакамі Паўліка Марозава, якая сабрала шмат бавоўны і пабывала ў Сталіна, пра Мамлакат, пра сталіцу СССР — Маскву, пра цуд савецкай тэхнікі — метро і г. д.

Пры Польшчы дзеці беднаты і сераднякоў нікуды не выязджалі на летні адпачынак, і навіна пра тое, што школьнікі паедуць у піянерскі лагер, узрушыла дзяцей і іх бацькоў. Да паездкі трэба бало падрыхтаваць добры абутак, бялізну, верхняе адзенне, папкі для гербарыя і шмат іншых дробязей. Упершыню 8—12-гадовыя лунінчане выязджалі некуды на самастойнае жыццё, што выклікала пэўныя турботы дарослых.

Была яшчэ адна падстава для хвалявання. Амаль увесь 1940 год у нас на кватэры жыў старшы лейтэнант Чырвонай Арміі Віктар Яршоў з сям'ёй. Ён быў начытаным, эрудзіраваным камандзірам, у хатняй бібліятэцы меў некалькі чамаданаў кніг. З маім бацькам, які вярнуўся з Польска-германскай вайны, афіцэр вёў частыя і доўгія размовы пра міжнароднае становішча, баі ля возера Хасан, палітыку СССР, падзеі ў Іспаніі, вайну з Фінляндыяй, нямецкую армію і г. д. Потым вайсковая часць, дзе ён служыў, была пераведзена з Лунінца бліжэй да мяжы — у раён Кобрына. Пакідаючы наш горад, кватарант падарыў маім бацькам кнігу М. Астроўскага «Як гартавалася сталь», якая ў той час была настольнай у кожнай савецкай сям'і (захаваўшы кнігу падчас акупацыі, ужо ў 1990-я перадаў яе ў музей Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску). У лютым 1941 года Віктар Яршоў, знаходзячыся ў камандзіроўцы, зайшоў да нас забраць пакінутыя рэчы і паведаміў пра трывожную абстаноўку на савецка-германскай мяжы і яе магчымыя наступствы. Дарэчы, і ў апошні прыезд ён падарыў нам кнігу іспанскага пісьменніка-рэспубліканца Сесара Муньёса Арканады «Рака Тахо» пра падзеі грамадзянскай вайны ў гэтай краіне. Кніга таксама была захавана ў нашай сям'і. Усе гэтыя размовы, чуткі пра вайну, напаўпраўдзівыя звесткі пра нямецкія самалёты над савецкай тэрыторыяй, пра лістоўкі, выяўленне дыверсантаў і г. д. хвалявалі насельніцтва, выклікалі няўпэўненасць у заўтрашнім дні, нават нервовасць. Таму паездка ў піянерскі лагер трывожыла ўсіх бацькоў: дзяцей жа адпраўлялі ў невядомасць.

На лунінецкім пероне нас праводзілі бацькі, настаўнікі, прадстаўнікі партыйных і савецкіх улад, камсамольскіх органаў, чыгуначнае і воінскае начальства (ваенныя ў той час прысутнічалі на ўсіх мерапрыемствах). Былі сцягі, партрэты правадыроў, лозунгі, духавы аркестр, прамовы пра лепшага сябра савецкіх дзяцей — Сталіна… З лунінчан, што ехалі са мной, памятаю некалькі прозвішчаў: сыны магільнікавага вартаўніка браты Канапліцкія, Пыжэвіч, Пажарыцкі з Брадзілаўкі, Гулевіч і Арлоў з Залесся… Піянеры паехалі на адпачынак. Гэта была нядзеля, 15 чэрвеня 1941 года.

Пасажырскі вагон са школьнікамі з горада і раёна (большасць — дзеці чыгуначнікаў) быў накіраваны пад горад Ліда. У Баранавічах да нашага пінскалунінецкага саставу былі далучаны вагоны, у якіх ехалі піянеры з іншых гарадоў Заходняй Беларусі. На станцыі Выгада нас сустрэлі ўсё тыя ж ваенныя і чыгуначныя, партыйныя і савецкія ўлады. Пасля кароткага мітынгу нас павезлі ў піянерскі лагер, які быў адкрыты ці то ў былым маёнтку, ці то ў былой школе ляснічых. Вялікі двухпавярховы будынак пад чырвонай чарапіцай з белымі калонамі быў адведзены пад спальны корпус. Побач узведзена сталовая барачнага тыпу. На нядзелю была прызначана ўрачыстая лінейка — адкрыццё змены. Усе мы рыхтаваліся да гэтай падзеі. Вучыліся маршыраваць пад барабаны каля трыбуны, спяваць піянерскія і рэвалюцыйныя песні, чытаць вершы. Прыехалі госці, бацькі

некаторых піянераў, розныя кіраўнікі. Нішто не прадказвала бяды. Асноўны заезд удзельнікаў адкрыцця піянерскага лагера — аднаго з першых на вызваленай тэрыторыі Заходняй Беларусі — чакаўся раніцай у нядзелю, 22 чэрвеня.

Урачыстасць не адбылася. У тую раніцу з-за невялікага воблачка, навісшага над піянерскім лагерам у Выгадзе, вынырнулі нямецкія бамбардзіроўшчыкі.

З выем падалі бомбы на адпачываючых на пляцоўцы гасцей і дзяцей, загарэлася новая сталовая, была імгненна разбурана трыбуна з партрэтамі і плакатамі. Гарэлі палаткі для гасцей, быў разбураны спальны корпус. Сярод людзей былі забітыя і параненыя.

Праз некалькі хвілін налёт спыніўся, па-ранейшаму свяціла яркае сонца, але ўжо скрозь заслону. Над лагерам стаялі дым і плач. Піянерважатыя, хто застаўся ў жывых, збіралі дзяцей, што разбегліся па лесе, ніхто не ведаў, што адбылося і чаму.

Толькі бліжэй да вечара ў лагер прыехалі машыны і забралі дзяцей ваенных і начальства з навакольных гарадкоў — Наваельні, Гарадзішча, Молчадзі, Слоніма. І толькі тады ўсе пачулі страшнае слова — вайна. Хутка раз’ехаліся госці, забраўшы сваіх дзяцей і дзяцей знаёмых. Ніхто не тушыў сталовую, хлявы. Персанал лагера разбегся. Увесь дзень і вечар чуўся аддалены гул нямецкіх самалётаў. Начавалі ў лесе, непадалёк ад спальнага корпуса, у які баяліся заходзіць. Паўсюль стаяў пах гары.

Раніцай 23 чэрвеня больш старэйшыя піянеры 1-га атрада на чале з піянерважатым накіраваліся пехатой на станцыю Выгада. Малодшыя засталіся ў лагеры. Чакалі дапамогі, машын, нейкіх распараджэнняў. Толькі ў сярэдзіне дня прыехала некалькі палутарак. На іх пасадзілі ўсіх піянераў, пагрузілі крыху харчоў, сабраных у разбітай сталовай, нейкія ўцалелыя рэчы дзяцей і павезлі на станцыю. Дагналі змучаных піянераў 1-га атрада, пасадзілі іх на машыны. Зноў ляталі нямецкія самалёты, але бамбёжкі не было.

На станцыі Выгада доўга чакалі цягніка. Нарэшце падалі некалькі пасажырскіх вагонаў. Пасечаныя кулямі, з выбітымі шыбамі, яны былі запоўненыя паранenымі ваенным і цывільным людам. Размясціліся і мы, дзеці. Адлегласць каля 40 кіламетраў да Баранавіч ехалі доўга. Эшалон абстрэльвалі з кулямётаў, бамбілі. У час вымушаных стаянак піянеры разбягаліся з поезда ў поле, хаваліся ў жыце, хмызняку. Хтосьці згубіўся, хтосьці загінуў. Наша піянерважатая атрымала раненне ў руку. У некаторых месцах уздоўж чыгуначных пуцей стаялі на трыногах спараныя зенітныя кулямёты, але яны не ратавалі ад шматлікіх нямецкіх самалётаў. У Баранавічах начавалі ў нейкай школе, спалі на голай падлозе. Малодшыя дзеці ўвесь час плакалі. Некалькі піянерважатых не маглі справіцца з напалоханымі дзецьмі, якія хацелі есці, хацелі дамоў. Начальнік лагера недзе вёў перамовы пра наш лёс. Казалі, што ранкам некуды паедзем, але ніхто не ведаў куды.

Не памятаю, як усё адбылося, але некалькі лунінецкіх хлопцаў (а мы трымаліся групай) вырашылі бегчы з гэтай школы дамоў. Я не ведаў, як трапіць з Баранавіч у родны горад, таму далучыўся да братоў Канапліцкіх, Пыжэвіча і Пажарыцкага. Сярод белага дня мы збеглі на станцыю. Астатнія лунінчане засталіся ў школе. Пасля вайны высветлілася, што ўсіх піянераў пасадзілі ў эшалон і эвакуіравалі ў дзіцячы дом у Сярэднюю Азію. Частка з іх вярнулася ў Лунінец толькі ў канцы 1940-х. Сярод эшалонаў на станцыі Баранавічы я адстаў ад групы, згубіўся, падлазячы пад вагоны. Уцекачы вярнуліся ў Лунінец, а я застаўся на рэйках, не ведаючы, ні як вярнуцца ў тую школу, ні як ехаць дамоў. Заплакаўшы, залез на тармазную пляцоўку вагона, усеўся там і вырашыў у гэтым укрыцці правесці ноч.

Але мне пашанцавала. У той час мой бацька працаваў на чыгунцы нарадчыкам кандуктарскіх брыгад. Я часта прыходзіў да яго на працу, і мяне ведалі яго саслужыўцы. У той вечар, 24 чэрвеня 1941 года, каля вагона, дзе я схаваўся, выпадкова праходзілі лунінецкія кандуктары. Пачуўшы плач, знайшлі разгубленага хлопчыка. Адзін пазнаў мяне. Гэта быў Багданец, стаханавец, у свой час

мы ўсёй сям'ёй гулялі ў яго на вяселлі (у гады вайны фашысты расстралялі яго як савецкага актывіста). Так я апынуўся ў таварным вагоне, які ішоў у Лунінец. Ноччу быў дома.

Першыя дні вайны запомніліся мне ва ўсіх падрабязнасцях назаўсёды. Бамбардзіроўшчыкі, выбухі, кроў забітых і параненых таварышаў, плач — гэта ўсё немагчыма забыць. Не забыць, якім пакутліва доўгім, цяжкім і страшным быў гэты цёплы, сонечны чэрвеньскі дзень — першы дзень вайны. Такім жа страшным было і вяртанне дамоў.

Гэта была другая вайна ў маім жыцці. Я ўжо праводзіў бацьку на Польсканямецкую ў верасні 1939 года. Помніў, як ішла пагрузка польскіх салдат у эшалон на рампе каля касцёла, як грузілі аўтамабіль, на якім бацька ездзіў па дарогах той вайны, слёзы родных. Потым вяртанне бацькі дамоў з-пад Львова. Але то была нейкая іншая вайна. Быццам ціхая. Зараз жа ўсё адбывалася па-іншаму. Гэта была ўжо і мая вайна…

Нарэшце поезд падышоў да Лунінца. Таварняк спыніўся, не даязджаючы да вакзала. Усе пуці былі забітыя. На платформах стаялі гарматы, трактары, нейкія скрыні, ваеннае абсталяванне. У вагонах знаходзіліся чырвонаармейцы, коні. Некалькі эшалонаў, састаўленых з пасажырскіх і таварных вагонаў, былі запоўнены грамадзянскімі асобамі — жанчынамі, дзецьмі, старымі. Гэта, мабыць, былі сем'і партыйных і савецкіх работнікаў, камандзіраў Чырвонай Арміі, якіх эвакуіравалі ў глыбіню Саюза. Станцыя нагадвала растрывожаны вулей. Нягледзячы на ноч, вакол было шумна, мнагалюдна, паўсюдна гарэлі сінія лямпачкі (светламаскіроўка), усе некуды беглі, нешта неслі, спрачаліся, сварыліся, стаялі групкамі, паўсюдна адчуваліся заклапочанасць, нервознасць, чаканне чагосьці, блытаніна.

Абыходзячы эшалоны, падлазячы пад вагоны, выйшаў да пераезда каля могілак і пайшоў дамоў. Горад не спаў, хаця было каля трох гадзін ночы. На вуліцах шмат людзей. Ваенныя, цывільныя — хто з чамаданамі, хто з якімі сумкамі. Ехалі па вуліцы нейкія фурманкі, ішла група міліцыянераў. Усе спяшаліся. Я таксама спяшаўся, апошнія метры да дома бег.

Дома мяне ўжо не чакалі. Браты Канапліцкія, якія прыехалі ў Лунінец раней, паспелі расказаць і пра лагер, і пра тое, што я ў Баранавічах згубіўся. Сустрэча з бацькамі не абышлася без слёз.

А горад ужо жыў іншым жыццём. Мір скончыўся. Усё змянілася, нават шум вуліц і двароў, што ўжо казаць пра паводзіны ўлад і жыхароў Лунінца, іх адносіны. Захавалася вельмі мала дадзеных, а тым больш успамінаў сведкаў пра першыя дні вайны. Якое становішча было ў горадзе? Куды з'ехалі шмат ваенных і грамадзянскіх асоб? Як паводзілі сябе кіраўніцтва і насельніцтва? Што змаглі вывезці з горада, раёна, якія матэрыяльныя каштоўнасці, запасы? Чаму скончыў жыццё самагубствам тагачасны райваенкам? Чаму сабраныя па мабілізацыі ў Чырвоную Армію лунінчане і жыхары раёна пасля нядоўгага знаходжання каля ваенкамата разышліся па дамах? Ці знойдуцца калі-небудзь адказы на гэтыя пытанні.

Хутка спынілася паступленне ў Лунінец цэнтральных газет (рэспубліканскіх не было ўжо на другі ці трэці дзень вайны), а ў канцы чэрвеня не працавала пошта. Нейкім чынам у горадзе распаўсюдзіліся «Известия» ад 24 чэрвеня 1941 года з перадавіцай «Будзе Гітлеру канец», чыталі і другі артыкул — «Мы фашыстаў разаб'ём…». Металічны голас Левітана перадаваў па радыё, што пачалася вайна. Чорныя вялікія рэпрадуктары віселі на слупах у мнагалюдных месцах яшчэ з 1940 года, але хутка і радыёвузел у горадзе перастаў працаваць.

Першымі пачалі выязджаць з Лунінца тыя, хто прыехаў працаваць у Заходнюю Беларусь з усходніх раёнаў БССР, з усяго СССР пасля падзей 1939 года. Такіх людзей мясцовыя жыхары называлі «ўсходнікамі», іх было шмат. Амаль усе яны паспелі выехаць з горада. Эвакуіраваліся чыгуначнікі, пагрузіўшы ў вагоны ўвесь свой дамашні скарб. Паступова, але тэрмінова выязджалі з сем'ямі работнікі райкамаў партыі і камсамола, райвыканкама, гарсавета, міліцыі, пракуратуры,

НКУС ды іншых арганізацый. Выязджалі радавыя грамадзяне не мясцовага паходжання, некаторыя яўрэйскія сем'і.

Хаця Лунінец і быў акупіраваны толькі на 19-ты дзень вайны, сляды паспешных уцёкаў былі бачныя ўсюды. Акупантам дасталося шмат чаго з абсталявання розных прадпрыемстваў і дакументаў.

У Лунінцы аказалася шмат параненых чырвонаармейцаў. Пастуралі яны з пінскага і баранавіцкага напрамкаў. Іх размяшчалі ў гарадской бальніцы, з якой тэрмінова выпісалі ўсіх грамадзянскіх хворых, і ў казарме. У нейкі момант параненых вырашылі накіраваць у тыл. Быў арганізаваны эшалон для адпраўкі. Раненых пагрузілі ў 5 ці 6 пасажырскіх вагонаў, мабілізаваўшы для суправаджэння лунінецкіх медсясцёр і ўрачоў, таму што ваеннага медперсаналу было мала. Да эшалона былі дабаўлены 2 ці 3 вагоны з нейкім ваенным начальствам, як потым гаварылі ў горадзе — «са штабам». Поезд накіраваўся ў шлях у апошнія дні чэрвеня. На пачатку ліпеня ў Лунінец вярнуліся дзве мясцовыя медсястры, якія расказалі, што пад Гомелем эшалон быў знішчаны нямецкім дэсантам. Гэтай інфармацыяй, а дакладней, інфарматаркамі зацікавілася міліцыя і НКУС. Папярэджаныя медсёстры спрабавалі схавацца, але адну з іх затрымалі. Быў хуткі суд. Вядомую ў горадзе акушэрку Іргуціс прыгаварылі да расстрэлу, абвінаваціўшы ў дэзерцірстве і тым, што яна пакінула параненых байцоў. Дарэчы, гэты факт у гады акупацыі быў выкарыстаны гітлераўскай прапагандай. На магіле медсястры Іргуціс на каталіцкіх могілках акупанты прымацавалі шыльдачку з надпісам, што тут пахаваная «замордованная большевиками безвинная жертва». Па недаглядзе мясцовых улад яна вісела на крыжы да 1949 года.

У пачатку ліпеня ў Лунінцы практычна не працавалі савецкія ўстановы — служачыя разбегліся. Нейкія канторы былі наогул расчынены, з іншых сарваны замкі. Хтосьці пабываў у памяшканні, нешта шукаў, нешта забраў. Паўсюдна былі раскіданыя паперы, папкі з нікому ўжо не патрэбнымі дакументамі. У чырвоных кутках стаялі ці віселі дошкі гонару з партрэтамі стаханаўцаў, перадавікоў вытворчасці, лепшых рабочых. У часы акупацыі фотаздымкі з падрабязнымі апісаннямі адыгралі для гестапа ролю наводчыкаў на савецкі актыў.

У дварах і агародах лунінчане пабудавалі сховішчы, накрыўшы іх бярвеннем ці дошкамі. Тут можна было перачакаць налёт нямецкіх самалётаў. Сюды ж зносіліся запасы, усялякі хатні скарб.

Зграі самалётаў з жоўтымі крыжамі ў чорных аблямоўках на фюзеляжах, скаланаючы паветра жалезным шумам, штодня з'яўляліся нізка над горадам. Лёталі яны беспакарана, скідваючы лістоўкі, у якіх заклікалі насельніцтва забіваць камісараў, палітработнікаў, партыйных і камсамольскіх важакоў, яўрэяў і чакаць вызвалення ад бальшавікоў. Пісалі пра сталінскія рэпрэсіі, пра «новую хорошую жизнь без Советов», якую прынясуць нямецкія войскі — «армия освободительница». Амаль на ўсіх лістоўках былі карыкатуры на Сталіна, нкусаўцаў, палітработнікаў-яўрэяў. Усе ведалі пра строгі загад улад знішчаць гэтыя лістоўкі, не чытаючы, але іх чыталі, абмяркоўвалі.

У Лунінцы каля ўсіх магазінаў стаялі чэргі. Людзі запасаліся запалкамі, мылам, соллю, мукой, газай, тытунём, адзеннем і абуткам. Скуплялі хлеб — сушылі сухары на чорны дзень. Аднак па нейкіх прычынах гарадскія ўлады абмежавалі гандаль, не давалі распараджэння аб распродажы дзяржаўнага ваеннага запасу прадуктаў. Магчыма, празмерным гандлем баяліся стварыць паніку сярод насельніцтва, хаця абмежаванні выклікалі агульную незадаволенасць. Да канца чэрвеня — пачатку ліпеня, калі ўжо стала вядома, што ў Лунінцы няма савецкай улады, што ён будзе пакінуты Чырвонай Арміяй, што нямецкія войскі прасунуліся далёка ўглыб СССР, што ў горад вось-вось увойдуць немцы, калі наступіла часовае безуладдзе — пачаліся рабаванні. Праўда, была арганізавана так званая грамадзянская паліцыя для падтрымкі парадку. У яе склад увайшлі паважаныя сталыя гараджане, карэнныя лунінчане, а ўзначаліў — пенсіянер Райскі, былы служачы чыгункі. Але вартавыя парадку не змаглі перашкодзіць дзеянням гараджан і

сельскіх жыхароў, якія з’ехаліся сюды на падводах. Паліцыя парадку праіснавала некалькі дзён і пад пагрозамі дэструктыўных элементаў развалілася.

Без улады цывілізавана горад пражыць не мог. Былі ўзламаныя склады ваеннага запасу з соллю, цукрам, мукою. Яны знаходзіліся ў розных частках горада, але большасць — у цэнтры, запасы захоўваліся ў склепавых памяшканнях гандлёвага раду збудаванняў на Прывакзальнай плошчы. Склады былі абсталяваны ў склепах былых прыватных закусачных, чарачных, невялікіх кафэ і дробных крамах, якія спынілі сваё існаванне ў 1939 годзе пасля аднаўлення савецкай улады. Муку і цукар захоўвалі ў мяшках па 50—70 кілаграмаў, не ўсе, хто ўварваўся на склады, змаглі вынесці такі цяжар. Мяшкі разразалі, адсыпалі змесціва ў свае мяшкі, сумкі, вёдры, нават карыты. Астатняе сыпалася пад ногі.

Соль захоўвалася навалам, без тары. Яе насыпалі рыдлёўкамі ў ёмістасці, па ёй хадзілі, забруджвалі. Таксама рабаваліся склады з запалкамі, тытунём, мылам, адзеннем, абуткам. На вуліцы Чырвоная было адкрыта памяшканне аптовага склада з гарэлкай. Тут захоўвалася спіртное яшчэ польскай вытворчасці. Усе нарабаванае выносілася, вывозілася на падводах па дварах і хавалася, закопвалася. Магчыма, тут не варта ўжываць слова «рабавалі». Калі б людзі не ўзялі гэтыя матэрыяльныя каштоўнасці і харчы, то яны дасталіся б ворагу. Канечне, было і проста рабаванне. Узламаныя многія магазіны, дзверы і вокны якіх былі закрытыя металічнымі ралетамі. Да 1939 года большасць магазінаў у горадзе належала яўрэям. За кароткі прамежак савецкай улады ў Беларусі — няпоўныя 22 месяцы — ва ўладальнікаў яшчэ поўнасцю не былі забраныя правы на іх уласнасць. Некаторыя гаспадары магазінаў, якія ўцалелі ад рэпрэсій, засталіся быццам загадчыкамі сваіх былых уладанняў, якія сталі дзяржаўнымі. Вось гэтыя магазіны і трапілі пад асабліва моцнае рабаванне.

Быў спустошаны склад з газай. Яе насілі вёдрамі, тазамі, слоікамі, усялякімі ёмістасцямі. Шмат газы было проста выліта на зямлю. З воінскай казармы выносілі лыжы, процівагазы, рыжыя ваенныя рукавіцы з двума пальцамі (для стральбы).

У розных канцах горада ўспыхнулі пажары. Магчыма, па распараджэнні ўлад былі падпалены базы з харчаваннем, сенам, збожжам — усе гэтыя запасы народнага дабра не змаглі ў паніцы своечасова эвакуіраваць. Горад зацягнула дымам — гарэла харчовая база ў раёне Баханова, пабудаваная ў пачатку 1940 года. Там захоўваліся прадукты не толькі савецкай вытворчасці, але яшчэ польскія запасы. Драўляны доўгі будынак базы быў пабудаваны на метр над зямлёй на палях. Ад моцнага жару рваліся кансервы, цукар і шакалад плавіліся і сцякалі на зямлю. Людзі, якія збегліся да гарэўшай базы, намагаліся штосьці выхапіць з полымя, спрабавалі баграмі абваліць скрынкі, але гэта не ўдавалася. Агонь быў вельмі моцным, ды і вышыня не дазваляла дабрацца да ахопленых агнём рэчаў. База згарэла цалкам.

Ужо ў час акупацыі на месца пажарышча прыходзілі жыхары горада па застылую цукрова-шакаладную масу. Некаторы час там харчаваліся і ваеннапалонныя чырвонаармейцы, якія здабывалі паўабгарэўшыя пліткі шакаладу. Гэтую здабычу яны мянялі на хлеб. Нявывезеныя запасы сена і збожжа таксама былі падпалены. Базы «Нарыхтоўсена» і «Нарыхтоўзбожжа» палалі некалькі дзён, усё згарэла цалкам, разам з навакольнымі пабудовамі. Згарэўшае зерне яшчэ вельмі доўга дымілася… Амаль праз год жыхары горада хадзілі на папялішча, разграбалі попел, абвугленае зерне, вышукваючы ўчасткі, якія не згарэлі.

А горад пакідалі апошнія разрозненыя часці Чырвонай Арміі. Па вуліцы Чырвоная рухаліся зялёныя грузавікі, у кузавах якіх сядзелі і стаялі параненыя маладыя чырвонаармейцы, стрыжаныя пад «нуль», у чорных «эмках» ехалі камандзіры. Па бруку грукаталі падводы з ваеннай маёмасцю. Зрэдку, са скрыгатаннем і грукатаннем, праязджалі павольныя цягачы на гусенічным ходзе — «варашылаўцы» і «сталінцы», якія цягнулі за сабой гарматы з доўгімі ствaламі. У пешым страі ішлі байцы ў запыленых гімнасцёрках, у абмотках, некаторыя —

са скаткамі шынялёў, з зялёнымі брызентавымі сумкамі для патронаў, з процівагазамі, з сапёрнымі рыдлёўкамі на баку, з цяжкімі вінтоўкамі-трохлінейкамі з доўгімі штыкамі.

Адны неслі ў руках каскі з чырвонымі зорачкамі, другія надзелі іх на галаву. Многія ішлі без касак і вінтовак. Было вельмі спякотна. Байцы забягалі ў двары, паілі з брызентавых вёдзер стомленых коней, плёскалі сабе ў твар халоднай вадой, прагна пілі яе каля калодзежа, напаўнялі кацялкі, біклагі, абшытыя шэрым шынельным сукном, налівалі ваду ў каскі. Спехам казалі: «Дзякуй, гаспадыня!» І беглі ўслед за ідучымі таварышамі, што ішлі на ўсход.

Здавалася, што ўсе чырвонаармейцы і камандзіры, якія пакідаюць горад, адчуваюць нейкую віну перад лунінчанамі. Віну нявыкананых абяцанняў і абавязацельстваў. Іншы раз з арміяй ішлі грамадзянскія асобы, з дзецьмі на руках, амаль без рэчаў. Гэта былі бежанцы.

А жыхары Лунінца па-рознаму праводзілі Чырвоную Армію. Адны плакалі і хрысцілі салдат, жадалі ім удачы. Іншыя радаваліся сыходу, былі задаволеныя гэтымі ўцёкамі.

Плынь штодня радзела. Прыйшоў час, калі толькі асобныя групкі чырвонаармейцаў праходзілі праз горад, ідучы на ўсход, калі праязджалі асобныя адзінкавыя машыны ці падводы з ваеннымі. Па абодва бакі дарогі на вуліцы валяліся шынялі, процівагазы, каскі, стаялі заглухлыя цягачы і трактары, нейкія бочкі і скрыні. Каля пераезда, паблізу праваслаўных могілак, адступаючыя кінулі танк. Абедзве гусеніцы былі падарваныя гранатамі, а ў ствол гарматы насыпана зямля і зроблены стрэл — адзін канец ствала быў падобны на распусціўшуюся кветку. Іншы раз па вуліцы праходзілі невялікія групкі бежанцаў са сваім небагатым скарбам. Хто яны і куды ідуць – ніхто не цікавіўся. Хутка спыніўся і гэты рух.

Горад прыціх, затаіўся. Улад не было. Усе ўжо збеглі. Наша вуліца стала ціхая і пустэльная. Суседзі перагаворваліся праз платы напаўголаса. Аднойчы ранкам, у пачатку Чырвонай, каля каталіцкіх могілак пачуўся нейкі шум і з хуткасцю маланкі ад дома да дома панеслася вестка: «Немцы!»

* * *

Яны яшчэ толькі заехалі на брук, яшчэ толькі паказаліся на ўскрайку горада, а ўжо ўся вуліца, увесь Лунінец ведаў пра ўступленне першых нямецкіх салдат.

Немцы, а іх было чалавек 5—7, заехалі ў Лунінец на веласіпедах, у чорных трусах, хто ў касцы, хто ў пілотцы, з аўтаматамі і кулямётамі, у ботах, за халявамі якіх тырчалі гранаты. Яны ехалі павольна, не баючыся, відавочна ведаючы, што ў горадзе ўжо няма савецкіх войск. Ехалі быццам бы ведаючы, што за-за фіранак вокнаў, агароджаў, з-за кустоў палісаднікаў за імі назіраюць з трывогай вочы захопленага імі горада. Дзе-нідзе, каля брамкі стаялі тыя, хто быў рады прыходу немцаў. Захопнікі спыніліся каля гарадскога калодзежа, устанавілі кулямёт і… пачалі абліваць сябе халоднай вадой. Паступова іх акружыў наўтоўп цікаўных, знайшліся і добразычлiўцы, якія ведалі нямецкую мову. Хтосьці нешта тлумачыў, хтосьці паказваў дзе пошта і банк. Вядомая ў горадзе «салонная львіца» польскага перыяду Лемішэўская пераможна вынесла немцам ручнікі, запрасіла ў дом. Сустрэча не абышлася без хлапчукоў (сярод якіх быў і я). Нам было цікава ўсё — зброя немцаў, веласіпеды з тоўстымі спіцамі ў колах і шырокімі пакрышкамі, кулямёт, ствол якога быў увесь у дзірачках, ежа, упакаваная ў цюбікі і шкляначкі, незразумелая мова… Бліжэй да вечара ў горад прыехала палявая жандармерыя на дзвюх машынах. Раніцай 19-га дня вайны ў горад пачалі ўваходзіць асноўныя сілы акупантаў. Гэта былі войскі армейскай групы «Цэнтр» пад камандаваннем генерал-фельдмаршала фон Бока. У нейкі момант над гэтай бясконцай калонай з танкаў, бронетранспарцёраў, машын, веласіпедаў, коней, замільгацелі чырвоныя з белымі абадкамі кружочкі — знак прыпынку. Грукат калоны змоўк.

Усё спынілася і на імгненне заціхла, быццам прыглядаючыся, куды рынуцца. І вось праз тратуары, ламаючы агароджы і дрэвы, кусты і кветкі, у двары лунінчан заехалі легкавыя аўтамабілі, матацыклы, танкеткі, грузавікі, уваліліся чужыя салдаты-заваёўнікі. Яны пайшлі па хлявах у пошуках яек, кур, гусей. Пачалі гучаць выстралы: хто не змог злавіць хатнюю птушку, той падстрэліў яе з аўтамата. Дзесьці завішчала парася, дзесьці раздаўся жаночы крык.

І да нас у двор, ламаючы агароджу, кусты арэшніку, маладыя яблыні і грушы, пасаджаныя бацькам і мной восенню мінулага года, разбурыўшы кветнік, заехала танкетка і зайшла група з 10—12 немцаў. На кулямёце танкеткі быў нанізаны партрэт Сталіна (дадам, што партрэты кіраўнікоў краіны былі на многіх кулямётах і невялікіх гарматах той калоны; на некаторых Сталін быў з падмаляванымі вялікімі вушамі і рогамі, дзе-нідзе былі нанізаныя чырвоныя сцягі).

Салдаты тут жа выявілі ў куратніку яйкі, злавілі некалькіх куранят. У доме патрабавалі ў маці яшчэ яек, масла, малака, смятаны. Без ніякіх слоў забралі вялікі рондаль. Маці дала яйкі, сказаўшы, што іншага не мае. Немец не паверыў. Падняў некалькі рондаляў, зазірнуў у кухонную шафку, агледзеў калідор. Нічога не знайшоўшы, забраў два льняныя ручнікі, што віселі ля печы, і выйшаў. У двары немцы распалілі вогнішча, абсмалілі на агні і разабралі курэй, хутка зварылі. Бачна было, што займаліся гэтай справай салдаты не аднойчы. За дзеяннямі немцаў мы назіралі праз акно. Такія ж вогнішчы дыміліся ў суседзяў па абодва бакі вуліцы.

Салдаты даставалі свае прыпасы ў скрынках і бліскучых упакоўках, разлівалі ў паходныя шклянкі нейкі алкагольны напой, курылі кароткія цыгарэты. Пасля шчодрай ежы і выпіўкі салдаты ляжалі ў нашым садку на траве, гралі на губным гармоніку вядомы ў Еўропе фокстрот «Разамундэ», гарланілі нейкую нямецкую песню. І раптам са смехам зацягнулі: «Вольга, Вольга, мутэр Вольга», потым перайшлі на «Кацюшу». Адзін з салдат зайшоў у дом і на ламанай польскай мове растлумачыў, што мы вызвалены ад «бальшавікоў і жыдоў», нямецкая непераможная армія прынесла нам шчасце, што «Сталін ест капут!» У гэты час іншыя салдаты нешта шукалі ў хлявах, нешта складвалі ў ранцы, абшытыя рыжай цялячай скурай, разглядалі наваколле, з нечага смяяліся, загадзілі ўвесь двор.

Так было на кожным двары, а ў яўрэйскіх яшчэ горш. Наша суседка Тарнагурская, якая так чакала нямецкія войскі і марыла зарабіць на схаваных ад савецкай улады тытунёвых вырабах, пазбавілася разам усіх запасаў польскіх папярос. Заваёўнікі, нягледзячы на плач гаспадыні, вынеслі ўсё знойдзенае — мужчынскія і дамскія папяросы — і тут жа раздалі сваім таварышам.

Прагучала каманда, замільгацелі ўжо белыя кружочкі з чырвоным вобадам над калонай. Пачвара ажыла, рушыла далей, праглынаючы кіламетры… Некалькі дзён па вуліцы Чырвоная ехаў, рухаўся гэты, здавалася, бясконцы і нястрымны жалезны, людскі і конны паток. «Лязгаціць, аж у вушах звініць, як з прорвы валіць», — заўважыў стары Неўдах, бацькаў знаёмы, які прыйшоў на наш двор з вуліцы Фабрычная паглядзець на немцаў. Калоны некалькі разоў спыняліся на адпачынак і паўтараліся дзеянні з заездам у двары, лоўляй хатняй птушкі і жывёл, гатаваннем ежы. Але жыхары вуліцы, навучаныя першымі стратамі ў гаспадарцы, ужо хавалі прадукты і жыўнасць. Зноў ламаліся агароджы, зноў нешта адбіралася, зноў заставаліся груды смецця. Пасля ўсіх прывалаў нямецкай арміі вуліца мела ўбогі выгляд. Жалезная плынь прагна пажырала кіламетры новай заваяванай краіны, сквапна і нецярпліва імкнулася ўглыб яе, на ўсход. І аднойчы прыйшоў дзень, калі плынь знікла.

Разам з франтавымі нямецкімі войскамі ў горад увайшлі і новыя ўлады — ваенная камендатура ды палявы камендант. Яны заняліся ўсталяваннем новага рэжыму ў Лунінцы. У першую чаргу быў выдадзены загад, расклееныя па ўсім горадзе, здаць зброю, данесці аб партыйных і савецкіх работніках, ваенных камісарах і палітруках, работніках міліцыі і НКУС, якія хаваюцца. Вызначаліся асаблівыя правілы для яўрэяў, жорсткая каменданцкая гадзіна. Было шмат пунктаў-

патрабаванняў і амаль кожны з іх заканчваўся аднолькава: за невыкананне — расстрэл. Разам з палявой камендатурай у горадзе паявілася нямецкая паліцыя. Палявая камендатура і іншыя акупацыйныя службы размясціліся ў будынку райвыканкама. Тут жа з балкона быў вывешаны фашысцкі сцяг са свастыкай (пазней ля ўвахода ўкапалі высокі драўляны слуп, на якім усе гады акупацыі развяваўся нямецкі сцяг). Адчуваючы сябе параможцамі, імкнучыся зняважыць савецкія ўлады, немцы выкарыстоўвалі чырвоны сцяг (з махрамі, шыты золатам, адарваны ад дрэўка) як анучу для ног — ён ляжаў ля ўвахода ў будынак на ганку. З усіх кабінетаў райвыканкама, усіх былых савецкіх устаноў горада былі сабраныя партрэты Леніна, Сталіна, Варашылава, Кагановіча, Цімашэнкі, Молатава і іншых кіраўнікоў: адны былі нанізаныя на штыкет агароджы, іншыя проста зваленыя ў кучу.

Адным з першых дзеянняў акупацыйнага рэжыму было выяўленне чырвонаармейцаў, што засталіся ў горадзе. Тут жа былі расстраляныя ўсе параненыя байцы і камандзіры, якія знаходзіліся ў гарадской бальніцы. Ні іх колькасць, ні імёны цяпер высветліць практычна немагчыма. Акупанты знайшлі месца для расстрэлу людзей побач з бальніцай. Яшчэ ў даваенныя гады на пустцы сярод невысокіх пясчаных дзюнаў за ваеннымі могілкамі былі ўкапаны вялікія металічныя ёмістасці для захоўвання гаруча-змазачнай сыравіны, такім чынам створана была невялікая нафтабаза. Пры адступленні Чырвонай Арміі гэтыя ёмістасці былі ўзарваныя, засталіся вялікія ямы. На гэтым месцы, якое ў народзе называлі «бензінкай», немцы і расстрэльвалі.

Палявы камендант заняў адзін з лепшых будынкаў у горадзе — дом доктара Гурвіча, выкінуўшы яго з жонкай на вуліцу. Праз некаторы час палявы камендант пакінуў Лунінец, перадаўшы ўладу і месца жыхарства пастаяннаму ваеннаму каменданту горада Эрыху фон Кульке. Яго ўступленне на пасаду суправаджалася мітынгам з невялікай колькасцю лунінчан, прамовамі «аб высакароднай місіі Германіі ў вызваленні краіны ад бальшавікоў, аб новым парадку, аб будучым новым жыцці». На мітынгу выступілі грамадзянскія прадстаўнікі мясцовай улады, ад духавенства — святар, яшчэ некалькі «пакрыўджаных савецкай уладай гараджан і сялян».

Першай «высакароднай акцыяй» новага каменданта было вызваленне з палону групы (чалавек 10—12) савецкіх ваеннапалонных. Пры гэтым было сказана, што СССР ужо не ўяўляе пагрозы для вялікай Германіі, што былыя чырвонаармейцы могуць ісці па дамах, да сем'яў, уключацца ў будаўніцтва новага жыцця і быць «удзячнымі велікадушнасці нямецкіх улад». Гэтыя байцы былі захоплены ў палон у сярэдзіне ліпеня. Знясіленыя, без зброі, некаторыя легкапараненыя. Іх заўважылі, калі галодныя салдаты капалі бульбу і рвалі каласкі жыта. Хтосьці данёс у паліцыю, і іх адразу ж схапілі. На мітынгу ім уручылі даведкі аб вызваленні і далі харчовы паёк. Прапагандысцкая акцыя здымалася нямецкімі кіна- і фотажурналістамі.

Адзін з вызваленых байцоў Васіль Кісялёў у перыяд акупацыі застаўся ў Лунінцы, ажаніўся, жыў на вуліцы Чырвонаармейская, працаваў у нямецкай установе. У 1944 годзе яго сям'я некуды знікла.

Усе выступленні немцаў на мітынгу перакладала Галіна Васілевіч — лунінчанка, дачка настаўніка, які ў акупацыйнай адміністрацыі быў галоўным школьным інспектарам раёна. Яна добра ведала нямецкую мову, вывучала яе ў гімназіі і ва ўніверсітэце. Была вельмі прывабнай дзяўчынай, да вайны лічылася адной з першых прыгажунь Лунінца. Аднак яе ўнутраны свет не адпавядаў знешнасці. Яна была фанабэрыстая, эгаістычная, з уладным і жорсткім характарам. Многія рашэнні ваеннага каменданта па розных пытаннях, з якімі звярталіся да яго лунінчане ці якія ён прымаў па ўласным меркаванні, залежалі ад думкі, асабістых сімпатый і антыпатый «фройлян Галіны». І тут праяўлялася яе жорсткасць ці яе абыякавасць да людскіх лёсаў. Перш, чым звярнуцца да нямецкіх улад, людзі з просьбамі і падарункамі звярталіся да Васілевіч. Не ўсім перакладчыца ўдзяляла ўвагу, не да ўсіх была добразычлівай.

Камендант амаль не карыстаўся аўтамабілем (асабліва ў цёплы час года), ён часцей ездзіў па гарадскіх справах на брычцы, запрэжанай двума коньмі белай ці чорнай масці. Заўсёды побач з ім сядзела Галіна Васілевіч. Яна была перакладчыцай увесь перыяд акупацыі. У чэрвені 1944 года яе сям'я пакінула Лунінец.

Каля дома Гурвіча пастаянна праходжваўся вартавы, над домам развяваўся фашысцкі сцяг. Насупраць, праз дарогу, каля будынка былога райвыканкама таксама праходжваўся вартавы. Салдаты вермахта неслі каравульную службу ў многіх месцах горада — ля будынка былога магістрата, друкарні, пешаходнага моста. Будынак школы некаторы час пуставаў. Паявілася гарадская ўправа з мноствам чыноўнікаў — як прыезджых немцаў, так і паступіўшых на работу мясцовых жыхароў. Усім працуючым новыя ўлады выдавалі акрамя зарплаты харчовыя карткі. Ужо да канца 1941-га — пачатку 1942 года ў Лунінцы моцна адчуваўся недахоп прадуктаў.

Гарадская ўправа кіравала справамі горада: кватэрамі, уборкай тэрыторыі, прызначэннямі на работу (уборка памяшканняў казармы, месцаў пражывання салдат і інш.). У склад управы ўваходзілі біржа працы, рабочы аддзел, які кіраваў усімі працамі ў Лунінцы. Горад быў падзелены на некалькі раёнаў, на чале якіх стаялі фольксдойч ці нямецкі чыноўнік. Старшым звычайна прызначалі адданага чалавека з мясцовых жыхароў, хто вызначаў каго і куды накіраваць на работу (у лясніцтва, на будаўніцтва дотаў, уборку вуліц, пагрузку збожжа, ільну, бульбы, карняплодаў у вагоны, уборку ваенных могілак, дарэчы зімой з абавязковай расчысткай дарожак да кожнага пахавання), шэраг іншых работ. Немцы прымушалі працаваць і жанчын, і дзяцей, і пажылых людзей.

З восені 1941 года былі ўстаноўленыя начныя дзяжурствы на дарогах ля ўезду ў горад. Акрамя паставога салдата батальёна варты ці палявога жандарма (у іх пры шлагбауме была ўсталявана будка, дзе можна было схавацца ад дрэннага надвор'я), дзяжурствы абавязаны былі несці і мясцовыя жыхары ва ўзросце ад 10 да 70 год, не зважаючы на пол.

Восенню 1941 года і вясной 1942 года акупацыйныя ўлады пачалі будаўніцтва драўлянай дарогі ў бок Пінска і Лахвы. Упоперак дарогі ўкопваліся бярвенні, да якіх прыбіваліся дзве паласы насцілу з дошак — такая двухпутная каляіна. Атрымоўвалася роўная драўляная дарога, па якой зручна было ездзіць і аўтамашынам, і гужавому транспарту. Яе будавалі гараджане і жыхары тых вёсак, праз якія яна праходзіла. Ужо потым у 1942—1943 гадах усе рамонтныя работы на гэтых дарогах рабілі савецкія і італьянскія ваеннапалонныя. Гэтыя драўляныя збудаванні эксплуатаваліся і пасля вайны, паступова разбураючыся. У канцы 1940-х гадоў часткі бярвенняў і дошак, што заставаліся, прыбралі і дарога зноў стала пясчанай.

Усім, хто працаваў на нейкай рабоце ў горадзе, выдаваліся працоўныя пасведчанні, якія фіксавалі занятак уладальніка. Пры праверках дакументаў у грамадзянскага насельніцтва патрабавалі не толькі пашпарт (ці аусвайс), але і працоўнае пасведчанне.

Працавалі лунінчане на будаўніцтве дотаў і дзотаў у горадзе і наваколлях, нарыхтоўвалі дровы. У 1943 годзе, калі ў поўную сілу заявілі пра сябе партызаны, пастаўленыя наперадзе паравозаў платформы з пяском і каменнямі тым не менш не абаранялі нямецкія эшалоны ад партызанскіх мін. Акупанты вырашылі высекчы па абодва бакі чыгункі лес і хмызняк на 100 і нават больш метраў, каб стварыць бязлесую зону, цяжкапераадольную для партызан-падрыўнікоў (гэта, як вядома, не ўратавала захопнікаў). Работы па расчыстцы чыгуначнага палатна таксама рабілі гараджане і ваеннапалонныя.

На працягу ўсяго перыяду акупацыі ў горадзе і вёсках працавалі млыны, ільночасалкі, крупадзёркі, маслабойкі і іншыя дробныя сельскагаспадарчыя вытворчасці, перапрацоўваючы прадукцыю палёў і гаспадарак. Усе прадукты ішлі на забеспячэнне акупацыйнай арміі ці накіроўваліся ў Германію. На гэтых работах была занята большасць насельніцтва. Гараджан абкладалі неймаверна высокімі

падаткамі, вяскоўцы вымушаны былі здаваць большую частку вырашчанай прадукцыі. Амаль заўсёды ў вёсках прадукты адбіраліся праз паліцэйскія акцыі. Акупацыйныя ўлады бралі на ўлік не толькі буйную рагатую жывёлу, свіней, але і курэй. Пра гэта сведчыць такі дакумент, як таварная картка — своеасаблівая картка ўліку наяўнасці жывёлы і птушкі ў кожнага селяніна, дзе таксама рабіліся адзнакі аб колькасці здадзенай прадукцыі і нядоімцы за мінулыя гады. Картка ўяўляла сабой дакумент на дрэннай шэрай паперы з тэкстам на дзвюх мовах: нямецкай і беларускай. Пералік прадукцыі да здачы складаўся з 15 пунктаў, сярод якіх мяса, збожжа, бабовыя на корм жывёле, сена, салома, ільновалакно, яйкі, птушка, мёд, гароднiна. Былі графы «Належыць здаць» і «Нявыканана за мінулыя гады».

Яшчэ адзін нямецкі падатковы дакумент таго часу — «Абавязацельства аб здачы сельскагаспадачай прадукцыі Дзяржаве з ураджаю 1942 года». Уладальнік гаспадаркі ў 3 гектары ворыўнай зямлі і 5 авечак павінен быў здаць 300 кг збожжа (2/3 на выпяканне хлеба і 1/3 на корм жывёле), 600 — бульбы, 150 — саломы, 15 — ільну, 1,75 воўны, 7,5 — ільнянога насення, 60 — мяса. Такі быў неблагі апетыт у «вызваляльнікаў»!

На акупіраванай тэрыторыі Беларусі і Украіны сельскагаспадарчую прадукцыю скупляла «Манапольнае Цэнтральнае Гандлёвае Таварыства «Усход» па нарыхтоўцы і збыце сельгаспрадукцыі». У раёнах для гэтага прыцягваліся старасты і паліцэйскія. «Нарыхтоўвалася» (адымалася) усё — да апошняга зярнятка, да апошняй бульбінкі. Вяскоўцаў пакідалі ні з чым, прыгаворваючы да галоднай смерці зімой.

Для скупкі ільну, ільнопрадукцыі, ільнянога насення ў Лунінец заязджалі прадстаўнікі таварыства «Прадзільныя валокны Украіны». У доме былога фатографа Глоўбермана знаходзіўся філіял гэтай канторы. Канаплянае насенне і валакно, скуру, воўну, драўніннае валакно і іншую прадукцыю скуплялі і прадстаўнікі «Украінскага таварыства валаконнай прамысловасці». Сваіх мэт дабіваліся з групай паліцэйскіх. Аднойчы на скупшчыкаў гэтай фірмы — «рабаўнікоў з Украіны», як іх называлі ў народзе — напалі партызаны. Кінуўшы нарабаванае, скупшчыкі ледзь уцяклі і пасля гэтага выпадку рэціраваліся з Лунінца.

У вядомым савецкім фільме «Подзвіг разведчыка» славуты артыст Павел Кадачнікаў выканаў ролю нямецкага афіцэра, які нарыхтоўваў шчаціннe ва Украіне. Памятаеце яго крылаты выраз: «Пацярпіце, і ваша шчацінне ператворыцца ў золата!» Гэта не выдумка аўтара сцэнарыя. Сапраўды, такія канторы дзейнічалі ў гады акупацыі, у тым ліку і ў Лунінцы.

Акупацыйныя ўлады былі вельмі зацікаўлены ў беларускай драўніне. Паўсюдна на захопленых тэрыторыях ствараліся лясніцтвы. Лунінецкае займалася вывазам дзелавой драўніны з раёна — бярвенні, дошкі, гатовыя шпалы, дровы (напілаваныя вызначаным памерам).

Акупацыйныя ўлады цікавіліся і іншай прадукцыяй. Здатчыкам ільну, пражы і воўны выдаваліся спецыяльныя талоны — тэкстыльпункты ці знакі пунктавай вартасці тэкстыльвырабаў. Усе надпісы былі па-нямецку і па-беларуску. Упрыгожвалі талон малюнкі: мужчына, які апрацоўвае лён, ці жанчына, якая стрыжэ авечку. Ніжэй быў подпіс: лён і воўна — багацці краю. На зваротным баку былі змешчаны расцэнкі тэкстыльных тавараў у абмен на 1 тэкстыльпункт, адзін метр фланэлі на бялізну каштаваў 8 тэкстыльпунктаў, адны штаны для працы — 28, адна кашуля для працы — 19, адзін жаночы світар — 19, адна пара жаночых пончох — 4 і г. д. На талоне паведамлялася, што ён выдадзены на аснове распараджэння Генеральнага камісара ў Мінску, што ўсе вырабы, пералічаныя ў спісе тавараў, маюцца ў кожным магазіне тэкстыльных вырабаў і што тэкстыльпункт ёсць сапраўдны да 31 снежня 1941 года. Бачна, што акупанты дорага цанілі свае тэкстыльныя тавары і вельмі танна працу беларускіх сялян.

* * *

Акупіраваўшы Беларусь і Украіну, нямецкія ўлады адміністрацыйна падзялілі тэрыторыі рэспублік на свой лад. Лунінецкі раён быў уключаны ў рэйхскамісарыят Украіны, сталіцай якога стаў горад Роўна. У Лунінцы была ўведзена ўкраінская мова, з’явіліся газеткі: нацыяналістычная «Валынь», і, як бы сказалі жоўтая прэса, — «Гайдамак». Але ў нашым горадзе, дзе новай мовы не ведалі, часцей распаўсюджваліся беларускія, польскія і рускія газеты. Гарадская ўправа іншы раз вывешвала паведамленні на ўкраінскай мове. Яна была ўведзена ў школах. У сакавіку 1942 года ва ўжытак былі пушчаны новыя грошы — акупацыйныя карбованцы. Да гэтага мелі месца так званыя акупацыйныя рэйхсмаркі і савецкія рублі (пасля яны ўжо не прымаліся ў якасці плацёжнага сродку і абменьваліся па курсе: 1 рубель = 1 карбованец = 10 рэйхспфенінгаў).

На пасаду рэйхскамісара Украіны Гітлер прызначыў аднаго са сваіх бліжэйшых паплечнікаў — оберпрэзідэнта і гаўляйтара Усходняй Прусіі, начальніка Цэханаўскай і Беластоцкай акруг Польшчы, генерала СА Эрыха Коха. У гісторыі акупацыі гэта імя вядома як злейшы вораг славянства, за гады кіравання якога былі знішчаны 4 мільёны чалавек.

У Лунінцы стварылі моцны рэпрэсіўны апарат, у які ўваходзілі службы гестапа, СД, жандармерыі і паліцыі. Начальнікам Лунінецкай жандармерыі быў нехта Лепен, даўгавязы немец з няскладнай фігурай. Ён удзельнічаў у многіх экзекуцыях і карных аперацыях над мірным насельніцтвам. Намеснікам начальніка раённага ўпраўлення быў Гюга Мілер. Але асабліва «праславіўся» начальнік гаспадарчай часткі раёна — крэйсляндвірт — Вілі Шэферэр, якога ў народзе празвалі «Пушынкай». Прыземісты, крыху паўнаваты немец ніколі не хадзіў ва ўніформе, хаця яе мела ўпраўленне, што ён узначальваў. Ён быў апрануты ў цывільны касцюм, заўсёды ў капелюшы, больш падобным на паляўнічы, чым на гарадскі. Да гэтага капелюша былі прымацаваныя некалькі featherрознакаляровых птушыных пёрак, пушынак, перавязаных стракатай стужкай. Адсюль ён і атрымаў сваю мянушку. Пушынка — вельмі адыёзная фігура ў гісторыі нашага горада перыяду акупацыі. Заўсёды ўзброены — з-пад пінжака была бачна жоўтая кабура з пісталетам (у аўтамабілі ці брычцы побач меў аўтамат). Заўсёды разам з ім знаходзіўся нейкі хлопец са шрамам на верхняй губе. Гэты шрам-рубец скрыўляў губы маладога чалавека, за што яго празвалі «Крывагубцам». Ад Пушынкі Крывагубец, які таксама заўсёды быў з аўтаматам, не адыходзіў ні на крок. Ён суправаджаў гаспадара ва ўсіх экзекуцыях, расстрэлах, збіеннях, карных акцыях акупантаў супраць партызан ці мірнага насельніцтва. Гэтыя дзве асобы прысутнічалі на пероне, калі са станцыі адпраўляліся эшалоны з людзьмі на прымусовыя работы ў Германію. Былі яны каля возера Мачула, дзе расстралялі мужчын-яўрэяў, каля ямак пры ліквідацыі Лунінецкага гета. Пасля таго, як спалілі Мелясніцы, брычка Пушынкі, якой кіраваў Крывагубец, узначаліла абоз з нарабаваным дабром забітых вяскоўцаў, які павольна рухаўся па вуліцы Чырвоная (падчас акупацыі Шырокая). Пушынка і Крывагубец прынеслі шмат гора і пакут жыхарам Лунінеччыны.

Адна з сямейных рэліквій нашай сям’і — фотаздымак бацькі з Дошкі гонару кандуктарскага рэзерву. Паўтаруся: дошкі гонару, пакінутыя адступаўшымі ці, дакладней, збегшымі кіраўнікамі арганізацый, для нямецкай паліцыі, гестапа і СД сталі своеасаблівай крыніцай звестак пра савецкіх актывістаў, стаханаўцаў, перадавікоў, ударнікаў, для іх наступнага арышту і знішчэння. Знайшлі акупанты і Дошку гонару ў чырвоным кутку кандуктарскага рэзерву. Сярод іншых там быў і партрэт бацькі: у чыгуначным кіцелі, з эмблемай чыгуначных дарог. На шчасце нашай сям’і, сярод паліцэйскіх аказаўся бацькаў знаёмы, з якім яны некалі разам працавалі ў дэпо і гралі ў духавым аркестры, — Сямён Аляшкевіч. Ён сарваў фотаздымак бацькі ды некалькі іншых, сказаўшы гестапаўцам, што гэтыя людзі выехалі на ўсход. Праз некалькі дзён паліцэйскі зайшоў да нас дамоў, чым вельмі напалохаў, і перадаў фота. Ад падарункаў за такую паслугу, якімі хацелі аддзячыць бацькі, адмовіўся. Аднак нашая сям’я ўвесь час была ўдзячная гэтаму чалавеку за выратаванне бацькі, якога ён не выдаў.

У кінутым райкаме камсамола акупанты знайшлі нязнішчаныя камсамольскія дакументы — ад поўных спісаў членаў ВЛКСМ гарадской арганізацыі, сельскіх ячэек, актывістаў, пратаколаў розных сходаў і пасяджэнняў, асабовых спраў да чыстых камсамольскіх білетаў. У гады акупацыі навіны распаўсюджваліся людзьмі. Вялікае значэнне мелі ўсялякія чуткі. Вось і ў выпадку з арыштам камсамольцаў у горадзе і вёсках, а затым іх расстрэле, у Лунінцы казалі, што камсамольцаў выдаў гестапаўцам былы работнік Пінскага абкама «з усходнікаў», які асеў у горадзе і супрацоўнічаў з акупантамі. Сёння ўжо не ўдакладніць, праўда гэта ці не. Не імкнуліся да гэтага і адразу пасля вайны. Таму ў гісторыі Лунінца так шмат невядомага. Яшчэ адны ўстойлівыя чуткі: не была эвакуіравана ашчадная каса і немцы захапілі ў нашым банку шмат грошай.

Дарэчы, некаторыя чуткі пасля вайны падцвярджаліся. Сярод такіх: забойства ў Мінску гаўляйтара. У акупіраваным Лунінцы людзі ведалі пра разгром немцаў пад Масквой, пра акружэнне і палон фашыстаў пад Сталінградам, пра бітву на Курскай дузе, пра масавае знішчэнне захопнікамі яўрэяў у Кіеве. Нават з далёкага Крыма ў Лунінец дайшлі звесткі пра тое, што па заданні Сталіна ў гарах у шматлікіх падземных ходах схавалася вялікая Савецкая Армія, якая тайна выходзіць адтуль і б'е немцаў (цяпер мы ведаем пра падзеі Аджымушкая). Расказвалі пра новую савецкую цуда-зброю, «гарматы-кацюшы». Усе гэтыя падзеі былі рэальнасцю вайны, але ў Лунінец звесткі пра іх даходзілі ў скажоным, перабольшаным выглядзе. Дый доля праўды ў іх усё ж такі была.

У 1943 годзе раптам пайшлі чуткі, што з Бранскага лесу (дзе ўладарылі партызаны) праз Беларусь і Украіну Сталін паслаў лясамі ў Германію вялікую армію з танкамі, самалётамі, гарматамі для захопу Берліна і палону Гітлера, якая пройдзе праз Лунінец. У горадзе з'явіліся савецкія лістоўкі, гаварылі нават пра газеты. Усё гэта выклікала вялікі перапалох сярод акупантаў. Тая армія не прыйшла ў Лунінец, але пасля вайны мы даведаліся пра славутыя рэйды па тылах акупантаў партызанскага злучэння Каўпака, у тым ліку і па Пінскай вобласці.

Былі выпадкі, што ў горадзе з'яўляліся партызанскія лістоўкі, але да іх ставіліся інакш, чым да лістовак, скінутых з савецкага самалёта. Здаецца, у жніўні ці ў верасні 1943 года па Лунінцы разнесліся чуткі, што ноччу лятаў савецкі самалёт і так нізка, што немцы не маглі яго збіць. Падцвярджэннем гэтаму былі лістоўкі, знойдзеныя ў дварах, агародах, на дахах дамоў і хлявоў, у полі і лесе. У лістоўцы ад Саўінфармбюро паведамлялася аб перамозе Чырвонай Арміі ў бітве на Курскай дузе, аб колькасці ўзятых у палон немцаў, знішчаных танках, гарматах, самалётах. Кожнае слова лістоўкі было вельмі важкім, усяляла ўпэўненасць ў хуткім вызваленні. Меўся і заклік: «Прачытай і перадай іншаму».

Акупанты былі вельмі заклапочаны з'яўленнем лістовак. Паліцаі хадзілі па дварах, збіралі іх, лазілі па дахах. Было нават распараджэнне ваеннага каменданта здаваць лістоўкі ў камендатуру ці паліцыю. Але наўрад ці хто рызыкнуў несці знаходку ў гэтыя небяспечныя ўстановы. Лістоўкі над Лунінцом савецкія самалёты раскідвалі тройчы.

Пасля знішчэння яўрэйскага гета нямецкія ўлады вырашылі знішчыць так званых «выхрыстаў», якія засталіся на волі (не змешчаныя ў гета). Так у Лунінцы называлі сем'і, у якіх муж ці жонка былі яўрэямі, але па розных прычынах прынялі хрысціянскую веру, здзейснілі абрад хрышчэння. Іх было некалькі. У пачатку акупацыі немцы не цікавіліся гэтымі сем'ямі. Але летам 1943 года ўсе «выхрысты» былі арыштаваны і адразу ж расстраляны на «бензінцы».

Сярод ахвяр была сям'я вядомага ў горадзе гандляра Леана Цхаўрэбава (Цхаўрэбашвілі). Галава сям'і — былы афіцэр з каўказскага (татарскага) батальёна кавалерыі генерала Булак-Булаховіча — застаўся ў Лунінцы пасля заканчэння польска-савецкай вайны, закахаўся ў яўрэйку Троцкую, адзіную дачку небагатых бацькоў. Заснаваў сваю справу — магазін каланіяльных тавараў: апельсіны, бананы, разынкі, вінаград і шмат фінікаў. Самыя лепшыя фрукты ў Лунінцы! Гандляваў таксама мясам і каўбасой, якія былі выраблены асаблівым, «каўказскім»

спосабам. Гэтыя прадукты карысталіся вялікім попытам у лунінчан. Яго жонка прыняла хрысціянства, была вельмі набожнай, часта наведвала царкву разам з мужам, нават удзельнічала ў царкоўным савеце. Дваіх дзяцей яны таксама пахрысцілі ў лунінецкім храме. Аднак гэта не выратавала сям'ю ад «канчатковага рашэння яўрэйскага пытання». Іх расстралялі, як і вялікую групу так званых «усходнікаў», якія не паспелі эвакуіравацца ці засталіся ў горадзе па нейкіх іншых прычынах. Сярод забітых былі стаханаўцы, кіраўнікі, работнікі савецкіх арганізацый. Некалькі чалавек — наогул не лунінецкіх: бежанцы, што спыніліся ў горадзе.

Была яшчэ адна трагічная гісторыя, пра якую гаварылі, сцішыўшы голас. У Лунінцы чамусьці засталася жонка аднаго з работікаў НКУС з 5-6 гадовым сынам. Хтосьці данёс пра гэта гестапа. Яе арыштавалі, трымалі разам з хлопчыкам у склепе былой павятовай гміны, на допытах збівалі. Потым па назразумелых прычынах адпусцілі. Пасля арыштавалі зноў. На расстрэл жанчыну з хлопчыкам вялі праз увесь горад. Сына яна несла на руках. Расправа гестапаўцаў над бездапаможнай маці і дзіцём вельмі паўплывала на жыхароў, пра гэта распавядалі са слязьмі на вачах. Ніхто не ведаў, што з намі будзе заўтра…

Пачаліся масавыя вывазы моладзі і цэлых сем'яў на прымусовую працу «на карысць трэцяга рэйха». Тых, каго гналі ў Германію, прывозілі на вазах, аўтамабілях проста на станцыю і, акружыўшы эшалон жандарамі, сабакамі, паліцыяй, запіхвалі ў вагоны. Гэтыя акцыі суправаджаліся жудаснымі сцэнамі развітання з бацькамі і роднымі. Іншым разам, калі людзей было недастаткова для аднаго эшалона, у чаканні папаўнення іх па некалькі дзён трымалі ў недабудаванай школе. Тады яна была ачэплена салдатамі вермахта. Заўсёды пры вывазе людзей прысутнічала вышэйшае начальства, часцей Пушынка. І гэта працягвалася ўвесь перыяд акупацыі, апошні эшалон адправіўся з Лунінца ў Германію 8 ліпеня 1944 года.

У канцы 1942 года ў горадзе з'явілася некалькі вялікіх рамонтных майстэрань, куды звозілася разбітая на франтах вайны нямецкая тэхніка. Майстэрню па рамонце матацыклаў размясцілі ў пажарным дэпо каля царквы. Увесь двор, навакольныя вуліцы і свабодная пляцоўка каля храма былі застаўлены разбітымі матацыкламі ўсіх еўрапейскіх марак. Лёгкія і цяжкія, з люлюкамі і без — увесь гэты пабіты кулямі і асколкамі металалом знаходзіўся пад адкрытым небам і амаль не ахоўваўся, што выклікала вялікае задавальненне ў хлопчыкаў. Мы заўсёды знаходзілі нешта каштоўнае для сябе ў кучы пабітай тэхнікі. Аднаўляла матацыклы вялікая брыгада з рамонтнага батальёна, якім дапамагалі ваеннапалонныя.

Легкавыя і малатонныя грузавыя аўтамабілі рамантаваліся ў дзвюх майстэрнях былога гета. Тут таксама дапамагалі ваеннапалонныя. Яны жылі ў адным з дамоў былога гета за высокай агароджай з калючага дроту. На іншыя работы ваеннапалонных не бралі. У гэтым лагеры іх было каля 50 чалавек. Харчаваліся вельмі дрэнна. Але рэжым быў не надта строгім, таму іншы раз, асабліва летам, ваеннапалонныя хадзілі па навакольных дамах «пабірацца», іншы раз пілавалі і секлі дровы, іншы раз прапаноўвалі ў абмен на ежу разнастайныя пацеркі і цацкі, выраблены з дрэва.

Хлопцы пастаянна хадзілі глядзець, як рамантуюць аўтамабілі. Заўсёды прыносілі з сабой садавіну ці гародніну. Аднойчы я пазнаёміўся з маладым ваеннапалонным. Былому выхаванцу дзіцячага дома з-пад Харкава, чырвонаармейцу-добраахвотніку Мікалаю Якавенку споўнілася толькі 17 год. Ён трапіў у палон восенню 1941 года на Украіне. Перамяшчалі па многіх лагерах, у Лунінцы апынуўся летам 1942-га. Мы прыносілі яму што-небудзь паесці. Аднойчы ён прапанаваў абмяняць новыя нямецкія ваенныя чаравікі на вядро бульбы і тытунь. Мае бацькі згадзіліся на абмен. У тыя гады амаль на кожным двары вырошчвалі тытунь, гэта была своеасаблівая «валюта». Яшчэ адзін абмен адбыўся, калі Мікалай прынёс камплект новай пасцельнай бялізны. Тады ён расказаў, што яго бацькі і браты памерлі ад голаду на Украіне ў 1930-я. У 1944 годзе лагер быў ліквідаваны, ваеннапалонных некуды вывезлі.

Тут жа на тэрыторыі былога гета размяшчалася яшчэ адна нямецкая вайсковая часць, якая мела дачыненне да ветэрынарнай службы. У адным з дамоў была разгорнута палявая кузня для падкоўвання коней, яшчэ два былі перароблены пад канюшні з асобнымі боксамі, дзе трымалі хворых жывёлін. Два разы на месяц з ўсіх вайсковых часцей раёна сюды прыводзілі коней. Агляд і выбракоўку рабіла цэлая камісія ваенных урачоў-ветэрынараў. Усе яны ў белых халатах вельмі пільна аглядалі коней, нешта запісвалі, нечым іншы раз мазалі асобныя часткі цела каня. Адной з працэдур была прабежка. Кожнага каня пад аброць павольным бегам праводзіў салдат-гаспадар. Пасля камісія выносіла свой прысуд. На гэтыя агляды хадзілі не толькі афіцэры і салдаты, але і лунінчане, хто жыў побач.

Восенню 1941 года акупанты выкарысталі закрыты брукаваны двор былога гарэлачнага склада для стаянкі палявых пякарняў. Частку склада прыстасавалі для захоўвання гатовай прадукцыі, у другой была абсталявана пякарня. Штодня з варот выязджалі дзясяткі машын, што развозілі хлеб па воінскіх часцях. Па нашай вуліцы стаяў дурманлівы пах свежага хлеба, і калі ў 1941-м ён асабліва не хваляваў, то ў галодных 1943—1944 гадах ад гэтага паху кружылася галава і вельмі хацелася есці. Да святаў (Вялікадня і Каляд, да Новага года і некаторых іншых дат) у пякарні рабілі «кухены» — булкі. Хлапчукі навучыліся красці з машын хлеб і гэтыя «кухены», асабліва зімой. На самаробных драўляных каньках мы даганялі машыну, чапляліся крукам з дроту за борт, а другім, больш доўгім дротам, імкнуліся падчапіць бохан хлеба ці «кухен» і, у выпадку ўдачы, хутка адчапіцца ад машыны ды збегчы са здабычай. Не заўсёды гэта ўдавалася. Красці ў немцаў хлеб (ці што іншае) было небяспечнай задумай. Бывала, што шафёр і яго напарнік спыняліся, выскоквалі з машыны, лавілі хлопчыка і збівалі яго. Цярпелі многія, але жаданне мець хлеб было мацнейшае за страх. Кожны думаў, што абыдзецца. Іншы раз у кузаве машыны сядзеў салдат, якога не было бачна, і тут жа біў хлопчыка прыкладам вінтоўкі. Так, сябар майго дзяцінства Цімафей Пракаповіч, самы смелы сярод хлапчукоў нашага раёна, атрымаў пералом прадплечча. Мне пашанцавала двойчы — «канфіскаваў» з машыны два боханы хлеба. Аднак пасля выпадку з Цімафеем кінуў гэтую справу: сябар лячыўся ў гарадской бальніцы, яго бацькам даводзілася за гэта плаціць.

Нягледзячы ні на што, усе мы, хлопцы тых ваенных гадоў, адрозніваліся нейкай упартасцю, дзёрзкасцю, неабдуманасцю, безразважнасцю сваіх учынкаў, якія маглі закончыцца трагічна. Аднак пра гэта тады не думалі, не надавалі значэння словам папярэджання і забарон сваіх бацькоў. І калі ў аўтамабілі немцаў, які спыніўся каля варот нейкага дома, а ехаўшыя ў ім афіцэры выйшлі адпачыць, хтосьці з хлопчыкаў выяўляў пакінуты трохкаляровы ліхтарык, ці пачак цыгарэт, ці шафёрскі партсігар-аўтамат для згортвання самакрутак, ці трубачку цукерак «Бон-Бон», то прыкладвалі ўсе намаганні, каб убачанае неяк забраць. Удавалася нават «канфіскаваць» металічную скрынку з нямецкім салдацкім наборам інструментаў і прылад для чысткі вінтоўкі. Ухітрыліся каля царквы адкруціць фару з разбітага матацыкла і лямпачкі (яны былі асаблівай доўгай формы) з указальнікаў паваротаў на аўтамашынах. Аднойчы нават была ўзята з падаконня адчыненага акна венгерская граната. Але запаветнай марай любога з нас было выявіць працуючы акумулятар з матацыкла і аўтамабіля і прынесці яго дамоў, каб мець святло. Электрычнасць часта адключалі (летам яе наогул не было). У нашым доме было тры акумулятары, і зімовымі вечарамі сям'я мела святло.

У Лунінцы адкрылася некалькі камісійных і звычайных магазінаў. Іх уладальнікі — у большасці сваёй палякі, якія мелі нямецкае паходжанне. У магазінах можна было купіць сахарын, тонкую курыцельную паперу маркі «Solali», каменьчыкі для запальнічак, савецкую махорку, курыцельныя трубкі, партсігары, «вечныя» ручкі, гадзіннікі, свечкі, шкло для газавых лямпаў, нейкія кансервы, дарагія забаўкі з розных краін Еўропы, шмат іншых рэчаў. У камісійныя магазіны насельніцтва іншы раз здавала прыстойныя рэчы, што засталіся з даваенных часоў, але не заўжды яны прадаваліся. Немцы іншы раз праводзілі канфіскацыю — проста

забіралі ў насельніцтва тое, што ім падабалася. Усё больш-менш добрае, іншы раз старажытнае куплялася нямецкімі афіцэрамі і чыноўнікамі (адпраўлялася на радзіму) або перакупшчыкамі з Польшчы. Дарэчы, прадукцыя вядомых цяпер фірмаў, якія выпрабляюць мыла «Palmolive», крэм «Nivea», лекі «Bayer», тэхніку «Philips», была на прылаўках лунінецкіх магазінаў ужо ў гады акупацыі. Не ў такой колькасці, але мыла ў такіх жа зялёных і ружовых абгортках с чорнай паласой, крэм — у тых жа сініх круглых баначках, лекі — з тымі ж эмблемамі-кружочкамі, дзе крыжам напісаная назва фірмы.

Аднавілі работу пасля савецкага перыяду і два лунінецкія рэстараны — зразумела: толькі для «паноў арыйцаў» і іх памагатых. Пачала працаваць пошта. У лютым 1942 года акупанты арганізавалі так званую «службовую нямецкую пошту», якая абслугоўвала толькі акупацыйныя ўлады. Мясцовыя жыхары, аплачваючы паслугі, маглі карыстацца звычайнай поштай. Просты ліст каштаваў 12 пфенінгаў, паштовая картка — 6. Прадаваліся маркі выключна з партрэтам Гітлера і надпісам «Ukraine» — спецыяльна для рэйхскамісарыята Украіна. Дарэчы, акупацыйныя ўлады доўгі час не маглі вызначыцца як правільна пісаць назву горада: «Luniniec» ці «Luniniez».

Ужо ў кастрычніку 1941 года акупацыйныя ўлады на чале з бургамістрам Якубікам урачыста адкрылі ў Лунінцы кінатэатр. Ён працаваў для насельніцтва некалькі дзён на тыдзень, сеансы заканчваліся да каменданцкай гадзіны, якая не асабліва вытрымлівалася. У вызначаныя дні кіно паказвалі толькі для немцаў. Некаторы час сеансы для лунінчан былі бясплатнымі. З дзяцей грошы не бралі ніколі. Хлопчыкі часцей за ўсё ўладкоўваліся на падлозе перад экранам. Паказвалі толькі нямецкія фільмы. Большасць гледачоў не разумела мовы, не ведала, пра што ідзе размова, дзе адбываецца дзеянне і калі. Але некалькі фільмаў усё ж запомніліся. Каляровая стужка пра барона Мюнхгаўзена. Фільм з сюжэтам, падобным на «12 крэслаў». Фільм пра нямецкіх падводнікаў. Былі і рускамоўныя карціны. Двухсерыйны фільм «Жыд» — пра злых яўрэяў-масонаў у акружэнні прускага караля. Былі прапагандысцкія фільмы на рускай і ўкраінскай мовах — пра «цяжкую долю савецкіх людзей пад прыгнётам камуністаў і пра шчаслівае жыццё партыйцаў, нкусаўцаў, палітработнікаў-яўрэяў». Былі фільмы пра калгасы. Нешта паказвалі пра Катынь. Вялікім поспехам у немцаў карыстаўся тыднёвы агляд ваеннай кінахронікі. Калі на экране паказвалі савецкія аэрадромы з грудамі разбітых самалётаў, дарогі Беларусі, забітыя згарэўшай тэхнікай, палаючыя вуліцы захопленых гарадоў, натоўпы палонных разгубленых чырвонаармейцаў і камандзіраў, забітых савецкіх байцоў каля разбітых гармат, а на гэтым фоне пераможны марш нямецкай тэхнікі — зала дружна апладзіравала. Няшмат мы тады дзесяцігадовыя хлапчукі разумелі ў гэтай вайне. Занадта многа падзей адбылося, пачынаючы з 1939 года. Але тое, што мы бачылі на экране, выклікала ў нас незразумелыя, можа, нам самім слёзы, крыўду, злосць. Так здаралася і са мною.

Аднак апладысменты ў кіназале паступова замаўкалі, калі фашысты атрымалі першае паражэнне пад Масквой, калі ў Лунінецкі шпіталь паступілі абмарожаныя параненыя салдаты з-пад савецкай сталіцы.

Пасля выбуху партызанскай міны ў Мікашэвіцкам кінатэатры ў лістападзе 1942 года (тады загінулі больш як 200 акупантаў) у Лунінцы адмянілі кінасеансы выключна для немцаў. Цяпер фільмы, калі былі жадаючыя з мясцовых, глядзелі на роўных. Аднак насельніцтва стала радзей хадзіць у кінатэатр, нават хлапчукі. Да таго часу ў свядомасці людзей шмат змянілася. Аднак, на кіначасопісы тыднёвай хронікі, дзе паведамлялася пра Сталінград ці Курск лунінчан не пускалі — мясцовыя жыхары маглі ўвайсці ў залу толькі пасля іх дэманстрацыі. Праўда, зразумець тое, што адбываецца, можна было і без хронікі: пасля разгрому фашысцкіх войскаў пад Сталінградам і палону фельдмаршала Паўлюса ў Германіі быў аб'яўлены жалобны «дзень герояў», у Лунінцы таксама былі прыспушчаны сцягі з прышпіленымі да іх чорнымі стужкамі…

***Заканчэнне будзе.***

# Уладзімір ЛІПСКІ: «УСЕ МЫ — РАДНЯ»



У сваёй творчай практыцы я двойчы сутыкнуўся з такім феноменам: размаўляючы з чалавекам, не мог пазбавіцца ад адчування, што гавару не з адной асобай, а адразу з некалькімі.

Першы раз такое было ў гутарцы з Адамам Мальдзісам, другі раз — з Уладзімірам Ліпскім. Мы гаварылі з ім некалькі вечароў запар, і на кожнай сустрэчы ён паўставаў перада мною ў новай іпастасі, адкрываўся новым, нечаканым бокам.

Калі Уладзімір Сцяпанавіч, як галоўны рэдактар, расказваў пра «Вясёлку», то, здавалася, што ў яго няма нічога больш важнага, больш цікавага, чым гэты часопіс. Творчыя планы, задумы, праекты, сустрэчы — усё гэта з яго вуснаў чулася як захапляльная казка, успрымалася як цікавейшае падарожжа ў шчаслівую, сонечную краіну, імя якой — дзяцінства.

Калі ішла гаворка аб рабоце Дзіцячага фонду, у якім Ліпскі старшыня праўлення, то свет сыходзіўся на гэтай арганізацыі, і перад табой адкрывалася новая дзівосная краіна — краіна міласэрнасці. А ў ёй — безліч добрых, святых спраў: дабрачынныя акцыі, абарона правоў дзіцяці, дапамога сіротам, інвалідам, хворым… І расказваў Уладзімір Сцяпанавіч пра ўсё гэта з такой душэўнай узрушанасцю, з такой сардэчнай захопленасцю, што міжволі пачынаў думаць нібыта гэта і ёсць яго галоўны жыццёвы клопат.

І быццам зусім іншы чалавек — смяшлівы, гарэзлівы, вясёлы — паўстаў перада мной, калі аповед зайшоў пра фестываль гумару ў Аўцюках, які Ліпскі прыдумаў і вось ужо дваццаць гадоў з'яўляецца яго нязменным старшынёй журы. Сыпаліся, як з меха, дасціпныя жарты, вясёлыя прыпеўкі, вострыя анекдоты.

А што ўжо казаць пра пісьменніцкую іпастась Уладзіміра Сцяпанавіча! Літаратура для яго — не сродак адлюстравання жыцця, а само жыццё. «Ні дня без радка!» — гэта і дэвіз Ліпскага. Больш за шэсцьдзясят гадоў вядзе ён свой унікальны дзённік, куды занатоўвае ўсё, што яго хвалюе: чым жыве сучасная вёска, як павялічыць колькасць шчаслівых дзяцей, чаму зніжаецца попыт на мастацкую кнігу… Многія старонкі гэтага дзённіка сталі ўжо кнігамі.

А ўсяго на літаратурным рахунку Уладзіміра Ліпскага — звыш сямідзесяці кніг прозы, дакументальных аповесцей, публіцыстыкі, мастацкіх твораў для дзяцей. І сярод іх, можа, самая галоўная, самая дарагая для пісьменніка —

«Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод», пра якую наш вядомы паэт Анатоль Вярцінскі сказаў, што гэта не проста кніга, а кніга-ўчынак, кніга-подзвіг. Творчы, даследчыцкі, грамадзянскі. А былы старшыня Камітэта па архівах і справаводстве Аляксандр Міхальчанка назваў пісьменніка Калумбам беларускіх архіваў, бо ён зрабіў сапраўдную сенсацыю, прарыў у будучы свет, у гармонію чалавецтва… Дакументаў, якія ўвайшлі ў твор, хопіць з гакам на дысертацыю доктара навук.

Не менш грунтоўнай, эмацыянальнай, пачуццёва-кранальнай атрымалася кніга «Мама. Малітва сына». На думку народнай артысткі Беларусі Марыі Захарэвіч, гэта светлая, узнёслая, паэтычная, са шчымлівым болем, ачышчальнымі слязьмі аповесць. Яна — гаючыя лекі для душы.

Даследуючы сваё генеалагічнае дрэва, Уладзімір Ліпскі зрабіў для сябе нечаканае і цікавае адкрыццё: яго род у глыбіні вякоў перакрыжоўваецца, цесна пераплятаецца з многімі іншымі радаводамі, і найперш са славянскімі — рускімі, украінскімі, польскімі. Карані сваіх продкаў Уладзімір Сцяпанавіч адшукаў у Літве, Германіі, Амерыцы, Расіі і нават у Аўстраліі. І атрымліваецца, што ўсе мы — у нейкім калене сваякі. Адну са сваіх кніг пісьменнік так і назваў «Усе мы — радня»

Ці ёсць патрэба пераказваць, характарызаваць усе кнігі Уладзіміра Ліпскага? Іх проста трэба чытаць. Таму што кожная з іх сагрэта дабрынёй і любоўю, вучыць чалавечнасці і сумленнасці, выхоўвае пачуццё нацыянальнай годнасці і патрыятызму.

Шмат гадоў Уладзімір Ліпскі сябраваў з народным пісьменнікам Беларусі Іванам Шамякіным. Іван Пятровіч пакінуў свайму сябру такія радкі: «Радасна, што магу прызнацца ў шчырай любові да цябе як выдатнага Чалавека і Пісьменніка. Сапраўды я люблю цябе, мой дружа, ганаруся тваімі поспехамі. А яны адметныя, поспехі твае, агульна прызнаныя, яны істотна папоўнілі скарбонку роднай культуры. Сумна, што часам тыя, хто кіруе гэтай культурай, не заўсёды заўважаюць тых, хто ззяе ў ёй зоркай першай велічыні».

Хаця, на маю думку, Уладзіміру Ліпскаму і тут грэх скардзіцца. Ён — узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь, ордэнам Францыска Скарыны і ордэнам святога Дзімітрыя, лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра, Васіля Віткі, расійскай прэміі імя Аляксандра Грына, міжнароднай прэміі імя Альберта Швейцара.

Але найвялікшая ўзнагарода для пісьменніка — любоў і прызнанне яго шматлікіх чытачоў, і асабліва — маленькіх. Дзеці — яго кожнадзённы клопат. Мусіць, няма ў Мінску школы, бібліятэкі, якія б ні наведаў Уладзімір Ліпскі. Ён часты госць у дзіцячых садках, каледжах, выязджае на сустрэчы з настаўнікамі, студэнтамі, вайскоўцамі. Ад такіх сустрэч у слухачоў застаюцца незабыўныя ўражанні, іх сэрцы поўняцца любасцю да роднага слова, роднага краю.

А ў мяне пасля сустрэчы з Уладзімірам Ліпскім засталося яшчэ шэсць гадзін дыктафоннага запісу. Шэсць гадзін шчырай, хвалюючай споведзі. Я ўключаю дыктафон і слухаю, слухаю…

## Споведзь першая. Пакуль смяёмся — жывём

**— Сёння ў краіне шырока вядомы фестываль народнага гумару, які праводзіцца ў Вялікіх і Малых Аўцюках. І вядома таксама, што ініцыятарам, душою гэтага фестывалю быў і застаецца Уладзімір Ліпскі. Раскажы, калі ласка, як узнікла ідэя такога цудоўнага народнага свята і як яно ўсё пачыналася?**

— Пачну крыху здалёк. Мая сястра Клава падчас вайны працавала медсястрой у шпіталі. І вось аднойчы у гэты шпіталь трапіў цяжкапаранены Аляксандр

Угліцкіх. Сястра цэлы месяц выходжвала яго, і пакуль выходжвала, яны пакахалі адно аднаго. Але вайна ёсць вайна, пасля лячэння Аляксандр зноў паехаў на фронт. А калі адгрымелі баі, ён адшукаў нашы балотныя Шоўкавічы і пасватаўся да Клавы. Згулялі вяселле. Аляксандр стаў леснікам у Малых Аўцюках. Вось так упершыню я пачуў пра гэтую вёску і ўпершыню, яшчэ падлеткам, пабываў там, наведалі з бацькам маладую сям'ю. Упершыню там пакаштаваў магазіннай каўбасы.

І трэба ж так здарыцца, што праз многія гады я зноў апынуўся ў Малых Аўцюках. Як гэта адбылося? Аднойчы, будучы ў камандзіроўцы ў Калінкавічах (сястра мая з мужам к таму часу ўжо жылі ў райцэнтры), мне захацелася паехаць паглядзець Вялікія і Малыя Аўцюкі. Я многа чуў, што там жывуць шабутныя, дасціпныя людзі, якія любяць вясёлыя жарты, салёныя прыпеўкі, і на іх вострыя язык лепш не трапляць. А мяне як журналіста, як пісьменніка якраз гэта і зацікавіла.

**— Аўцюкоўцы і праўда такія ці ты іх трохі прыдумаў, ужыўшы мастацкі вымысел?**

— Праўда такія. А калі і быў які вымысел, дык мінімальны. Мая заслуга толькі ў тым, што я вывеў іх на арбіту вядомасці, папулярнасці.

Ну вось, еду я з Калінкавіч у Аўцюкі, а шафёр мне і кажа: «Калі вас там не зразумеюць, дык яшчэ і паб'юць». І глядзіць на мяне з вясёлай усмешкай. Аказалася, нічога страшнага. Аўцюкоўцы прынялі мяне цудоўна, з адкрытай душой. Я хадзіў па вёсцы ад хаты да хаты, распытваў, як людзі жывуць, як адпачываюць — усё было цікава! І мне гэтулькі ўсяго нарасказвалі, наспявалі, што я пасля нават склаў кніжку, якую назваў «Пра каласкоў і калінак, якія гаруюць і жартуюць».

**— А што, яны так сябе і называюць — каласкамі і калінкамі?**

— Не, тады яшчэ гэтыя мянушкі так шырока не ўжываліся. Але я іх недзе пачуў, яны мне спадабаліся, і я ўвёў іх у кніжку. А цяпер гэта ўжо агульнапрынята. Так што ад пісьменніка таксама сёе-тое залежыць.

**— Ну, добра, пабываў ты ў Аўцюках, выпусціў кніжку тамашняга гумару — і што далей?**

— А далей было вось што. Аўцюкоўскім гумарам зацікавіўся Валянцін Болтач, які тады быў галоўным рэдактарам «Вожыка». Ён расказаў пра гэта сваім сябрам-пісьменнікам Генадзю Бураўкіну і Алесю Петрашкевічу. Калектыўна нарадзілася ідэя арганізаваць у Аўцюках фестываль народнага гумару. І мы цэлай дэлегацыяй пайшлі ў Міністэрства культуры да Анатоля Бутэвіча. Міністр нас актыўна падтрымаў і даручыў раённым уладам такі фестываль арганізаваць.

І вось летам 1995 года першы фестываль народнага гумару ў Аўцюках адбыўся. Як бачыш, сёлета мы будзем ужо адзначаць яго дваццацігадовы юбілей.

**— Хто ўзяў на сябе галоўны арганізатарскі клопат?**

— Агульнае кіраўніцтва было за міністэрствам культуры, Гомельскім аблвыканкамам, а на месцы вялікую зацікаўленасць праявіў Калінкавіцкі райвыканкам. Ну і, канешне ж, немалы груз клопатаў лёг на мае плечы. Усю творчую частку свята давялося забяспечваць мне. І якая ж гэта была радасць, якое глыбокае задавальненне — адкрываць, аздабляць крынічкі народнай творчасці!

Цяпер, з вышыні гадоў, ужо можна сказаць, што гэта была падзея. Падзея, якая выйшла за межы раёна. Упершыню ў Беларусі жанр анекдота, вясёлага жарту, гарэзлівай прыпеўкі мы вывелі на шырокую арбіту.

Вось так мы зачапіліся за Аўцюкі і сталі гэты рух развіваць. Праведзена ўжо сем фестываляў народнага гумару. Склаліся пэўныя традыцыі, набыты немалы вопыт. Але сутнасць гэтага свята застаецца ранейшай: пакуль людзі смяюцца — яны жывуць.

Мая запаветная мара: сабраць вясёлых, дасціпных гаваруноў з усіх раёнаў і выявіць сярод іх рэспубліканскага артыста. Справа да гэтага паціху рухаецца, але не так хутка, як мне хацелася б.

**— Вернемся, аднак, да пачатку. Якая была праграма першага фестывалю? Як ён быў арганізаваны?**

— Месца для правядзення фестывалю выбралі прасторнае, маляўнічае — на паляне, атуленай дубамі, паміж Малымі і Вялікімі Аўцюкамі. Ага, паслалі туды мужа і жонку, аўцюкоў, выкасіць траву. Прыязджаюць, а яны выкасілі лапікамі. «А чаму астатняе не касілі?» — строга пытае старшыня. «А тую траву, каласок, наша карова есці не будзе».

На выбранай паляне пабудавалі шыкоўную сцэну, правялі святло, зрабілі радыёфікацыю. Усе вобласці прыслалі свае калектывы гумарыстаў. Былі дэлегацыі з Украіны, Расіі, з балгарскага Габрава. Сабралася некалькі тысяч гледачоў не толькі з Аўцюкоў, але і з навакольных вёсак.

Спаборніцтва ішло ў некалькіх намінацыях: анекдот, жарт, гумарыстычная сцэнка, прыпеўкі, песні… Хто на што здольны. Было і хатняе заданне.

**— Цікава, і што ж вы каму задавалі?**

— Гэта была намінацыя на лепшую гаспадарку. Члены журы хадзілі ад сядзібы да сядзібы і глядзелі, як прыбрана хата, ці дагледжаны агарод, ці чыста і прыгожа на падворку. А яшчэ кожная гаспадыня выстаўляла ля варот свае пачастункі, за гэта таксама ставіліся балы.

Павінен сказаць, што вызначаць пераможцаў у гэтай намінацыі было найцяжэй. У Аўцюках аказалася вельмі шмат выдатных гаспадарак. А колькі было праяўлена гумару, досціпу. Ідзём па вуліцы і раптам бачым на варотах самаробны плакат: «Жонка добрая, але моцна б’ецца».

А ў іншым месцы бабулька, не маючы, відаць, вялікіх прысмакаў, вынесла вядро крынічнай вады і паставіла кубак: частуйцеся, маўляў, госцейкі дарагія. Ну як тут пройдзеш міма. Усе мы падышлі да бабулі, папілі вадзіцы, пагаманілі. І якая ж яна была шчаслівая, што не абмінулі яе ўвагай!

І вось фінал фестывалю. На той жа паляне збіраюцца ўсе жыхары, сабакі, каты, куры, і мы абвяшчаем пераможцаў. Лаўрэатам уручаем дыпломы, каштоўныя падарункі — каму торбу мукі, каму мех бульбы ці жыта, каму парася, цяля, гуску. Аднаму аўцюкоўцу ўручылі парася, дык ён гадаваў яго да наступнага фестывалю — раскарміў на ўвесь хлеў. Пытаемся, якім рэцэптам карыстаўся. Справа ў тым, што у Аўцюках бытуе такі жарт: каб кабанчык хутчэй рос, яго прывязваюць за заднія ногі, а карыта з ежаю адстаўляюць усё далей і далей. Гаспадар рагоча, і кажа, што рэцэпт гэты не прымяняў. Кормнік сам вырас!

Мне ж першы фестываль запомніўся яшчэ тым, што мяне, як арганізатара свята, узнагародзілі канём. Гэта было так нечакана, што я напачатку нават разгубіўся: што я з ім буду рабіць? Першая думка: сяду на каня і паеду па вёсках, буду расказваць пра фестываль, праводзіць вечары гумару. Пасля адумаўся: не, гэта нерэальна. І я аб’явіў, што перадаю каня вучням Вялікааўцюкоўскай школы, хай яны дапамагаюць старым адзінокім людзям прывезці дроў, узараць соткі, пабаранаваць бульбу… І назвалі таго працаўніка — конь Ліпскі.

Дарэчы, кожны фестываль заканчваецца вялікім канцэртам мастацкай самадзейнасці і святочным салютам.

**— Першы фестываль спраўдзіў твае чаканні?**

— Нават пераўзышоў! Мы паверылі, што нешта можам. А самае галоўнае: ён засведчыў, што беларуская зямля багатая на невычэрпныя народныя таленты.

**— Ці змяніўся сцэнарый фестывалю за мінулыя гады?**

— Змяніўся толькі па форме. Раней свята доўжылася тры дні, цяпер — два. Раней яно шумела-віравала ў адным месцы, цяпер праводзіцца крыху інакш. У першы дзень фестываль адкрываем у Малых Аўцюках і па традыцыі праводзім конкурс на лепшую гаспадарку. На другі дзень пераносім дзею ў Калінкавічы, у гарадскі парк, куды збіраецца да 30 тысяч чалавек. Прыходзяць не толькі жыхары раённага цэнтра, але і навакольных вёсак і нават людзі з бліжэйшых раёнаў. Да тых намінацый, што я называў, дабавіліся яшчэ спартыўныя спаборніцтвы. Але

гэтыя спаборніцтвы зноў-такі праводзяцца з гумарам, з дасціпнымі прыдумкамі. Асабліва падабаецца футбол паміж жаночымі камандамі з Малых і Вялікіх Аўцюкоў.

Кожны раз раённыя ўлады прыдумваюць нешта новае. Падчас апошняга фестывалю, напрыклад, быў адкрыты ў Малых Аўцюках музей народнага гумару. Сярод шматлікіх пацешных экспанатаў там ёсць, між іншым, і печ Ліпскага. Там жа працуе кавярня «Ганарысты парсюк». Так што мы рухаемся, рухаемся…

**— Са сваімі падапечнымі паміж фестывалямі ты сувязь трымаеш?**

— Пастаянна. Вось і нядаўна быў у Малых Аўцюках. Сустрэў знаёмых. Прыпыніліся. Селі на лаўку. Нас тут жа акружылі іншыя жыхары. Я жартам пытаюся: «Ну што, самагонку гоніце?» Я ж свой чалавек. «Не, — кажа адна жанчына, а ў вачах чорцікі скачуць. — Не гонім, каласок Ліпскі». — «А прадаеце?» — «Ага». — «А ў каго самагонка лепшая?» — «Лепшая ў нашага ўчастковага!» І ад душы рагочуць. Вось ён, жывы гумар, у якім і хітрасць, і мудрасць.

Ці яшчэ такі эпізод. У аднаго аўцюкоўца папрасіў: «Дай веласіпед праехаць». — «На. Ты ж толькі глядзі — тармазоў няма». Альбо адзін мне кажа: «Раней у нас Манька была на ўсё сяло, а цяпер — на ўсю печ». Адной фразай расказаў пра ўсё жыццё жанчыны.

**— Фестывалю дваццаць гадоў. Ужо можна зрабіць першыя высновы. Якое значэнне гэты рух мае для Беларусі? Што ён дае самім аўцюкоўцам?**

— Для аўцюкоўцаў гэта не проста свята, на якім можна добра адпачыць, павесяліцца. Гэта яшчэ і выдатная магчымасць раскрыць свае здольнасці, узвысіць свой імідж у вачах шматлікіх гасцей, набыць папулярнасць. Але фестываль, на маю думку, мае і больш шырокае значэнне. Па вялікім рахунку ён дзейсна служыць умацаванню і развіццю народных традыцый, яскрава сведчыць пра глыбінныя таленты народа.

Нагадаю такі факт. Выдавецтва «Беларуская навука» выпусціла кнігу пра гумар беларусаў, дзе асобным раздзелам пададзены аўцюкоўскія жарты. Гэта значыць, што яны, як частка фальклору, увайшлі ўжо ў літаратурны і навуковы кантэкст. А Ліпскі ўключаны ў энцыклапедыю «Беларускі фальклор».

**— Кажуць: гумар — гэта прыкмета здароўя нацыі.**

— Абсалютна! Паўтару яшчэ раз: людзі смяюцца — значыць жывуць. Наш гумар ад зямлі, трошкі грубаваты, часам салёны, але здаровы, у ім няма злосці. «Ты можаш мяне не слухаць, але брахаць не замінай». Які цуд! Гумар — адзіны допінг, які не шкодзіць здароўю.

**— Як ты лічыш, фестываль, ініцыяваны табой, мае далейшыя перспектывы?**

— Хачу ў гэта верыць. Мы, напрыклад, марым вывесці нашыя Аўцюкі на міжнародную арэну, паставіць спектакль «Аўцюкоўцы смяюцца» і адкрыць на тэлебачанні шынок-рагатуху «Каласок і Калінка».

**— Як ты сабе гэта ўяўляеш?**

— Павінны быць на нашым фестывалі афіцыйныя дэлегацыі з замежжа. Каб мы таксама ездзілі ў іншыя краіны. Чаму б і не? База ўжо створана. Яна павінна жыць і развівацца. Людзям гэта падабаецца. Іх жа ніхто не зганяе — самі прыходзяць. Вось як тая бабуля, за пяць кіламетраў прышлэпала. Адзін наш вядомы паэт, наведаўшы Аўцюкі, сказаў: «Пабыў два дні, а смяяўся два гады»…

Мы, беларусы, павінны навучыцца цаніць сваё, падтрымліваць яго і ўзбагачаць. Гумар — толькі адна грань таленту нашага народа. А талент гэты — шматгранны і невычэрпны. Такую выснову яскрава пацвярджаюць Дні пісьменства, Гродзенскі фестываль нацыянальных мастацтваў і іншыя святы.

Якая багатая наша культура! Беларусь — унікальная духоўная крыніца. Цэлы космас. Мы толькі маленькі працэнт адкрылі, паказалі са скарбніцы гэтага неацэннага багацця. Нам толькі ў шапку меней трэба спаць.

## Споведзь другая. Вясёлкавае шчасце



**— Уладзімір Сцяпанавіч, як мне падаецца, самы важны і самы значны этап у тваім жыцці — гэта праца ў «Вясёлцы». Амаль сорак гадоў ты — галоўны рэдактар гэтага папулярнага дзіцячага часопіса ў краіне.**

— Калі дакладна, то трыццаць сем. Наконт значнасці і важнасці гэтай працы мушу з табой пагадзіцца. Ужо хоць бы таму, што «Вясёлцы» я аддаў лепшую частку свайго жыцця. Але самае галоўнае: усе гэтыя гады мая праца звязана з самымі цікавымі, самымі мудрымі людзьмі на свеце — дзецьмі.

**— Як і калі адбыўся твой прыход у «Вясёлку»?**

— Было гэта ў далёкім 1978 годзе. Я тады працаваў адказным сакратаром у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Працаваў з вялікім жаданнем, з трапяткім хваляваннем. Дзіва што: побач кожны дзень знаходзіліся жывыя класікі нашай літаратуры — Максім Танк, Іван Шамякін, Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка… Сустракацца, гутарыць з імі было для мяне невыказнай радасцю.

Таму калі аднойчы Шамякін прапанаваў мне пасаду галоўнага рэдактара «Вясёлкі», я, па праўдзе кажучы, сумеўся. Убачыўшы маю разгубленасць, Іван Пятровіч сказаў: «Валодзя, гэта так рэдка бывае… Ідзі!»

А я ж не быў яшчэ нават членам Саюза пісьменнікаў. Ды і вопыту працы ў сродках масавай іфармацыі меў мала. Ну хіба што непрацяглая праца ў Нясвіжскай раённай газеце. А тут адразу такая адказная пасада.

Але Іван Пятровіч мяне супакоіў: «Кіраўнічы вопыт набываецца з часам. Затое ў цябе ёсць галоўнае — ты любіш дзяцей, разумееш іх свет і ўмееш адлюстраваць яго ў мастацкім слове. Твае літаратурныя творы, якія я ўважліва чытаў, пацвярджаюць гэта. Перакананы: у цябе ўсё атрымаецца».

І я пайшоў. І служу ў «Вясёлцы» ўжо каторы год.

**— І ніводнага дня не пашкадаваў, што ўзваліў на свае плечы такі груз клопатаў і адказнасці?**

— Наадварот! Адчуваў і адчуваю вялікае шчасце. Усе гэтыя трыццаць сем гадоў прамільгнулі як адзін сонечны дзень. Праца з дзецьмі і для дзяцей дае такі магутны імпульс для натхнення, для творчасці, што я не магу параўнаць яе ні з чым іншым. Няма ніводнага нумара «Вясёлкі», які б мы ў нечым паўтарылі. Кожны раз ствараем па-новаму, з выдумкай, з фантазіяй. Хаця пры гэтым хачу зазначыць, што стараюся працягваць традыцыі Васіля Віткі, ажыццяўляць яго асноўныя ідэі.

**— Што ж, давай тады пагаворым пра «Вясёлку» крыху падрабязней. Якія рэдакцыйныя праекты ты лічыш найбольш цікавымі, значнымі? Што за гады рэдактарства ўдалося табе ажыццявіць? Чым ты ганарышся?**

— Зноў-такі не магу не падкрэсліць, што асновы сённяшняй «Вясёлкі» заклаў Васіль Вітка. У аснове канцэпцыі, распрацаванай ім, ляжаць тры галоўныя пазіцыі. Як бы ні мяняўся час, дзеці, бацькі — тры гэтыя рэчы застаюцца нязменнымі.

Першае: прывіваць дзецям любоў да роднай зямлі. Другое: каб яны ведалі родную мову, даражылі ёю і шанавалі. І трэцяе: каб дзеці навучыліся паважаць дарослых. Тры пастулаты — простыя, мудрыя, вечныя.

І яшчэ адна важная ўмова: для таго, каб рабіць добры часопіс, патрэбны таленавітыя аўтары. Мы глядзім не ў твар, а ў твор. Гэта мой рэдакцыйны дэвіз. Наша задача — прыцягваць да супрацоўніцтва з «Вясёлкай» лепшыя літаратурныя і мастацкія сілы.

Цяпер з вышыні гадоў і зробленага намі магу смела сказаць, што «Вясёлка» стварыла беларускую літаратуру для дзяцей. З «Вясёлкі» падхарчоўваюцца ўсе падручнікі. Мы выпусцілі шэсць тамоў выбраных твораў, якія друкаваліся ў часопісе, і гэтыя тамы імгненна разышліся.

**— Ты расказваеш ужо аб рэдакцыйных праектах?**

— Так. На аснове рубрыкі «Нам засталася спадчына», пад якой мы друкуем у часопісе аповеды пра гарады, асобы, помнікі культуры і архітэктуры, выпусцілі дзве шыкоўныя кніжкі і будзем працягваць выданне.

Распачалі рэалізацыю грандыёзнай задумы — выдаць сто кніжак «Бібліятэкі «Вясёлкі». Адкрылі гэту бібліятэку серыяй «Жывая класіка». Да чытачоў пайшлі ўжо зборнікі твораў Васіля Віткі, Эдзі Агняцвет. На падыходзе кнігі Артура Вольскага, Сяргея Грахоўскага, Алеся Пальчэўскага…

Пад кожны Новы год у мяне баліць галава, як спланаваць наступныя нумары часопіса, каб яны былі звязаны нейкай адной, скразной тэмай. Цэлы год! Ці то вокладкай, ці нейкай новай рубрыкай.

Быў яшчэ адзін цікавы праект — «Замежныя вандроўкі «Вясёлкі». За год нашы чытачы пабывалі ў Расіі, Украіне, Ізраілі, Венесуэле, Кітаі — усяго ў дванаццаці краінах свету.

**— Пабываць у замежным падарожжы, хай сабе і завочным, гэта, вядома, добра. А што вы расказваеце сваім чытачам пра Беларусь?**

— Дык жа гэтаму прысвечаны кожны нумар «Вясёлкі»! Але ёсць і спецыяльны праект. Скажам, амаль на працягу двух гадоў мы расказвалі пра Гродзеншчыну — пра кожны яе раён. Друкавалі карту раёна, герб, найбольш слаўныя старонкі гісторыі, нарысы пра знакамітых людзей прынёманскага краю. Пасля гэтыя матэрыялы выйшлі асобнай кніжкай «Вясёлка над Нёманам». Атрымаўся своеасаблівы падручнік па радзімазнаўстве. Не дзіва, што кніга разышлася тыражом у 12 тысяч экзэмпляраў.

Гэтак жа падрабязна і займальна мы расказалі пра Гомельшчыну. Цяпер агітую Раісу Баравікову, каб яна напісала пра сваю малую радзіму — Брэстчыну, Алену Масла — пра Віцебшчыну, Алеся Карлюкевіча — пра Міншчыну. І калі мы асілім гэты праект да канца, атрымаецца дапаможны матэрыял па многіх школьных прадметах.

Ужо не адзін год доўжыцца праект «Тэатр Васі Вясёлкіна». Пад гэтай рубрыкай на старонках часопіса друкуем невялічкія п’есы, якія можна паставіць у дзіцячым садку, у школе. Ёсць задума лепшае з гэтага выдаць пасля асобнай кніжкай, якая, не сумняваюся, разыдзецца імгненна.

А «Спеўнік «Вясёлкі»? Якую карысную справу мы робім, друкуючы песні для дзяцей! Гэта, бадай, самая запатрабаваная ніша: музычнай дзіцячай літаратуры вельмі і вельмі мала. З дапамогай Саюза кампазітараў мы гэту нішу патроху запаўняем.

Не магу не сказаць і пра такія праекты, як «Хвілінкі-весялінкі», «Чароўны куфэрак». Гэта пастаянна дзеючыя праекты. З нумара ў нумар публікуем у гэтым раздзеле часопіса красворды, рэбусы, жарты, вершы, казкі. Праводзім розныя конкурсы. І штогод падсумоўваем вынікі дзіцячай творчасці. Ва ўрачыстай абстаноўцы, пры шматлікіх гледачах пераможцам уручаем прэміі галоўнага рэдактара «Вясёлкі» і адпаведныя дыпломы. Дарослыя аўтары-пераможцы ўганароўваюцца прэміяй і медалём Васіля Віткі.

Альбо возьмем такое. Цяпер шмат гаворыцца аб заняпадзе беларускай мовы, аб тым, што яна выйшла з ужытку не толькі ў навучальных установах, але і ў нашым быце. Мы ж у «Вясёлцы» не толькі гаворым пра гэта, але і многае робім. У кожным нумары часопіса друкуем «Верш на памяць», дзе прапануем творы не толькі паэтаў-класікаў, але і сучасных аўтараў.

А летась з праектам «Чытаем разам, чытаем па-беларуску» аб'ехалі дзесяць раёнаў Беларусі. Перад кожным выездам звязваліся з мясцовай бібліятэкай, разам выпрацоўвалі сцэнарый нашай сустрэчы, дзеці актыўна рыхтаваліся да гэтага свята. Так, менавіта свята, бо гэта было надзвычай цікава і хвалююча для ўсіх — і для работнікаў бібліятэкі, і для нашых аўтараў, якіх мы прывозілі на сустрэчу, і, вядома ж, для дзяцей.

З дзяцінства выхоўваем патрыётаў. Вось ужо тры гады выпускаем нумары, прысвечаныя Дню Саюзнай дзяржавы. Каб было зразумела, што мы там друкуем, нагадаю змест аднаго з такіх нумароў. На развароце — вершы Максіма Багдановіча і Міхаіла Лермантава, на астатніх старонках — творы дзяцей, як беларускіх, так і рускіх, народная казка беларуская і паралельна руская. Вельмі эмацыянальным атрымаўся аповед пра дружбу двух выдатных паэтаў Аляксандра Твардоўскага і Аркадзя Куляшова. Яны шмат перакладалі адзін аднаго, актыўна і дзейсна мацавалі дружбу паміж нашымі народамі.

Такую інфармацыю, лічу, трэба закладваць з дзяцінства. І ў гэтым нам хараша дапамагае сяброўства з расійскім часопісам «Мурзилка». У мяне нават ёсць ідэя стварыць сумесна з «Мурзилкай» выданне для дзяцей Саюзнай дзяржавы на дзвюх мовах — палову па-беларуску, палову па-руску. Каб беларусы, якія жывуць у Расіі, маглі сваіх дзетак прывучаць да роднай мовы, і — наадварот. Каб праз лепшыя ўзоры дзіцячай паэзіі і прозы адбывалася ўзаемнае ўзбагачэнне дзвюх нашых культур.

Ага, ледзь не забыўся сказаць яшчэ пра адзін важны праект — «Правы і абавязкі дзяцей». Два гады, з нумара ў нумар, мы публікавалі на гэтую тэму разнастайныя матэрыялы. Я, напрыклад, напісаў займальную аповесць-казку «Дабрадзей для ўсіх дзяцей», у якой галоўны герой Юні-Юні (сонечны зайчык) паспяхова выбіраецца з самых складаных сітуацый, дзякуючы добраму веданню сваіх правоў і абавязкаў.

Цяпер распачаў новы праект — расказваем дзецям пра грошы, пра фінансы, сямейны бюджэт, знаёмім іх з такімі банкаўскімі паняццямі, як крэдыт, дэпазіт і таму падобнае. Адным словам, папулярна, даступна выкладаем азы фінансавай адукацыі. Нараджаецца аповесць-казка «Грошык і таямнічы кошык».

Ёсць у нас ідэі і больш маштабных праектаў. Адзін з іх я нават агучваў на калегіі Міністэрства інфармацыі. Сутнасць яго вось у чым. У нас ужо ёсць два буйныя холдынгі сродкаў масавай інфармацыі — грамадска-палітычны і культуралагічны. А чаму б не стварыць холдынг дзіцячых выданняў? Але не проста звесці іх у нейкае фармальнае аб'яднанне, а стварыць сапраўдную дзіцячую індустрыю, дзе б у цесным узаемадзеянні працавалі газеты і часопісы, выдавецтвы, рэкламнае агенцтва, кнігарня, дзіцячае кафэ з нацыянальнай кухняй. Тут бы рэгулярна праводзіліся сустрэчы з пісьменнікамі, прэзентацыі кніжак, імяніны дзяцей і іншыя мерапрыемствы.

## Споведзь трэцяя. Шлях у літаратуру

**— Уладзімір Сцяпанавіч, давай крыху падрабязней пагаворым пра тваю пісьменніцкую іпастась. Калі табе ўпершыню захацелася нешта напісаць самому, паспавядацца, выказаць тое, што цеплілася на душы? Калі ты адчуў неадольную цягу да мастацкага слова, зразумеў яго смак, яго вагу, яго сілу?**

— Ого, колькі адразу пытанняў! Тады давай па парадку. Пачалося ўсё з бібліятэкі нашай настаўніцы Аляксандры Лявонаўны. Яна вяла ў нас усе чатыры

класы. І вучыліся мы ў адной хаце, школьнага будынка тады, адразу пасля вайны, яшчэ не было.

Дык вось у Аляксандры Лявонаўны была невялічкая бібліятэка, адзіная на ўсю вёску. Да гэтай бібліятэчкі настаўніца мяне і прыахвоціла. Я практычна перачытаў усе кніжкі, якія там былі. Памятаю, трапіў мне ў рукі зборнік вершаў Эдзі Агняцвет «Васількі». І быў вельмі ўражаны тым, што, аказваецца, можна пісаць не толькі пра далёкія, рамантычныя краіны, фантастычныя падарожжы, але і пра тое, што вакол цябе, што побач. Пра тыя ж васількі, якія растуць у жыце за вёскаю…

Забягаючы наперад, скажу: з Эдзі Сямёнаўнай праз гады мы пазнаёміліся і пасябравалі. Яна нават рэкамендавала мяне ў Саюз пісьменнікаў. І я зразумеў: у жыцці нічога выпадковага не бывае.

А тады, у дзяцінстве, яе кніжачка стала першым імпульсам да таго, каб нешта напісаць самому. Адчуўшы творчы сверб, я стаў сачыняць розныя заметкі пра сваіх аднавяскоўцаў. Раённая газета іх ахвотна друкавала.

Аднойчы, калі я ішоў па вуліцы, мяне запынілі дзядзькі, якія сядзелі на лаўцы: «Хадзі сюды, пісацель. Ты вось хваліш нас, гэта добра, маладзец. А пра нашага п’яніцу-брыгадзіра можаш напісаць?»

Пад’юдзілі мяне вось гэтак, я ўзяў і напісаў усё, што ведаў пра гэтага гаракіраўніка. А праз пэўны час прыехаў у вёску нейкі чалавек, пузаценькі такі, з партфелем, сабраў сход і п’янтоса-брыгадзіра знялі з пасады. Вось тады я і адчуў, што такое друкаванае слова, якая ў ім сіла.

У школе я быў рэдактарам усіх насценных газет (*смяецца*). Пісаў і замалёўкі, і гумар, і сатыру. Выпускаць насценную газеты мне даручылі і ў тэхнікуме, у які паступіў пасля школы. Акрамя таго Мінск вывеў мяне ўжо на больш высокую арбіту. Я стаў друкавацца ў «Чырвонай змене», «Знамени юности». Атрымаў пасведчанне няштатнага карэспандэнта гэтых газет. А за актыўную рабкораўскую дзейнасць быў нават узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Гэта, вядома, дужа натхніла мяне і надало творчага імпэту.

Як і калі я ад чыстай журналістыкі зрабіў крок да літаратуры? Было так. У мяне нарадзіўся сын Ігарок. Ён рос вельмі цікаўным і дасціпным хлопчыкам. З ім пастаянна здараліся нейкія прыгоды. Я, каб не забыцца, пачаў запісваць за ім пацешныя слоўцы, нечаканыя выразы, вясёлыя здарэнні, забаўныя гісторыі. І аднойчы паказаў гэтыя запісы пісьменніку Паўлюку Пранузу. Той мне і кажа: «Дык гэта ж гатовыя апавяданні».

**— Так нарадзілася твая кніжка «Рыгоркавы прыгоды»?**

— Пачакай, да кніжкі яшчэ было далёка. Спачатку я адважыўся і два апавяданні занёс у «Вясёлку». Як цяпер памятаю, зайшоў у пакой, дзе сядзелі адразу тры вядомыя пісьменнікі: галоўны рэдактар Васіль Вітка і супрацоўнікі часопіса Сяргей Грахоўскі і Алесь Пальчэўскі. Мудры Вітка бліснуў на мяне з-пад акуляраў дапытлівым позіркам і спакойна сказаў: «Ну, Валодзя, пачытай, калі ласка…»

Я пачаў чытаць і ў канцы адчуў, што ўвесь ажно ўзмакрэў. Пры чытанні ўголас усе слабасці майго апавядання вылезлі на паверхню. Збянтэжаны, я папрасіў: «Цімох Васільевіч, можна, я крыху яшчэ папрацую?..»

Вітка, здаецца, абрадаваўся гэтаму: «От, Валодзя, і правільна».

Канешне ж, свае апавяданні я кардынальна перапрацаваў. Пазней яны былі надрукаваны ў «Вясёлцы». Занялі цэлы разварот. Якая ж гэта была для мяне радасць! Першая салідная літаратурная публікацыя ў рэспубліканскім друку!

І мой першы літаратурны ўрок: не спяшайся, браце, напісанае хутчэй несці ў рэдакцыю. Як кажуць, з плеч ды ў печ. Адкладзі рэч убок, хай крыху паляжыць, а пасля вярніся і асэнсуй яе свежым поглядам. Заўсёды знойдзеш, што паправіць, дапрацаваць…

Я пасля такога ўрока заўсёды стараўся і стараюся прытрымлівацца гэтага правіла. Таму да кніжкі «Рыгоркавы прыгоды» ішоў доўгія тры гады.

**— А якая была наступная?**

— «Марынчына казка». Гэта — своеасаблівы працяг першай. Толькі там былі прыгоды хлопчыка, а тут — мары і летуценні дзяўчынкі. Абедзве кніжкі — мая першая спроба ў мастацкай форме паказаць чароўны свет дзяцінства. Хаця, павінен табе прызнацца, мая душа больш ляжыць да дакументальнай літаратуры. Я напісаў і выдаў на сённяшні дзень пятнаццаць дакументальных аповесцей.

**— Крытыкі называюць іх больш дакладна — дакументальна-мастацкімі творамі. Таму што ў іх аснову пакладзены канкрэтныя жыццёвыя факты, дзейнічаюць рэальныя людзі, але апавядаецца ўсё гэта па законах мастацтва.**

— Крытыкам відней *(смяецца)*.

**— А мы з табой давай прыгадаем дзве-тры кніжкі, якія ты лічыш калі не самымі значнымі, то самымі дарагімі. Раскажы, як яны ствараліся?**

— Дарагі Зіновій, задай гэтае пытанне любой маме і яна скажа, што ўсе мае дзеткі самыя прыгожыя, самыя разумныя… Канешне, з усяго напісанага я ў першую чаргу вылучу кнігу «Мама», якую, мне здаецца, яна сама мне надыктавала, а я толькі запісваў.

**— Як узнікла задума?**

— А от ляжаў я неяк ноччу, чамусьці не спалася. Гляджу: за акном на цёмнасінім небе хмарка плыве — доўгая, белая, ну рыхтык як палатно, што ткала мама. І мяне нібы апякла думка-здагадка: «Гэта ж яна мне знак падае! Мусіць, хоча, каб я згадаў пра яе напярэдадні юбілею…» Маме — ў тыя дні споўнілася б сто гадоў, але ўжо чвэрць веку яе не было з намі.

І я стаў прыгадваць сваё жыццё з мамай. Дзень за днём. Эпізод за эпізодам. Памяць высвечвала такія дэталі, такія падрабязнасці, што я толькі здзіўляўся, адкуль яны браліся. І мне сапраўды толькі заставалася іх запісваць. Вось так і нарадзілася, бадай што, самая спавядальная мая кніга.

Іншая гісторыя ў аповесці «Крутыя вёрсты». Яшчэ калі я працаваў у ЦК камсамола, мне давялося быць у камандзіроўцы ў Полацку. І мясцовыя актывісты расказалі пра незвычайны лёс адной жанчыны, Героя Савецкага Саюза Зінаіды Тусналобавай-Марчанка. На вайне яна была санінструктарам. Выцягнула з-пад агню, выратавала сто дваццаць трох параненых салдат і камандзіраў. А сто дваццаць чацвёртага ўратаваць не змагла: смяротна паранены камандзір роты Цімашэнка памёр на руках санінструктара. У тым баі была цяжка паранена ў нагі і сама Зіна.

Дактары выратавалі жыццё Зінаідзе Тусналобавай, але прастрэленыя ногі і адмарожаныя рукі давялося ампутаваць. Стала дзяўчына, як птушка без крылаў.

Зіна была яшчэ ў шпіталі, а танкісты, ідучы ў бой, пісалі на танках: «За Зіну Тусналобаву!» На баявых самалётах пісалі: «За дзяўчыну з Полацка!» Быццам сама Зіна ваявала супраць фашыстаў.

А потым вярнуўся з фронту яе каханы Іосіф Марчанка. Згулялі вяселле. У шчаслівай сям'і нарадзіліся сын Валодзя і дачка Ніна. Зінаіда Міхайлаўна зноўку навучылася пісаць, гатаваць смачныя абеды. А самае галоўнае — сваім подзвігам, сваім жыццём вучыла маладое пакаленне любіць і шанаваць Радзіму.

Знаёмства з гэтай жанчынай-легендай, доўгія, шчырыя гутаркі з ёю пераканалі мяне: тут аднаго нарыса мала, трэба пісаць аповесць. Што я неўзабаве і зрабіў. І павінен сказаць, што лёс гэтай кнігі склаўся даволі шчасліва: яна двойчы выдавалася ў Мінску, была перакладзена на рускую мову і выдавалася ў Маскве і Вільнюсе, двойчы — у Кіеве і Кемерава. Па аповесці пастаўлены радыёспектакль.

**— А чаму ты вырашыў напісаць аповесць пра Янку Купалу? Хіба мала было розных кніг і вучоных даследаванняў пра нашага песняра? У рэшце рэшт у серыі «ЖЗЛ» пра Купалу выйшла грунтоўная кніга Алега Лойкі.**

— Даследаванне Лойкі сапраўды грунтоўнае і цікавае, але яно для дарослых. Тое ж самае можна сказаць пра шматлікія літаратуразнаўчыя працы. А мне хацелася расказаць пра Купалу дзецям — проста і займальна. Я быў шакіраваны,

калі дазнаўся, што ніводнай такой кніжкі для маленькіх чытачоў у нас няма. А гэта ж — наш геній, духоўны лідар нацыі, заснавальнік беларускай літаратуры. І чым раней пра гэта дазнаюцца дзеткі — тым лепш. Хочацца спадзявацца, што мая кніга «Янкаў вянок» няблага паслужыць гэтай справе.

**— Асобнае месца, на маю думку, у тваёй творчасці займаюць кнігі пра землякоў.**

— О, добра, што ты пра гэта ўзгадаў. Мая малая радзіма, балотная вёсачка Шоўкавічы, сапраўды для мяне самае дарагое, самае святое месца на зямлі. Ведаеш, я шмат дзе пабываў — у Амерыцы, у Мексіцы, Даніі, Бельгіі, Германіі, Францыі, Швейцарыі, Фінляндыі, Югаславіі, В'етнаме, Карэі… Аднак лепшай мясціны, чым мая малая радзіма, цяжка знайсці. Тут жывуць людзі, мудрыя ад неба, багатыя ад зямлі, душэўныя ад божай прыгажосці наваколля. І таму я не стамляюся пісаць пра сваіх землякоў.

Першай спробай сталася кніга «Лаўрэнавы працадні», якая была выдадзена больш як трыццаць гадоў таму. У аснову яе пакладзены некаторыя факты з біяграфіі майго бацькі. Помніш, я расказваў табе пра калгаснага брыгадзіра-п'яніцу? Дык вось гэты брыгадзір з-за сваёй слабасці часта забываў адзначаць, дзе хто працаваў. Каб гэтага не здаралася, бацька штодня і на працягу многіх гадоў старанна запісваў, што рабіў у калгасе. Такіх сшыткаў сабралася некалькі. Яны мяне і натхнілі напісаць аповесць.

А праз колькі год у мяне выспела яшчэ адна кніга пра землякоў. Самая эмацыянальная і самая балючая. Гэта адчуваецца ўжо ў самой назве — «Адпяванне жывых». У кнізе захаваны сапраўдныя імёны і прозвішчы, а ў каго былі, дык і мянушкі, а таксама назвы суседніх вёсак, навакольных бароў, урочышчаў, сенажацей, рэчак, гістарычных мясцін.

Я стараўся стварыць праўдзівы летапіс жыцця палескай вёскі Шоўкавічы і яе жыхароў. І ў гэтым летапісе аказалася нямала драматычных, пераломных гістарычных падзей, калі, здавалася, не выжыць ні вёсцы, ні вяскоўцам. Колькі разоў адпявалі іх!

Складанай ломкай абярнулася для шоўкаўцаў калектывізацыя. Не абмінулі маю родную вёску і палітычныя рэпрэсіі трыццатых гадоў XX стагоддзя. А вайна? Яна ўварвалася ў лёс кожнага, і добра павядзьмарыла над людзьмі. Карнікі дабраліся і да Шоўкавіч, свечкамі ўзвіліся там хаты…

Адпявалі жывых і пасля вайны. Абвясцілі Шоўкавічы неперспектыўнай вёскай. Не стала ёй месца на гэтай зямлі. Мае землякі не маглі зразумець: як можна жывую вёску з жывымі людзьмі адпяваць?

На вялікі жаль, змрочнае прароцтва савецкіх кіраўнікоў збылося. Няма больш на карце свету маляўнічых, утульных, любых майму сэрцу Шоўкавіч. З двухсот жыхароў засталася жменька, на адну лаўку.

Можа, за гэтым нейкая сярмяжная праўда і стаіць. Можа, трактарам у наша балота і не залезеш, каб узараць кожны лапік. Ну, хай тады расце лес. Але ж давайце не забываць, хто тут жыў-працаваў, клаў усяго сябе, каб жыла сённяшняя вёска.

Зноў-такі, не палічы за нясціпласць, але я спашлюся на ўласны прыклад. Там, дзе калісьці стаяла наша хата, застаўся расці дуб. Высокі, разгалісты, векавечны, які, відаць, памятае яшчэ і маіх дзядоў, і прадзедаў. Адным словам, сведка дзён нядаўніх і дзён, што даўно ў нябыт уцяклі.

І вось я папрасіў ляснікоў, каб яны абгарадзілі гэты дуб. Ён, аказваецца, уяўляе сабой яшчэ і помнік прыроды. З яго некалі пачыналася знакамітая Шоўкаўская дуброва, якая ахоўвалася дзяржавай. Пра гэта я знайшоў адпаведныя дакументы ў нашых архівах.

Леснікі — малайцы: яны не толькі абгарадзілі дуб, але і зрабілі альтанку. І цяпер тым, хто прыязджае наведаць родныя мясціны, можна прыйсці да альтанкі, пасядзець, паўспамінаць шоўкаўцаў.

Больш за тое, тыя ж леснікі з дапамогай мясцовых школьнікаў ад дуба да колішняй вуліцы высадзілі ліпавую алею. Зрабілі сімвалічную брамку. А я на ёй вывесіў набраны на камп’ютары спіс усіх, хто жыў у нашай вёсцы. Атрымалася сімпатычная, кранальная алея памяці.

Што я гэтым хачу сказаць? Вёскі аджываюць свой век, паміраюць. Працэс незваротны. Але шкада, калі былыя котлішчы зарастаюць быльнягом, хмызняком, і ніхто праз гады нават не ўспомніць, што тут некалі жылі людзі, жаніліся, гадавалі дзяцей, спявалі, плакалі.

Каб не страціць гэту памяць — патрэбен нейкі знак. От хоць бы такі, які зроблены ў Шоўкавічах. Пакладзіце валун, напішыце на ім колькі слоў. Крыж пастаўце. Зрабіце лаўку. Гэта будзе прыкметай нашай культуры і павагі да нашай гісторыі.

**— Ці не ад такіх разважанняў і нарадзілася твая задума напісаць яшчэ адну ўнікальную кнігу — «Я. Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод»?**

— Абсалютна. Я — чалавек сямейны. Люблю, калі ў хаце на сценах у рамках вісяць фотаздымкі сямейнікаў розных пакаленняў. Люблю, калі ў доме за гасцінным сталом збіраюцца старыя і малыя, і разам адзначаюць нейкае свята. Гэта радуе, грэе маю душу.

Наогул, сям’я, вобразна кажучы, — гэта планета-ракета, якая выносіць на арбіту новых і новых прадаўжальнікаў роду. Дзеці — спадарожнікі планеты Сям’я. На ёй яны напаўняюцца мудрасцю, сілай, жыццёвым зарадам. І, адчуўшы моц у крылах, з дапамогай бацькоў узлятаюць на сваю арбіту… Менавіта ў сям’і ўвасабляецца генная энергія продкаў, стагоддзямі назапашаныя скарбы культуры, звычак, традыцый, характараў.

**— Скажы, калі ласка, табе дакументальныя рэчы даюцца лягчэй за мастацкія ці, наадварот, цяжэй?**

— Цяжэй. І намнога. Дакументальная літаратура патрабуе вялікай працы. Я для кожнай сваё рэчы збіраю матэрыялу ў пяць—дзесяць разоў болей, чым пойдзе. Затое я смела аперырую фактамі, лічбамі, дакументамі. Кожная мая выснова доказна аргументавана. Ніхто не зможа зрабіць мне ніякай заўвагі.

Калі я пісаў аповесць пра Васіля Феафілавіча Купрэвіча, які прайшоў шлях ад простага вясковага настаўніка да акадэміка, прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі, то давялося сустрэцца з дзясяткамі людзей — яго сябрамі, яго навуковымі паплечнікамі, сямейнікамі, пералапаціць горы архіўных дакументаў. Затое мне было вельмі прыемна, калі жонка Васіля Феафілавіча, прачытаўшы мой рукапіс, здзіўлена і з відавочнай пахвалой усклікнула: «Адкуль вы так ведаеце майго Васілька?» Гэта была высокая ацэнка.

Не лягчэй мне далася аповесць «Мужык» — пра знакамітага кіраўніка СВК «Астрамечава», доктара эканамічных навук, члена-карэспандэнта Акадэміі аграрных навук Аляксея Сцяпанавіча Скакуна. Некалькі разоў я выязджаў у гэту гаспадарку, жыў сярод вяскоўцаў, стараўся ўбачыць свайго героя ў самых розных сітуацыях і абставінах, глыбей зразумець яго характар, матывы яго паводзін і ўчынкаў. Спісаў не адзін блакнот, вывучыў не адну сотню розных дакументаў.

І, здаецца, мне ўдалося стварыць паўнакроўны вобраз героя нашага часу. А гэта сапраўды ўнікальны чалавек! Адзін факт чаго варты: будучы начальнікам раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі папрасіўся старшынёй у самы адсталы на Брэстчыне калгас, паабяцаўшы вывесці яго ў перадавыя. І вывеў! Сённяшняе «Астрамечава» — гэта наш заўтрашні дзень. Гэта маленькі зямны рай. Людзі жывуць у катэджах з усімі гарадскімі выгодамі. А фермы? Гэта ж санаторыі для жывёлы. А на якім узроўні працуюць тут хлебаробы? З дапамогай камп’ютараў вылічваюць колькі і якіх угнаенняў трэба кожнаму ўчастку зямлі і дакладна, літаральна да грама, столькі ж і ўносяць.

Я мог бы яшчэ доўга расказваць і пра «Астрамечава», і пра яе ўнікальнага кіраўніка, але ўсё гэта ёсць у маёй кнізе. Хачу зазначыць толькі адно: калі гаво-

рацць, што наша жыццё збяднела на выдатных людзей — не трэба гэтаму верыць! Вось ён, наш сучаснік — Аляксей Скакун. І такіх кіраўнікоў у нас — дзясяткі. Бярыце, вывучайце іх вопыт і рухайце нашу сельскую гаспадарку наперад. Але нешта я не бачу вялікіх ахвотнікаў гэта рабіць.

## Споведзь чацвёртая. Шукай сябе

**— Уладзімір Сцяпанавіч, ты многа і вельмі хораша гаварыў пра сваю любоў да дзяцей, пра глыбокае разуменне дзіцячага свету, пра ўвагу да клопатаў і праблем маленькіх грамадзян краіны. Адкуль у цябе ўсё гэта — ад прыроды, ад пасады, ад бацькоў?**

— Ад усяго патроху. Але найбольш — ад майго гаротнага дзяцінства. Яго ў мяне ўкрала вайна. Нашу вёску карнікі спалілі на першы дзень Сёмухі. Спалілі датла, з жывымі людзьмі. Згарэла пяць чалавек. Ахвяр магло быць намнога больш, але жыхароў папярэдзіў партызанскі пасыльны, які ўскочыў на кані ў вёску і абвясціў: «Вас немцы будуць паліць… Уцякайце! Ратуйцеся!» Бацька ўхапіў абразок, нешта з хатніх пажыткаў, а мама загарнула мяне, малога, у даматканую посцілку і пабеглі ў бок лесу.

Так пачалося для маёй сям'і, як і для многіх шоўкаўцаў, лясное быццё. Жылі ў зямлянках. Харчаваліся тым, што здабывалі ў лесе — грыбамі, ягадамі, а то, калі пашанцуе, і хованкай вавёркі. Маёй любімай цацкай стаў самаробны аўтамат: сукаватая палка з прымацаванай да яе бляшанкай.

З таго часу не магу быць абыякавым, калі крыўдзяць дзяцей. Перажываю. Сэрца разрываецца ад горкіх дзіцячых слёз. І няма для мяне большага шчасця, чым бачыць радасныя, усмешлівыя тварыкі. Раблю для гэтага што магу ўсё сваё жыццё.

За мной рана зачыніліся дзверы Дзяцінства, таму я ўсё жыццё шукаю іх, уваходжу ў іх і не магу нацешыцца святам Дзяцей. Спрабую пабыць у гэтым цудоўным свяце хаця б яшчэ трохі. Хочацца падоўжыць яго адчуванне. Бо як толькі чалавек губляе ў сабе гэтую дзіцячую шчырасць і непасрэднасць, то ён адразу становіцца старым і нецікавым.

**— Ага, нарэшце ты раскрыў сакрэт маладосці сваёй душы! Нарэшце прызнаўся, адкуль, з якой крыніцы, ты чэрпаеш сваю зайздросную энергію, сваю няўрымслівасць і бязмежнае творчае натхненне!**

*Мы абодва весела смяёмся. А пасля Уладзімір Сцяпанавіч сур'ёзна зазначае:*

— Але гэта не адзіная крыніца, якая дае мне сілы. Хачу сюды дадаць свет аўцюкоўскага гумару, пра які мы з табой ужо гаварылі. Каб ты ведаў, як ён мяне падтрымлівае, памагае адносіцца нават да самых суровых рэалій жыцця па-філасофску, аптымістычна.Трэцяя і, можа, самая галоўная крыніца — мілая Бацькаўшчына, родная зямелька, любоўю да якой напоўнены кожны мой дзень, кожны мой радок.

**— Чытаючы твае творы, гэта выразна адчуваецца. Але адчуваецца і іншае: твая любоў не абстрактна-паэтычная, а канкрэтная, дзейсная, стваральная. Ты заўсёды некага бароніш, нешта адстойваеш, з нечым ваюеш. Многія пытанні табе ўдаецца вырашаць. Але жыццё высоўвае ўсё новыя і новыя праблемы. Што цябе хвалюе, радуе, засмучае сёння?**

— Ты правільна сказаў: жыццё, хочам мы таго ці не, ідзе наперад. І тое, што ўчора яшчэ радавала, сёння засмучае. Я вось сустракаю сваіх землякоў, пытаюся, чаму яны страчваюць цікавасць да прысядзібных участкаў, перастаюць вырошчваць свой агурок, свой памідорчык? І чую задаволенае: «А навошта? У магазіне ж усё можна купіць».

Не, сябры мае, купіць то можна ўсё, але гэтае «ўсё» нехта ж павінен вырошчваць. Лёгкага хлеба не бывае. Помніш, як у той казцы пра ваўка і касца. Паспытаў воўк хлеба і вельмі ж ён яму спадабаўся. Захацеў есці хлеб кожны дзень. А касец

яму і кажа: «Для гэтага перш-наперш трэба зямлю узараць…» — «Тады і хлеб будзе?» — «Не, брат, пачакай. Пасля трэба зямлю забаранаваць…» — «І можна ўжо хлеб есці?» — «Іш ты, які скоры! Спачатку трэба жыта пасеяць, дачакацца, калі яно вырасце, паспее. Тады яго трэба зжаць, змалаціць, змалоць на муку. З мукі замясіць цеста, і ўжо толькі тады спячы хлеб...» Задумаўся воўк, пачухаў патыліцу і кажа: «Не! Гэта праца не па мне».

На жаль, падобнай філасофіі пачынаюць прытрымлівацца і некаторыя вяскоўцы. Таму ўсё меней і меней людзей, якія б жадалі працаваць на зямлі. І гэта трывожная тэндэнцыя. Маладыя павінны ведаць, адкуль у нас хлеб на стале, як ён дастаецца і якая гэта пачэсная прафесія — хлебароб. Наша задача — мацаваць повязь між пакаленнямі, выхоўваць у моладзі высокую духоўнасць. Каб яны не саромеліся, а лічылі за гонар вырошчваць хлеб. Зямельку нашу, як бы мы ні развіваліся, неабходна берагчы. Яна — дадзеная нам Богам неацэнная каштоўнасць. Мы з яе жывём. У ёй наша здароўе, сіла, моц, вечнасць.

Добра, што паўсюль арганізуюцца аграгарадкі. Гэта — перспектыва, заўтрашні дзень. Але ў гэтыя гарадкі трэба ўкласці душу, тую душу, якая была ў майго дзеда, прадзеда. Стварыць духоўна-культурны асяродак. Скажам, адкрыць музей, у якім бы расказвалася пра тыя вёскі, што былі тут даўней, пра тых людзей, якія некалі жылі і працавалі, а таксама пра сённяшніх працаўнікоў, як яны абжываюцца, бавяць вольны час. Вось пра што трэба пісаць, вось яна, новая тэма.

А яшчэ ёсць аграсядзібы. Таксама цікава. Гэта добры прыклад таго, як павінен жыць сённяшні селянін. Усё сваё. Хлеб, квас, смажаніна…

Мы ідзём у правільным напрамку, але нам не хапае ўмення, часам, можа, цярпення, каб напоўніць душы нашай моладзі той самай духоўнасцю. Каб маладыя людзі палюбілі зямлю да слёз. Сказана магчыма трохі пафасна, але гэта трэба рабіць. Без гэтага нельга. Нам жа нашы малапісьменныя бацькі змаглі перадаць сваю ўлюбёнасць. Значыць, і мы павінны перадаць яе нашым дзецям. І тут многае можа наша літаратура.

**— Ну што ж, калі ты закрануў гэтую тэму, то мне хацелася б ведаць, што ты думаеш пра сучасную беларускую літаратуру?**

— Кожны час нараджае сваіх аўтараў. Ёсць яны і ў нас. Не буду ўсіх пералічваць, назаву толькі некалькі прозвішчаў. Іван Пташнікаў. Жывы класік. Кожны твор — гатовы фільм. А Віктар Казько? Пісьменнік еўрапейскага маштабу. Бяры любую аповесць Алеся Жука, Андрэя Федарэнкі — і здымай фільм, стаў спектакль. Але — цішыня. Раней была моцная повязь паміж пісьменнікамі, кінематаграфістамі, тэатральнымі дзеячамі. Цяпер жа кожны сядзіць у сваёй хаце. Ніхто нікога не чытае, ніхто нікім не цікавіцца.

Далей. Хачу заступіцца за дзіцячую літаратуру. Наракаюць, што ў нас няма сваіх Маршакоў, Чукоўскіх, Барто. Няпраўда! Я магу зноў-такі назваць дзясяткі імёнаў. Вазьміце «Вясёлку» — усе гэтыя імёны ёсць на яе старонках. Таленавітыя казкі Раісы Баравіковай нічым не горшыя за раскручаныя кнігі пра Гары Потэра. А той жа Алесь Наварыч, а Валерый Гапееў? Іх кнігі выдаюцца салíднымі тыражамі. Цікава, займальна пішуць для дзяцей Алесь Бадак, Алена Масла, Мікола Чарняўскі, Генадзь Аўласенка, Уладзімір Мазго, Расціслаў Бензярук, Анатоль Зэкаў… Я ўжо не кажу пра нашых класікаў, хрэстаматыйных аўтараў, якія заклалі грунтоўны падмурак дзіцячай літаратуры.

Іншая справа, што сёння кнігі для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту не запатрабаваны гэтак, як калісьці. Бацькам прасцей даць дзецям у рукі планшэт — хай сабе ціха забаўляюцца, абы іх не даймалі.

І наогул, як мне здаецца, наша сучасная літаратура, па вялікім рахунку, не-пра-чы-та-ная. А сур'ёзныя, таленавітыя кнігі ёсць. Толькі яны не такія крыклівыя і, можа, не такія кідкія, як замежныя. Але яны светлыя, цёплыя, і ў адрозненне ад розных дэтэктыўных твораў не проста забаўляюць, а сеюць у дзіцячых душах дабро.

**— Працягваючы літаратурную тэму, хачу яшчэ запытацца ў цябе вось пра што. У свой час ты надрукаваў у «ЛіМе» нарыс «Дунін-Марцінкевіч і пінская шляхта». Пазней некаторыя навукоўцы назвалі гэты нарыс сапраўдным літаратурным адкрыццём. Раскажы, калі ласка, як табе собіла, апроч усяго іншага, стаць яшчэ і адкрывальнікам?**

— Відаць, нячысцік паблытаў *(весела, з хітрынкай у вачах, смяецца).* А калі сур'ёзна, то справа адбывалася так. Я працаваў у архіве, даследуючы карані роду Ліпскіх. І адна з нітачак гэтага разгалінаванага і шаноўнага роду вывела мяне да беларускага песняра мінулага стагоддзя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Біёграфы і даследчыкі творчасці знакамітага пісьменніка звычайна пішуць коратка, што ён нарадзіўся ў фальварку Панюшкавічы Бабруйскага павета ў сям'і арандатара. Мае ж пошукі паглыбілі звесткі пра гэту мясціну, а яны, у сваю чаргу, дапамаглі зразумець шлях аўтара да «Пінскай шляхты».

Аказваецца, зачэпкай (падкрэслю: зачэпкай, а не асновай) для стварэння камедыі паслужыла гучная судовая справа адной шляхетнай сям'і Цюхаёў-Ліпскіх з глыбіннай палескай ваколіцы Ольпень. Справа № 39 была распачата 17 лістапада 1837 года і доўжылася ажно трыццаць тры гады! Трыццаць тры гады царскія ўлады спрабавалі ўпартых каталікоў Цюхай-Ліпскіх (самога Іосіфа, яго сыноў Вінцэнта і Фларыяна, дачок Караліну і Кацярыну) праўдамі і няпраўдамі вярнуць у «истинную», праваслаўную веру. Ольпенскімі неслухамі (неверагодны факт!) займаўся ажно ўсемагутны Сінод і нават сам гасудар Расійскай імперыі. Аднак нязломныя Цюхаі-Ліпскія так і не здрадзілі веры сваіх продкаў.

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, які ў той час служыў перакладчыкам і даручэнцам мінскага біскупа Мацвея Ліпскага і да якога, несумненна, прыходзілі прасіць паратунку і парады Цюхай-Ліпскія, зацікавіўся іх неардынарнай гісторыяй. Больш за тое, каб глыбей зразумець характар і паводзіны гэтых шляхцюкоў-дзівакоў, пісьменнік паехаў у іх радавое гняздо — ваколіцу Ольпень і там пэўны час жыў, сустракаўся і гаварыў з тутэйшымі людзьмі, вывучаў іх жыццё-быццё. Вывучыў паляшуцкі дыялект, ды так, што нават і твор свой напісаў на гэтай гаворцы.

Сюжэт «Пінскай шляхты», наколькі ты ведаеш, не паўтарае рэальных падзей, якія сталі зачэпкай для напісання камедыі. Ва ўмовах царскай цэнзуры кранаць рэлігійныя праблемы было небяспечна. Аднак судовае кручкатворства, бязглуздзіцу і самаўпраўства чыноўнікаў Дунін-Марцінкевіч паказаў бліскуча.

**— Уладзімір Сцяпанавіч, я вось слухаю цябе і дзіўлюся: як ты ўсё гэта паспяваеш рабіць?**

— А ў мяне ў сутках не дваццаць чатыры гадзіны, а дваццаць восем *(зноў весела, гарэзліва смяецца).* У гэтым жарце ёсць і доля ісціны. Кажуць, што чалавек у сваім жыцці паспявае зрабіць столькі, колькі ён сабе дазваляе. Іншымі словамі, час, адведзены табе Богам, трэба траціць умела і разумна. Не магу сказаць, што заўсёды і ўсюды карыстаюся гэтым прынцыпам, але стараюся. Мой працоўны дзень пачынаецца рана, амаль што з усходам сонца. І пакуль ісці ў рэдакцыю, я паспяваю напісаць старонку-другую ці зрабіць якую неадкладную справу. Дадому прыходжу, як правіла, позна, але, павячэраўшы, не кладуся спаць, а саджуся за стол і працую да гадзіны ночы, а то і пазней. Я вельмі люблю гэту начную цішыню, калі так хораша думаецца, плённа пішацца. Пасля гэтага я абавязкова падыходжу да партрэта мамы і ў думках кажу ёй дзякуй: «Сёння быў цудоўны дзень!» Прыгадваю ўсё, што ўдалося зрабіць, з кім сустрэцца, прыкідваю планы назаўтра. З гэтым кладуся, з гэтым прачынаюся.

Мне здаецца, што чым паўней, разнастайней мы пражываем самы маленькі прамежак часу — тым цікавей складваецца наша жыццё. Пры ўсіх нягодах трэба заўсёды захоўваць у душы святло дабрыні і любові. Трэба верыць, што за хмарай зноў адкрыецца сонейка.

**— Якімі яшчэ прынцыпамі ты карыстаешся ў сваім кожнадзённым быцці?**

— Што аддаў — тое і тваё. Знайсці, адшукаць нешта, чаго я не ведаў учора. Зрабіць тое, што не паспеў, але што абавязкова трэба зрабіць.

За пражытыя гады адкрыў для сябе дзве мудрасці.

Першая: трэба глыбока зразумець і сардэчна палюбіць дзяцей. Яны — галоўнае багацце зямлі. Яны — самы самы дакладны і праўдзівы барометр грамадства. Вачыма дзяцей пазірае на нас Бог.

Другую мудрасць адкрыў, калі пабываў у шматлікіх замежных краінах і зразумеў, што лепшай мясціны, чым наша Беларусь, няма ва ўсім свеце. Тут самае зорнае неба. Самыя чыстыя росы. Самыя галасістыя салаўі. Самыя шчырыя людзі. Тут мае карані, якія надаюць мне сілы, натхненне і аптымізм, напаўняюць маю душу самай светлай, самай высокай радасцю.

**— А зараз хачу задаць табе пытанне пра шчасце, на якое ты некалі папрасіў вучняў адказаць у сваіх сачыненнях, а гэтыя сачыненні пасля склалі цэлую кнігу. Дык у чым яно, шчасце?**

— Аказваецца, усё вельмі проста. Прачнуўся, зірнуў у акно, а там — сонейка ўзышло. Пачынаецца новы дзень, чысты, светлы, і яго трэба пражыць годна, прыгожа, напоўніць дабром. Хіба ж гэта не шчасце? І калі мы ўсе зразумеем гэтую простую мудрасць, ацэнім і пусцім яе ў сваю душу і ў душы нашых наступнікаў — тады мы і адчуем сябе шчаслівымі.

Мы часам на рамантычнай хвалі шукаем шчасце за морамі, а яно тут вось, побач. Хочаш быць шчаслівым — будзь ім! Як ні дзіўна, але гэту элементарную ісціну трэба ўбіваць у галовы людзей, асабліва маладых. Бо як бы ні развівалася педагагічная навука, а кожны чалавек праходзіць сваю дарогу сам, вырашае свае праблемы самастойна. Наша задача (я маю на ўвазе не толькі пісьменнікаў, журналістаў, педагогаў, а ўсіх дарослых людзей) — памагаць падрастаючаму пакаленню станавіцца на крыло, перасцерагаць, падказваць. І не стамляцца гэта рабіць! Я чаму пра гэта гавару? Таму што калі ты некаму ў нечым дапамог, выцер слязу, падзяліў яго радасць — вось у гэтым, можа, і заключаецца сапраўднае шчасце.

**— А ў чым, на тваю думку, сэнс чалавечага жыцця? Вось жыве чалавек, дзень пры дні стараецца нешта рабіць, клапоціцца, турбуецца, перажывае — дзеля чаго ўсё гэта?**

— Два моманты. Першы — прадоўжыць род людскі. Інакш жыццё на зямлі спыніцца. Каго ты нарадзіў, як выхаваў — гэта ўжо іншая тэма, якую можна развіваць бясконца. А калі коратка, то сэнс нашага прыходу ў гэты свет — прадоўжыць род.

І другі момант, больш узвышаны. У ім заключаецца вынік самога жыцця. Гэтая ісціна дайшла да мяне нядаўна, і я ў яе веру ўсё больш і больш. Трэба так жыць, каб было жыццё пасля жыцця.

**— Цікава..**

— Патлумачу. Чалавек павінен пакінуць пасля сябе такую спадчыну, каб яго яшчэ доўга не забывалі. Каб ягонае жыццё доўжылася і пасля жыцця. Гэтая тэма з некаторага часу мяне моцна хвалюе. Так жыві, так думай, так працуй, так сябруй, каб ты застаўся ў памяці не толькі сваіх блізкіх, але і многіх, многіх людзей.

**— У гэтым сэнсе, як мне падаецца, табе можна не хвалявацца.**

— Ва ўсякім разе, за сваіх сямейнікаў я сапраўды спакойны. З жонкай Нінай мы ў згодзе і любасці пражылі больш за паўстагоддзя. Выхавалі добрых, сумленных дзяцей — сына Ігара і дачку Марыну. А цяпер нас цешаць мілыя, цудоўныя ўнукі — Антон, Маша, Толік.

**— Што б ты пажадаў і сваім, і ўсім астатнім дзецям краіны?**

— На шматлікіх сустрэчах з юнымі слухачамі я звычайна кажу ім: «Жыццё — гэта Божы дар. Жыццё — гэта свята. Хай кожны ваш дзень будзе святам! Расціце, сябры, так, каб пра вас казалі: «Добры чалавек!» Жывіце прыгожа сёння, тады вы з прыемнасцю ўспомніце дзень учарашні, тады з радасцю сустрэнеце дзень заўтрашні».

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

**Людміла СІНЬКОВА**

# УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА І АЛЯКСАНДР БЛОК: АД РЭЦЭПЦЫІ ДА БЕЛАРУСКАЙ КЛАСІКІ

Пра Аляксандра Блока, славутага класіка сімвалізму, дваццацітрохгадовы беларускі паэт Уладзімір Жылка пакінуў у сваім дзённіку такі экзальтаваны запіс: «…аб Блоку лепш маўчаць: такі ён вялікі, такі вялікі, што каля яго чуеш сябе ніякава. А калі яшчэ гаварыць аб ім — канфуз» [2, с. 161].

Аднак у сваёй паэзіі Жылка праз увесь час алюзійна «гаварыў» з Блокам.

Справа ў тым, што У. Жылка, услед за М. Багдановічам, быў апантаны ідэяй Красы, Хараства, а таксама палкім жаданнем злучыць эстэцтва з беларускім паэтычным маўленнем. У 1925 г. У. Жылка напісаў А. Луцкевічу: «Мой лятунак выдаць кніжку не больш 30—50 вершаў, выключна з матывамі кахання, смерці, хараства, прыроды, мескіх тавэрнаў і падобнага… Французы, немцы і нават расейцы пад саветамі выпускаюць такія кніжкі кожны дзень. І верхавіны французскае лірыкі безумоўна не ў Беранжэ, а ў Бадлера, Верхарна, як і расейскай, не ў Някрасава, а ў Цютчава, Пушкіна <…>» [5, с. 7]. Вядома, што калі ў высылцы Жылка памёр, органамі НКУС Уржума і Вяткі былі забраны не толькі арыгінальныя яго творы, але і пераклады з еўрапейскіх аўтараў: нарвежскіх, французскіх, нямецкіх… Захаваліся ранейшыя Жылкавы пераклады Г. Ібсена, А. Міцкевіча, Ш. Бадлера, А. Олеся, І. Волькера, Б. Ясенскага; засталіся сведчанні яго цікавасці да многіх і многіх творцаў розных культур. Але найвялікшай любоўю У. Жылкі-лірыка, поруч з роднымі Я. Купалам і М. Багдановічам, быў расіянін А. Блок.

Увогуле ўся беларуская літаратура першай трэці XX ст. актыўна ўспрымала ідэі і паэтыку мадэрнізму, прычым найбольш плённым для яе стаў уплыў імпрэсіянізму і сімвалізму. Сярод знакамітых сімвалістаў можна вылучыць тых расійскіх і скандынаўскіх аўтараў, чый досвед быў найбольш запатрабаваны беларусамі: гэта А. Блок, Л. Андрэеў, В. Брусаў, К. Гамсун, А. Стрындберг, — а таксама немец Г. Гаўптман і бельгіец М. Метэрлінк. Яскравым прыкладам рэцэпцыі сімвалізму ў беларускай паэзіі, рэцэпцыі творчага досведу Аляксандра Блока (1880—1921) зрабіўся якраз мастацкі свет Уладзіміра Жылкі (1900—1933).

Уладзімір Жылка быў Асобай з нешараговым лёсам, маштабнай фігурай у беларускім літаратурным працэсе. Ён нарадзіўся ў вёсцы Макашы, якая знаходзіцца паміж Мірам і Нясвіжам, з іх маляўнічай прыродай, багатай гісторыяй і замкамі Радзівілаў. Падчас Першай сусветнай вайны чатырнаццацігадовы Жылка апынуўся ў Тульскай губерні, дзе паступіў у Багародзіцкае агранамічнае вучылішча. За гады вучобы (1914—1917) у ім памацнела сімпатыя да селяніна, ён зрабіўся перакананым эсэрам. У гэтыя ж гады прыйшла і любоў да рускай літаратуры, асабліва да твораў Глеба Успенскага, Міхаіла Лермантава, Аляксандра Блока. Першыя паэтычныя спробы пяра былі зроблены тады па-руску. Разам з тым аддаленасць ад родных мясцін абвастрыла ў будучага паэта тугу па радзіме. Напрыклад, Жылка стаў актыўным сябрам аб'яднання «Беларускі Нацыянальны Гурт» у Багародзіцку. Захаваўся кароткі ліст Жылкі, у якім у 1917 г. ён пісьмова звяртаўся да БСГ («Беларускай Сацыялістычнай Грамады»); яго крэда — «…я крывіч і хачу, каб была на свеце крывіцкая нацыя. У гэтым «хачу» мая нязломная воля» [2, с. 251, 257]. Гэтую волю ён сапраўды сцвердзіў і ў грамадскай чыннасці

(пра што трэба гаварыць асобна), і ў творчасці. Любоў да літаратуры ў Жылкі заставалася неадменнай. Падкрэсліваючы дасведчанасць сябра, напрыклад, у рускай паэзіі, М. Краўцоў (Касцевіч) успамінаў: «Жылка бесперастанку дэкламаваў вершы Блока, Брусава, Раслаўлева, Карынфскага, Бальмонта, Сяргея Гарадзецкага. Мяне дзівіла гэткая маса завучаных ім на памяць вершаў…» [2, с. 282].

У 1917 г. Жылка вярнуўся ў Беларусь і стаў актыўным удзельнікам і культурнага, і палітычнага жыцця. Можна сказаць, што гісторыя станаўлення беларускай дзяржаўнасці на тле сусветнай вайны і рэвалюцыйных падзей у Расійскай імперыі перажывалася паэтам як жыццё асабістае. У 1921 годзе, калі ўрэшце быў падпісаны Рыжскі мір, калі вызначыліся межы Савецкай і Заходняй Беларусі (менавіта Заходнюю прадстаўляў Жылка), ён быў ужо не толькі дэбютантам на старонках Віленскіх перыядычных выданняў (газеты «Беларусь», «Наша думка», якую рэдагаваў М. Гарэцкі). Вельмі хутка ён стаў адным з лідараў пакалення, аўтарам многіх тэкстаў, якія сёння мы лічым хрэстаматыйнымі («Беларусь», «Покліч», «Замчышча», «Палімпсест», «Віхор», інш.). У 1920 г. Жылка захварэў на сухоты, і змагаўся з гэтай хваробай усе наступныя 13 гадоў свайго нядоўгага жыцця. Яму даводзілася знаходзіцца ў розных краінах і гарадах. Адзначым тут Прагу, Пражскі ўніверсітэт, дзе Жылка вучыўся ў 1923—1926 гг., займаўся справамі беларускага зямляцтва, быў актыўным членам пражскай філіі (філіяла) «Маладняка» (літаратурнага аб’яднання з цэнтрам у Савецкай Беларусі). У 1930 г. паэт быў рэпрэсаваны, адбываў пакаранне ў г. Уржум Вяцкай губерніі, дзе і памёр. Рэабілітаваны ў 50-я гады XX ст. Пры яго жыцці быў выдадзены адзін зборнік паэзіі — «На ростані», 1924 г. Найбольш поўнае на сёння выданне твораў Уладзіміра Жылкі — гэта «Выбраныя творы» з акадэмічнай серыі «Беларускі кнігазбор», 1998 г.

Відавочна, што радавод і лёс Жылкі, уся беларуская гісторыка-культурная сітуацыя, якая сфарміравала яго талент, — усё Жылкава адрозніваецца ад жыццёвага вопыту Блока кардынальна, нягледзячы на адносную набліжанасць гэтых персон (іх фармальную сінхроннасць у гістарычным часе, у геаграфічнай прасторы); нягледзячы таксама і на судакрананні ў пэўных эстэтычных (мадэрнісцкіх) рэгістрах. Менавіта гэтая рэальная адрознасць лёсаў, так сказаць, персанальных хранатопаў (бо мы тут маем справу з адрознасцю цэлых культурных парадыгмаў: найперш нацыянальна-адраджэнскага ўздыму для беларускага пісьменніка і «заняпаду Еўропы» для расійскага) выключае тыпалагічныя паралелі паміж творчасцю Жылкі і Блока. Затое найяскравую рэцэпцыю ў паэтычных стасунках абодвух проста немагчыма не заўважыць.

Паэзія Жылкі ў вялікай ступені прадвызначана адраджэнскім пафасам і беларускім рамантызмам, неарамантызмам пачатку XX ст. І калі нацыянальная ідэя была ў пэўным сэнсе агульным месцам для беларускага мастацтва таго часу, то менавіта вельмі асабістая рэалізацыя гэтай ідэі вылучае ў агульнай плыні творчую індывідуальнасць У. Жылкі, глыбіню яго лірычных сюжэтаў. Гаворачы пра істотнае захапленне Жылкі творчасцю Блока, прасочым рэцэпцыю блокаўскіх матываў у лірыцы беларускага паэта ў двух аспектах: 1) асэнсаванне тэмы вечнай жаноцкасці і рыцарскага служэння ідэалу; 2) інтымныя перажыванні лірычнага героя.

**Асэнсаванне тэмы вечнай жаноцкасці.** Гэтую тэму рускага сімвалізму Жылка спалучыў з малітоўным бачаннем Беларусі.

Паэтыка Блока зрабілася для Жылкі надзвычай важнай у тым плане, што яна дэманстравала вопыт мастацкага спалучэння цэлых сусветаў. Вядома, што спалучаць асабістае, інтымнае з касмічным, міфапаэтычным у прынцыпе ўмелі як беларускія класікі — папярэднікі Жылкі, так і яго сучаснікі, таксама ўважлівыя да расійскага, польскага і інш. сімвалізму (Я. Купала), імпрэсіянізму (М. Багдановіч), авангарда (У. Дубоўка), новай драмы (М. Гарэцкі). Але менавіта Жылку найбольш уразіў важны для расійскіх сімвалістаў, багаты на сэнсы ***культ Прыўкраснай Дамы,*** што асабліва ясна выявілася ў лірыцы Жылкі 1920-х гг. Пра гэта

ўжо згадвалі беларускія даследчыкі, і найбольш выразна — Уладзімір Калеснік у манаграфіі пра Жылку: «У Жылкавым сімвалічным вобразе Беларусі мы маем нечаканае спалучэнне трагедыйнай біяграфіі з выключнай красой, чараўнічасцю. Няцяжка прыкмеціць тут пэўную пераклічку са стылістыкай лірыкі Блока, з вершамі аб прыгожай даме. Жылка суадносіць патрыятычнае пачуццё з інтымным, вобраз каханай пры гэтым страчвае прыкметы цяласнасці і ператвараецца ў чыста духоўны, эстэтызаваны сімвал характва. Накладванне двух вобразаў, размыўка іх контураў і ўзаемныя пераходы ствараюць уражанне чагосьці незямнога, цудоўнага. Беларусь выступае ўвасабленнем адраджаючага характва, таго характва, што, па думцы Персі Шэлі, здольна абнавіць свет, адрадзіць чалавецтва» [4, с. 219]. Далей У. Калеснік, неаднойчы заўважаючы «блокаўскі след» у лірыцы беларускага паэта, у першую чаргу паслядоўна акцэнтуе родны, беларускі кантэкст, вызначальны для творчай асобы Жылкі. Мы ж спецыяльна засяродзімся на блокаўскіх уплывах, якія істотна ўдакладняюць і ўзбагачаюць агульную карціну.

Аднаму са сваіх твораў Жылка адрасаваў эпіграф: «***Все поют и поют вдалеке… А. Блок***». Так пачынаўся верш ***«Нікне ў імгле старана…»***, 1922: *«Нікне ў імгле старана…» // Пільна сачу праз туман… // Нечая песня чутна, // Нечы зыбаецца стан… // Лёс даручыў палашу, // Моўчкі, даўно сцерагу… // Песня трывожыць душу, // Слоў зразумець не магу…»* [2, с. 43].

Аднак той жа эпіграф мог бы папярэднічаць цэламу шэрагу ў лірыцы Жылкі: «***Дарма, што значны раны***», 1922: *«Дарма, што значны раны // Праз небагаты ўбор // І тужны, праз туманы // Відаць вачэй дакор, // Яе аблічча светла, // Узорны — тканы пас, // І летуценні ветлы // Аб недалёкі час. <…> Малюся Ёй, упарты, // Палону тайна рад: // — Хай, верны, буду варты // Тваіх жабрачых лат. // Дазволь з табою разам // Спаткаць нядзельны час, // Каб новай песні сказам // Хваліці твой абраз!»* [2, с. 45]; «***Над нядоляй Тваёй не заплачу***», 1924: *«Над нядоляй Тваёй не заплачу // І на свой не пажалюся лёс, // Хоць і ведаю — доля лядача // І балюча, часамі, да слёз.» <…> Ні часіны не кінем змагання; // Не аслабне, не здрадзіць далонь: // Хто заквечаны кветам кахання, // Той нянавісці знае агонь. // Чым гусцей над Табой пацямнее, // Чым цяжэй будзе крыж Тваіх плеч, — // Тым запальней здымацца ўзмацнее // Мой кароткі караючы меч»* [2, с. 66].

Няцяжка заўважыць, што плыткія вобразы ў гэтых вершах пазначаюць амаль няўлоўную мяжу паміж яўным і патойбочным, а таксама рэфлексію на гэтай мяжы. Тут пануе імгла, туман, гучыць чыясьці ледзь чутная песня, лунаюць мроі, прысутнічае маўклівы служка з яго патаемным палонам, доўжацца душэўная трывога, малітва… Гэтыя вобразы пазнаюцца як блокаўскія, нягледзячы на тое, што літаральных супадзенняў з тэкстам Блока няма. Ёсць сімвалісцкая паэтыка і своеасаблівы водгалас, дыялог Жылкі з Блокам, ёсць зададзеная Блокам мелодыка, а таксама псіхалагізм. Ключавым у гэтым сэнсе з’яўляецца знакаміты верш Блока «***Вхожу я в темные храмы***», 1902: «*Вхожу я в темные храмы, // Совершаю бедный обряд. // Там жду я Прекрасной Дамы // В мерцаньи красных лампад. // В тени у высокой колонны // Дрожу от скрипа дверей. // А в лицо мне глядит, озаренный, // Только образ, лишь сон о Ней. // О, я привык к этим ризам // Величавой Вечной Жены! // Высоко бегут по карнизам // Улыбки, сказки и сны. // О, Святая, как ласковы свечи, // Как отрадны Твои черты! // Мне не слышны ни вздохи, ни речи, // Но я верю: Милая — Ты*» [1, с. 102].

Падкрэслім наступнае. Уваходзячы ў свет Блока, Жылка імкнуўся рэалізаваць у вытанчаным маўленні ўсё тыя ж нацыянальна-адраджэнскія парыванні. Таму месца сімвалісцкай Вечнай Дзевы, Прыгожай Дамы ў беларускага паэта займае не менш «таямнічая» і «жаноцкая» Яна — Беларусь. Яе атрыбуты адавочныя: нацыянальны строй з тканым пасам, стыгмы, крыж плеч. Пры гэтым узнікае выразная **рыцарская тэма**: лірычны герой тут — і зачараваны паэт, і рыцар, які слугуе ідэалу. Абяцанне нястомна караць мячом Яе ворагаў, не пакідаць змагання, не

здраджваць Ёй гучыць у большасці вершаў Жылкі. Падобнае слугаванне больш непасрэдна, чым у творчасці Блока, паядноўваецца з рыцарскім пачаткам.

У паэзіі Блока рыцарства магло выяўляцца куртуазным: такія «темный рыцарь» («Бледные сказанья», «Насмешница», 1907), «милый рыцарь» («Тени на стене», 1907) [1, с. 287—288, 290—291].

Рыцарства ў Жылкі перш за ўсё было звязана з сярэднявечнай французскай паэзіяй у традыцыйна-рамантычным ключы. Гэтую паэзію Жылка добра ведаў і любіў (са сваёй нявестай, Рымай Маневіч, ліставаўся па-французску). Да таго ж рыцарская тэма прысутнічае ў змесце гістарычнага беларускага герба з выявай вершніка «Пагоні» са шчытом і мячом у руцэ. Для Жылкі гэта перш за ўсё рыцар, які бароніць Айчыну як жанчыну, можа быць — і дзяўчыну, нявесту, ідэальную спадарыню.

У лірыцы Жылкі асабліва вылучаюцца вершы, дзе рамантычны рыцарскі пачатак з акцэнтам грамадзянскім дамінуе; напрыклад, «***Наш лёс — бы кат з рукой забойнай***», 1925 [2, с. 78—79]: *«Наш лёс — бы кат з рукой забойнай. // Бязлітасней рука каго? // Ды ўмее вой адзін спакойна, // Без роспачы прыняць яго. // І ўмее вой цвёрдакаменна // Ўстаяць перад навалай злой // І ўсё губляючы, нязменна, // Данесці абавязак свой. // Губляць жа болей немагчыма // І зносіць болей немага: // Народ, Свабода і Радзіма, — // На ўсё прыйшла адна чарга. <... > // І покі сэрца поўна гневам, // І гнеў драпежней крумкача, — // Вітаю бой ваяцкім спевам // І звонам вострага мяча <...>»*. Тут тэма двубою з лёсам, з гісторыяй гучыць з класічным для паэзіі нацыянальнага Адраджэння пафасам. Разам з гэтым фраза «*Вітаю бой ваяцкім спевам // І звонам вострага мяча*» выклікае ў памяці блокаўскія радкі 1907 года: «*Узнаю тебя, жизнь! Принимаю! // И приветствую звоном щита!»* [1, с. 309]. Сімптаматычна, што гэтыя амаль ідэнтычныя (фармальна) выказванні з асаблівай яскравасцю падкрэсліваюць канцэптуальную розніцу ў мастацкіх светах рускага і беларускага паэтаў. У адрозненне ад метафарычнага кантэксту Жылкі-рамантыка Блок апелюе да больш далёкіх алюзій. Цыкл вершаў «***Заклятие огнём и мраком***», з якога ўзятыя працытаваныя вышэй блокаўскія радкі, прысвечаны Н. М. Волахавай, і ў кантэксце творчасці Блока мае сваё прачытанне, у тым ліку — інтымныя канатацыі. Мы вылучылі першы верш гэтага цыкла, першую і апошнюю яго строфы, — з безумоўнай тэмай двубою, што гучыць як своеасаблівы выклік жыццю. «*О, весна без конца и без краю — // Без конца и без краю мечта! // Узнаю тебя, жизнь! Принимаю! // И приветствую звоном щита! <... > И смотрю, и вражду измеряю, // Ненавидя, кляня и любя: // За мученья, за гибель — я знаю — // Всё равно: принимаю тебя!*» [1, с. 309—310].

Працяг рыцарскай тэмы знаходзім у наступных рамантычных радках Жылкі: « *... Калі ж нараз ад лучнай раны // Звалюся, сходзячы крывёй, // І вораг, перамогай п'яны, // Накпіць нягожа нада мной , — // Я і тады здалею гарда // Стрымаць гадзін апошніх золь, // Мая нянавісць і пагарда // Не ўдасць, не здрадзіць люты боль*» *(«**Наш лёс — бы кат з рукой забойнай**»)*. Магчыма, важнай крыніцай натхнення для Жылкі ў гэтым выпадку быў верш Блока «***Идут часы, и дни, и годы…***», 1910, наступныя яго радкі: « *<…> И вдруг (так памятно, знакомо!) // Отчётливо, издалека // Раздался голос:* **Ecce homo!** *// Меч выпал. Дрогнула рука...// И, перевязан шёлком душным, // (Чтоб кровь не шла из черных жил), // Я был веселым и послушным, // Обезоруженный — служил. // Но час настал. Припоминая, // Я вспомнил:* **Нет, я не слуга**. *// Так падай, перевязь цветная! Хлынь, кровь, и обагри снега!*». У тэксце гэтага верша даследчык жыцця і творчасці Блока У. Арлоў адзначае адсылку да евангельскай легенды (зварот Понція Пілата да Хрыста — **Ecce homo, Се человек**), а таксама вылучае «відавочнае адлюстраванне эпізода музычнай драмы Р. Вагнера «Трыстан ды Ізольда»: паміраючы Трыстан зрывае павязку» з глыбокай раны [1, с. 720—721]. У вершы Жылкі, аднак, рыцарства больш непасрэднае; яно не мае на ўвазе блокаўскай разгалі-

наванай культурнай семантыкі. У іншых творах Жылкі пра слугаванне радзіме яшчэ больш акцэнтаваны ваярскі запал героя, яго гатоўнасць распачаць бой ужо не містычны, а зусім канкрэтны; такія вершы «Покліч», «Меч», «Віхор», «Ляпей жабрачы лёс….», «Праметэй». Тут безумоўная адсылка да сваёй краіны, беларускай культуры вызначае гучанне сімвалічных вобразаў.

Рыцарскі пачатак прысутнічае таксама ў паэме Жылкі «***Уяўленне***», напісанай у 1923 годзе, — тут намаляваная «Беларусь на крыжах трох рэвалюцый». У гэтым творы адчуваецца вядомая эклектыка. Поруч з адсылкамі да важнейшых гістарычных рэалій прысутнічае стылізацыя пад рускіх новасялянскіх паэтаў, ідэалізацыя селяніна, своеасаблівы пантэізм. Фальклорныя вобразы суседзяць з хрысціянскай сімволікай. Ёсць у паэме і цалкам футурыстычнае, рэвалюцыйнае парыванне да новага жыцця, у якім, паводле выразу Жылкі, беларус «узышоў на мапу Еўропы». Разам з тым, у адным фрагменце паэмы (раздзел XI) вылучаецца вобразнасць, арыентаваная на сімвалізм блокаўскага тыпу: «*...Выходзяць дзяўчаты // Выгукваць вясну… // «Я славу вам, хаты, // На дзідзе вярну!» // Голас яе… // Бурай пяе… // Я ж вачэй не ўзніму, багавіца. // Толькі ўзрушаны думкі чамусь. // О, як соладка сэрцу маліцца: // Беларусь, Беларусь, Беларусь!*» [2, с. 140—141]. Тут Радзіму-Жаноцкасць услаўляе не інак (манах), але рыцар. Вобразнасць першай страфы звязаная з беларускім кантэкстам — з фальклорным звычаем гукаць вясну, з вобразам лірычнага героя, які абяцае вярнуць роднай зямлі страчаную славу. Далей жа патрыятычная тэма робіцца вельмі асабістай, псіхалагічнай: тут і голас нібы ніадкуль, што гучыць, як бура, і сцішанасць перад ідэалам, і пачуццёвае ўзрушэнне, і экстатычная малітва. Такія інтанацыі выклікаюць у памяці блокаўскую вобразнасць.

У сучаснай Жылку беларускай літаратуры выразна гучала ўласная багатая традыцыя паэтычнага бачання Радзімы жаноцкай, але такая вобразнасць была хутчэй сімвалічнай, чым сімвалісцкай — калі мець на ўвазе яе філасофскую падаплёку. Найбольш значнымі ў беларускім кантэксце былі вядомыя вобразы «маладой Беларусі», Радзімы-маці Я. Купалы, Маці-краіны М. Багдановіча і, асабліва, Багдановічавай жанчыны-Мадонны. Беларускія даследчыкі называюць цэлы шэраг імёнаў рускіх паэтаў, асабліва блізкіх да Жылкі ў разуменні гэтай тэмы: Някрасаў, Блок, Бальмонт, Белы [7, с. 22—23]. Прафесар У. Калеснік (1922—1994), які быў і застаецца самым аўтарытэтным даследчыкам творчасці Жылкі, таксама неаднаразова падкрэсліваў у жылкаўскіх вобразах рысы блокаўскай «Незнаёмкі», таямнічай прыгажуні-сялянкі. І ўсё ж ад сялянскага Жылка хутчэй адштурхоўваўся; яго прыцягваў у Блока не столькі бачны «*плат узорный до бровей*» [1, с. 498, верш «Россия», 1908], колькі вобраз інфернальны: «*Ты и во сне необычайна. // Твоей одежды не коснусь. // Дремлю — и за дремотой тайна, // И в тайне — ты почиешь, Русь <...>*» [1, с. 211, верш «Русь», 1906].

У некаторых вершах Жылкі сімвалічная нявеста малявалася яўна хутчэй у блокаўскім, чым у купалаўскім абліччы, хоць беларуская, адраджэнская тэма пры гэтым ніколі не знікала цалкам. Каб пацвердзіць гэта, параўнаем цытаты. У Блока — верш «***Мой любимый, мой князь, мой жених***», 1904: *«Мой любимый, мой князь, мой жених, // Ты печален в цветистом лугу. // Повиликой средь нив золотых // Завилась я на том берегу. // Я ловлю твои сны на лету // Бледно-белым прозрачным цветком. // Ты сомнешь меня в полном цвету // Белогрудым усталым конем. // Ах, бессмертье мое растопчи, — // Я огонь для тебя сберегу. // Робко пламя церковной свечи // У заутрени бледной зажгу. // В церкви станешь ты, бледен лицом, // И к царице небесной придешь, — // Колыхнусь восковым огоньком, // Дам почуять знакомую дрожь... // Над тобой — как свеча — я тиха. // Пред тобой — как цветок — я нежна. // Жду тебя, моего жениха. // Всё невеста — и вечно жена»* [1, с. 139]. У Жылкі — «***Прыкляты***», 1926: *«Нявесты вусны шчыльна сцяты. // Не пасміхнецца жаніху. // Але не лічыць сэрца страты // І верыць даўняму шляху. <...> // Праз ноч жаніх мячом пазвоне — // Хвалёна будзь святое ймя! — //*

*І ўчуўшы тупат ад пагоні // Здалёк, за рэчкамі дзвюма. // А ўсход ружова-светлы будзе, // Скудлачыць вецер пасмы хмар, // Калі пры звонаў перагудзе // Нявесты праяснее твар»* [2, с. 95—96]; «***Не трывож мае самоты***», 1923: *«Не трывож мае самоты, // Не збуджай пазбытых мук: // Не адкрыю я вароты // На твой позні, слабы стук. // Не скажу: «Ўвайдзі» — як раней, // Як даўней, калісь даўней, // Сэрца голас твой не кране, // Не абудзіць больш надзей. <…>// Там, дзе ў горах снежных, стромых // Толькі песні завірух, // Дзе шляхі адно свядомых, // Там мацнее мужны дух. // І даведайся: салодка // Закаханасці палон // Заменіць на бур паводку, // На віхур свавольны звон»* [2, с. 56—57]. Як сведчыць апошні прыклад, у некаторых экстатычных вершах Жылкі неспасцігальная гераіня і закаханы ў яе герой набываюць рысы вельмі акрэсленыя ў кантэксце беларускай адраджэнскай літаратуры 1920-х гг.

У блокаўскіх «***Стихах о Прекрасной Даме***» паядноўваюцца не толькі гераіня і служэнне ёй (з адсылкай да вобраза Любові Дзмітрыеўны Мендзялеевай), але і пакланенне Божай Маці (што для Блока з дзіцячых гадоў было надзвычай важным). Падобныя матывы, а таксама сам вобраз Дзевы Марыі знаходзім і ў радках Жылкі — аб цудоўным сне з непераадольнымі слабасцю, пяшчотай, далікатнасцю і глыбінёй: *«…Мне люба сніць (бязбурны дні!) // Аб шчасці гэткім квола-крохкім // І веславаць лятункам лёгкім // Па крышталёвай глыбіні. <…> // Якая слабасць і спакой, // Якая дзіўная суточнасць — // У свет нясці адну пяшчотнасць // І ўсё змагаць адною ёй. // А мне маліць — мая Марыя, // Прымі малітвы маладыя // І яснасцю душы тваёй // Маю пахмурую напой»* [2, с. 83, нізка «***Вершы спадзявання***», 1924—1925].

Дваццацітрохгадовы беларускі паэт пісаў у сваім дзённіку: «… *Хрыста, светлага Ісуса я заўсёды любіў. Знаю я яго боскасць (хоць Богам ён мог і не быць) і знаю яго чалавечнасць… Люблю яго, як маладасць сваю, як казку, як легенду, як лёгкі сон, як летуценне, але люблю і як сімвал мае трагедыі, люблю яго за вялікі трагізм, за мукі яго, за раны, за крыж яго»* [2, с. 156]. (Адзначым тут рэмінісцэнцыю блокаўскага радка «*И звал тебя, как молодость свою*» з верша «***О доблестях, о подвигах, о славе***», 1908 [1, с. 378]). Юную гераіню Жылкі ахоўвае таксама «ласкавы, салодкі» Хрыстос у вершы «***З дзяцінства фіялкавых раніц***» (недатаваны тэкст): *«З дзяцінства фіялкавых раніц // З юнацтва лілейнага дзён // Малітваў не знала, ружанец, // Нясла слугавання закон. // Ў вянкі завівала лятункі, // Аквечвала ж кроплямі слёз, // І ў ночы прыносіў дарункі // Ласкавы, салодкі Хрыстос»* [2, с. 123]. Таксама, рэмінісцэнцыяй у адносінах да блокаўскага «***Снова иду я над этой пустынной равниной***», 1903, гучаць радкі Жылкі з «***Вершаў спадзявання***», 1924—1925. Параўнаем, у Блока: *«Я не скрываю, что плачу, когда поклоняюсь, // Но, перейдя за черту человеческой речи, // Я и молчу, и в слезах на тебя улыбаюсь: // Проводы сердца — и новые встречи»* [1, с. 118]; і ў Жылкі: *«Як дзяцінства гады незваротныя, // Тыя гукі, што родзяцца ў цішы; // Як вады плюскатанні пяшчотныя, // Чараванне тых слоў закалыша. // І ушчэнт закаханасці поўныя // І таго, што не выкажаш мовай, // Мы пяройдзем мяжу ў невымоўнае, // За рубеж чалавечага слова»* [2, с. 89]. У адным з лістоў Жылкі ў Расію, да Лідзіі Сілаевай (датуецца 1922—23 гг.), знаходзім тую ж адсылку, вылучаную ў тэксце самім паэтам, прычым на фоне цютчаўскай тэмы «Silentium»: *«… голоса из запредельных, далёких стран звучат очаровательно и волнующе. В них опять чудится искрометный костер живого, взыскующего духа и те невиданные пути, что ведут в глубине к ясности понимания «за черту человеческой речи»* [1, с. 253].

Уладзімір Жылка, суправаджаючы свае вершы эпіграфамі з Блока, часта падкрэсліваў такім чынам прыхільнасць да пазнавальнага блокаўскага стылю як да нейкага інварыянта.

Цікава, што адзін з сучаснікаў Жылкі, крытык Антон Адамовіч, не надаўшы ніякага значэння ўплыву Блока на Жылку, заўважаў у лірыцы беларускага паэта праявы «нацыянальнага эрасу», «зліццё эратычнай лірыкі, любоўнай лірыкі, з

лірыкай нацыянальна-ідэйнай <...>, зліццё, у выніку якога вобраз каханай — Яе (цяпер ужо канечне з вялікай літары) становіцца для паэта вобразам самой Бацькаўшчыны, нацыі, аб'ектам яго нацыянальнага эрасу...» [3, с. 11—12].

Ці мае рацыю Антон Адамовіч, можна меркаваць па мностве хрэстаматыйных радкоў Жылкі; напрыклад, па вершы, першыя радкі з якога напісаны на магільным камені паэта — «***Няма збавення***» (1924—1925): *«Няма збавення // Апроч пекнаты. // Ў маім маленні // Адзіная ты. // Адной між дзеваў // І верных жанок // Высокіх спеваў // Адвечны зарок! // Прамень світання // І сонечны госць, // Людзей вітання // Ты вартая ёсць! // О, будзь хвалёна, // Вялічана будзь! — // Табой збавёны // Не вызнае жудзь. // Малю й гукаю // Ў няўхільную сінь: // — З тугой адчаю // Мяне не пакінь! // Ў баі жыццёвым // Адвагі прыдай, // Надзеі словам // Мяне прывітай. // Пакліч павеўна // І радасць разлі, // Дазволь мне пэўна // Ступаць па зямлі»* [2, с. 88]. У гэтых радках перш за ўсё відавочны вопыт Блока-сімваліста, які Жылка арыгінальна засвоіў і развіў у адпаведнасці са сваім ідэалам Красы, са сваім жаданнем служыць Радзіме і паэзіі ў Храме Хараства, аб чым сведчыць дзённік паэта за 1923—1926 гады [2, с. 155, 164].

**Бадай, найбольш заўважны ўплыў Блока ў інтымнай лірыцы Жылкі.** Ён прасочваецца ва ўсёй творчасці паэта. Так, санет «***Каханне***» датуецца 1921 годам. Музай Жылкі стала сціплая вясковая дзяўчына (Ганна Яцэвіч [4, с. 63]), якая, па словах У. Калесніка, ніякавела і бянтэжылася, заўважаючы ўвагу да сябе вучонага кавалера. Пачынаецца санет «Каханне» словамі: *«З'явілася, і чую сіл крыніцу»* [2, с. 30—31]. Далей Жылка экспрэсіўна і радасна апявае прыгажосць «чараўніцы», таямнічасць складак яе вопраткі і вітае «светлавокую Лауру». Блокаўскі цыкл «***Фаина***» (1906) адкрываецца страфой *«Вот явилась. Заслонила // Всех нарядных, всех подруг, // И душа моя вступила в предназначенный ей круг»* [1, с. 298]. Гэтыя вершы гучаць зусім у іншым рэгістры; жарснасць блокаўскага героя нясе ў сабе не столькі светлыя эмоцыі, колькі прадчуванне пагібелі, і сугестыўна выяўленую дамінуючую трывогу. Аднак пачатковае «*З'явілася...*» сваёй жарснасцю алюзійна адсылае нас да «*Вот явилась...*».

Цыкл Жылкі з 11 вершаў пад назвай «***Вершы спадзявання***» [2, с. 83—91] чытаецца як своеасаблівая даніна Блоку, парафразы блокаўскіх тэм і вобразаў з «Ночной Фиалки», «Города», «Снежной маски», «Фаины». У некаторых творах Жылкі можна ўбачыць і больш выразныя адсылкі да Блока: «***Не кляні, о анёл-абаронца!*** *// Вартаўнік маіх спраў, не кляні. // І самому мне нудна бясконца // Валачыць мае чорныя дні...»*, 1926; «***Крыху ўзрушаны і рады,*** *// Спатыкаюся з табой, // І цвітуць твае пагляды // І ўва мне і нада мной...*», 1923; «***Зацвілі твае вочы між тлуму,*** *// І здаецца, твой стан мільгануў...*», 1923; «***Твае блакітнасці нязменны***, *// Нязменна хараство твае. // А я атруты келіх пенны // Разліў якраз ў жыццё мае...»*, 1924; «***Хто там паклікаў?*** *// Спяшаю за кім? // Хто так ўладарна й нячутна? // Ты, незнаёмая, правам якім, // Сілай якою магутна?*», 1924 [2, с. 94, 54, 55, 60—61, 69]. У іншых жа, як і ў цыкле «***Вершы спадзявання***», мы знаходзім не столькі літаральныя супадзенні лакальных вобразаў, колькі блокаўскія інтанацыі, сімвалісцкую стылістычную афарбаванасць: «*Нягоды твой не зменяць крок, // І ты пяшчотная ўсё тая ж, // І радасці жыцця ў вянок, // Як і калісьці, завіваеш*» [2, с. 120]. Тут можна ўспомніць блізкія менавіта стылістычна блокаўскія радкі (1908): «*Всё та же ты, какой цвела когда-то // Там, над горой туманной и зубчатой, // В лучах немеркнущей зари*» [1, с. 417]; ці радкі таго ж 1908 года: «*И вот опять, и вот опять, // Встречаясь с этим темным взглядом, // Хочу по имени назвать, // Дышать и жить с тобою рядом...*» [1, с. 321].

Калі б не вялікая любоў Жылкі да паэзіі Блока, аб чым ён так многа гаварыў і пісаў, то, магчыма, мы і не суадносілі б гэтак адназначна падобныя фразы: блокаўскую «*Знаю я твоё льстивое имя, // Чёрный бархат и губы в огне*» [1, с. 442] і жылкаўскую «*Ты варожыш, ты чаруеш, // О чароўная, бы світ, // Абяцала — падаруеш // Губ вясёлы аксаміт*» [2, с. 54]. Як народжаныя блокаўскім

сімвалізмам прыгадваюцца-пазнаюцца ў вершах Жылкі тыя рукі-лілеі, сны пра кволае шчасце, мармур светлага чала пад пасмамі глухой завеі, якія ў беларускай паэзіі ўпершыню выявіў менавіта ён, У. Жылка: «***Ледзь знаёмы пачуецца гук,*** *// І туга, і хаўтурнае змоўкне галошанне. // О лілеі пяшчотныя рук, // Мая радасць і дзень уваскрошання!*» [2, с. 87]. Ці: «*Нашто ж хадой прыйшла ўрачыстай, // Нашто ты, светлая, прыйшла, // Ў сваёй апратцы снежна-чыстай // Ў прытулак зла?*» [2, с. 86]. У паэзіі Блока і загадкавая гераіня, і снежная стыхія, і прытулак зла — важнейшыя вобразы-канцэпты. Жылка піша па-свойму і пра сваё, але захоўвае «памяць жанру», блокаўскае «лёгкае дыханне» ў паэтычных прызнаннях у каханні: «*Жыццём, жыццём як хісткай кладкай, // Бурліцца, пеніцца вада… // Ты нада мною вееш згадкай, // Мая ж няроўная хада. <…> // І каб не сны ў душы прапаснай, // Які б ён — сэнс таго быцця, // І каб не ты з усмешкай яснай, // Усмешна-ясная мая!»* [2, с. 84—85].

Аналагічны жанравы след заўважны ў вершы Жылкі «***Народнае***» (з недатаваных), які сваім пафасам і вобразнасцю выклікае ў памяці, побач з некаторымі класічнымі творамі М. Багдановіча, блокаўскі цыкл «Вольные мысли», 1907, асабліва фрагмент «В дюнах»: «*Я не люблю пустого словаря // Любовных слов и жалких выражений <…>*» [1, с. 334]. Падобна да блокаўскага, герой Жылкі разважае пра пачуццёвае. Ён праходзіць уздоўж вёскі, пакутуючы ад смагі; бачыць дзяўчыну, якая палівае кветкі перад хатай, і просіць піць. «*Дзяўчына ахоча падала мне // конаўку халоднае празрыстае вады, // а сама лагодна следкавала, // як смагла я піў. // Яна была моцнай, чырванатварай // і не мела нічога нябеснага, узносячага, // тонкі капоцік прыкрываў // прудкія малыя грудзі — // як з абразоў галандскіх майстроў, — // якія абяцалі цёплыя зямныя радасці*». І далей герой думае: як добра пакінуць туманныя летуценні і гэтую «*кволую закаханасць*», а вось пакахаць вуснамі, рукамі, усім целам такую здаровую, цёплую, як гэта. Забыцца на ўсё містычнае, а песціць кветнік перад хатаю… Увечары ж пасля потнай працы памыць рукі і ўсесціся ў коле сям'і за агульную місу пахкай вячэры. «*Так я думаў, калі піў, // таму на развітанне // Пажадаў ёй здароўя // і прыгожага жаніха. // І пайшоў далей, сумуючы, што мой шлях // Цяжкі і самотны, // І ніколі не быць мне простым*» [2, с. 125—126]. Гэты верлібр Жылкі алюзійна адсылае таксама да знакамітых верлібраў Блока «***Когда вы стоите на моём пути***», (1908); «***Она пришла с мороза***», (1908) і інш. Каментуючы падобныя вершы Жылкі (у прыватнасці — «***Марта***», дзе Жылка выкарыстаў евангельскі сюжэт), У. Калеснік падкрэсліваў: «Кантраснае сутыкненне «нізкай» эротыкі з экзальтаванай духоўнасцю можа навесці на аналогіі з упадабанымі штампамі парнасцаў і неарамантыкаў», аднак па сутнасці «сцвярджэнне прыгажосці ў будзённым было для Жылкі набліжэннем да беларускай паэтычнай традыцыі…» [4, с. 245, 248], было працягам традыцыі бачыць схаваную красу і моц у тым, што знешне можа здавацца непрыгожым.

Між тым, некаторыя падобныя матывы ў паэзіі Блока і Жылкі гучаць кантрасна.

Вядома, якое важнае месца ў лірыцы Блока займае тэма загадкавай Незнаёмкі, у сувязі з якой акадэмік І. Навуменка ўзгадваў «***Вершы аб Вільні***» У. Жылкі. І. Навуменка пісаў, што гэтыя вершы «адразу захопліваюць у палон рытміка-інтанацыйным малюнкам, які запаў у памяць пасля блокаўскай «Незнакомки». *«Вялікай вуліцы экзотыка // Тэатры, кіно, шпіталі: // І маліцвенна ўзносіць готыка // Да неба тонкія шпілі…»* [6, с. 684].

Горад як асяродак граху малюецца ў абодвух паэтаў. У Блока: «*Здесь ресторан, как храмы, светел, // И храм открыт, как ресторан…*» [1, с. 267]. У Жылкі — у «Вершах аб Вільні»: *«Плыве па вулках пыха панская, // Распуста, блуднасць і мана; // Іярасць жорсткая, паганская // Бліскае ў вочах ліцвіна»* [2, с.75]. Фінальныя ж радкі ў кожнага асабліва яскрава падкрэсліваюць сэнсавыя адрозненні нацыянальных кантэкстаў. Самае відавочнае з такіх адрозненняў

раскрываецца ў фінальных радках; у Блока: «*На безысходные обманы // Душа напрасно понеслась: // И взоры дев, и рестораны // Погаснут все — в урочный час*». У Жылкі — раптам рэзкі стылявы пераход да падкрэслена грамадзянскага воклічу: «*О, места роднае, каханае, // Цябе залье крывіцкі рух!*» Цікава наступнае. У канчатковай рэдакцыі працытаваны верш Блока называцца па першым радку — «***Ты смотришь в очи ясным зорям***»; вядома, што ў блокаўскім зборніку «Земля в снегу» ён меў больш красамоўную назву «***Напрасно***». Гэтае блокаўскае «напрасно», сімвалісцкае светаадчуванне кантрастуе з пафасам жылкаўскім, з рамантычнай верай у беларускае адраджэнне, у «крывіцкі рух».

Такім чынам, Жылкава любоў да паэзіі Блока, рэцэпцыя (успрыняцце і пераўтварэнне) блокаўскай лірыкі прывялі да ўзнікнення арыгінальнага індывідуальнага стылю Жылкі-сімваліста. Гэта яскравы, складаны і шматмерны стыль. Адным з самых вялікіх адкрыццяў у паэзіі Блока быў яе незвычайна абвостраны псіхалагізм. Надзвычайным было і Блокава адчуванне музычнасці ў паэзіі, спецыфічнай паэтычнай гармоніі ў вершаваным радку. І менавіта У. Жылка быў адным з тых паэтаў, якія беларускае слова 1920-х гадоў, тагачасную беларускую мову зрабіў мовай паэзіі па-блокаўску псіхалагічнай, меладычнай, гарманічнай. Можна сказаць, што ў паэзіі У. Жылкі суровы рэалізм беларускага слова і яго па-адраджэнску рамантычная стылёвая афарбоўка сутыкнуліся са светам класічнага рускага сімвалізму. Але ў гэтым сутыкненні нарадзіўся не канфлікт, а цудоўная новая гармонія. Яе выразна дэманструе лірыка У. Жылкі.

Уладзіміру Жылку (следам за Янкам Купалам, Максімам Багдановічам, і інш.) удалося зрабіць так, каб беларускае слова, у сучасных Жылку друкаваных выданнях пераважна «сырое», у пачатку XX стагоддзя яшчэ занадта прадметнае, звыклае хутчэй да апісання рэчаў, чым складаных пачуццяў, яшчэ не адшліфаванае ў пастаянным мастацкім ужытку, — каб такое слова загучала па-блокаўску гарманічна. У творчасці У. Жылкі беларускае паэтычнае маўленне, сама тэхніка верша выйшлі за межы неарамантызму, але не ў кірунку да жыццёвых рэалій, а ў сферу чароўнага, нияснага і ўзрушлівага; у сферу містычнага і сугестыўнага, сімвалісцкага. У шэрагу вершаў У. Жылкі пазнаюцца перазовы, своеасаблівы дыялог з асобнымі блокаўскімі матывамі і вобразамі, якія паэт пераасэнсаваў і ператварыў у з'явы беларускай мастацкай культуры.

## Спіс літаратуры:

1. Блок А. Стихотворения // Вступит. статья, подготовка текста и примечания Вл. Орлова. — Л.: Советский писатель, 1955. — 638 с. [«Библиотека поэта», большая серия, 2-е изд.].

2. Жылка У. Выбраныя творы // Укладанне, прадмова і каментарыі М. Скоблы. — Мінск: «Беларускі кнігазбор», 1998. — 358 с.

3. Жылка Уладзімер. Творы. Да 20-х угодкаў сьмерці // Пад рэдакцыяй і з камэнтарамі Ант. Адамовіча. Нью-Ёрк, 1955.

4. Калеснік У. Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі. — Мінск: «Мастацкая літаратура», 1977. — 328 с.

5. Калеснік У. Краса і воля. Паводле перапіскі У. Жылкі і А. Луцкевіча // ЛіМ. 1991. 31 мая. С. 7.

6. Навуменка І. Я. Уладзімір Жылка // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: У 4 т. Т. 2 // Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т літаратуры імя Я. Купалы. — 2-е выд. Мн.: Беларуская навука, 2002. — С. 673 — 689. (903 с.)

7. Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей: У 4 кн. Кн. 3: 1917 — 1941 гг. Мн., 1994. — С. 22—23.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 16 лютага 2015 года.

**Рэзюмэ**

**Людміла СІНЬКОВА**

**Уладзімір Жылка і Аляксандр Блок: ад рэцэпцыі да беларускай класікі**

У шэрагу вершаў У. Жылкі назіраецца своеасаблівы дыялог з асобнымі матывамі, вобразамі, інтанацыямі А. Блока. Усе гэтыя элементы У. Жылка перааасэнсаваў і ператварыў у з'явы беларускай мастацкай культуры. Рэцэпцыя (успрынянцце і пераўтварэнне) беларускім паэтам лірыкі А. Блока прывялі да ўзнікнення арыгінальнага індывідуальнага стылю Жылкі-сімваліста.

**Ключавыя словы:** рэцэпцыя, вобразы, матывы, сімвалізм, неарамантызм, нацыянальнае Адраджэнне, «заняпад Еўропы», руская паэзія, беларуская паэзія.

**Summary**

**Liudmila SINKOVA**

**Uladzimir Zhylka and Alexander Blok: from reception to the Belarusian classic**

A kind of dialogue with particular motifs, characters, intonations of A. Blok is observed in series of Zhylka's poems. U. Zhylka reinterpreted and transformed all these elements into the phenomenon of Belarusian culture. Reception (perception and transformation) of Blok's lyrics by Belarusian poet led to the original individual style of Zhylka as a symbolist.

**Keywords**: reception, characters, motifs, symbolism, neo-romanticism, national Revival, «the decline of Europe», Russian poetry, Belarusian poetry.

**Мікола ТРУС**

# УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА І ІРЖЫ ВОЛЬКЕР: рэтраспектыва беларуска-чэшскіх культурных узаемадачыненняў

Сёлетнія юбіляры Уладзімір Жылка (1900—1933) і чэшскі пісьменнік Іржы Волькер (1900—1924) — равеснікі веку, прадстаўнікі аднаго пакалення розных нацыянальных культур. Дзякуючы перакладам У. Жылкі творы чэшскага аўтара ўпершыню загучалі па-беларуску на старонках часопіса «Прамень» (1926, № 1). Адбылося гэта не ў Мінску або Вільні, а ў Празе, у якой беларускі паэт у 1923—1926 гадах вучыўся на філасофскім факультэце Карлава ўніверсітэта.

Пісьменніцкія лёсы аднагодкаў склаліся па-рознаму. У чэшскім літаратурным асяродку міжваеннага перыяду нават прагучаў заклік «Хопіць Волькера!» — настолькі моцна стаў ён аб'ектам чытацкага захаплення. Пасля Другой сусветнай вайны І. Волькер — адзін з самых запатрабаваных чэшскіх паэтаў у Савецкім Саюзе; яго перакладаюць на рускую мову прызнаныя майстры пяра, у іх ліку Ганна Ахматава, прысвячаюць спецыяльныя літаратуразнаўчыя даследаванні вядучыя славісты краіны: А. Малярэнка [1], С. Шэрлаімава [2] і інш. З беларускіх вучоных да разгляду творчасці чэшскага аўтара ў беларускім кантэксце звярталіся У. Калеснік [3], Л. Сінькова [4], А. Вострыкава [5], М. Чмарава [6] і інш. Найбольш поўна спадчына паэта прадстаўлена ў кнізе «Творы» (1996) [7].

Месца У. Жылкі — творчага пераемніка М. Багдановіча, ахвяры таталітарнага рэжыму — у гісторыі беларускай літаратуры вызначалася і замацоўвалася паступова, дзякуючы шматгадовай даследчыцкай дзейнасці У. Калесніка. Пісьменнік адкрываўся беларускаму чытачу паэтапна, у межах сабранага літаратурнага матэрыялу і дазволеных характарыстык часавай грамадска-культурнай парадыгмы. Пытанне збору і выдання ўсёй творчай спадчыны У. Жылкі і сёння застаецца адкрытым. Для прыкладу, аўтару гэтых радкоў пашчасціла выявіць у архівах Браціславы (Славакія) невядомы пераклад верша «Зімою» ўкраінскага паэта А. Крымскага [8].

У дачыненні да беларускай прысутнасці ў Чэхаславакіі міжваеннага перыяду гісторыкі і літаратуразнаўцы прымяняюць розныя вызначэнні, якія зыходна праграмуюць адрозныя па сваім характары плоскасці даследчыцкага бачання: эміграцыя (палітычная, акадэмічная), грамадска-культурная чыннасць і інш. Гэта было не толькі і не ўласна нацыянальнае суіснаванне на тэрыторыі чужой краіны, якое можна было б ахарактарызаваць як парытэтнае. Гаворка ідзе пра моцнае сілавое прыцягненне (арганізацыйнае і культурнае) збоку ўкраінскай і рускай эміграцый, колькасна куды больш шматлікіх, чым беларуская, якія мелі сваю сістэму нацыянальнай адукацыі, разгалінаваную сетку навуковых і грамадска-культурных згуртаванняў — розных магчымасцей захавання нацыянальнай ідэнтычнасці, развіцця культуры. І гэта ўсё ў межах іншай дзяржавы, якая да сярэдзіны 1930-х гг. ажыццяўляла ўсебаковую падтрымку гасцям, прадстаўнікам розных народаў былой Расійскай імперыі, сама знаходзілася на этапе ўласнай дзяржаватворчасці.



*Уладзімір Жылка. 1922 г.*



*Іржы Волькер. 1923 г.*

Ва ўмовах савецкай рэчаіснасці дзесяцігоддзі грамадскага замоўчвання, пазбягання, папросту табуіравання гэтай тэмы на корані заглушылі многія лагічныя вектары яе навуковай распрацоўкі, кантэкстуальнага асвятлення. Пры гэтым намаганні навукоўцаў — падзвіжніцкія і нават рызыкоўныя — вымушана «лакалізаваліся» на вяртанні спакваля некаторых імёнаў: зборы, выданні, асэнсаванні іх творчай і навуковай спадчыны. Такі шлях, па сутнасці адзіна магчымы, меў свае заканамерныя хібы, вёў да свядомага выкарыстання пракруставых прыёмаў штучных абмежаванняў, эзопавай мовы, — што выдатна ўсведамлялі самі гісторыкі літаратуры.

Наша даследаванне скіравана па шляху вяртання да першавытокаў. Першая публікацыя перакладу — гэта важны крок знаёмства з творам замежнага аўтара, яго ўлучэннем у новы культурны кантэкст. Пры гэтым належыць паспрабаваць знайсці адказы на пытанні, якімі прычынамі (суб'ектыўнымі, аб'ектыўнымі) пераклад быў пакліканы да жыцця, пры якіх абставінах (культурных, грамадска-палітычных) ён быў рэпрэзентаваны ў іншамоўным гучанні?

Сярод нешматлікай беларускай перыёдыкі Чэхаславакіі міжваеннага перыяду «Прамень» пазіцыянаваўся як *«часопісь паступовага[1] студэнцтва»*. Гэта было неперыядычнае выданне, якое выходзіла на беларускай мове ў Празе ў 1926—1927 гг. і цягам часу карэктавала сваю назву — «Новы прамень», «Наш прамень» [9, с. 563]. Паводле традыцыйных вызначэнняў, «Прамень» — гэта грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс. Адказны рэдактар-выдавец — Іван Сэканіна.

Часопіс быў палітычна заангажаваны, выказваў адкрытае захапленне поспехамі будаўніцтва новага ладу ў БССР, паслядоўна дэманстраваў сваё з'едлівае стаўленне да прадстаўнікоў беларускай палітычнай эміграцыі ў Чэхаславакіі. Праграмныя тэзісы выдання былі агучаны ў першым нумары, у зачынным артыкуле «Ад рэдакцыі»: 1) вызначаны адрасат — студэнцкая моладзь Заходняй Беларусі, Латвіі і эміграцыі, якая *«ўсьвядаміла неабходнасьць сацыялістычнага думаньня і дзеяньня»*; 2) *«часопісь мусіць стаць трыбунай прапаганды сацыялі-*

[1] Паступовы — перадавы, прагрэсіўны.



Вокладка часопіса «Прамень». Прага. 1926. № 1.

*стычных прынцыпаў»* [10, с. 3]. Дэкларатыўнасць была падмацавана падвярстаным вершам Леапольда Родзевіча «Песня ратая» («Гэй ратаі, мы маем моц кайданы рваць!»), а таксама шэрагам артыкулаў грамадска-палітычнага характару: «Сялянскі саюз і яго антысялянская роля», «Некалькі ўваг аб становішчы ў Польшчы», «Трошкі аб беларускай партыі эсэраў», «Аб беларусізацыі» і інш.

Уласна літаратурную частку нумара складалі паэтычныя і празаічныя творы: два вершы чэшскага пісьменніка Іржы Волькера[1] ў перакладзе У. Жылкі, два арыгінальныя вершы У. Жылкі, апавяданне І. Волькера ў мастацкім перастварэнні У. Жылкі.

Публікацыя перакладных вершаў мела відавочны канцэптуальны характар. Гэта быў своеасаблівы паэтычны дыптых пад назвай «З Волькера». Паслядоўнасць вершаў (мяркуем, вельмі важная для перакладчыка) была замацавана нумарацыяй. Пад № 1 значыўся безыменны твор *«***На шпітальнай пасьцелі праменьні падуць»*, пад № 2 — *«Песьня кахання»* (*«Кажаш, што толькі ў тваіх вачох — цэлы сьвет...»*). Заўважым, што практычна ва ўсіх наступных публікацыях спадчыны У. Жылкі гэтая канцэптуальная паслядоўнасць была парушана, нумарацыя знята, а «Песня кахання» заняла нязменную пазіцыю першынства.

Паэтычную эстафету літаратурнай часткі часопіса «Прамень» (1926, № 1) падхоплівалі два жылкаўскія вершы — «Альбігоец» і «Прастытутка». Цікавы выдавецкі лёс апошняга твора. Яго назва, якая паводле сваёй семантычнай канкрэтыкі лагічна стасавалася з першым складнікам яшчэ аднаго паэтычнага дыптыха, была папросту знята ў зборніку У. Жылкі «З палёў Заходняй Беларусі» (1927), выдадзеным у Мінску. Ад таго часу верш фіксуецца па першым радку — «***Каму жыццё атруты келіх», — што, на нашу думку, істотна змяняе (калі цалкам не скажае) аўтарскую задуму, робіць расплывістай і завуаляванай мастацка-вобразную цэльнасць твора, згладжвае яго палемічную завостранасць.

Апавяданне І. Волькера «Служка» (чэшск. «Služka») у перакладзе У. Жылкі, які падпісаўся псеўданімам *Л. Макашэвіч*, вартае асаблівай увагі, паколькі твор ніколі больш не перадрукоўваўся і не станавіўся аб’ектам літаратуразнаўчай ціка-

[1] Імя чэшскага пісьменніка пададзена ў часопісе як *Іжа*.

васці. Пэўныя прычыны такой выдавецкай і даследчыцкай няўвагі нам бачацца як вельмі празрыстыя, паверхневыя — звязаныя з традыцыйным непрыманнем/ігнараваннем некаторых тэм мастацтва, у нашым выпадку, нават калі яны звязаны з іншанацыянальнай літаратурнай практыкай, але наўпрост не закранаюць сацыяльныя і нацыянальныя пытанні.



*Іван Сэканіна. 1920-я гг.*

Па словах чэшскага даследчыка Фёдара Солдана, І. Волькер у пошуках новага мастацкага адлюстравання сацыялістычных ідэй вынайшаў своеасаблівае «чароўнае заклінанне» якім стала эротыка ў яе вялікім дыяпазоне мастацкага адлюстравання: «Волькер эратызуе ўсё, цэлую рэчаіснасць і розныя людскія адносіны»; «Яго эротыка такая простая, моцная, смелая аж да натуралізму, … і пры гэтым па-сяброўску мілая» [11, с. 66]. Пра тыпалагічныя сыходжанні творчасці чэшскага і беларускага аўтараў сведчаць словы Уладзіміра Калесніка: «Пражскі перыяд у творчасці У. Жылкі характарызуецца паглыбленнем сацыяльнасці не толькі грамадзянскіх вершаў — «На эміграцыі», «Пры Roentgenn», «Экспрэс», але і вершаў філасофскіх і, што асабліва знамянальна — інтымных. Створаны У. Жылкам у пражскі перыяд жыцця інтымны цыкл «Вершы спадзявання» з’яўляецца бясспрэчным здабыткам беларускай паэзіі» [12, с. 12].

У сцверджанага паэта І. Волькера перыяд актыўнага асваення празаічных жанраў прыпадае на пачатак 1920-х гадоў. Адзначым, што створаная ў гэты час нізка апавяданняў не заняла дамінуючае жанравае становішча ў спадчыне аўтара, а стала своеасаблівай факультатыўнай мастацкай апрабацыяй яго ідэйна-эстэтычных поглядаў, прадэклараваных у публіцыстычных выступленнях і апрабаваных у паэзіі. Паводле сведчанняў чэшскіх крыніц, з апавяданнем «Служка» І. Волькер звязваў «пачатак уласнай эпічнай творчасці» (Štěpán Vlašín) [13. с. 161]. Прызнаннем мастацкіх вартасцей «Служкі» стала прысуджэнне аўтару другой літаратурнай прэміі аўтарытэтным часопісам «Kmen».

Паводле інфармацыі чэшскіх гісторыкаў літаратуры, першапачатковая назва апавядання — «Cizinec» — дэкларавала, што ключавой асобай, праўдзівым героем твора з’яўляецца чужынец-матрос, «падарожнік без эмацыйных прычалаў, які шукае выратавання ў любоўных пачуццях — або, магчыма дакладней, у эратычнай сувязі, што прынесла яму задавальненне і смерць» (Štěpán Vlašín) [13, с. 161]. Канцэптуальная аўтарская карэкціроўка «вымушаным героем» твора зрабіла служку (служанку, пакаёўку). Для абмалёўкі персанажаў, па сведчанні чэшскіх даследчыкаў, характэрна «tezovitost» — «тэзіснасць» адлюстравання, якая кампенсуецца выкарыстаннем выяўленчых сродкаў экспрэсіянізму і натуралізму (Štěpán Vlašín) [13, с. 161].

Назва перакладзенага твора — «Служка» — цалкам ідэнтычная арыгінальнаму чэшскаму гучанню — «Služka». З фармальна-графічнага пункту гледжання, перад намі транслітарацыя, прыклад абсалютнай лексічнай некранутасці, арга-

нічнасці перасадкі слова на іншамоўную глебу. Думаецца, фактар моўнага падабенства славянскіх народаў адыгрываў даволі істотную ролю ў кантэксце ўлучанасці беларускага асяродка ў культурнае жыццё Чэхаславакіі 1920-х гг., сталічнай Прагі як «славянскай Меккі».

Пра моўныя адметнасці твора варта весці асобную гаворку. Беларуская аснова апавядання адлюстроўвае агульны стан літаратурнай унармаванасці і правапісу сярэдзіны 1920-х. Лексічная канва арганічна ўвабрала ў сябе дыялектныя асаблівасці, індывідуальна-аўтарскія наватворы, а таксама выкшталцоныя фрагменты чэшскай маўленчай стыхіі. У выніку перад намі адмысловы помнік пісьменста, які ўзнік на памежжы розных нацыянальных традыцый, па-свойму абаяльны, адметны сваёй сінкрэтычнай паэтыкай, культурнай поліфанічнасцю і часавым каларытам.

На ўзроўні пунктуацыйна-графічнага афармлення тэксту ў «праменеўскай» публікацыі праглядваецца пэўная імпульсіўнасць працы перакладчыка, які, верагодна, знаходзіўся ў палоне паспешлівай, інтуітыўнай рэцэпцыі, што можа быць патлумачана і чытацкай захопленасцю, і нюансамі адмысловага «сацыяльнага заказу» палітычна заангажаванага выдання. Аргументам на карысць апошняга можа паслужыць той факт, што адказным рэдактарам-выдаўцом часопіса «Прамень» значыўся Іван Сэканіна (Ivan Sekanina) — чэшскі камуніст, выпускнік юрыдычнага факультэта Карлава ўніверсітэта ў Празе, сябра паэта Іржы Волькера. Дарэчы, разам з У. Жылкам усе трое нарадзіліся ў 1900 г., а значыць з каляндарнай дакладнасцю рэпрэзентуюць адно пакаленне нацыянальных дзеячаў. У творчым працэсе гэта магло заўважна спрыяць атмасферы паразумення і адзінадумства, а ў выпадку з аўтарам і перакладчыкам (Волькерам і Жылкам) забяспечваць сімвалічную пераемнасць ідэйна-эстэтычных пошукаў і літаратурна-мастацкіх практык.

Часопіс «Прамень» быў паслядоўным у падборы аўтараў, беларускіх і замежных. Пры публікацыі апавядання нямецкага пісьменніка-камуніста Іаганеса Бехера *«Казьнены»* (1927, № 1; пераклад *А. Д.*) не без гонару адначалася: *«Гэтае апавяданьне прыслана па просьбе рэдакцыі вядомым пралетарскім пісьменнікам Бэхэрам з Бэрліну»*.

Такім чынам, літаратурная частка часопіса «Прамень» (1926, № 1), у якой У. Жылка выступаў як аўтар, перакладчык і рэдактар (таму, мяркуем, пачуваў сябе гаспадаром становішча), характарызуецца канцэптуальнасцю, лагічнай сувяззю і паслядоўнасцю выяўлення розных мастацкіх сродкаў, наяўнасцю адмысловага дыяпазону выяўлення пачуццяў. Для беларускага паэта гэта была ўнікальная магчымасць апрабацыі паэтыкі розных творчых кірункаў. У спробах узнаўлення мінулага мы прыводзім тэкст апавядання «Служка», а таксама візуальныя матэрыялы (здымкі), якія матэрыяльна сведчаць час і творцаў.

## Спіс літаратуры:


1. Маляренко, А. Н. Иржи Волькер — пламенный певец пролетариата / А. Н. Маляренко. — Харьков: Изд-во Харьк. ун-та, 1960. — 183 с.

2. Шерлаимова, С. А. Иржи Волькер и новые пути чешской поэзии XX века / С. А. Шерлаимова. — Москва: Высш. школа, 1965. — 89 с.

3. Калеснік У. Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі / У. Калеснік. — Мінск : Маст. літ., 1977. — 328 с.

4. Сінькова Л. Уладзімір Жылка — перакладчык Бруна Ясенскага / Л. Сінькова // Паміж тэкстам і дыскурсам: беларуская літаратура XX — XXI стст.: гісторыя, кампаратывістыка і крытыка (літ.-крыт. артыкулы, гутаркі). — Мінск: Паркус плюс, 2013. — С. 52 — 56.

5. Вострыкава А. Жылкаўскія пераклады з чэшскага паэта Волькера / А. Вострыкава // Да 100-годдзя Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Кузьмы Чорнага: Зборнік навуковых артыкулаў; рэдкал.: А. І. Бельскі, В. А. Максімовіч, П. І. Наву-

менка, А. А. Пашкевіч і інш.; пад агульнай рэд. Л. Д. Сіньковай. — Мінск: БДУ, 2001. — 350 с. — С. 248 — 252.

6. Чмарава, М. І. Тыпалагічныя сыходжанні творчасці У. Жылкі і І. Волькера / М. І. Чмарава // Шляхі ўзаемнага пазнання: беларуская літаратура ў Чэхаславакіі (1920 — 1945): Манаграфія. — Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2004. — 136 с.

7. Жылка, У. Творы; уклад. прадм. У. А. Калесніка / У. Жылка. — Мінск: Маст. літ., 1996. — 286 с.

8. Трус М. Вяртанне з холаду забыцця: Верш «Зімою» Агафангела Крымскага ў перакладзе Уладзіміра Жылкі / М. Трус // Роднае слова. — 2009. — № 7. — С. 17 — 21.

9. Ліс, А. «Прамень» / Арсень Ліс // Энцыклапедыя гісторыя Беларусі: у 6 т. — Мінск: БелЭн, 1999. — Т. 5. — 592 с.

10. Ад рэдакцыі // Прамень. — 1926 (травень). — № 1. — С. 1 —3.

11. Soldan F. Jiří Wolker / F. Soldan. — Praha: Československý spisovatel, 1964. — 159 s.

12. Калеснік, У. Пяснярскі лёс: [прадмова] / У. Калеснік // Жылка, У. Пожні. — Мінск: Маст. літ.. 1986. — С. 5 — 14.

13. Vlašín, Š. Jiří Wolker / Š. Vlašín. — Praha: Melantrich, 1975. — 353 s.

*Фотаздымак І. Волькера прыводзіцца па выданні: Wolker J. Do boje, lásko, leť. — Praha: Odeon, 1975; Івана Сэканіны — па кнізе: Vlašín, Š. Jiří Wolker. — Praha: Melantrich, 1975. Выява вокладкі часопіса «Прамень» — з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Фотаздымак У. Жылкі — з прыватнага збору М. Труса.*

Артыкул паступіў у рэдакцыю 6 красавіка 2015 года.

## Рэзюмэ

**Мікола ТРУС**

### Уладзімір Жылка і Іржы Волькер: рэтраспектыва беларуска-чэшскіх культурных узаемадачыненняў

У артыкуле разглядаюцца кантэкстуальныя, а таксама канцэптуальныя аспекты першых публікацый перакладаў паэтычных і празаічных твораў Іржы Волькера на беларускую мову, зробленых Уладзімірам Жылкам на старонках часопіса «Прамень» (Прага, 1926, № 1). Упершыню аб’ектам літаратуразнаўчага аналізу становіцца беларуская мастацкая рэцэпцыя апавядання «Служка».

**Ключавыя словы:** Уладзімір Жылка, Іржы Волькер, беларуская літаратура, чэшская літаратура, беларусы ў Чэхаславакіі, творчая генерацыя, часопіс «Прамень», канцэптуальнасць публікацыі, мастацкі пераклад, экспрэсіянізм, натуралізм.

## Summary

**Mikola TRUS**

### Vladimir Zhylka and Jiri Wolker: a retrospective of the Belarusian-Czech cultural relations

The article deals with contextual and conceptual aspects of the first publication of translations of poetry and prose works by Jiri Wolker into the Belarusian language made by Vladimir Zhylka in the journal «Pramen» (Prague, 1926, № 1). For the first time the subject of literary analysis becomes Belarusian art reception of the story «Služka».

**Keywords:** Vladimir Zhylka, Jiri Wolker, Belarusian literature, Czech literature, Belarusians in Czechoslovakia, creative generation, the magazine «Pramen», conceptual publications, literary translation, expressionism, naturalism.

**Іржы ВОЛЬКЕР**

# СЛУЖКА

*Апавяданне*

Прадмеская танцавальная заля «У Галёўзку» стаяла на рагу вуліцы, а ўсе шэсць вокан вялі на вольны абшар, які праектаваўся пад будучы пляц. Але дагэтуль там не было нічога такога, што прazраджывала б будучы маестат гэтага мейсца — ды наадварот — гурбы смецця, струхнеўшыя будкі, поўныя дашчок і хламу і некалькі вельмі смутных дрэў, якія хоць цвілі цэлы год, але толькі сажаю і пылам.

Калі ж пачынала сутуняць і гэты пусты абшар ахінваўся імглою, абрысы будак і дрэваў выдаваліся, а трамвайныя рэйкі нацягваліся ў гразі, як забітыя вужы.

Сёння аднак субота і «У Галёўзку» пан Франц запаліў тры лямпы, дакладна пры гэтым забрудзіўшы ручнік, які ўжо цэлы тыдзень звісаў з яго кішэні. Шэсць вокан выкінулі на мокры тратуар шэсць мокрых сетак, а ўласнік лёкалю пан Галёўзка ўсеўся за буфэтам, падобны разам і на рыбалова, і на спуджаную рыбу.

У светлую сетку пачалі пападацца праходзячыя — самотныя і грамадамі. Памочнікі разнікоў і шаўцоў, беспрацоўныя, басота, работнікі з Чэскамараўскага завода, сёння ў суботу ўмытыя і прычасаныя, дзеўкі з вуліцы, швачкі, а найбольш служкі, якія ўжо памылі вокны, сходы, сытыя талеркі і мелі, як кажуць, «фрай».

Мажка прыйшла сёння амаль а палове дзясятае. Пані яе раней не пусціла. Заўтра маецца прыйсці ў госці пан рада і тут трэба прыгатаваць бліскучыя шкляначкі, абцерці пыл з місак, пераставіць усё дакладна ў салёне і паставіць ізноў назад і наагул пакінуць на заўтра толькі варэнне абеду. Пасля: Мажка мусіла пісаць да хаты ліст — ліст, які не меў словаў болей, як сходаў, якія рана памыла, але даў шмат болей клопату, бо сходы мыюцца раз на тыдзень, і зараз-жа забруджваюцца, а словы ліста мусяць быць чыстымі, найчысцейшымі, бо дома будуць па іх хадзіць дзве пары добрых вачэй праз цэлы месяц.

Але дзякуючы гэтаму сталася так, што Мажка ўвайшла ў залю бадай апошняя; Войта яе не чакаў. Ні ля варотаў, ні на розе, ні ля ўходу ў залю. Войта быў кананірам, а тыя — пунктуальныя. Калі скажуць — у восем гадзін — так у восем на мейсцы. Але таксама болей чвэрці гадзіны не чакаюць. Пасля кашараў час для іх ёсць найдаражэйшым багаццем. Не здолюець яго прамаргаць доўгім чаканнем.

«Будзе мяне чакаць у сярэдзіне», — думала Марыя. Але аднак было ёй брыдка, калі сама купляла сабе ўваходны білет. А гэта таму, што заўсёды хадзіла з «франтам», што «франт» размаўляў з касіеркай і «франт» плаціў. Касіерка мела непрыемныя вочы, і Марыя, пераступаючы парог, пачувала, што мае калені, аддушаныя ад мыцця падлогі.

Цяпер пачалося расшукванне. Хоць ніколі не была ў адвечным трапіцкім лесе, але ведала яго добра. Гушчар людзкіх торсаў, жоўтыя кветы піўных шклянак, чырвоныя ягады вінаў, хмары дыму, гучны цыклон музыкі, перагарэлыя аблічча — усё гэта, што ў танцавальнай залі «У Галёўзку» буяла, віхрылася, змяталася і хрустала — было больш патаемна і палюча, чым усе пушчы на экватары.

Марыя шукала Войту, як вандраўнік свой шлях, працiскалася памiж напiханых сталоў, праз сотнi гадавых небяспечнасцяў, iшла над бяздоннямi, вакола падпiльноўваючых шэльмаў — але Войты не было. Заблудзiлася. Бог запамятаў яе, i яна самотная памiж людзей. Прысела за стол на розе, склала сваё цела ў раз’ехаўшаеся крэсла, нiбы збiралася пераначаваць у гэтай незнаёмай краiне — i папрасiла шклянку пiва.

Перш каўтанула, нiбы з-пад цiшка, але калi выпiла паўшклянкi набыла нейкай пэўнасцi. У скочным коле пазнала двух-трох сябровак. I Лiда камiсаравых была тут з новым «франтам», i разчухраная Ганка, што служыць насупроць у Вэйчыхаў. Потым пазнала таго старога пана, што смяецца з яе, калi часамi спатыкае яе на рынку — а калi дапiла шклянку, пачувала, што ведае ўсiх людзей, якiя перад хвiляю былi для яе незнаёмымi i страшнымi.

«Войта мог пачакаць, — думала сабе, — i гэта яго вiна. Я ў нядзелю яго таксама чакала. Магчыма, што зазлаваў — хто ведае — ён стары дзiкун. Магчыма, таксама, што бачыў мяне пазаўчора з тым худым краўцом, што так прыгожа спявае пад гiтару. Цi пайшоў з другою?»

Было гэтулькi магчымасцяў, а Марыя перабiрала iх, як пацеркi ружанцу. Прызнаўшы, што на канцы ўсiх тых магчымасцяў — крыж — спынiла малiтву, уздыхнула, але потым памыла свой разлад, як брудную пасуду, бо была служка i кахала чыстату i блiск у сваёй кухнi. Згадала на букет кветак, што сёння зрання бачыла на рынку, i маладая радасць разлiлася ў яе грудзёх i вуснах, i яна, прамовiўшы цiха «хай сабе!», азiрнулася навокала засвяцiўшымiся вачыма.

I так сталася, што яе вясняны iмклiвы пагляд спаткаўся з вачамi чужынца. Але — быў гэта чужынец, адзiны чужынец у залi. Уся рэшта, нават каго нiколi не бачыла, былi тутэйшыя, гэты адзiны быў чужы. Таму, што сядзела да яго спiнай i раней яго не бачыла? Не. Тут было штосьцi зусiм iншае. Цэлая яго пастава, вопратка, рукi, нат гузiкi ў манжэтах адрознiвалi яго гэтак ад рэшты, што Мажку аж мароз працяў, калi пабачыла яго. Найдзiўнейшымi аднак былi яго вочы, калi iншыя адбiвалi ў сабе блiскучую радасць залi — гэтыя вочы, як дзве нежывыя скалы каменна выступалi над бледным лобам. Цьма перад iмi, цьма за iмi. А ўсё ж ухапiлi сэрца Мажкi прудка i гвалтоўна. Або не — не ўхапiлi — звалiлiся на яе.

«Хто гэта мае быць? — думала сабе Мажка. — Запраўды чужынец. Ужо не азiрнуся».

Палажыла рукi сабе на грудзi, але там бiла, як молатам. Зноў з’явiлiся перад яе вачыма кветы сённяшняга ранку, зноў завiхрылася целам кроў. Напаследак сказала сабе: «Дык гэта таксама чалавек» i абярнулася да яго без усякiх прадасцярогаў.

Чужынец устаў ад свайго стала i падышоў да яе.

«Дазволю сабе прысесцi, слечно[1]?» Голас меў аксамiтавы i мяккi, як канапа. Зiрнула на яго зусiм коратка i была ў роспачы.

«Каб мы ня сядзелi гэтта самотнымi. Вы тут — я там. Разам нам будзе вясялей. Цi магчыма каго чакаеце?» — дадаў, калi стала не адказвала.

«Ды не», — прамовiла Мажка i хутка закруцiла галавой. Чужынец усеўся i паклiкаў буфэтчыка.

«Што жадаеце — вiно цi пiва?» — запытаўся яе.

«Дзякую, я ўжо пiла», — мякка зашапатала.

«Яшчэ адно — для знаёмства».

Не хацела, бо круцiлася б галава. На рэшце ўсё ж дазволiла прынесцi чарачку вiна.

Стукнулiся чаркамi i выпiлi. З гэтае хвiлi зачапiлася Марыя за скаловыя вочы чужынца, як горская раслiнка. Знайшла ў iх даволi грунту, каб расцi й цвiсцi.

---

[1] Па-чэшску — панна, паненка. (Заўвага У. Жылкi).

«Вы таксама адзін тут?» — пыталася.

«Я — зусім адзін», — адказаў. — Зусім адзін у цэлай залі, акрамя вас, не ведаю нікога».

«Напэўна — вы нятутэйшы?»

«Не, слечно. Прыехаў здалёк».

«Цэлы свет праездзіў. На рэшце быў у Ріо-Жанэйро ў гандляра каваю. Таксама быў у Афрыцы і Азіі».

Чужынец вырас да столі, і Марыя схапілася за стол.

«Так далёка?» — запытала. — А навошта?»

«Шукаў занятку. Знаходзіў яго ўсюды і нідзе. Не ўтрымліваўся на адным мейсцы болей хвіліны. Не вытрымліваў. Думаю, гэта ў маёй павазе. Ледзь дзе-небудзь асяду, зараз жа абрыдзяе мне. Уцёк з хаты яшчэ хлопцам і з таго часу туляюся з мейсца на мейсца».

«Чаму ж тагды вы вярнуліся?»

«Я — не вярнуўся — адно іду міма. Думаеце, што я тут дома?

Дома я — усюды і нідзе. Каб вы прайшлі гэтулькі свету і перажылі столькі, як я — пазналі б, што чым болей пяройдзеш светам, тым меней чуешся на ім дома. І нарэшце бываем вельмі стомленымі».

Твар чужынца нібы састарыўся. Хвараблівасць у падобе тоненькіх змаршчынак ухапіла яго аблічча, як у павучыну. Марыя засмуцілася і пагладзіла яму руку.

«Што ж, не маеце нікога — бацькоў, жонкі, мілае?»

«Бацькі мае даўно ўжо памёрлі», — адказаў чужынец борзда, нібы якраз гэтага чакаў, — а тое апошняе — ведаеце — нельга называць усё тым імем. Калі быў мараком, мелі мы ў каждай прыстані сваіх дзяўчат, якіх мы даведываліся. Але калі мы былі на моры — а гэта было бадай праз цэлы час — то ведалі мы, што маючы ўсюды дзяўчат, не маем нідзе мілай. Тых некалькі гадзін, што мы былі ў іх — адышлі з намі — і хапайцеся, калі канец ужо перарэзаны! І навошта думаць аб іх, калі яны не думалі аб нас? А мілая — гэта нешта, аб чым можна думаць і рэшта, аб чым думаецца, што тое на нас думае. І гэта самае галоўнае, калі мы самотныя і далёка. Але тыя нас запаміналі, ледзь зачыняліся дзверы. Не ўрасталі мы там і нельга было жадаць. І вы заўтра запамятаеце». «А чаму запамятала б? Не запамятаю!»

Чужынец пакруціў галавой і ўхмыльнуўся. «Не запамятаю, — цвердзіла Мажка, — буду думаць аб вас, калі гэта будзе рабіць вам прыемнасць».

«Чалавеку вельмі дзіўна, калі ніхто аб ім не думае, нібы ступае ў парожнасць. Нібы няма цела — рук, ног, асабліва ж вечарам, калі зойдзе сонца. У які бок маеш абярнуцца? У які ісці? Карабель плыве і ўсё ж такі стаіць. Ты адзін, адзін. Самотнаму чалавеку не даволі сябе, каб жыць. Ён — нябожчык, нябожчык».

Было штосьці так пераконваючае ў тых словах, што Марыя палажыла яму руку на галаву, пагладзіла яе мазолістымі далонямі і ад усяго сэрца, хочучы забараніць гэтага чалавека, зашаптала.

«Прысягаю вам, пане, што буду заўсёды вас страшна згадваць».

Музыка грала крыклівы вальс, заля дыміла, як комін, а чужынец, збіраючыся ўваскроснуць, казаў да вачэй найвярнейшай служкі:

«Кахаю вас, слечно!»

Потым выпілі з аднае шклянкі, казалі сотні бессэнсоўнасцяў, якія дасканальна разумелі. Чужынец меў рукі лядовыя, але голас гарачы, Марыя ўся была гарачая, але хвілямі яе працінала сцюжа. Час уцякаў — усталі, заплацілі і выйшлі да начы, прыціснуўшыся да сябе бок во бак.

За рогам пацалаваліся, пасярэдзіне на вуліцы пацалаваліся. Газавыя ліхтарні знікалі ў імгле, а Мажка знікала ў мяккіх пацалунках. Так дайшлі аж дахаты і спыніліся ля дзвярэй.

Мажка адамкнула, увайшла, чужынец уступіў за ёю і абое, трымаючыся за рукі, на пальчыках ступалі пацёмкамі сходаў.

Мажка мела сваю каморку ля кухні. Пасцель, куфар, разбітае люстэрка з паштовымі пісулькамі і старая вешалка былі ўсе яе прыкрасы. Аднэй быў бы цесны, дваім вальнейшы. Таму сюды прыходзіў Войта, перад ім Лойзак, а найперш Карлічак Хыла, адважны электраманцёр. Па кожным заставалася тут некалькі хараства, усе трое праходзілі цёплымі абоймамі Мажкі — нават у буднія дні, калі засынала адна. І калі смелі тыя трох, чаму б не смеў заблудзіўшыся чужынец, якому аднолькава йшлі на спатканне вусны і грудзі. Ці толькі таму, што не меў імя? Затое меў смутак, які раззбройвае. Што не ведае яго і што з першага вечара? У першым мамэнце пазнаецца болей, чым у першым тыдні, і мусіў бы ехаць без клуначка, бо ад'язджае ўжо заўтра. Гэтак прыблізна думала сабе Мажка, зачыняючы шчыльна дзверы, і нарэшце найболей: што так мусіць быць.

У пакойчыку было цесна. Калі ж апынулася ў руках чужынца ля вакна, з'явілася зорка. Пазірала Мажка на зорку і слухала палкі голас чужынца. Цэлая слухала яго, але найбольш сваімі прудкімі грудзямі, якія даваліся мясіць, нібы хацелі прыняць у сябе ўвесь смутак і хараство пёсцячых рук.

Калі б зірнула яму ў твар, пабачыла б, што ён бледы — бледшы, чым зорка ў вакне.

Але яна паглядала на зорку і поўная кахання і раскошы засвяцілася ў сэрцы сваім да гэткіх намераў.

«Ніхто на цябе не згадваў, чалавеча, вер, што буду памятаць цябе.

У кухні, на сходах, пры мыцці пасуды, на рынку, а найболей вечарам, раней чым засну.

Каб ты — калі і ад'едзеш, не быў чужы зямлі, па якой пойдзеш. Каб не быў самотны аж да смерці.

Заўсёды, заўсёды нават калі што-небудзь здарыцца, буду верна думаць аб табе і бог мне ў тым дапаможа».

Зорка за вакном разраслася ў вялікі квет, а Марыя ўпала плашмя на ложак.

Калі ж чужынец уступаў да яе цела, сказала яшчэ не для сэнсу тых слоў, але па звычайнасці, бо заўсёды так казала тым, што прыходзілі яе кахаць:

«Адно уважай!»

Потым закрыла вочы, абхапіла яго рукамі вокала шыі і прыняла яго да сябе вярней, чым труна, — з усімі грахамі, болямі і надзеямі, і з тымі, за якія ўміраецца. Ляжалі ў сабе, як два дары нетутэйшых палёшч свету — злучаныя на век тым, што ўзаемна аддаліся сабе.

«Не запамятаеш?»

«Не запамятаю».

І тут цела чужынца, напружанае палавымі курчамі, раптам бессэнсоўна пераламалася. Марыя пачувала, што не дайшоў яшчэ да яе сэрца, ахопленая страхам, прыціснула яго да сябе з усяе моцы. Тут цела пералілося праз яе, не як хваля, а незгінаючы — змярцвела. Марыя пачула раздзёрты ўздых, але не быў гэта ўздых кахання — прыходзіў з іншага боку. Быў гэта ўздых спакойны, і ўсё ж вельмі кароткі, які, дазвіньваючы, адгукнуўся ва ўсіх рэчах у пакоі. Праняло яе холадам, нібы пачула ў сабе лёд. Схапіла за валасы галаву, нерухома ляжачую на яе грудзёх, падняла яе натужана, аж да свету зоркі, якая стаяла за вакном ад адвечнасці да адвечнасці. І ў гэтым імглістым святле пабачыла вытарашчаныя вочы і зведзеную грымасу трупа.

Быў забіты паралюшам.

Поўная жаху пусціла галаву. Упала ёй між грудзей, як камень у глыбіню. Усё цела яе расхвалявалася да тысячы зблутаных кругоў. Хацела закрычаць — не магла, хацела выскачыць — не выскачыла. Ляжала хвілю скамянеўшай пад мёртвым целам, якое дагэтуль уклінвалася ў яе цела. Напружыла ўсе свае сілы, каб

скінуць яго, але мёртвае цела моцна трымала яе нагамі і нібы да яе ўпадала. Змагалася з ім прудка, бо вялікі боль і жах яе змацнілі — але цяжка было змагацца. І калі нарэшце вызвалілася ў той меры, што скінула яго з сябе і палажыла ля сябе папярок ложка, пазнала ўбогая, што не зняла яго і ніколі яго не здыме. Паднялася. Босымі нагамі двойчы прайшлася па пакоі. Выбегчы, лямантаваць, звівацца на зямлі — загадваў жах у каморцы. Застацца, быць ціхай, найцішэйшай — казаў жах за вакном.

Узяла прасцірадла і прыкрыла нябожчыка. Руку, перакінутую цераз ложак, палажыла яму ля боку. Потым прысела да яго служка найвярнейшая.

Зорка за вакном бледне, уступаючы мейсца шэрым контурам комінаў. Марыя нерухома глядзіць перад сабою, як птах, якога застрэлілі за спевы. Адходзіць кудысць на далёкі шлях. Да чужога свету — чужаніцай. Сама сабе, кажа: «З богам, Марыя!» Пакіне дом сваіх дваццацігадовых грудзей, радзімую мову радаснага ўзлоння, адходзіць ад усяго свайго цела, якое так дужа зацвітала перад дзвюма гадзінамі.

Не ведае і не кажа гэтага нікому; яна гэта пачувае. Раптам ёй робіцца холадна, холадна, халадней, чым нерухомаму целу пад пасцілкаю. Нібы яе кроў кудысьці ад яе ўцякае. Сцюжа, сцюжа...

Ахутваецца ваўняным шалям. Робіцца нагэтулькі падобнай мёртваму, што гэта сабе ўсведамляе. Але не крычыць, не ўстае, не плача, хоць на вуліцах ужо грукочуць першыя падводы, а дворнікі адчыняюць брамы.

Каму ад гэтай гадзіны адчыніць абоймы, каб не згадала аб смерці? Як знойдзе моцы аддацца іншаму каханню, не дрыжаць ад жаху, што яе мілы можа памерці між ног і грудзей?

Сёння не адзін памёр у яе абоймах — памёрлі з ім усе тыя, што яшчэ не прыйшлі. Каханне перамянілася ў ёй на смерць, а чым іншым, як не каханнем, можа жыць жанчына?

Гадзіннік б'е. Звоніць малочніца. Марыя не адчыняе. Няма ў яе нічога, акрамя памёршага чужынца, нежывога каханка і яе вернасці на векі. Прыпадае да бясканцовых балючых гадзін, у якія яна будзе аб ім думаць. І так сталася — чужынец, што быў пахаваны жывым, па смерці ў ёй уваскрос.

Дапяла таго, што абяцала. Сэрца служкі Марыі, якім вечна будзе праходзіць, як меч похваю, будзе служыць яго жыццю. Верна, найвярней.

Дзверы са сходаў адчыняюцца. Хтосьці грукае, хтосьці звоніць, хтосьці злосна крычыць:

«Чаму ня йдзеце адчыняць, Мажка, калі малочніца ўжо поўгадзіны звоніць?»

Марыя не разумее, што ад яе хочуць, бачыць толькі, як праз імглу, твар пані. Потым мае ўражанне, што на яе наступае кола паветравых масак, чуе шум, крыкі сотні вуснаў і вочы, звернутыя да яе. Сціснутая з усіх бакоў, не можа дыхаць, падымае рукі і нібы гэтым хоча забраніцца і адвярнуць увагу ўсіх ад сябе, паказвае ім на пасцель, дзе пад пасцілкаю страшна рысуецца зцвярдзелае чалавечае цела і крычыць:

«Там — там — нябожчык!»

Толькі потым кідаецца на зямлю, звіваецца і нялічанымі слязамі разліваецца па бруднай падлозе.

І жадны з прысутных, што збіліся ў дзіўнай блытаніне наўкола пасцелі, поўныя жаху, злосці ці жалю, не разумеюць, што ён мёртвы, а мёртвая засталася ў гэтай будове.

***Пераклад з чэшскай Л. МАКАШЭВІЧ[1].***
***Падрыхтоўка тэксту Міколы ТРУСА.***

[1] Псеўданім Уладзіміра Жылкі.

Вераніка КАРЛЮКЕВІЧ

# ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА З БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРАЙ У КІТАІ — «ЖАЛЕЙКА» ЯНКІ КУПАЛЫ

У 1946 годзе выдавецтва «Вэньгуань шудзянь» (Шанхай) выпусціла ў свет зборнік вершаў Янкі Купалы пад агульнай назвай «Жалейка». Выдадзены ён быў сіламі лепшых прадстаўнікоў перакладчыцкай школы Кітая таго часу — супрацоўнікамі Камітэта па рэдагаванні і перакладзе пры Асацыяцыі кітайска-савецкай культуры: Чжу Цзі (непасрэдны перакладчык), Гэ Баоцюань (аўтар прадмовы), Цао Цзінхуа (галоўны рэдактар).

У кітайскіх літаратуразнаўчых крыніцах маюцца звесткі, што зборнік Янкі Купалы «Жалейка» выдаваўся ў Кітаі двойчы: у 1946 годзе і ў 1953-м. Аўтар артыкула «Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі сацыялістычных краін Азіі і Лацінскай Амерыкі («Сувязі беларускай і кітайскай літаратур») у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» пацвярджае такую інфармацыю. Але ў згаданым артыкуле дапускаецца памылка пры транслітэрацыі імя перакладчыка: Чжу Цзі тут названы Чжу Цзы. Акрамя гэтага пра пераклады твораў Янкі Купалы на кітайскую мову ў біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» пазначана, што ў 1946 г. у Шанхаі надрукавана «Жалейка», якую пераклаў Чжу Фань; у 1946 г. у перакладзе Чжу Цзі таксама ў Шанхаі пабачыў свет зборнік вершаў Янкі Купалы.

Відавочна, гэта дзве інфармацыі пра адно і тое ж выданне. У Янкі Купалы няма асобнага твора з назвай «Жалейка», ёсць толькі зборнік. Да таго ж, ні ў беларускіх, ні ў кітайскіх крыніцах не згадваецца пра перакладчыка ці даследчыка, імя якога Чжу Фань. У бібліяграфічным артыкуле таксама пазначана, што ў 1953 годзе ў Шанхаі з'явіўся зборнік вершаў Янкі Купалы «Жалейка» (не ўказаны перакладчык); у 1958 г. у Шанхаі выйшаў у свет зборнік «Жалейка» ў перакладзе Чжу Цзі. У газеце «Літаратура і мастацтва» ад 5 кастрычніка 1957 года напісана: «У 1954 г. у Кітаі выйшаў зборнік яго вершаў «Жалейка» (напэўна, маецца на ўвазе зборнік 1953 года. — **В. К.**). У гэтым годзе да 75-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы ў Пекіне ў выдавецтве «Вэнь-чуан» убачыў свет другі зборнік паэта пад той жа назвай у перакладзе і пад рэдакцыяй кітайскага паэта Сунь Шэн-у (Чжу Цзі). У кнізе змешчана прадмова перакладчыка» [1].

Шанхайская «Жалейка» носіць такую ж назву, як і першы вершаваны зборнік Янкі Купалы 1908 года, выдадзены ў Пецярбурзе суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца», але па змесце значна ад яго адрозніваецца. У шанхайскі зборнік увашлі 43 вершы і паэма «Курган», якія ахопліваюць перыяд з 1906 па 1939 гады. Творы змешчаны ў адносна храналагічнай паслядоўнасці і ў пэўнай ступені знаёмяць кітайскіх чытачоў з жанравым багаццем творчасці песняра Беларусі. Разам з тым, храналагічнасць дазваляе адлюстраваць змены, якія адбываліся ў светапоглядзе паэта, яго адносіны да падзей на беларускай зямлі ў першай палове XX стагоддзя. Яшчэ адна цікавая заканамернасць размяшчэння вершаў: раннія творы, напісаныя да 1913 г., публікуюцца ў паслядоўна-

сці, залежнай ад пары года (вясна, лета, восень, зіма). Такі дастаткова фармальны падыход далёка не ўніверсальны. Напрыклад, недапушчальна, што верш «Яшчэ прыйдзе вясна» публікуецца раней за «Стужа збліжаецца». Апошні прасякнуты трагізмам гістарычных абставін. Аднак у рукапісе Янка Купала аб’яднаў гэты верш з поўным надзеі і аптымізму вершам «Яшчэ прыйдзе вясна». На жаль, з-за змены традыцыйнай паслядоўнасці размяшчэння твораў, страцілася купалаўская матывацыя стварэння вершаў, і кітайскі чытач не ў поўнай меры змог прасачыць логіку мышлення беларускага паэта.

Кітайскі зборнік Янкі Купалы адкрываецца вершам «А хто там ідзе?». Беларускі тэкст датуецца 1905—1907 гг. і ўпершыню быў апублікаваны ў зборніку «Жалейка». Пясняр стварае абагульнена-рамантычны вобраз беларускага народа пачатку XX стагоддзя — агромністая грамада, якая ідзе па сваё шчасце, бо жадае «людзьмі звацца». Нягледзячы на тое, што верш «А хто там ідзе?» перакладзены на 82 замежныя мовы, ён, безумоўна, няпросты для перакладу. Па-першае, гэта звязана з асаблівым месцам, якое займае гэты верш у творчай спадчыне Янкі Купалы. У лісце да М. Кацюбінскага Максім Горкі, першы перакладчык верша на рускую мову, ахарактарызаваў гэты твор як «штосьці накшталт беларускага гімна». Такая адзнака дадзена невыпадкова. Змест яго абумоўлены рэвалюцыйна-дэмакратычнымі поглядамі паэта, акрэсліў «праграму дзеяння» цэлага народа ў пэўны гістарычны перыяд. Пры гэтым твор характарызуецца вонкавай прастатой, агульнадаступнасцю і песенным ладам. Усё гэта і наблізіла яго да нацыянальнага гімна. Па-другое, перакладчыкам складана паўтарыць своеасаблівы вонкава просты рытміка-інтанацыйны лад «А хто там ідзе?», калі з дапамогай пэўнага чаргавання рытмічных націскаў ствараецца ўражанне хады мільёнаў людзей. Польскі літаратар Е. Янкоўскі падкрэсліў: «Чуваць у гэтым вершы водгулле размеранага кроку мільёнаў ног» [2].

Пераклад верша «А хто там ідзе?» быў выкананы Чжу Цзі ў сярэдзіне 40-х гадоў XX стагоддзя. Гэта складаны і нават вызначальны час у гісторыі Кітая, калі ішла нацыянальна-вызваленчая вайна супраць японскіх захопнікаў (1937—45 гг.), а затым — грамадзянская вайна (1946—49 гг.). Падзеі, якія адбываліся ў тыя гады ў Кітаі, па размаху і моцы нагадваюць пачатак XX стагоддзя ў Расійскай імперыі. Эпоха першай рускай рэвалюцыі на Беларусі, калі супалі сацыяльны, аграрны рух з нацыянальна-вызваленчым, склала спрыяльныя ўмовы для нараджэння «паэта маштабнага мыслення» (І. Навуменка). І менавіта гэты пафас барацьбы супраць нацыянальнага і рэвалюцыйнага прыгнёту прывабіў Чжу Цзі да перакладу купалаўскага «гімна адраджэння» (Л. Гір) і іншых вершаў нашаніўскага перыяду творчасці Янкі Купалы. Акрамя з’яўлення на старонках шанхайскага зборніка «Жалейка», твор у перакладзе Чжу Цзі быў таксама ўключаны ў кнігу «А хто там ідзе?» на мовах свету», выдадзеную ў Мінску да 100-годдзя з дня нараджэння народнага песняра Беларусі.

Па грамадска-сацыяльнай вартасці, напружанасці «А хто там ідзе?» называюць найбольш значным творам паэтычнай спадчыны Янкі Купалы. Лёгка патлумачыць, чаму кітайскія складальнікі «Жалейкі» адкрылі зборнік менавіта гэтым вершам. Аднак затым Чжу Цзі, Гэ Баоцюань і Цао Цзінхуа кіруюцца ў асноўным храналагічным прынцыпам размяшчэння твораў. За вершам «А хто там ідзе?» змешчаны першы друкаваны пераклад твора паэта — верш «Мужык», датаваны 1905 г. У сваёй ранняй лірыцы Янка Купала, карыстаючыся мастацкім прыёмам пераўвасаблення, часта выступае ад імя мужыка. У большасці сваёй такія вершы нагадваюць разгорнутыя маналогі селяніна-беларуса, які гаворыць пра сваю нядолю, прыгнёт з боку пана і казны, бясконцыя цяжкасці, нягоды, пакутніцкія выпрабаванні, якія пасылае яму лёс. Па сваёй тэматыцы і матывах ранняя купалаўская лірыка як бы працягвае паэзію Францішка Багушэвіча. Гэта вызначыла змест і танальнасць першых зборнікаў Янкі Купалы «Жалейка» і «Гусляр»,

а часткова і трэцяй кнігі — «Шляхам жыцця». Аднак нават у першых сваіх творах, у тым ліку, у вершы «Мужык», Янка Купала пайшоў далей за свайго папярэдніка. Францішак Багушэвіч рабіў націск толькі на бядотнае, гаротнае становішча селяніна-мужыка, яго бяспраўнасць, чалавечае прыніжэнне, не бачачы і не шукаючы выйсця з-пад гэтага адвечнага прыгнёту. Янка Купала не задавольваецца толькі плачам, крыўдай, праклёнам жыцця. Яго лірычны герой усведамляе сваю сілу, з верай, надзеяй, нават з упэўненасцю глядзіць у будучыню. Янка Купала імкнецца абудзіць ва ўсіх мужыкоў-беларусаў пачуццё чалавечай годнасці, веры ў сябе, прагі разняволення. Аптымізм і ідэя нацыянальнага самавызначэння навеяны рэвалюцыяй 1905—1907 гг. Гэты верш ёміста і каларытна апісвае жыццёвы лёс мужыка-селяніна, яго стасункі са знешнім светам: «з грамадствам, у якім ён пакрыўджаны; з прыродай, на ўлонні якой ён — працаўнік; з сям'ёй, якую ён, увесь век працуючы на эксплуататараў, ніяк не можа забяспечыць хлебам, вопраткай, абуткам» [3].

«Я — не паэта» — наступны верш зборніка, напісаны ў 1906 г. і ўпершыню быў надрукаваны ў «Жалейцы». Гэта яшчэ адзін праграмны твор ранняга Янкі Купалы, дзе ён выказвае сваё разуменне сутнасці і прызначэння мастацтва. У гэты пачатковы, «жалейкавы» перыяд Янка Купала адмаўляе саму па сабе эстэтычную каштоўнасць паэзіі. Паводле разумення Янкі Купалы, паэзія павінна падпарадкоўвацца пошукам лепшай долі. Як патрыёт сваёй бацькаўшчыны, Пясняр непакоіўся за будучыню беларускай культуры, верыў у прыход песняроў-заступнікаў, у права мець сваю літаратуру, паэзію. У вершы сцвярджаецца непарыўная еднасць творцы са сваім народам, калі паэт жыве шчасцем людзей і свайго краю.

Акрамя названых у зборніку кітайскіх перакладаў асобнай групай вылучаюцца раннія творы Янкі Купалы, прысвечаныя Беларусі сялянскай: «Я мужык-беларус», «Вось тут і жыві...», «Брату», «А як мы з хаткі выходзім...», «Аратаму», «Пры скаціне», «На сенажаці», «За касой», «Жняя». Яны датуюцца 1905—1911 гг., па тэматыцы і танальнасці сугучныя з вершам «Мужык».

Верш «Я мужык-беларус» (1905—1907) апісвае голад, холад, пакуты і адвечную крыўду селяніна. Аднак за нематою купалаўскага мужыка хаваецца вялізная сіла, ён пачынае ўсведамляць, што, калі б «цёмен не быў» і «чытаць кніжкі ўмеў», змог бы пастаяць за сваю чалавечую годнасць.

«Вось тут і жыві...» (1905—1907) напісаны ў форме маналога селяніна, знясіленага невыноснымі ўмовамі жыцця, працай, якая не прыносіць яму шчасця. Мужык прыходзіць да ўсведамлення сацыяльнай несправядлівасці. Паэт ад імя беларускага селяніна ўзнімае голас пратэсту супраць жудаснай эксплуатацыі вёскі.

«Пры скаціне» (1905—1907) — верш выразнага сюжэтна-апавядальнага складу, прасякнуты шчырым замілаваннем да бытавых праяў сялянскага жыцця. Аднак нечаканая канцоўка гучыць дэсанансам, калі згадваецца цяжкая доля мужыка. У вершы «Аратаму» (1908) даецца яскравы вобраз селяніна-земляроба, за якім схавана чаканне рэвалюцыі, сацыяльных змен, надзея на лепшую долю. У сугучнай танальнасці напісаны верш «На сенажаці» (1908): лірычны герой якога — мужык, які нават у самым цяжкім, беспрасветным жыцці прагне лепшай долі, якую здольны сам заваяваць. Верш «Брату» (1908—1909) — гэта своеасаблівы дакор грамадству, нячуламу да людзей працы. Селянін даведзены да таго, што перастае разумець, чалавек ён ці скаціна. Янка Купала піша твор ад імя гэтага мужыка, якога спагадліва называе родным братам. «А як мы з хаткі выходзім...» створаны ў 1909 г. Прасочваецца пазначаны змрочнымі з'явамі жыццёвы шлях селяніна — ад нараджэння і да скону. Янка Купала развівае думку пра безвыходнае становішча селяніна. Верш «За касой» (1911) змяшчае традыцыйныя малюнкі сялянскага жыцця. Аднак

натхнёнасць селяніна падчас працы падкрэслівае яго чалавечую годнасць, імкненне да змен. Таму рытарычнае пытанне ў канцы верша не выпадковае: «Ці даждуся калі кос і песень касцоў // На другой, на вялікай касьбе?..» «За касой» ужо не толькі расповед пра цяжкую сялянскую долю і надзея на лепшы лёс. У вершы яўна гучыць заклік да барацьбы.

Яшчэ адна ўмоўная група вершаў у кітайскім зборніку — ранняя грамадзянская лірыка, прасякнутая заклікамі да нацыянальна-вызваленчай барацьбы, рэвалюцыі. Паэт часта выкарыстоўвае вобразы прыроды, каб перадаць сацыяльна-грамадскія з'явы. Гэта «Зашумеў лес разгуканы», «Пойдзем», «З асенніх напеваў», «За праўду», «Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?», «Песня сонцу», «На купалле», «Стужа зближаецца», «Яшчэ прыйдзе вясна», «Спёка».

Верш «З асенніх матываў» («Не гудзі так восень») датуецца 1905—1907 гг. Ён пабудаваны на паралелізме (непагодная восень — сумныя думкі, што крывавяць сэрца), не проста выкрывае матывы безнадзейнасці і безвыходнасці: у ім гучаць стрыманы заклік, бунтарскі пратэст. У творы «Зашумеў лес разгуканы», напісаным у 1906 г., паэт асэнсоўвае прыроду як вобраз роднай Беларусі, у якім увасоблены бунтарскія настроі народа і падкрэсліваецца разбуральная сіла рэвалюцыі. Але і даецца ўяўленне, як яна паўплывае на стварэнне новага, лепшага свету. Народ паўстаў у вобразе разгуканага лесу, параўноўваецца з морам, неспакойныя хвалі якога нясуць «праўды панаванне». Верш «Пойдзем!» (1906) — яшчэ адзін праграмны твор Янкі Купалы перыяду першай рускай рэвалюцыі. Ён прачытваецца як прамова-заклік з характэрнымі для красамоўства стылістычнымі фігурамі. Гэты твор яскрава ілюструе ідэі, вобразы і выяўленчыя сродкі, якімі актыўна карыстаўся Янка Купала ў сваёй творчасці дакастрычніцкага перыяду: паняцце адвечнай аб'ектыўнай праўды-справядлівасці, роўнасці і згоды, вобразы руху, паходу, што сімвалізуюць пераход народа ад пакорнай пасіўнасці да сацыяльнай і духоўнай актыўнасці, гістарычны аптымізм і веру ў творчыя сілы народа. Верш «За праўду» (1908) — прыклад грамадзянска-публіцыстычнай лірыкі, у якім паэт заклікае чалавека-працаўніка мужна і смела змагацца «за праўду, за шчасце, за лепшую долю».

Паэтычны вобраз сонца-надзеі ў вершы «Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?» (1908—1910) процістаўлены малюнкам змрочнай рэчаіснасці, узмацняе жыццесцвярджальны пафас. Адлюстраваны пратэст супраць парадкаў тагачаснага грамадства, паказаны гора, адчай і пакуты абяздоленых у атмасферы палітычнай рэакцыі [3, с. 642]. Яшчэ адзін верш, дзе дамінуе вобраз сонца — «Песня сонцу» (1910). Ад імя народа, грамады паэт звяртаецца да сонца, і ў гэтым звароце чуецца амаль язычніцкае маленне перад магутнымі сіламі прыроды, здольнымі аднаўляць жыццё на зямлі. Твор нясе ў сабе адчуванне высокай годнасці народа і зямлі. Ідэйны пафас яго — гарачае жаданне паэта-грамадзяніна пабачыць Радзіму свабоднай і шчаслівай [3, с. 482]. Верш «На Купалле» (1910), які таксама прадстаўлены ў кітайскім зборніку «Жалейка», ілюструе народна-міфалагічныя матывы, характэрныя для творчасці ранняга Купалы. Паэтычная сітуацыя пабудавана на аснове вядомай легенды пра кветку папараці, якая нібыта прыносіць шчасце таму, хто знойдзе яе ў купальскую ноч. Аднак у вершы кветка шчасця расцвітае, калі маці, вобраз якой успрымаецца як вобраз Беларусі, акрапляе сваімі слязамі сабранае ёю зелле папараці. Выказвае надзею на светлую будучыню для маці-Радзімы і яе сыноў, але воля здабываецца цяжка. Вобраз кветкі папараці, што вырасла на матуліных слязах, надае твору глыбокі драматызм. Гэты вобраз дапамагае паэтычна перадаць успрыманне тагачаснай жорсткай рэчаіснасці [3, с. 416]. І ў «Спёцы» (1911) паэт выкарыстоўвае вобраз сонца, пераасэнсоўваючы змест традыцыйнага народнага выразу «сонца пячэ». Метафара спёкі-агню перадае драматызм адчування чалавека сярод неўтаймавальнай стыхіі. Замест таго, каб несці радасць, сонца «зіяе загубай». Праз апі-

санне варожых чалавеку прыродных сіл паэт асуджае грамадскія адносіны, пры якіх бяссілле чалавека перад мацнейшымі за яго волю абставінамі ёсць закон існавання [3, с. 573].

Як яшчэ адзін «блок» у паэтычным зборніку «Жалейка» ўкладальнік паставіў купалаўскія вершы «новага часу» — творы яўнага сацыялістычнага гучання: «Маладым паэтам», «Калыханка», «Дзень добры, Масква!..».

Цікавасць кітайскіх перакладчыкаў да гэтых вершаў абумоўлена ў большай ступені іх сацыялістычнай тэматыкай, але сучасныя літаратуразнаўцы часта крытыкуюць творчасць Я. Купалы 1930-х гг.: «... у канцы 20-х і 30-я гады лірыка Купалы рабілася залішне агульнай, адцягнена-рытарычнай і была не здольна даваць паэтычныя адбіткі жывой, рухомай рэчаіснасці. Пафас «агульнага» ўслаўлення радасных перамен, якія адбываліся ў краіне, не мог замяніць жывых мастацкіх карцін гэтых перамен... Лірыка Купалы, як і многіх іншых паэтаў, працягвала ж заставацца сузіральнай, лунала ў высях узнёслых паэтычных абстракцый» [4, с.74].

Зборнік перакладаў Янкі Купалы «Жалейка» стаў пачаткам знаёмства кітайскіх чытачоў з творчасцю беларускага песняра. За змешчанымі ў кнізе вершамі, у 1960—80-я гг. былі перакладзены паэмы «Яна і я», «Над ракою Арэсай» і «Бандароўна». Цікавасць да творчасці Янкі Купалы ў другой палове XX стагоддзя была абумоўлена агульным інтарэсам да савецкай літаратуры ў Кітаі, а таксама дзяржаўнай падтрымкай выдання перакладных твораў. Рэаліі сённяшняга дня, арыентаваныя на рынак і камерцыйны падыход, на жаль, пакуль што не даюць надзеі на актыўны новы зварот перакладчыкаў да спадчыны песняра Беларусі. І ўсё ж варта рыхтаваць глебу для магчымых працэсаў будучага прачытання беларускай класікі ў Кітаі. Патрэбныя публікацыі пра нашу літаратуру ў кітайскім літаратурна-мастацкім перыядычным друку. Неабходна ўключэнне досведу, разгляду беларускай літаратуры ў працэсе навучання кітайскіх студэнтаў у Беларусі. Іх асяродак мог бы патэнцыйна вылучыць перакладчыкаў з мовы арыгінала на кітайскую мову, што таксама надзвычай важна. Магчыма, развіццю працэсаў прачытання беларускай класікі кітайскімі перакладчыкамі маглі б спрыяць і конкурсы, арганізаваныя для маладых творцаў Саюзам пісьменнікаў Беларусі ці Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Як, дарэчы, такія конкурсы на лепшы пераклад маглі б ладзіць і бізнес-структуры, якія працуюць на ніве беларуска-кітайскага эканамічнага супрацоўніцтва. Логіка тут досыць простая: здабыткі краіны ў галіне культурнага ўзаемаабмену, такая народная дыпламатыя ў галіне культуры і літаратуры — непасрэдны фундамент, грунт для шырокага развіцця палітычных і эканамічных зносін.

## Спіс літаратуры:

1. Весткі з Кітая // Літаратура і мастацтва. — 1957. — 12 снежня. — С. 4.

2. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытыч. матэрыялаў / Александровіч С. Х. [і інш.] — Мінск: Беларус. навука, 1978. — С.131.

3. Янка Купала: Энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.] — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

4. Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: у 4 т. / НАН Беларусі. Аддз-не гуманіт. навук і мастацтваў, Ін-т літаратуры ім. Я. Купалы. — 3-е выд. — Мінск: Беларус. Навука, 2003. — Т.1: 1901—1920 / У. В. Гніламёдаў [і інш.]. — 2003. — 583 с.

Артыкл паступіў у рэдакцыю 8 красавіка 2015 года.

## Рэзюмэ

### Вераніка КАРЛЮКЕВІЧ

### Першае знаёмства з беларускай літаратурай у Кітаі — «Жалейка» Янкі Купалы

Аўтар знаёміць чытачоў са зборнікам кітайскіх перакладаў з вершаў Янкі Купалы «Жалейка», выдадзеным у Шанхаі (Кітай) у 1946 годзе. У артыкуле апісваюцца змешчаныя вершы, аналізуюцца прынцыпы іх ўключэння ў зборнік.

**Ключавыя словы:** Янка Купала, зборнік «Жалейка», Кітай, Чжу Цзі, літаратурны пераклад.



## Summary

### Veronica KARLIUKEVICH

### The First Acquaintance with Belarusian Literature in China — the Collection of Poems by Yanka Kupala «Zhaleika» («The Little Flute»)

The author describes the collection of Chinese translations of the poems by Yanka Kupala «Zhaleika» («The Little Flute»), published in Shanghai (China) in 1946. The article highlights the principles of including them in the collection.

**Key words:** Yanka Kupala, the collection of poems «Zhaleika» («The Little Flute»), China, Zhu Ji, literature translation.

**Серафім АНДРАЮК**

# ВАЙНА: БЕЛАРУСКІ СВЕТ

Мільгаюць дні, імкліва пралятаюць тыдні і месяцы, прабягаюць гады і дзесяцігоддзі — праходзіць жыццё чалавека, народа, краіны. Час няўмольна рухаецца ўперад. Час ідзе — і ўсё ў жыцці змяняецца: дзе больш істотна — дзе менш, дзе хутчэй — дзе павольней. Многае знікае назаўсёды, іншае губляе выразнасць і пэўнасць. А тое, што, мабыць, асабліва важнае і значнае, больш пэўна выяўляецца ў сваім змесце, у сваёй сутнасці. Гэта ва ўспрыманні, разуменні чалавека, народа. Найперш народа, грамадства, бо чалавек асобны далёка не даўгавечны. Урэшце культурна-гістарычная абмежаванасць чалавека непасрэдна звязана з яго фізічнай абмежаванасцю. Але не цалкам залежная ад яе. Ёсць сям'я, грамада, народ. У іх памяці, у іх разуменні, бачанні ў вышэйшай ступені поўна захоўваецца аблічча свету, дух часу наогул, асобных, найбольш значных з'яў, падзей гэтага часу. Памяць, веданне мацуюць у вышэйшай ступені гістарычную памяць чалавечую, мацуюць духоўную атмасферу людскога яднання.

Асабліва моцна адчуваецца, выдатна відаць вось гэтая дыялектычная залежнасць, узаемасувязь бачання, разумення грамадска-сацыяльнага жыцця, побыту, духоўнай атмасферы, эстэтыкі і руху часу ў мастацтве, найперш у мастацкай літаратуры. Галоўным чынам у яе ўспрыманні, чытанні і разуменні ў розных умовах, у розныя часы жыцця народа. Зноў жа, зразумела, адносіцца гэта ў першую чаргу да твораў ідэйнага значнага зместу, высокіх мастацкіх якасцей і, у дадзеным выпадку — галоўнае, тых, якія заснаваны на агульназначным жыццёвым матэрыяле.

Увогуле ў гісторыі беларускай літаратуры выразна праглядваецца важная заканамернасць: чым больш народ, грамадства, чалавек звязаны з падзеямі агульназначнага зместу (жывуць імі, іх твораць), тым больш адчувальна, шырока, прыкметна яны ўздзейнічаюць на літаратуру, вызначаюць яе змест, характар. Праз жыццёвы лёс яе творцаў. Вялікія падзеі, пераломныя, драматычныя ў гісторыі народа, краіны, нараджаюць і фарміруюць пакаленні людзей, паяднаных агульнасцю перажытага, агульнасцю лёсу, агульнасцю светаўспрымання і светаадчування. Добра гэта адчуваецца, напрыклад, у творчасці тых, хто непасрэдна ўдзельнічаў у Айчыннай вайне — на фронце ці ў партызанскай барацьбе. Яшчэ ў большай ступені — у творчасці тых, чыё дзейніцтва было абпалена вайной.

У свой час, маючы на ўвазе Першую сусветную вайну, выдатны рускі філосаф І. Ільін пісаў: «Бываюць у жыцці народаў перыяды і часіны, калі ўсё жыццё — увага, воля, уяўленне, думка і дзеянне — засяроджваюцца вакол адзінага пункта. Перад важнасцю яго адыходзіць на другі план усё астатняе; таму што *яго* значнасць, інтэнсіўнась і трагічнасць паглынае амаль што ці не ўсе астатнія жыццёвыя мэты і імкненні».

У значна большай ступені словы гэтыя стасуюцца да Вялікай Айчыннай вайны — як вайны ўсенароднай. І асабліва ў адносінах да вайны на Беларусі, да беларускага народа ў гэтай вайне, да разумення яго духоўнага, псіхалагічнага стану. Бо гэтая вайна залучыла ў свой крывава-вынішчальны вір усё і ўсіх. Уся

Беларусь была ў вайне. Старыя і малыя, мужчыны і жанчыны, кожная сям'я і кожная хата былі ўцягнуты ў гэтую жахлівую містэрыю, назва якой — вайна. Менавіта «значнасць, інтэнсіўнасць і трагічнасць» вайны вызначалі характар тагачаснага жыцця на беларускай зямлі. І не толькі, але і стан самой зямлі, прыроду, саму атмасферу.

Для Беларусі, нават у межах Савецкага Саюза, мінулая вайна мела бясспрэчна ўсё ж асаблівы змест і сэнс. Добра пра гэта ў 1971 годзе ў артыкуле «Званы Хатыні» сказаў Васіль Быкаў: «Айчынная вайна для Беларусі сапраўды з'явілася вайной агульнанароднай з яе першага дня і да самай перамогі. Тры гады беларускі народ правёў на яе пярэднім краі ў літаральным сэнсе гэтага слова, ні дня не ведаючы хоць бы адноснай бяспекі. Фронт барацьбы з гітлераўцамі праходзіў па кожнай ваколіцы, па кожным падворку, па сэрцах і душах людзей. Агульнанародная вайна азначала, што кожны быў воінам з усімі яго абавязкамі і вынікамі, незалежна ад узросту, полу, нягледзячы на тое, меў ён зброю і страляў у акупантаў або толькі сеяў збожжа і гадаваў дзяцей, — кожны быў воінам. Таму што і зброя, і збожжа, і падросшыя дзеці, ды і само існаванне кожнага беларуса ў выніку было накіравана супраць акупантаў».

І гэта так. І гэта лагічна. Бо то была вайна, якая для беларускага народа, беларускага краю несла парушэнне ўсяго звычнага, усталяванага вякамі, увайшоўшага ў кроў і плоць чалавека, сям'і, дома, вёскі, горада, мясцовасці, — ладу і парадку жыцця, парушала саму атмасферу чалавечага існавання, жыцця — палітычную, сацыяльную, гаспадарчую, сямейную, духоўную, эмацыянальную. Пасля такіх падзей, з іх, з такіх перыядаў і краіна, і народ, і чалавек выходзяць іншымі, як бы ўзняўшыся на новую, вышэйшую ступеньку духоўнага развіцця, маральнага і эмацыянальнага сталення. І ўсё пазнейшае чалавечае ўспрыманне жыцця, навакольнага свету адбываецца ўжо праз прызму таго трагічнага вопыту.

Глыбока, выдатна выявілася гэта ў нацыянальнай мастацкай літаратуры. Асабліва ў творчасці тых, чый пачатак маладосці, уся маладосць была паглынута вайною, ёю пакалечаная, а таксама ў тых, чыё дзяцінства было ўсё забрана вайною і першымі гадамі пасляваеннай галечы і бясхлебіцы. У кожнага пакалення па-свойму адметна. Па-свойму разумелася, помнілася і ацэньвалася. У пакалення маладых удзельнікаў вайны і партызан больш вылучаецца як бы індывідуальны, асабісты момант: яны існавалі, дзейнічалі ў розных абставінах, па-рознаму. Засведчана і іх сведчаннямі, і, галоўнае, іх творчасцю. Па-іншаму ацэньваецца прайшоўшая вайна тымі, чыё дзяцінства было ўзруйнавана тымі падзеямі. І ў творах, і, асабліва, у іх вусных і пісьмовых публіцыстычных сведчаннях. Дастаткова паглядзець аўтабіяграфіі пісьменнікаў гэтага пакалення ў кнігах «Пра час і пра сябе» (1966), «Вытокі песні» (1973), «З росных сцяжын» (2009), адказы на пытанні ў кнізе «Шчыра, як на духу. Споведзі вядомых людзей Беларусі» Выпуск І (2002).

Тут добра адчуваецца, відаць, што ва ўсіх, чыё дзяцінства захапіла вайна, і праз гады, нават ужо ў новым стагоддзі, успамін пра яе застаецца самым цяжкім у жыцці, самым драматычным. Зноў жа вайна помніцца не нейкай адной падзеяй, гісторыяй, а як суцэльная паласа ў жыцці, напоўненая болем, страхам, голадам. Калі меркаваць па кнізе «Споведзі», памяць пра вайну аднолькавая ў людзей рознага роду заняткаў — пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў, спартсменаў. Напэўна, у дадзеным выпадку ёсць усе падставы гаварыць пра памяць народную. Проста ў тых, хто быў народжаны ў 30-я гады, і чыё дзяцінства прыпала на ваеннае ліхалецце, — гэта памяць пакалення, параненага вайною, пакалення, ахрышчанага вайною.

Дзіцячым розумам, дзіцячай свядомасцю, дзіцячым сэрцам вайна ўспрымалася як бяда ўсеагульная, няшчасце ўсеагульнае. Яна як бы паглынула, падпарадкавала сабе асобныя факты, падзеі, жыццёвыя гісторыі.

Вайна як містычнае ўвасабленне зла, цемры, смерці ў яе абагулена-абстрактным увасабленні і вайна ў яе шматлікіх жывых, канкрэтных, зразумела ж, уведаных асабіста, праявах — такую вайну ўбачылі і назаўсёды запомнілі дзеці вайны, такая вайна сфармавала іх, вызначыла іх адносіны да навакольнага жыцця, да навакольнага свету. І ў гэтых узаемадачыненнях чалавека і навакольнага свету галоўная, вырашальная роля належала якраз навакольнаму свету, аб'ектыўнаму жыццю. То быў вопыт вайны, акупацыі, блакад, першых пасляваенных гадоў аднаўлення. І пазнейшае чалавечае, зразумела ж, і мастацкае, успрыманне жыцця, навакольнага свету, гэтым пакаленнем адбывалася праз прызму таго трагічнага вопыту. Пісьменнік, сфармаваны такімі ўмовамі жыцця, прывучаны найбольш, як бы інстынктыўна, глядзець у свет, а не ў сябе. Адсюль эпічны (усебаковы, шырокі) характар мастацкага спасціжэння і ўзнаўлення свету — у сэнсе аб'ектыўнага свету і чалавека ў ім. Яго героі (маюцца на ўвазе, падкрэслім, творы пра вайну) — гэта людзі сваёй зямлі, свайго часу. Іх экзістэнцыя гістарычна-прасторава, сацыяльна-этнічна даволі канкрэтная. Мастацкі свет твораў пісьменнікаў гэтага пакалення, можна сказаць, адэкватны рэальнаму навакольнаму свету. У кожным выпадку асабіста свайму, індывідуальнаму. Творчая ўстойлівась асобнага пісьменніка, яго герояў, іх «Я» якраз у гэтым свеце.

Зыходзячы з аўтабіяграфій, змешчаных у вышэй названых зборніках (сюды трэба дадаць першую кнігу гэтай серыі «Пяцьдзесят чатыры дарогі» (1963)), узгадваючы розныя інтэрв'ю, публіцыстычныя выступленні пісьменнікаў старэйшага пакалення ўдзельнікаў вайны, можна выразна бачыць дзесьці іншае ўспрыманне вайны. Па-першае, у іх у большай ступені адчуваецца асоба аўтара, яго эмацыянальная ці то сэнсавая прысутнасць. Па-другое, успаміны тут у большай ступені засяроджаны, грунтуюцца на асобных падзеях, фактах, сітуацыях.

Па-трэцяе, як вынік, тут не так адчуваецца пастаянны акупацыйны духоўны ціск, бо былі перамогі, учынкі гераічныя, хвіліны радасці, задавальнення. І яшчэ момант істотны: вайна, вядома, была вайна для ўсіх адна, але, разам з тым, для кожнага свая — і падзейна, і духоўна, эмацыянальна. У гэтым сэнсе вайна свая, адметная — і не толькі падзейна (хаця тут найбольш) — у І. Мележа і Я. Брыля, В. Быкава і А. Адамовіча, у І. Шамякіна і А. Савіцкага, у І. Навуменкі і А. Карпюка... Разуменне вайны, яе сутнасці, яе аблічча, яе вынікаў у публіцыстычных выказваннях пісьменнікаў зноў жа ў кожнага сваё, адметнае. У многіх акцэнтуецца момант асабісты, жыццёва адметны, нярэдка чыста інфармацыйны. У самой жа творчасці гэтая асабістасць эмацыянальная, падзейна-фактычная ўводзіцца ў плынь жыцця агульнага, дзе ёсць мінулае і будучае, дзе лёс прыватны злучаны з лёсам народным, дзе асабістыя адчуванні і перажыванні ўліваюцца ў тагачасную эмацыянальна-духоўную атмасферу, тым самым вызначаючы сучасны (дакладней, часу напісання) лад твора і творчасці.

Рэальна склалася так, што найбольш значныя творы пра вайну былі напісаны, з'явіліся ў 60—80 гг. мінулага стагоддзя. Былі на гэта свае прычыны — як асабістага характару, так і грамадска-палітычнага. Па-першае, матэрыял вайны і наогул, і асабіста быў занадта балючы, трывожны, каб яго больш спакойна, аб'ектыўна можна было паказаць, узнавіць, а тым больш асэнсаваць. Па-другое, сама грамадска-палітычная атмасфера, па сутнасці, не дазваляла гэта зрабіць. І толькі атмасфера «адлігі» дала магчымасць пісьменнікам розных пакаленняў сказаць сваё шчырае слова пра падзею не толькі гераічную, але і самую трагічную ў гісторыі нашага народа.

Якраз гэтыя творы, гэтая літаратура паказала, сказала, чым з'явіліся для народа гады вайны, асабліва гады поўнай акупацыі краю. Зразумела — часам самых жорсткіх, на мяжы магчымага і нават немагчымага, выпрабаванняў, адначасна парой самых высокіх праяўленняў мужнасці і гераізму, дабрыні і самаахвярнасці. Вось што пісаў пра вайну ў дачыненні да народа Іван Мележ: «Подзвіг народа

быў велізарны; вайна абвастрыла ў кожным пачуццё злітнасці, з'яднанасці з народам; мабыць ніколі з такой сілай, як у вайну і пасляваенныя гады, не адчувалі мы, што мы — народ. Вайна навучыла нас адчуваць і думаць буйнымі маштабамі». І не толькі. Бо сама вайна сваім характарам, сваёй сутнасцю, сваімі рухаючымі сіламі, маштабамі была вайною менавіта народнаю — Вялікая Айчынная вайна. І якраз унутранае адчуванне, усведамленне мінулай вайны як вайны народнай у 60-я гады і пазней стала для літаратуры, для яе эстэтычнага руху, як і для самаадчування і самаўсведамлення народа, унутрана неабходным. Мастацкае спасціжэнне нядаўняе вайны як вайны народнай аказалася рэальным, магчымым у такой ступені, у якой асабісты досвед творцы, як асабістая памяць, былі сугучны памяці народнай, аплоднены ёю.

Пра гэта, грунтуючыся на вопыце працы над кнігамі «Я з вогненнай вёскі...» (сумесна з Я. Брылём і У. Калеснікам) і «Блакадная кніга» (сумесна з Д. Граніным), раней глыбока разважаў А. Адамовіч. Так вылучаў ён у народнай памяці галоўнае — праўду, яе выключную прывязанасць да рэальных фактаў, падзей, тагачасных (перыяду вайны) перажыванняў і адчуванняў. Не акцэнтуючы на гэтым увагу, але ўсёй логікай разважанняў, іх фактычнай аргументацыяй народную памяць у найбольшай ступені звязваў з трагічным вопытам вайны. Чалавечая памяць трагічныя факты (асабліва балючыя і як бы асабістыя, не заўсёды выгадныя падзеі, здарэнні) бывае нават як бы неўсвядомлена імкнецца забыць або не асабліва згадваць. Яна больш імкнецца прыгадваць, выносіць «на людзі» ўсё станоўчае — праявы мужнасці, самаахвярнасці, адданасці Радзіме, ствараючы дзесьці як бы міф гэтага мінулага. Памяць народная (а гэта памяць многіх, бачанне, перажыванне многіх) якраз і не дазваляе канкрэтныя факты, жывыя чалавечыя дакументы, рэальныя, перажытыя чалавекам падзеі — усё, што складае такое балючае, такое супярэчлівае мінулае — заміфалагізаваць.

Народную памяць нясуць у сабе, увасабляюць не толькі творы дакументальныя, як гэта часам успрымалася, але і творы мастацкія. І чым больш твор таленавіты, чым больш праўдзівы і шчыры, тым глыбейшыя пласты памяці народа ён увасабляе. Першаступеннае значэнне тут мае асабістая «ваенная» памяць творцы. У тых, хто непасрэдна ўдзельнічаў у вайне, яна ўвабрала ў сябе памяць іншых, памяць многіх, кандэнсуючы яе, надаючы ёй жыццёвую непасрэднасць, эмацыянальную пранізлівасць, этычную пэўнасць. Памяць жа тых, чыё дзяцінства ўсё было ахоплена вайною, ужо з самага пачатку жыццёва, эмацыянальна была далучана да памяці народнай, была яе часцінкай. Больш за тое, была гэта не проста памяць людская, а і памяць роднай зямлі, роднага краю, роднага неба. Бо вайна закранула ўсё, яе адчувала ўсё навакол. Прычым адчуванне гэтае не было разавым, кароткачасовым. Яно гнятліва цягнулася месяцы, гады. Гнятлівае, з праявамі драматычнымі, успышкамі трагічнымі. І якраз памяць трагічная, памяць балючая найбольш даўгавечная, найбольш вызначальная, найбольш праўдзівая. Не толькі. У такім разуменні памяць народную можна разглядаць і некалькі шырэй, уключаючы ў гэтае паняцце і вышыню маральных крытэрыяў, і адчуванне гістарычнай перспектывы, і моцную ступень жыццесцвярджэння. У такім разуменні паняцце «народная памяць» унутрана зближаецца з паняццем «народная думка». Урэшце любая памяць нясе ў сабе, заключае маральную ацэнку мінулага. Ацэнку гістарычную, правераную часам, гісторыяй.

Пераканацца ў гэтым яшчэ раз можна было ў нядаўніх сёлетніх падзеях у Расіі, звязаных з 70-годдзем прарыву Ленінградскай блакады. Нельга было не парадавацца, які рашучы адпор быў дадзены асобным спробам з пазіцый быццам бы сучасных, абстрактна-ліберальных паглядзець на трагічныя падзеі мінулага, умяшацца ў памяць народную, гістарычную, замацаваную і ў літаратуры — славутая «Блакадная кніга» Алеся Адамовіча і Данііла Граніна. І што характэрна: асабліва рашуча, непрымірыма выступілі непасрэдныя носьбіты гэтай памяці, тыя, хто перажыў блакаду, ведае, што гэта такое.

Для нас уся гэтая гісторыя важная таксама. Бо нашая памяць вайны, народная памяць не менш балючая, не менш трагічная. Іншай яна не магла і не можа быць. 21 чэрвеня 2001 года ў газеце «Звязда» з'явілася нататка-інфармацыя, падпісаная членамі рабочай групы па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр вайны (гісторыкі, архівісты, музейныя работнікі). Дык вось там гаварыцца наступнае: «Людскія страты на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1944), заснаваныя на архіўных даных, складаюць 2 596 676 чалавек, у тым ліку загінуўшых ваеннаслужачых у баях — 332 596 чалавек, у лагерах ваеннапалонных — 810 091, партызан і падпольшчыкаў — 44 791, мірнага насельніцтва — 1 409 225 чалавек».

Лічбы жахлівыя, асабліва апошняя. За імі — жудасныя акупацыйныя дні і ночы, фашысцкія аблавы, спаленыя, вынішчаныя сёлы і вёскі.

Звернемся яшчэ да канкрэтных лічбаў. На клапане супервокладкі кнігі «Я з вогненнай вёскі...» змешчана страшная сваім зместам даведка:

«З агульнай колькасці 9200 беларускіх сёл і вёсак, разбураных і спаленых гітлераўцамі за гады Вялікай Айчыннай вайны, 4885 былі знішчаны карнікамі. Поўнасцю, з усімі жыхарамі было знішчана 627. У Брэсцкай вобласці — 111, у Гомельскай — 90, у Гродзенскай — 24, у Віцебскай — 222, у Мінскай — 92, у Магілёўскай — 108».

Гэта — беларускія Хатыні... Хатынь — вёска, якая 22 сакавіка 1943 г. фашысцкім карным батальёнам была спалена разам з жыхарамі (26 двароў). Загінула 149 чалавек, у тым ліку 75 дзяцей.

Такая пякельная рэальнасць Вялікай Айчыннай вайны... Сімвалічныя лічбы няскоранасці беларускай зямлі, бо скораных не знішчаюць... Памяць народа, яго несціханы боль...

Прайшло 70 гадоў з часу заканчэння Вялікай Айчыннай вайны. Але памяць тых страшных дзён жыве ў народзе. Як знак мужнасці і самаахвярнасці, як урок, як папярэджанне.

І якраз у захаванні гэтай народнай і чалавечай памяці выключная роля належыць мастацкай літаратуры. У першую чаргу, галоўным чынам творчасці тых, хто непасрэдна ўдзельнічаў у вайне, а таксама тых, хто ўбачыў яе спалоханымі дзіцячымі вачыма, непасрэдна адчуў яе разбуральны і вынішчальны змест. Тое, што было створана пісьменнікамі гэтых пакаленняў у 60—80 гг. не можа не ўражваць. І колькасцю, і якасцю. Напэўна ніводзін перыяд нашай гісторыі — і далёкай, і больш блізкай — не знайшоў такога багатага і такога якаснага ўвасаблення ў мастацкай літаратуры. Прайшлі дзесяцігоддзі пасля заканчэння вайны, прайшлі гады пасля з'яўлення гэтых твораў. Але і сёння памяць вайны — падзеі вайны, дух вайны — жыве ў гэтых творах. Па-сапраўднаму хвалюе, глыбока і праўдзіва паказвае. У дадзеным выпадку ўпэўнена можна гаварыць пра адэкватнасць літаратуры рэальнасці. Старэйшыя пакаленні гэта знаюць, маладзейшыя пазнаюць і вераць.

Сёння на літаратуру ваенную, на літаратуру, створаную ўдзельнікамі той вайны, а таксама тымі, хто рос, гадаваўся і сталеў у тых неверагодна драматычных, трагічных умовах, ёсць жыццёвая патрэба і вось з якога боку — з боку ўвасаблення ў ёй менавіта беларускага характару, беларускага свету. Свядома ці несвядома адбылося тое, але ў 60—80-я гады мінулага стагоддзя жыццё патрабавала, гісторыя патрабавала ўзнавіць не такое далёкае яшчэ мінулае, той час у мастацкім слове. То было адэкватнае ўвасабленне не толькі таго часу, тых падзей, але і беларускага свету, беларускага характару наогул. Бо ў тых абставінах, абставінах неверагодна складаных і драматычных, усё выяўлялася і запаміналася выключна ярка і выразна. І не забывалася, у тыя гады помнілася. І ўвасобілася. Найперш у раманах, аповесцях тых, хто перажыў тое ліхалецце ў дзіцячыя гады: Вячаслава Адамчыка, Віктара Казько, Анатоля Кудраўца, Івана Пташнікава, Барыса Сачанкі, Івана Чыгрынава...

Зварот гэтых пісьменнікаў да твораў эпічных на той час быў нікольki не выпадковы. Іх эпас — гэта эпас іх жыцця, жыцця, якім яны ўзгадаваны, якое назаўсёды засталося ў іх памяці, у іх сэрцы, іх крыві. Лад і парадак таго жыцця, унутраны змест яго выпрабаваны ў найцяжэйшыя гады вайны. То быў свет для кожнага з аўтараў гэтых (ды і для ўсяго пакалення гэтага) па духу, па мове, па гарманічнасці і ўзаемаўзгодненасці родны, беларускі. Творцы гэтага пакалення былі, можа, апошнімі сведкамі эпічнага натуральнага жыцця беларускай вёскі, для іх асабіста сваёй, роднай. Вёскі, дзе чалавек заўсёды жыў сярод сваіх людзей, з людзьмі, дзе чалавек і навакольны свет былі адзіныя непадзельныя, дзе чалавек, стоячы на зямлі, адчуваў дыханне вечнасці, а ўзіраючыся ў бяскрайнія высі нябёсаў, думаў пра неабсяжнасць сусвету і жыцця, інтуітыўна адчуваў, пачынаў пазней і ўсведамляць сваё месца ў сусвеце, у жыцці. Якраз такую вёску, такога вяскоўца добра ведалі пісьменнікі, чыё дзяцінства было захоплена вайною, акупацыяй, блакадамі. У гэтых умовах само жыццё вёскі, сама вёска выяўлялі асабліва выразна свае вызначальныя якасці, сваю сутнасць, свой духоўны і эмацыянальны змест. А будучыя пісьменнікі, творцы, асабліва непасрэдна, востра ўсім розумам, усім сэрцам — асабліва — успрымалі гэта. Успрымалі балюча, пакутліва. Яны ў сваёй сутнасці, у сваёй прыродзе былі тымі самымі вяскоўцамі. Але з абвостранай эмацыянальнай успрымальнасцю, з адкрытым дзіцячым сэрцам. Для іх — у іх памяці, уяўленні — вёска і вайна, дзве гэтыя стыхіі, зліліся ў адно. І калі ў апошняй трэці XX стагоддзя стала досыць заўважна, як старая традыцыйная вёска як бы знікае, губляе сваё этнічнае і культурна-гістарычнае аблічча, яны не маглі не паказаць тую вёску, у якой раслі, гадаваліся, радаваліся і пакутавалі, сваю вёску. Расказваючы пра жыццё вёскі ў часы найсуровейшых выпрабаванняў, паказваючы вёску ўсебакова ў лірычна-эпічным эмацыянальным ключы, ва ўсім багацці яе ўнутраных і знешніх праяўленняў, гэтым пісьменнікам, па сутнасці, удалося стварыць яе нацыянальны вобраз, вобраз адэкватны нацыянальнаму жыццю.

Пра ўнутраныя пабуджальныя матывы звароту пісьменнікаў «дзяцей вайны» да шырокага эпічнага паказу вёскі гадоў ліхалецця добра ў свой час (1978 г.) у гутарцы з Н. Цыпісам гаварыў Іван Чыгрынаў. На пытанне, што прывяло яго да раманаў, ён адказаў: «Што прывяло? Можа, пачуццё вінаватасці перад тым месцам на зямлі, дзе нарадзіўся, перад спаленым і разбураным маім Вялікім Борам; перад людзьмі, якіх я ведаў у дзяцінстве, перад маці, братамі і сёстрамі, перад аднавяскоўцамі; перад тымі, хто пайшоў у страшныя гады вайны і не вярнуўся... Іншы раз уначы прыгадваю на памяць хаты роднай вёскі: тут гаспадар памёр, тут — забіты на вайне, тут — расстраляны ў час вайны... Няма хаты, дзе б ні страчана было ў вайну два-тры чалавекі... А некаторыя сваяцкія роды ўжо спынілі сваё існаванне... Вёска, як шчарбаты грэбэнь... Вёска старых, вёска без песень... І ў той жа час — вёска трактароў, пяціпавярховых дамоў... Але ж гэта для розуму ўжо новая. Не тая вёска. А тая, якую я ведаў некалі, тая для сэрца і пачуцця. І не адыходзіць яна. І няхай застаецца ў кнігах».

Яна засталася, выдатна ўвасобленая ў творах Івана Чыгрынава. Найперш у цыкле раманаў, над якім працаваў ён больш за дваццаць гадоў: «Плач перапёлкі» (1972), «Апраўданне крыві» (1977), «Свае і чужынцы» (1984), «Вяртанне да віны» (1992), «Не ўсе мы згінем» (1996).

Эпічнай шырынёй, цэласнасцю ўспрымання навакольнага свету, глыбокім адчуваннем драматызму, яго руйнавання вылучаюцца раманы гэтай пенталогіі. Чыгрынаў у стварэнні раманаў ішоў ад асабістага ведання, пазнання жыцця, ад вопыту, набытага ім шмат у чым яшчэ на ўзроўні эмацыянальным. Ягоны свет часова абмяжоўваецца падзеямі вайны. Але і ў гэтых часавых межах і мірнае жыццё, мірны свет вёскі паказаны даволі параканаўча: жыццё ішло як бы па інерцыі ў сваіх знешніх адвечных праявах, але наскрозь было насычана драматызмам вайны. Лёс людзей арганічны ў гэтым драматычным свеце, эмацыянальна, духоўна суладны з ім.

Для Чыгрынава самым важным было паказаць вёску, рытм яе жыцця, эмацыянальны лад яе, духоўны свет яе, набыты стагоддзямі, у ненатуральных для яе, чужых ёй умовах вайны, акупацыі, даследаваць, як дэфармуецца традыцыйны свет вёскі ў сутыкненні, у трагічным супрацьстаянні з разбуральным светам вайны. Гэта ён зрабіў, зрабіў выдатна.

Вёсцы і вайне прысвечана і тэтралогія Вячаслава Адамчыка: раманы «Чужая бацькаўшчына» (1977), «Год нулявы» (1982), «І скажа той, хто нарадзіцца» (1985), «Голас крыві брата твайго» (1990). Але вёсцы і вайне сваёй, якія жылі ў ім, вярэдзілі душу і натхнялі, патрабавалі мастацкага ўвасаблення. Ён неаднойчы заяўляў, што піша «пра тое, што наймілейшае» яму. Для яго момант самы істотны. «Пісаць і пісацьму сваё жыта, сваю дарогу ў полі, маладую бярэзіну пры хаце, ціш, вечар і сваю маці з дзяружкаю зелля за плячыма». Сапраўды, пісаў Адамчык увесь час толькі пра сваё, пражытае і перажытае, тое, што засталося ў ім, стала ягоным асабістым — у падзеях, асобах, малюнках, колерах. З цягам часу асабістае ўсё больш набывала буйныя маштабы, узбуйнялася гістарычна.

У аўтабіяграфіі, пазначанай 1967 годам, па сутнасці, пачаткам творчасці, ёсць такое прызнанне: «Каб я быў мастаком і меў шчыра-балючы талент Ван Гога, я нашу вёску, зямлю і людзей маляваў бы не ў сіні, а ў шэра-жоўты колер — колер прывялага лета, спелага жыта і нашае нішчымна-пясчанае зямлі. У нас не ткалі, як у Галандыі, сіняе сукно і не насілі на тварах цёмна-сіні пыл ад вугальных капальняў. У нас ткалі і да сённяшняга дня ткуць шарачок. А вяртаючыся з ворыва ці малацьбы, мае вяскоўцы прыносілі ў хату, нават на кончыку носа, шэры пыл.

У нас усё шэрае: хаты, неба (бо край дажджлівы) і нават вечары — шарая гадзіна».

Якраз у такіх танах напісана тэтралогія. Ужо ў першым рамане было гэта заўважана. І няма тут выпадковасці. У раманах Адамчык піша не пра якіясьці асобныя падзеі, гісторыі. Піша пра жыццё роднага краю, родных мясцін. А колер тагачаснага жыцця ў пісьменнікавай памяці застаўся такім — шэрым. І гэта не толькі колер прыроды роднага заходнебеларускага краю, тагачаснага побыту. У раманах В. Адамчыка агульны колер узноўленага жыцця, эмацыянальны тон апавядання маюць глыбокую сацыяльную абумоўленасць. Тое жыццё роднага краю, у тыя часы, напэўна, найбольш праўдзіва можна было паказаць у такіх колерах і фарбах. Увогуле, як вельмі слушна піша В. Каваленка, літаратуразнавец і крытык, «глыбіня мастацка-аналітычнай культуры дазволіла аўтару дасягнуць такой тонкай эмацыянальна-псіхалагічнай і сацыяльнай праніклівасці ў становішча чалавека, якая стварыла магчымасць абагульнення самога тыпу беларускай свядомасці на пэўным этапе гістарычнага існавання народа. Праз каларытныя рысы мясцовага побыту выразна праступае сэнсавая значнасць усёй беларускасці, узнікае вобраз краю агульнанацыянальнай пэўнасці і акрэсленасці».

Той эпічны вобраз свету, «вобраз агульнанацыянальнай пэўненасці, акрэсленасці», які чытач убачыў і адчуў ужо ў першым рамане тэтралогіі, пад канец (у апошнім творы) прадстае драматычна паруйнаваны, з вялікімі стратамі, з перспектывай разбурэння яго цэласнасці і адвечнай эпічнасці.

У дзённіку В. Адамчыка за 1999 г. 26 снежня запіс:

«Адгарнулася старонка з лічбаю 1943. У дзённіку Прышвіна. Якая яна неаднакавая для мяне і для таго ж Прышвіна. Мне — дзесяць. Прышвіну — семдзесят. Над маёю галавою — вайна. У яго — падмаскоўнае глухое Усолле. Навіны па чутках, бо радыёпрыёмнікі адабраныя.

Перада мною кожны дзень смерць. Кожную ноч пажары, узрывы. У трунах — падлеткі, на тры-чатыры гады старэйшыя за мяне.

Для яго, як запісвае ў дзённіку, мысль сапраўдная прыходзіць у маўчанні і цішыні.

У Маскве з вышыні шостага паверха ён назірае, як каля комінаў маршыруюць коцікі.

Але добра, што ёсць прышвінскі дзённік, што вярнуў мне маю вайну».

Дзённікавыя запісы гэтага часу дазваляюць засведчыць канкрэтна, што такое вайна для аднаго з самых яркіх прадстаўнікоў літаратурнага пакалення дзяцей вайны, у якой ступені гэтая вайна для іх у фактах (з адценнем мясцовай спецыфікі), канкрэтных прыкметах, колерах, гуках, у якой ступені тая вайна для пакалення стала галоўнай тэмай іх творчасці, сфармавала іх свядомасць, стала яе духоўным фундаментам. Зноў жа ў памяці пакалення захавалася менш за ўсё адзінкавымі фактамі, падзеямі. То былі ўмовы, абставіны, у якіх яны жылі, сталелі, то быў свет іх жыцця, які ўвайшоў у іх, стаў іхнім назаўсёды. Свет жыцця беларускага.

Вайна ў творчасці Івана Пташнікава — гэта страшнае парушэнне свету, у якім жывуць яго героі, руйнаванне звыклага побыту, сямейных, побытовых узаемаадносін, прыроды нарэшце. Трагедыю вайны, кроў, раны і пакуты яе адчуваюць, здаецца, і зямля, і неба, і сонца, і месяц. Асабліва бачна гэта ў аповесці «Тартак», творы выключна моцнага трагічнага гучання. Сонца ўвесь час у тулягах, трывожна-чырвонае, людзі бачаць зарывы пажараў, адчуваюць смурод гарэлага, які проста заглушае багатыя, жывыя пахі лесу — ён у чалавечай свядомасці, у псіхіцы яго. Пісьменнік, магчыма, свядома зрабіў героямі твора тых, хто адкрыта, непасрэдна не змагаўся і не мог змагацца з ворагам. Наста — жанчына-маці, Таня і Алёша — дзеці, Янук — глухі, Панок — хворы. Тут важна было паказаць трагізм вайны ў яго ўсеагульным змесце, у яго самым неаспрэчным выяўленні. Усе героі аповесці на сваім шляху пастаянна вяртаюцца ў думках да свайго колішняга мірнага жыцця, згадваючы ўсё да драбніц, нібы нанова перажываючы. У гэтых думках-успамінах усё натуральна, па-мастацку падпарадкавана выяўленню і свярджэнню варожасці фашызму жыццю, чалавечаму існаванню — у якім бы абліччы не выступаў ён.

Ва ўспамінах кожны герой твора нібы пераносіцца ў тое мінулае, якім ён жыў. І жыццё ў гэтых успамінах-марах адпаведнае яго чалавечай і грамадскай сутнасці. І гэтыя ўспаміны нагадваюць, што ёсць іншае жыццё. Гэта жыццё вёскі — мірнай. Увогуле, напэўна, можна сцвярджаць, што галоўная тэма ўсёй творчасці Пташнікава — гэта тэма вёскі. Вайна ў яго творах — гэта тое ж жыццё вёскі ў незвычайных, экстрэмальных умовах.

І сам пісьменнік, і яго героі неяк вельмі блізка, сардэчна адчуваюць повязь з навакольным светам, прыродай, зямлёю — вёскай. Пташнікаў пры ўзнаўленні-адлюстраванні рэчаіснасці імкнецца да максімальнай паўнаты і ўсебаковасці, багацейшай насычанасці падрабязнасцямі — бытавымі, пейзажнымі, псіхалагічнымі. Іх ён добра ведае, яны ў ім. Падзеі практычна ўсіх твораў пісьменніка адбываюцца на яго малой радзіме: у родным кутку — увесь свет. Пішучы пра жыццё народнае, пісьменнік найлепш ведае тых людзей, з кім разам жыў, рос, выхоўваўся, хто народжаны той самаю зямлёю, што і ён, хто дыхаў і дыхае тым самым паветрам — людзей менавіта роднага кутка зямлі. Іх ён адчувае знутры… У чамусьці самым істотным, вызначальным яны — гэта ён, а ён — яны.

Пакаленне, да якога адносіцца Пташнікаў, станавілася на ногі, расло, набіралася сілы, рабіла першыя крокі ў вялікі свет жыцця, пазнавала гэты свет, сустракала першыя нягоды і расчараванні не ў нармальных умовах звычайнага чалавечага жыцця, а ў абставінах ваеннага, партызанска-блакаднага руйнавання і вынішчэння, таксама пасляваеннага боса-галоднага ціску. У такіх абставінах скарачаліся і прыглушаліся і без таго рэдкія хвіліны простай чалавечай радасці, менш станавілася светлых сонечных дзён. Разам з тым загартоўваўся характар, выхоўвалася працавітасць, упартасць, усталёўваліся адказныя адносіны да жыцця.

З іншага боку, у тых умовах у тых абставінах не магло развівацца, угрунтоўвацца так уласцівае дзіцячаму ўзросту пачуццё эгаізму, самалюбства і сябелюбства. Балелі свае болькі, але бачыліся раны і пакуты іншых. Свае слёзы высыхалі, чуючы плач і галашэнне суседзяў і аднавяскоўцаў. Гора асабістае растварылася

ў горы народным. Бяда агульная і гора народа бачыліся і чуліся, свае асабістыя адчуваліся, балелі.

У творчасці Івана Пташнікава выявілася гэта па-свойму адметна. Найперш у творах пра вайну. Свет, які творыць-узнаўляе пісьменнік, неадлучны ад свету рэальнага, па сутнасці, адэкватны яму. Таму горам, болем, пакутамі, няшчасцем напоўнена не толькі жыццё народа, асобнага чалавека, але і ўсё навакольнае жыццё, найперш прыроды. Ва ўсёй яго творчасці, па сутнасці, у кожным творы, карціны прыроды, малюнкі, яркія, выразныя, эмацыянальна насычаныя, адыгрываюць асабліва значную, у многіх адносінах вырашальную ролю. І тут няма выпадковасці. Такое жыццё.

У тым рэальным свеце, у якім рос і выхоўваўся пісьменнік, прырода была для чалавека ўсім — домам, паветрам, паэзіяй, увасабленнем, носьбітам таямнічасці і прыгажосці, бясконцасці і велічы свету і жыцця. Прырода ў яго творах вельмі неабходная, проста неад’емная часціна людскога існавання. Тыя рэальныя гісторыі, падзеі, пра якія апавядае аўтар, тыя чалавечыя характары, якія ён стварае і якія праходзяць перад нашымі вачыма, нельга ўявіць без дрымучых лясоў, без то пыльных, то балоцістых лясных дарог, без неба, найчасцей у пагрозлівых хмарах-тулягах, без насычанага смаловым хвойным пахам і дымам ляснога паветра. Героі Пташнікава жывуць у гэтай прыродзе, ёю народжаны і створаны, яны яе вышэйшая ў развіцці і дасканаласці часцінка. Сама ж прырода жыве ў кожным з іх, набываючы як бы індывідуальна-непаўторнае выяўленне, напаўняючыся чалавечым духам.

Прырода вечная. Яна ў няспынным абнаўленні. І якраз у прыродзе, у арганічным зліцці з ёю для герояў Пташнікава тоіцца невычэрпная крыніца жыццёвай сілы і трываласці. Прырода ва ўсім багацці яе праяўленняў з’яўляецца той адзінай асновай, на якой фізічна вырастаюць, фарміруюцца чалавек і народ, у якой знаходзяцца самыя магутныя і невычэрпныя жыццёвыя крыніцы. У прыродзе засяроджана мінулае, у ёй тояцца крыніцы будучага.

Махорка, адзін з герояў аповесці «Тартак», знаходзячыся каля лесапілкі, думае пра гатар, як той механічна, жорстка распраўляецца з лесам, у той жа час бачыць, як малады лес хавае здратаваную зямлю. Узнікаюць, плывуць думкі. «Праз некалькі гадоў ад тартака застанецца толькі званне; гэта месца — і лог у самы кут ад ракі, і буй, і лес за мостам на гары — будуць зваць адно Тартаком, як завуць ужо і цяпер. Толькі доўга будзе яшчэ ляжаць ля дарогі вялікае белае каменне, пакуль не патрэскаецца, не абрасце мохам, не пачарнее і не ўедзе ў зямлю — навек. На ім зноў тады вырасце лес — падыдзе да самай дарогі, як і даўней».

Вось гэтая злучанасць герояў Пташнікава з навакольным светам, з прыродай, нейкае падсвядомае жаданне глянуць у свет далей — як у вечнасць, надае творам выключна трагічнага зместу глыбокае аптымістычнае гучанне, героям — веру ў жыццё. Свет жа прыроды бясконцы.

Так Жаваранка, героя аповесці «Найдорф», у час рэдкага ўнутранага спакою свабодна, без якога б там ні было «інтэлектуальнага» намагання, суадносіць сваё жыццё, сваё рэальнае становішча з бясконцасцю сусвету. «Глядзеў — і яму здавалася, што ён ляжыць у акопе вечна, не было ні жыцця ў вёсцы да вайны, ні араў, ні сеяў, ні рваў карчы на пасецы; здавалася, ён вырас у акопе з зямлі, як расце грыб, і яму суджана пакласці галаву тут, у гэтую зямлю…» Бачыць, як высока-высока ў небе хвалі нагрэтага паветра носяць бацяноў, канюхоў, нават ластавак. Узнікае сама сабою думка-адчуванне: «Куды ж вынесе паток на зямлі яго, Жаваранку?» Жыццё, прага жыцця, вера ў жыццё перамагаюць.

Адчуванне бясконцасці свету, адчуванне-ўспрыманне вялікіх прастораў жыцця, якім надзелены героі твораў пісьменніка, зразумела ж, абавязаны найперш таленту іх творцы, яго мастацкаму ўспрыманню свету.

Вось непасрэдныя малюнкі-ўспаміны аўтара ў «Ненапісанай аповесці», творы найбольш аўтабіяграфічным: «Некалі, зморань ад доўгай хады — баляць ногі, плечы і рукі, — ляжаш у траву, на дзяцельніку з белымі і чырвонымі галоўкамі пад гэтыя прысады, слухаеш, як яны шумяць, а яны шумяць вечна, і ў шуме іх заўсёды вечнасць, — і глядзіш, — у неба. Неба чыстае-чыстае, на ім далёкія белыя дарожкі ад самалётаў, ніжэй іх ціхія бацяны — плывуць за самалётамі, не кратаючы крыллем, а на зямлі пчолы — звіняць і звіняць у дзяцельніцы над маім вухам».

У такім успрыманні-разуменні свету сучаснасць заўсёды суадносіцца з мінулым ці то як яго працяг, ці то як адмаўленне па кантрасце сучаснасці, змякчэнне яе драматычнага ціску. Навакольны свет, прырода сілкавалі чалавека, прымушалі жыць, працаваць, не скарацца, змагацца. Пташнікаў выдатна паказаў гэта. У яго чалавек і навакольны свет адэкватныя адно аднаму. Уражанне такое, што на гэтай зямлі, у такім свеце прыроды жыве і можа жыць толькі такі чалавек — працавіты, добразычлівы, памяркоўны, чулы, стрыманы, няпомслівы. У жыцці мірным, ва ўмовах звычайных усё гэта быццам і незаўважаецца, у вайну ж выявілася адчувальна, акрэслілася выразна. Адсюль разгорнутыя апісанні прыроды, працы, побыту, сямейных узаемаадносін, багацейшая насычанасць твораў падрабязнасцямі. Якраз падрабязнасці ў гэтых умовах (вайны, акупацыі) набываюць асаблівы сэнс, вылучаюцца асабліва ярка.

І што характэрна: у гэтым свеце, трагічным беларускім свеце вайны, створаным у нацыянальнай літаратуры тымі, хто перажыў яе шчырым дзіцячым сэрцам, пабачыў чыстымі вачыма, выключна важнае месца займае жанчына. Зямля — вайна — жанчына. На той зямлі, якую нявечыла, руйнавала, выпальвала вайна, жанчына была святлом, цяплом, уваскрашэннем.

Выдатны рускі філосаф М. Бярдзяеў, для якога тэма вайны была ва ўсе часы творчасці яго актуальнай, у працы «Хрысціянскае сумленне і дыялектыка вайны» пісаў: «Вайна ёсць зло і грэх не ў адносінах да чалавецтва і чалавечага грамадства, а найперш за ўсё ў адносінах да чалавека». І як з'ява, у якой у найбольшай ступені «дзейнічаюць ірацыянальныя і фатальныя сілы» (Бярдзяеў) і якая, можа, у найбольшай ступені дзейнічае на чалавека, вайна асабліва ўплывае на свет эмоцый, свет падсвядомасці чалавечай. А гэта — свет пераважны жаночы і дзіцячы. У гэтым свеце падзеі вайны, асобныя карціны, сітуацыі адбіваюцца назаўсёды ў сваёй вобразна-эмацыянальнай выразнасці, у сваім пачатковым пякуча-трагічным змесце. Часта змест гэты вызначае ўвесь далейшы чалавечы лёс. І вось вайна такая, у яе знішчальным змесце, у яе бездапаможна-гнятлівай сутнасці ў часы акупацыі адбывалася пастаянна, штодзённа. І трагізм яе, бессэнсоўнасць, апакаліптычнасць яе найбольш непасрэдна, востра, балюча ўспрымалі якраз жанчыны і дзеці.

Прайшлі гады. Дзеці самі сталі бацькамі. Успомнілі, уявілі тое, што перажылі іх мацеры, выцерпелі. Зжахнуліся. Той, хто пісаў, не мог не расказаць пра ўсё гэта. Расказы гэтыя моцнага трагічнага гучання. Бо ўсё, пра што яны расказваюць з жыцця сваіх маці, не проста пабачана, усё гэта перажыта імі, усё гэта — іхняе. Іх боль, іх горыч, іх неўразуменне.

У апавяданні «Холад на пачатку вясны» Анатоля Кудраўца, пісьменніка, у творчасці якога вайна займае не самае галоўнае месца, ёсць сцэна выключнага трагічнага напаўнення. Убачана яна вачыма хлопчыка, аднагодка пісьменніка. Убачана выразна, на ўсё жыццё запамінальна.

У вёску прывозяць забітых пасля адной аперацыі. Палажылі іх у хаце на падлозе голай. Ляжалі тварамі ўгору. Ніякай зброі нідзе не відаць. Усё быццам звычайна. І раптам трагічны эмацыянальны ўзрыў: у хату ўбегла маці аднаго забітага — Карачуніха.

«Дзе ён, дзе мой сыночак? — ціха, шэптам спыталася Карачуніха. Здавалася, яна нічога не бачыла, блукала шырока раскрытымі вачыма па тварах хлопцаў,

пыталася ў іх. Раптам яна апусціла вочы ўніз — убачыла тых, хто на падлозе, і, як пераламалася, грымнула на калені і так, на каленях, дробненька перабіраючы, папаўзла ад парога. Дапаўзла да Віціка, прыўзняла за галаву.

— Сынок, што з табой, дзе баліць? — Паклала галаву назад, абмацала ўсё цела — рукі, грудзі, ногі. — Сынок, што баліць? Скажы мне!.. — Зноў прыўзняла галаву, правяла рукой па твары, згарнула валасы з ілба, зліплыя, скарэлыя, і цяпер убачыла на скроні маленькую ранку, што была прыкрыта валасамі. — Тут, тут баліць? — і прыпала да сына, загаласіла, як зарагатала — сухім, надрыўным рогатам». Потым, праз якуюсь хвіліну, «раптам выпрасталася, уважліва паглядзела на спакойныя твары другіх партызан, быццам упершыню ўбачыла іх, пачала перапаўзаць ад аднаго да другога, праводзіла рукой па тварах, папраўляла валасы.

— Дык як гэта так, сыночкі? Дык за што гэта вас? Такіх маладых! Такіх прыгожых? — і зноў сарвалася, заматала галавой, загаласіла».

Тут дакладнасць апісання, псіхалагічная вытрыманасць; ніводнага лішняга слова, непатрэбнага руху. Такое не прыдумаеш, гэта трэба ўбачыць на ўласныя вочы, адчуць, увабраць безабаронным, адкрытым дзіцячым сэрцам навечна. І хлопчыка не радуе партызанская перамога, не радуе тое, што немцаў і паліцаяў «як дроў палажылі». Яму шкада партызан, бо яны «нашы», а найбольш ён аглушаны, прыбіты невымерным болем маці, вечным жаночым болем. Гэта самы вялікі боль кожнай вайны. Яго і перамогі мала суцяшаюць.

Я не магу сказаць, ці ёсць яшчэ якая літаратура, дзе б трагізм вайны так быў выяўлены праз лёс жанчыны і дзіцяці. Акупацыя, партызанская барацьба, блакады, карныя аперацыі — то была трагічнасць не падзейная, не часовая, а трагічнасць штодзённага шматгадовага душэўнага і псіхічнага стану чалавека.

І пісьменнікі пакалення дзяцей вайны кожны па-свойму ўвасобілі гэты ўнутраны стан чалавека, жанчыны ва ўмовах вайны. Яны якраз першыя пачалі паказваць і спрабаваць асэнсоўваць гісторыі, сітуацыі псіхалагічна складаныя, маральна неадназначныя, супярэчлівыя. Сітуацыі і падзеі для тых часоў зусім рэальныя, але ацэнка якіх патрабавала часу, пэўнай гістарычнай дыстанцыі. Яны ўжо эмацыянальна, духоўна ацэньваліся (ды і ўзнаўляліся) не проста як з'явы пэўнага часу, а ў гістарычным кантэксце жыцця народа.

Вось апавяданне Вячаслава Адамчыка «Пагарэльцы».

У пачатку твора малюнак асенняй прыроды. Тут жа і апісанне жанчыны. Усё падаецца ў познеасенніх фарбах, у сумна-журботным тоне. У самой знешнасці жанчыны, у яе рухах, вопратцы адчуваецца, відаць, штосьці пастаяннае, сталае і мо нават спрадвечнае, як і ў прыродзе навакольнай. І вось пры гэтай, у гэтай прыроднай і чалавечай натуральнасці і пастаяннасці рэзка драматычна, унутрана дысанансна пачынае гучаць уся гісторыя.

Пачынаецца ўсё з падзеі самай блізкай па часе. Паступова яна (праз успаміны, згадкі) як бы аддаляецца ў часе, набывае ўсё большую змястоўнасць і паглыбляе драматызм. Потым зноў усё вяртаецца ў сучаснасць.

Ступіўшы на парог, старая заўважае ля суседняга плота воз з акалотам (гэта пагарэльцы) і каня дваякай масці. Здрыганулася. Замітусілася. То быў конь чалавека з недалёкай вёскі. Той у часы акупацыі служыў у паліцыі і зусім не выпадкова забіў яе меншага сына. Усё ўсплыло ў памяці — боль, роспач, жах. («Божа літасцівы! Як у яе тады не разарвалася сэрца: схапіла яго на рукі, а ён ужо быў халодненькі — на шашы цёмнаю лужынаю стыла кроў, — і панесла дадому, цалуючы ў зжоўклы скамянелы тварык»). Ахапіў страх: хоць бы не зайшоў той у хату. Але той зайшоў (то быў бацька былога паліцая). Папрасіў саломы, хоць снапок. Жанчына міжволі ўспомніла, як сама вось так прасіла салому адразу пасля вайны: нічога не кажучы, пайшла ў гумно. Аддала апошнія два кулі саломы. Дзейнічала нібы інстынктыўна: у народзе

пагарэльцам не адмаўляюць. Мужчына пайшоў. Старая засталася адна са сваім непераходным болем.

За некалькі хвілін прырода змянілася, восень перайшла ў зіму. Раптоўны пераход гэты адпавядае падзеям, іх драматызму, унутранаму стану жанчыны, агромністасці і нечаканасці тых перажыванняў, што абрынуліся на яе збалелую душу і нямоглае старое цела.

Апавяданне такога ідэйнага зместу і характару яго мастацкага ўвасаблення магло быць напісана толькі праз дзесяцігоддзі пасля вайны. Час ускладніў сітуацыі, час ускладніў і памножыў матывы чалавечых паводзін і ўчынкаў, час, урэшце, удасканаліў характар і павысіў агульны ўзровень мастацкага спасціжэння той незабыўнай пары. Паглыбілася разуменне мінулага, у падзеях тагачасных выразна выявіўся сэнс агульназначны, падкрэслілася блізкае і зразумелае сучаснасці — часу напісання твора.

Раны, нанесеныя вайною краіне, народу, грамадству, загойваюцца доўгія дзесяцігоддзі. Ды і то да канца ніколі не знікаюць. Раны на целе і ў душы асобнага чалавека супакойваюцца толькі з адыходам чалавека ў іншы свет. Ды і тое не заўсёды: застаюцца ў спадчыну дзецям, унукам. Асабліва раны душэўныя. А яны якраз і абрынаюцца на чалавека з усіх бакоў і з неймавернай сілай у часы ліхалецця. Ва ўмовах варожага нашэсця, акупацыі пэўнасць, прынцыповасць, адназначнасць, а тым больш адналінейнасць чалавечых паводзін і ўчынкаў ускладняліся, а ў значнай ступені і выключаліся заблытанасцю, нявызначанасцю абставін, іх зменлівасцю і пераменлівасцю: беды, цяжкасці, душэўныя і фізічныя траўмы, здаецца, чакаюць чалавека на кожным кроку, у любую хвіліну. Асабліва эмацыянальна, душэўна ўспрымала жанчына, бачылі дзіцячыя вочы. Нешта з таго болю, тых няшчасцяў, згрызот, што абрынуліся ў тыя гады, дні і гадзіны на душу і цела асобнага чалавека, з цягам часу сціралася ў памяці, забывалася, нешта свядома ва ўспамінах пераносілася надалей. Але прыходзілі новыя часы, змяняўся грамадскі клімат, грамадства станавілася больш адкрытым, чалавек больш свабодным у самавыяўленні — мінулае ажывала, турбавала сумленне, патрабавала раскрыцця і асэнсавання.

Так у «Пагарэльцах» В. Адамчыка. Так у апавяданні І. Чыгрынава «У ціхім тумане», напісаным крыху раней (1963). Першапачатковая назва была «Маці». Чыгрынаву выдатна ўдалося перадаць жыццёвы драматызм гісторыі, захаваўшы гуманістычнасць яе зместу.

У вёску перад захадам сонца прыйшла жанчына-старая Рэйдзіха. Яе яшчэ за вёскай заўважыла другая жанчына — Тараськава Ганна. Яны пазналі адна адну. Не абрадаваліся. Ганна адчула прыкрасць, здзівілася. Рэйдзіха заплакала. «Згорбленая, маленькая Рэйдзіха стаяла перад Ганнаю босая — ногі былі парэпаныя, з пакручанымі пальцамі, як у вялікай птушкі, скінутай аднекуль з гнязда: яна цяпер чаплялася сваімі кіпцюрамі, каб перастаць нарэшце падаць, неяк затрымацца хоць тут, на зямлі». Адчуваецца драматызм, напружанасць. Злосці, непрыязі не відаць, хоць падставы былі. Паступова ўсё высвятляецца.

Калісьці Рэйдзіха жыла ў гэтай вёсцы. У часы калектывізацыі Рэйду арыштавалі. Маці з сынам пакінулі вёску. З таго часу яна цэлых трыццаць гадоў не з’яўлялася ў вёсцы. У часы акупацыі сын служыў у немцаў: удзельнічаў у карных аперацыях, паліў вёскі, сам падпаліў Тараськаву хату. Тады «на папялішчы… пагарэльцы праклінalі на чым свет стаіць і немцаў, і здрадніка, і маці, якая нарадзіла яго». Сына яе, Якава Рэйду, партызаны злавілі, прывезлі ў вёску і дзесьці на краі балота застрэлілі. Дык вось старая Рэйдзіха і прыйшла, каб знайсці магілу сына. Магілу паказаў ёй хлопчык суседзяў Ганны.

Апошні малюнак поўны болю, трагізму, глыбокага чалавечага сэнсу. Для маці — ён сын яе. Рэйдзіха «павалілася, бы падкошаная, на дзірван, прыпала да яго сваімі высахлымі грудзьмі. Яна не плакала. Затое часта і трывожна

цяпер білася ў грудзях, гатовае вылецець назусім, яе кволае, старэчае сэрца. Удары яго, напэўна, чуваць былі праз тоўсты, паточаны чарвямі дзірван. Рэйдзіха штосьці шаптала, варушачы сухімі вуснамі. Рукі яе, жоўтыя і слабыя, сутаргава і бездапаможна коўзаліся па мокрай, яшчэ не высушанай ад расы траве, быццам намагаліся награбці на гэтым роўным шматгадовым дзірване магільны курганок».

Можна толькі здзіўляцца мастацкай сіле, эмацыянальнай праўдзівасці, глыбокай змястоўнасці, апісання. Не пабачыўшы асабіста, не перажыўшы, не ўвайшоўшы ўсёй істотай у памяць народную, такое не напішаш. Так, пісьменнік сам асабіста перанёс, увабраў у сябе і ўсё жыццё нёс у сабе вайну. Добра пра гэта сказала ў інтэрв’ю газеце «Звязда» яго жонка Л. Чыгрынава: «Вайна прайшла праз усё жыццё Івана Чыгрынава. Вайна зрабіла яго пісьменнікам, яна ж яго і забіла».

Словы гэтыя не толькі пра аднаго Івана Чыгрынава. Ці не такі ж лёс і ўсяго пакалення дзяцей вайны. Вайна стала для кожнага ўнутраным духоўным і душэўным набыткам, вызначыла сутнасць аўтарскай канцэпцыі свету і чалавека, змест эстэтычнай пазіцыі, угрунтавала трагічнае адчуванне свету і чалавека ў ім. Не кажучы ўжо пра шырыню і багацце, разнастайнасць і складанасць, сацыяльную і чалавечую глыбіню аб’ектыўнага жыццёвага матэрыялу, яго творчую невычарпальнасць.

Вайна — гэта жыццёвы, духоўны вопыт і асобнага чалавека, і грамадства, хутчэй народа. Ён застаўся, стаў сутнасцю чалавека ў межах сацыяльнай і духоўнай рэальнасці. Ён паглыбіўся, узбагаціўся, паглыбіўшы саму рэальнасць. Добра відаць гэта ў вышэй названых апавяданнях В. Адамчыка і І. Чыгрынава. Па-першае, у іх пісьменнікі, зыходзячы з уласна імі пабачанага, перажытага, паказваюць, якое мноства складанейшых, неадназначных падзей, сітуацый давялося перажыць чалавеку. Прычым усё гэта не адышло разам з вайною ў нябыт. Засталося на доўгія гады ў жыцці чалавека. А не толькі ў памяці. Па-другое, іх сапраўдная глыбінная ацэнка рэальная толькі з пазіцыі крэтэрыяў адвечных маральных, а не толькі з сацыяльных свайго часу. Менавіта так пісьменнікі таго пакалення бачылі і паказалі драматычныя падзеі мінулай вайны. Праз лёс, паводзіны, учынкі жанчыны, маці.

У свой час на адной сустрэчы са студэнтамі вядомы рускі пісьменнік Фёдар Абрамаў гаварыў вось пра што: «Другі фронт… адкрылі не амерыканцы, а рускія бабы, якія мужна пераносілі цяжар вайны. Трэба было напісаць пра пакутлівы подзвіг рускай бабы. Яна працавала за мужыкоў. Яна галадала, гадавала дзяцей, у якіх вайна забрала бацькоў». У іншым месцы зноў жа сцвярджаў: «Вёска-маці наша, гэта ніва, на якой ускаласілася руская культура. Перакананы: на прыкладзе жыцця вясковай бабы, якая не выходзіла за ваколіцу, можна даць не толькі гісторыю ўсёй краіны, але гісторыю чалавецтва…»

Яшчэ ў большай ступені словы гэтыя стасуюцца да жанчыны («бабы») беларускай. Чаму? Бо яна не проста перажыла вайну. Яна ўдзельнічала непасрэдна ў вайне: нельга было ў краіне акупіраванай, краіне, якая, як сёння лічаць, на 50 працэнтаў а ў 1943 годзе — на 70 працэнтаў была партызанскай, проста нельга было не змагацца нават непасрэдна. Больш за тое, хто як не жанчына змагла супрацьстаяць дэгуманізацыі, дэмаралізацыі грамадства і народа, краю, захаваць яго этнічную цэласнасць. Ды не проста захаваць, якраз этнічная адвечная свядомасць, лад жыцця, псіхалогія з’явілася той асновай, якая дазволіла народу, краю годна выйсці з гэтых найсуравейшых выпрабаванняў, увайсці ў новы пасляваенны свет. І ў гэтых умовах, умовах акупацыі, блакад, татальнага руйнавання і вынішчэння ўвесь цяжар (а то і жах) народнага выжывання, жыцця, супрацьстаяння, барацьбы, захавання, веры ў жыццё, у будучыню самога чалавечага існавання несла на сабе і ў сабе жанчына: жанчына-маці, жанчына-гаспадыня, жанчына-захавальніца адвечнага.

І якраз пісьменнікі дзеці вайны такою яе бачылі, захавалі ў душы сваёй, увасобілі ў творчасці.

Прайшло 70 гадоў пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны, Другой сусветнай, 71 год пасля вызвалення Беларусі. Няшмат засталося ў жывых яе ўдзельнікаў і сведак. Хаця якіх сведак!? Яны ж жылі ў той вайне — ў тых абставінах, у той атмасферы, у тым свеце. Краіна змянілася, змянілася ў нечым да непазнавальнага. Яна ўжо больш гарадская, чым вясковая, сельская. Хаця яе прыродная, духоўная аснова ўсё тая ж.

Здавалася б, у вайну адбылося страшэннае парушэнне ўсяго звычайнага, усталяванага вякамі, увайшоўшага ў плоць і кроў чалавека, сям'і, дома, вёскі, горада, краю, — ладу і парадку жыцця, парушэнне самой атмасферы людскога існавання. Парушэнне і ўзрушэнне пры такіх падзеях і ў такія часіны ахоплівае ўсе сферы народнага і чалавечага жыцця і існавання — палітычную, сацыяльную, гаспадарчую, сямейную, побытовую, эмацыянальную, духоўную. З такіх падзей, з такіх узрушэнняў і краіна, і народ, і чалавек выходзяць іншымі, як бы ў нечым узняўшыся на новую, вышэйшую ступеньку духоўнага развіцця, маральнага і эмацыянальнага станаўлення. І гэта так. Разам з тым нельга не адзначыць і такі момант нацыянальнага жыцця і бытавання, увасоблены ў творчасці былых дзяцей вайны. Узнаўляючы эпічна жыццё ваеннай вёскі, самадастатковае ў сваіх кардынальных момантах бытавання, выяўляючы і выпрабоўваючы яго сітуацыямі і палажэннямі трагедыйнага зместу і характару, літаратура тым самым аб'ектыўна (ды і суб'ектыўна, бо ў жыцці ўзноўленым абавязкова бачыўся лёс аўтара) выяўляла і сцвярджала тыя крытэрыі і нормы, якія ў тым нелюдскім свеце татальнага зла і разбурэння дазволілі чалавеку (і народу, краю) застацца чалавекам (народам, краем) і ўрэшце выйсці пераможцам у гэтай барацьбе з сусветным злом. Можна пэўна сцвярджаць, што менавіта ад часоў вайны ідуць крытэрыі і арыенціры ў духоўнай іерархіі каштоўнасцей. Менавіта там і тады ў найбольшай ступені вызначылася і іх нацыянальна-этнічная адметнасць. Крытэрыі і нормы гэтыя адвечныя, выверания і сцверджаныя шматвяковай гісторыяй нацыянальнай. Сцверджаны і нацыянальнай літаратурай. То — беларускі свет.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «УСЕНАРОДНАЯ» ВЯДОМАСЦЬ НЕМАГЧЫМАЯ. АЛЕ...*

Мяркуючы па ўласных знаёмых, мне заўсёды здавался, што прыкладна 75 працэнтаў беларусаў развітваюцца з беларускай літаратурай, калі атрымліваюць атэстат. Культурным набыткам застаецца прачытанае па школьнай праграме плюс некалькі твораў Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча і, напрыклад, Леаніда Дранько-Майсюка. Вынікі анкетавання, праведзенага «Полымем», умацоўваюць у гэтай думцы: пісьменнікі, не згаданыя ў школьным падручніку па літаратуры, не карыстаюцца масавай папулярнасцю.

Згадаем яшчэ раз галоўнае пытанне Алеся Бадака: «Што трэба рабіць, каб сучасную беларускую літаратуру **лепш ведалі** і **больш любілі** чытачы?» Адказ на першы погляд просты. Сучаснаму пісьменніку трэба **лепш ведаць і больш любіць сваіх чытачоў**. І імкнуцца, каб **іх было як мага больш**. Немагчыма любіць і ведаць таго, хто абыякавы да цябе і зусім не цікавіцца тваім існаваннем, — і менавіта пісьменнік павінен зрабіць першы крок, каб парушыць зачараванае кола.

Аднак далёка не ўсе беларускія аўтары ўсведамляюць гэтую неабходнасць. Літаратурная творчасць як мастацтва, як самавыяўленне шмат для каго падаецца больш прывабным варыянтам, чым пошукі папулярнасці. Хапае прыкладаў, якія сведчаць пра абсалютную дасяжнасць пісьменніцкага поспеху — варта толькі зрабіць «першы крок» і, вядома, мець літаратурныя здольнасці. Стаўленне аўтара да ўяўнага чытача адчуваецца з першай старонкі — праз стыль, сюжэт, форму расповеду. Калі пісьменнік піша не для чытача і не пра чытача (а хутчэй **для** і **пра** самога сябе), калі ўпэўнены, што чытач наўрад ці знойдзецца, і разлічваць на яго не варта, то чаканне поспеху будзе марным. Ніхто не стане ва ўласнае задавальненне чытаць нудны, банальны, кепска зроблены твор.

Магчымы пачатак вядомасці — гэта зусім не выданне першай кнігі, а той момант, калі пісьменнік задумваецца, чаго чакае ад яго чытач — у наступнай частцы аповесці, у новым творы, на старонках пэўнага выдання. Прычым задумацца трэба пра абсалютна рэальнага староннягa чытача, а не ўяўнага адрасата, якім можа быць alter ego аўтара, каханы чалавек альбо сябар. Тут з'яўляецца шмат іншых пытанняў. Наколькі запатрабаваным будзе ўжо задуманы твор пэўнага жанру на пэўную тэму? Хто яго будзе чытаць? Які мастацкі густ мае найверагодны чытач?.. Пакрысе аўтар вызначае сваю мэтавую аўдыторыю і пачынае ацэньваць суграмадзян як патэнцыйных чытачоў.

Варта ўсведамляць, што стаць «усенародна» любімым у сучаснага пісьменніка дакладна не атрымаецца. Можна без праблем уявіць чытачоў такіх рэйтынгавых аўтараў, як Наталля Батракова, Вольга Грамыка, Людміла Рублеўская, Мікалай Чаргінец. Але я катэгарычна не ўяўляю чалавека, які з аднолькавым

* Пачатак дыскусіі ў матэрыяле «Нам засталася «Спадчына». Падведзены вынікі акцыі часопіса «Полымя» «Топ-10 любімых твораў беларускай класікі» («Полымя», № 1, 2015).

задавальненнем гартае творы чатырох гэтых пісьменнікаў. Чытачы могуць адрозніваццa ўзростам, гендарам, узроўнем адукацыі, прыналежнасцю да пэўнай субкультуры. Разнастайнасць субкультур — адллюстраванне сацыяльнай разнароднасці грамадства, розных тыпаў сацыяльнай практыкі і адпаведных ім тыпаў светаўспрымання. Але «мазаічны» характар мае не толькі сучасная культура. Зразумела, што далёка не ўсе жыхары Беларусі ў 1920-я гады захапляліся вершамі Янкі Купалы, гэтаксама, як далёка не кожны ў 1980-я гг. быў аматарам прозы Івана Шамякіна.

Ведаць чытача — значыць усведамляць, у якой сацыякультурнай сітуацыі ты знаходзішся. Напрыклад, з кожным годам на Беларусі ўсё большае гарадскіх жыхароў, і з кожным пакаленнем павялічваецца адлегласць беларусаў ад прарадзімы-вёскі. Сёння беларуская мова ніяк не атаясамліваецца з «народнай мовай», хаця пяцьдзясят гадоў таму такое супастаўленне, верагодна, было справядлівым.

Разам з тым, многія беларусы сталага веку прыехалі ў нашу краіну, каб адбудоўваць Мінск (варыянт: трапілі па размеркаванні), і, адпаведна, не з’яўляюцца карэннымі жыхарамі. Сучасная моладзь (пакаленне «нулявых») — збольшага аўтахтоннае насельніцтва, людзі, якія нарадзіліся і атрымалі адукацыю на Беларусі. Беларуская літаратура мае быць для іх больш блізкай, чым для дзядулі з Пензы ці Валгаграда. Галоўнае, каб сучасны пісьменнік выкараскаўся з «беларускага культурнага гета», знайшоў актуальную тэму і здолеў данесці сваю творчасць да чытача не толькі праз падрыхтоўку кнігі да выдання.

Істотная асаблівасць нашай культурнай сітуацыі — уключанасць многіх грамадзян у расійскую інфармацыйную прастору. Беларусы часам глядзяць нацыянальнае тэлебачанне, чуюць беларускае радыё, наведваюць тэатр, але беларуская літаратура і перыёдыка, мастацтва і музыка шмат для каго існуюць нібы ў паралельным вымярэнні. Беларускую культуру і літаратуру трэба паступова набліжаць да беларусаў — але далёка не ўсе прыкладаюць да гэтага пэўныя намаганні. Не хапае якаснай рэкламы, цікавых маркетынгавых ідэй. А добрая кніга ці выдатны мастацкі твор самі не пагрукаюцца ў дзверы.

Дык што трэба рабіць, каб беларускую літаратуру лепш ведалі і больш любілі? Хочацца думаць, гэта пытанне прынамсі аднойчы паўставала перад людзьмі самых розных спецыяльнасцей: журналістамі, выдаўцамі, настаўнікамі, бібліятэкарамі, мастакамі, літаратуразнаўцамі... Перад чытачамі, якія выпадкова адкрылі для сябе добрага пісьменніка і здзівіліся, што ніколі раней пра яго не чулі... Вядома, можна ўздыхнуць, паскардзіцца на сціплую дзяржпадтрымку і на гэтым закрыць тэму. Але насамрэч кожны можа зрабіць нешта карыснае для папулярызацыі літаратуры. Варта толькі ад агульных разваг перайсці да канкрэтных спраў. І ідэй можа быць безліч! Чаму б не дамовіцца са школьнай настаўніцай і не правесці на ўроку ў дачкі альбо ўнучкі віктарыну па беларускай класіцы? Чаму б не напісаць цікавы артыкул пра класіка, напрыклад, на сайт usebelarusy.by? Чаму б не змясціць на сваім блогу банер з улюбёнымі цытатамі?

Для тых, хто мае непасрэднае дачыненне да літаратуры, першая і абавязковая задача — рабіць сваю справу прафесійна і сумленна, з мэтай прывабіць і зацікавіць сучасных чытачоў. Напрыклад, правесці музейнае (бібліятэчнае) мерапрыемства па творчасці класіка так, каб гэта пакінула станоўчыя эмоцыі не толькі ў выступоўцаў, але і ў аўдыторыі: студэнтаў Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта ці навучэнцаў Вышэйшага дзяржаўнага каледжа сувязі. Зразумела, людзі, якія не звязваюць свой лёс з вывучэннем літаратуры, наўрад ці зацікавяцца дэталёвым расповедам пра стылістычныя асаблівасці пэўнага твора. Адна справа — праводзіць лекцыю для філолагаў, і зусім іншая — выступаць перад будучымі праграмістамі. Каб паказаць беларускую літаратуру цікавай і прывабнай, можна нават адмовіцца ад стандартнай схемы правядзення юбілейных вечарын. Так, пазнаёміцца з мастацкім светам перакладаў

Язэпа Семяжона можна не толькі на адкрытай лекцыі, але і падчас адмыслова падрыхтаванай гульні «Што? Дзе? Калі?».

Хацелася б падкрэсліць, што чарговы юбілей пісьменніка, музыкі, мастака — гэта не нагода для пустых урачыстых прамоў, а магчымасць асэнсаваць яго мастацкія здабыткі з пункту гледжання сучаснасці. І з надыходам новага юбілею Янкі Купалы ды Якуба Коласа кожнаму патэнцыйнаму выступоўцу замест шаблонных фраз варта падрыхтаваць невялікае разважанне пра тое, за якія творы і чаму мы лічым гэтых аўтараў геніямі нашай літаратуры. Калі мы захвальваем нейкае імя замест аб'ектыўнага падсумавання творчых здабыткаў, то выклікаем недавер з боку шырокай аўдыторыі.

Пажадана, каб мэта той альбо іншай культурнай дзеі была дакладна вызначана: расказаць пра Максіма Гарэцкага так, каб большасць вучняў прачытала яго апавяданні ў поўным варыянце, падрыхтаваць такую кнігу пра класіка, каб на яе абавязкова знайшліся пакупнікі. Выдатна, калі эфектыўнасць працы мае колькаснае вымярэнне і можна палічыць, напрыклад, колькасць смайлікаў, пастаўленых у анкетах пасля музейнага мерапрыемства.

Пры гэтым трэба дакладна ўсведамляць, што нават пры вялікіх намаганнях, у самых спрыяльных абставінах абсалютнае захапленне як сучаснай беларускай літаратурай, так і класікай наўрад ці магчымае. Згадаем, напрыклад, як Янка Купала звяртаўся да Уладзіміра Дубоўкі са словамі «Ты Пушкін, а я перад табой толькі Дзяржавін». Ці шмат расіян зачытваецца творамі Гаўрылы Дзяржавіна? Мне здаецца, што словы Купалы ў гэтым сэнсе былі невыпадковымі... Але воляй гісторыі склалася так, што імя Дубоўкі нават не згадваецца ў выніках апытанкі. Захапленне маладых беларускіх літаратуразнаўцаў творамі пісьменнікаў-узвышэнцаў пакуль не адбілася на чытацкіх густах: імёны рэпрэсаваных аўтараў не набылі шырокай вядомасці (адзінае выключэнне — Максім Гарэцкі).

Тыражы перавыданняў беларускай класікі наўрад ці сведчаць пра яе вялікую папулярнасць. Ці ёсць гэта нагодай, каб лічыць творы Кузьмы Чорнага ці Міхася Стральцова элітарнай літаратурай? Верагодна, так, але справа тут не ў адметнасці стылю і выключнай інтэлектуальнай глыбіні, а ў ідэйна-тэматычнай скіраванасці беларускай прозы. Далёка не кожны знойдзе агульнае між нашай сучаснасцю і жыццём героя-селяніна першай трэці XX стагоддзя. Таму многія творы могуць зацікавіць сёння толькі тых, хто настойліва разважае над культурнымі, гістарычнымі праблемамі Беларусі. Вядома, людзей, заклапочаных лёсам сваёй краіны, заўсёды няшмат, таму іх можна назваць нацыянальнай элітай, а чытаныя імі кнігі — элітарнай літаратурай...

Падагульнім. Дзеля таго, каб беларускую літаратуру больш чыталі і больш любілі, трэба аб'ектыўна ацэньваць сучасную культурную сітуацыю і ставіць перад сабой канкрэтныя мэты. Пісьменніку трэба пісаць чытэльна і арыентавацца на пэўную аўдыторыю. Людзям, якія працуюць у сферы культуры і адукцыі, — рабіць сваю справу адказна і прафесійна. А чытачы могуць смела рэалізоўваць свае крэатыўныя ідэі, звязаныя з беларускай літаратурай. Бо адзінае, што можна супрацьпаставіць сумным роздумам пра сучаснасць — гэта ўсведамленне ўласных, хай сабе невялікіх, здзяйсненняў.

**Валянціна ЛОКУН**

# У КОЖНАГА СВОЙ ШЛЯХ ДА ЛІТАРАТУРЫ

Сярэднюю школу я заканчвала завочна. Як ні дзіўна, але ў вучэбных праграмах школы 60—80-х гадоў беларуская мова і літаратура былі прадметамі неабавязковымі. Вось так! Жылі ў Беларусі, вучыліся ў беларускай школе, а мову і літаратуру беларускую вывучаць нам, беларусам, было неабавязкова. Амаль тое ж самае пасля было і ў Брэсцкім педінстытуце, дзе мы, рускае аддзяленне філфака, за адзін курс «праскочылі» ўсю гісторыю беларускай літаратуры. Тым часам я была цалкам у палоне рускай класікі: А. Пушкін, Л. Талстой, Ф. Дастаеўскі… У аспірантуры збіралася даследаваць творчасць І. Тургенева, зачароўвала яго мова, незвычайна лёгкая, вытанчаная, музыкальная. Аднак зноў адыгралі сваю ролю рэаліі жыцця, і я апынулася перад выбарам: або беларуская літаратура, або нічога. Толькі пра якую беларускую літаратуру можа ісці гаворка? Дзе яна? Дзе тыя творцы, якія б узялі тваю душу ў палон? Так я ўпарта вагалася амаль пяць гадоў, і толькі тады адважылася прачытаць творы беларускіх класікаў: Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, М. Танка… Узялася за М. Гарэцкага, К. Чорнага, І. Мележа, І. Шамякіна, В. Быкава, І. Чыгрынава і — для мяне паступова пачаў адкрывацца свет незвычайнай па сваёй энергетыцы нацыянальнай літаратуры.

У гэтым кантэксце найбольш моцнай мне падалася ваенная проза В. Быкава, А. Адамовіча, І. Чыгрынава, Б. Сачанкі і зусім яшчэ тады маладога В. Казько. Сапраўдны ўзор высокамастацкай прозы! Нават калі побач паставіць рускіх творцаў, што таксама працавалі ў фармаце ваеннай літаратуры: Ю. Бондараў, Г. Бакланаў, В. Распуцін, В. Някрасаў, В. Гросман і г. д. Проза «лейтэнантаў»!.. У іх была адна вайна, і памяць вайны таксама. Трагічная. Гэта было пакаленне вайны — забітае, страчанае. Як было забітым і страчаным пакаленне Першай сусветнай вайны — героі Э. Рэмарка, Э. Хэмінгуэя, Р. Олдзінгтона. Кожны з гэтых пісьменнікаў меў свой адметны лёс, свой драматычны жыццёвы вопыт, які прыпадаў на розныя часы і сацыякультурныя ўмовы. Але іх творчасць паяднoўвала гуманістычная ідэя абароны жыцця кожнага чалавека. І еўрапейская літаратура, і савецкая неслі свету вялікую праўду аб вайне. Трагічную праўду. Толькі савецкай было значна цяжэй, ёй трэба было прарывацца праз ідэалагічныя каноны. І яна прарывалася.

Быкаўская проза да гэтага часу застаецца ўзорам бескампраміснага стаўлення да чалавека. Разам з тым, яна, як нічыя іншая, была прасякнута болем за чалавека вайны, а пасля, напрыканцы XX стагоддзя, падчас наступу вялікай «перабудовы» і болем за Беларусь, за чалавецтва наогул. Сённяшняя крытыка называе В. Быкава пісьменнікам «*трагічнага, эсхаталагічнага светаадчування*». І гэта правільна, толькі тут не ўвесь Быкаў. Ц. Чарнякевіч дапаўняе, што ў сваёй стваральнай працы пісьменнік кіраваўся «*любоўю да ісціны. У ёй — усе ягоныя пакуты і ўвесь ягоны боль. Ён згарае ў ёй, але, згараючы, толькі расколяецца, як метал*». В. Быкаў найперш быў вялікім гуманістычным пісьменнікам. І згараў ён, як мне падаецца, ад болю за ўсіх пакрыўджаных: за Сцепаніду

і Петрыка Багацькаў — спрадвечных пакутнікаў Галгофы, за Зоську Нарэйку, Франю, якія і на вайне хацелі жыць і кахаць. Ён пакутаваў ад болю за сваю бацькаўшчыну — постчарнобыльскую і постсавецкую, ды і ранейшую, савецкую, таксама. Ад болю за чалавецтва, якое заразілася бацылай бесчалавечнасці і бездухоўнасці. Ён, геній у літаратуры, пражыў вялікае творчае жыццё, а пад канец застаўся нібы птах з падрэзанымі крыламі. Яго душа прагла справядлівасці і дабрыні, а жыццё сацыяльнае гэтыя сакральныя быційныя прынцыпы ўсё больш разбурала.

На мяжы рацыянальнага і ірацыянальнага ўспрымаецца і аповесць В. Казько «Суд у Слабадзе». Ю. Паталкоў гэты твор назваў алюзіяй па Евангелле. Па ступені дзіцячага болю і адчаю ёй няма роўных у айчыннай прозе, ды, здаецца, і ў сусветнай таксама. Колька Лецечка — самая безабаронная ахвяра вайны. Яго жыццё — найвялікшы грэх чалавека са зброяй у руках. Колька застаўся жывы, але не для таго, каб жыць, а для таго, каб данесці да людзей сваю памяць вайны. Данесці і сысці ў іншы свет, дзе не забіваюць дзяцей гэтак жорстка; паступова, дзень за днём, высмоктваючы іх дзіцячую кроў. З такой памяццю жыць нельга. Бяспамятны Колька жыў, а з памяццю — не змог. Нібыта ўвесь свет зыходзіў у нябыт, калі развітваўся з жыццём Колька Лецечка.

Жыццё і смерць Колькі Лецечкі — гэта перасцярога ўсім нам, асабліва цяпер, калі зноў беспадстаўна і страшна гінуць дзеці, або застаюцца сіротамі ці калекамі. Няўжо гісторыя нічому не навучыла? Няўжо мы так і надалей застанемся глухімі і невідушчымі?

Насоўвалася эпоха «татальнага катастрафізму». Мянялася і мастацкая канцэпталогія літаратуры: «Сцяна», «Труба», «Ваўчыная яма» (В. Быкаў), «Сатанінскі тур», «Выкармак» (І. Шамякін), «Бунт незапатрабаванага праху» (В. Казько), «Удог» (Ф. Сіўко), «Пусты п’едэстал» (Т. Бондар), «Рэвізія» (А. Федарэнка), «Апладненне ёлупа» (Ю. Станкевіч)… У адмаўленчым пафасе гэтых тэкстаў таксама чулася аўтарская трывога за лёс чалавека і лёс краіны. За іх будучыню. За нацыянальную годнасць Беларусі.

Нацыянальная літаратура, нацыянальная духоўная спадчына — гэта і ёсць той галоўны шлях чалавека да ўсведамлення сябе як асобы, сваіх вытокаў і будучыні. Яшчэ Т. Ман у «Волшебной горе» падкрэсліў, што ўсялякая мараль (нравственность) і маральнае ўдасканаленне звязана з літаратурай, бо менавіта яна з’яўляецца адначасова выражэннем пачуцця годнасці чалавека і гуманнасці. У мастацкай свядомасці XX — пачатку XXI стагоддзя адбыліся істотныя карэляцыі формы і зместу, яна прыкметна мадэрнізавалася, змяніліся эстэтычныя арыенціры і маральныя прыярытэты. Але айчынная літаратура, уцягнутая ў вір еўрапейскіх інтэграцыйных працэсаў, працягвае ўдасканальваць свой адметны гуманістычны «кодэкс», арыентуючыся цяпер на хрысціянскія ідэалы.

Набліжаючыся да ідэі Бога, літаратура зноў набліжаецца да ідэі чалавека, да яго духоўнага сэнсу, да сакральнага. Чалавек ёсць сувязное звяно ў ланцугу пакаленняў. Чалавек у «кантэксце» хрысціянскіх каштоўнасцей — гэта сучасны этап развіцця літаратуры. «Прыгажосць выратуе свет», — казаў некалі Бэкон, а пасля яго і Дастаеўскі. Калі мець на ўвазе сённяшні стан грамадства, то яго хутчэй уратуе любоў, спагада. Любоў, па Л. Талстому, ёсць усеагульная духоўная субстанцыя. Любоў ёсць Бог. Любоў — гэта тая дасканаласць, якая адпавядае дасканаласці Бога. Але існуе яшчэ і іншы сэнс гэтага слова-канцэпта. Любоў як сукупнасць усяго дасканалага ў прыродзе чалавека. Спагаду той жа Ф. Дастаеўскі назваў найгалоўнейшым законам быцця ўсяго чалавецтва. М. Бярдзяеў таксама не мог прыняць Бога, калі Ён не ёсць Бог ахвярны, пакутуючы і любячы. Ці не пра такую ж спагаду да чалавека гавораць і айчынныя творцы: старэйшыя У. Гніла-

мёдаў, В. Коўтун, В. Казько..., сярэднія А. Федарэнка, Ю. Станкевіч..., «маладыя» А. Брава і іншыя? Спагада ёсць маральны імператыў сённяшняй літаратуры, яе найгалоўнейшая выхаваўчая якасць, якой не маюць інтэрнэт і іншыя віртуальныя сродкі інфармацыі.

Літаратура жыве і будзе жыць, калі хоча жыць Чалавек, дакладней, выжыць. Бо толькі яна можа процістаяць маральнаму падзенню чалавека, яго духоўнаму вынішчэнню.

Некалі падчас маёй працы ў Брэсцкім педінстытуце, мне на рэцэнзію далі курсавыя працы студэтаў-філолагаў 5-га курса. На адной з курсавых чытаю тэму: «Творчасць І. Абашнікава». Памылка? Не. Студэнт, які праз колькі месяцаў павінен атрымаць дыплом настаўніка, на поўным сур'ёзе разглядаў аповесць Абашнікава (І. Пташнікава) «Тартак». Што можа даць вучням такі «настаўнік»? Добра, калі ён да школы не дайшоў і перакваліфікаваўся на больш грашовую прафесію.

Што датычыць беларускай кнігі, то, мне здаецца, што панікаваць тут не трэба. Шлях да чытача ў нацыянальнай літаратуры заўсёды быў цярністым. Ды і чытач да беларускай кнігі ішоў няпроста. Але ішоў — кожны сваім шляхам. Бо нас, беларусаў, лепш за беларусую літаратуру ніхто не зразумее. І не пакажа. І не перасцеражэ. А ў якім фармаце творы даходзяць да чытача, дык ці гэта так важна? Каму зручней чытаць тэкст у «планшэце», а не гартаць старонкі кнігі, хай чытае ў планшэце ці на экране камп'ютара. Час расставіць усе кропкі на «і».

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# СТАРОНКІ БЕЛАРУСКА-АЗЕРБАЙДЖАНСКАЙ ЕДНАСЦІ

*Азербайджанская диаспора в Республике Беларусь: организационная структура, социально-экономическое положение и основные направления деятельности (1989—2013 г.) / Б. А. Ганбаров. Минск: Донарит, 2014.*

У дачыненні да работы беларускага гісторыка азербайджанскага паходжання Балдадаша Акіфа аглу Ганбарава можна пазначыць некалькі характарыстык з наступным зместам і характарам: «арыгінальна», «упершыню», «адкрыццё» і г. д. Вучоны і публіцыст прайшоў няпростым, разлічаным на гады, шляхам збірання ўсемагчымых матэрыялаў, дакументаў, якія б расказалі і пра дзейнасць азербайджанскай грамадскасці ў Беларусі, і ўвогуле пра азербайджанска-беларускія гістарычныя і культурныя стасункі. Болей таго: аўтар метадычна, прыводзячы многія звесткі, дакладныя факты, праводзячы пэўныя высновы, аналізуе ролю азербайджанскай дыяспары ў сацыяльна-эканамічнай прасторы нашай краіны. Уражвае не толькі колькасць крыніцазнаўчага матэрыялу, які дапамагае Балдадашу Ганбараву паказаць шырокую карціну выбранай і даволі няпростай тэмы, але і захапляе настойлівасць аўтара ў жаданні быць дасведчаным, адкрываць невядомыя дагэтуль факты. Вучоны выступае не толькі гісторыкам і архівістам «азербайджанскага жыцця ў Беларусі», але і выяўляе сябе дастойным сацыёлагам, у некаторай ступені журналістам і публіцыстам. Відавочна, што дапамагае ў гэтым яму і тое, што ён доўгія гады жыве ў Беларусі, закончыў гістарычны і юрыдычны факультэты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Ужо на самым пачатку манаграфіі Б. Ганбараў падкрэслівае, што ёсць самая пільная неабходнасць у правядзенні дадзенага даследавання, у стварэнні партрэта жыцця сваіх землякоў у беларускай старонцы. Чытаем у першай главе манаграфіі: «Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, у 1989 годзе ў Беларусі пражывала 5 009 грамадзян азербайджанскай нацыянальнасці… Акрамя іх у рэспубліцы знаходзілася значная колькасць азербайджанцаў, якія не мелі беларускага грамадзянства. Найболей актыўнай часткай дыяспары з'яўляліся ў той час студэнты-азербайджанцы, маладыя спецыялісты, якія працавалі ў розных установах і на прадпрыемствах, а таксама тыя выхадцы з Азербайджана, хто пачаў сваю кар'еру ў бізнесе…» «І далей: «Напрыканцы 1980-х гг. пачынаецца працэс актывізацыі грамадскай дзейнасці беларускай часткі азербайджанскай дыяспары…» Аўтар дакладна і паслядоўна ідзе за фактаграфіяй, паказвае ўсе працэсы развіцця грамадскага жыцця азербайджанскай дыяспары. Згадвае многіх удзельнікаў самых розных грамадскіх, нацыянальных ініцыятыў. Відавочным становіцца, як фарміруецца дыяспара, хто з'яўляецца яе лідарамі, які ўнёсак іх у народна-гаспадарчае, культурнае жыццё Беларусі.

Балдадаш Ганбараў тлумачыць, чаму знакавай назвай для першага азербайджанскага аб'яднання ў Беларусі становіцца слова «Габустан». Габустан для азербайджанцаў увасабляе сабой веліч спадчыны старажытнай гісторыі,

культуры, а таксама ўнікальны характар азербайджанскай прыроды. Дадам, што Габустан — гэта і адзін з самых адметных у свеце гісторыка-археалагічных комплексаў пад адкрытым небам, своеасаблівы музей старажытнай гісторыі Азербайджана. Ён размешчаны прыкладна на 60 км на захад ад Баку, яго працягласць з поўначы на поўдзень складае амаль 100 км, з усходу на захад — каля 80 км. Габустан характарызуецца ўнікальнай флорай і фаўнай. Але галоўнае яго багацце — старажытныя надпісы (петрогліфы), наскальныя малюнкі, старажытныя стаянкі людзей. У 2007 годзе Габустан увайшоў у спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

«Габустан» у Беларусі быў створаны ў 1989 годзе. Першыя тры гады яго ўзначальваў Э. Керымаў — студэнт-завочнік юрыдычнага факультэта БДУ. Актыўнымі паплечнікамі Э. Керымава сталі Роза Яскевіч, Арыф Алекпераў, Кахін Абілаў, Эхцібар Агаеў, Акфі Мамедаў, Райман Ісмаіл-задэ, Абіл Абілаў. У лістападзе 1992 года таварыства ўзначаліў вядомы мастак, выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў Каміль Камал. Яго мастацкі аўтарытэт дапамог у рэалізацыі многіх ініцыятыў культурнага, асветніцкага характару. А майстэрня К. Камала ў цэнтры беларускай сталіцы стала кропкай прыцягнення многіх землякоў. Новым старшынёй «Габустана» ў 1994 годзе абралі сусветна вядомага спартсмена, алімпійскага чэмпіёна К. Маджыдава. Выключна вялікую ролю ў дзейнасці дыяспары адыгрывае такі сусветна вядомы спартсмен, як Н. Багіраў.

Падрабязна выкладаючы гісторыю таварыства, Б. Ганбараў усё ж робіць акцэнт на канкрэтных справах землякоў, суайчыннікаў, звязаных з іх станаўленнем як грамадзян Беларусі, як людзей, кожны з якіх імкнуўся і імкнецца зрабіць свой унёсак у фарміраванне сацыяльнага, эканамічнага вобліку сучаснай Беларусі. Гэтаму ў асноўным і прысвечана другая глава манаграфіі — «Сацыяльна-эканамічнае становішча дыяспары». Аўтар падрабязна раскладвае статус і сацыяльную структуру дыяспары, пераканаўча паказвае характарыстыкі розных сацыяльных груп у ёй. Дарэчы, хацеў бы звярнуць увагу на наступную акалічнасць. Сам фармат даследавання, яго структураванасць з'яўляюцца ў многім яркім прыкладам для наступнікаў, якія зоймуцца вывучэннем прысутнасці іншых дыяспар у беларускім грамадстве. Як на мой прыватны погляд, мяркуючы па колькасным складзе, па грамадскай актыўнасці, сацыяльным унёску ў развіццё Беларусі, то варта было б аналагічныя манаграфіі зрабіць па тэме прысутнасці татар, літоўцаў, нават чувашоў і прадстаўнікоў некаторых іншых так званых малых народаў Расіі ў беларускім свеце. Шлях, пэўная метадалогія дзеля гэтага Б. Ганбаравым створаны. Важна, каб кнігу яго заўважылі і па магчымасці ўзялі на ўзбраенне.

Яшчэ адна істотная акалічнасць, што вылучае манаграфію азербайджанскага даследчыка, робіць яе патрэбнай крыніцай для сумежнай тэматыкі: Б. Ганбараў выявіў сябе ўважлівым аглядальнікам увогуле беларуска-азербайджанскіх палітычных, эканамічных адносін на сучасным этапе. Безумоўна, даследчык канцэнтравана прарабіў гэтую працу, што відаць нават па назве аднаго з падраздзелаў (у чацвёртай, напрыклад, главе): «Азербайджана-беларускія адносіны і іх уплыў на статус і ўмацаванне дыяспары». Аўтар падрабязна расказвае пра візіты Прэзідэнта Азербайджана Ільхама Аліева ў Беларусь і Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ў Азербайджан. Прыводзіць многія выказванні і кіраўнікоў дзяржаў, скіраваных на фарміраванне далейшай шырокай прасторы зносін у самых розных накірунках. Словы Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі пра тое, што «сяброўскі, добрасардэчны характар беларуска-азербайджанскіх адносін на ўсіх узроўнях створыць трывалы фундамент для развіцця двухбаковага супрацоўніцтва, адкрые добрыя перспектывы для нашых народаў» — аснова для рэалізацыі многіх праектаў. І шмат што ўжо зроблена. Пра гэта сведчаць найперш паказчыкі ў гандлёвым тавараабароце паміж нашымі краінамі.

Асобна вылучаны ў манаграфіі расповед пра культурныя памкненні азербайджанскай дыяспары, пра арганізацыю святкавання нацыянальных і рэлігійных святаў. Падрабязна расказваецца пра дзейнасць Цэнтра азербайджанскай мовы і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта. Згадваецца публікацыя перакладу рамана вядомага азербайджанскага пісьменніка Камала Абдулы «Даліна чараўнікоў», які ажыццявіла Л. Глінская. Асобна вылучаны расповед пра творчыя памкненні члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Азербайджана ў Рэспубліцы Беларусь І. Вагабзадэ. Вядомы азербайджанскі вучоны-літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук у сваім невялікім інтэрв'ю аўтару кнігі расказвае пра ўласную работу над перакладамі паэзіі Максіма Багдановіча на азербайджанскую мову. Факт сам па сабе варты пільнай увагі.

Несумненна, жыццё падказвае новыя абсягі і ў развіцці азербайджанска-беларускіх літаратурных стасункаў, якія былі б немагчымыя без самага непасрэднага ўдзелу азербайджанцаў, якія жывуць і працуюць у Беларусі. У прыватнасці, у 2013 годзе Выдавецкі дом «Звязда» ў серыі «Сугучча сэрцаў: Беларусь — Азербайджан» выпусціў кнігу твораў беларускіх і азербайджанскіх пісьменнікаў «Шчаслівая сустрэча». А ў 2014 годзе таксама ў Выдавецкім доме «Звязда» выйшлі кнігі азербайджанскіх аўтараў на беларускай мове — зборнік паэзіі Чынгіза Алі аглу «Знічкай цябе я пакіну» і казка Севіндж Нурукызы «Базгулаг і поры года». Над перакладамі твораў азербайджанскіх пісьменнікаў на беларускую мову ў апошні час актыўна працуюць беларускія паэты і празаікі Таццяна Сівец, Віктар Гардзей, Рагнед Малахоўскі, Навум Гальпяровіч. Канешне ж, усе гэтыя памкненні так ці іначай звязаны з жыццём дыяспары. Тым болей, што, напрыклад, аўтар кнігі паэзіі «Знічкай цябе я пакіну» Чынгіз Алі аглу — часты госць у Мінску, удзельнік мерапрыемстваў традыцыйнай мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Некалькі гадоў назад у Мінску была праведзена прэзентацыя яго кнігі на азербайджанскай мове — «Рама», удзел у якой прымалі і прадстаўнікі азербайджанскай дыяспары ў Беларусі. Параўнальна нядаўна выдадзена ў Мінску і кніга казак на рускай мове таленавітай азербайджанскай пісьменніцы Эсміры Ісмаілавай «Прыгоды мышаняці Пік-Пік». Мажліва, хтосьці з прадстаўнікоў азербайджанскай дыяспары займаецца і арыгінальнай творчасцю на роднай матчынай мове. Будзем спадзявацца, што ў новых даследаваннях Б. Ганбарава гэтая тэма зойме болей шырокае адлюстраванне. Як, між іншым, і ўвогуле тэма беларуска-азербайджанскіх літаратурных сувязей, якія асабліва імкліва развіваліся ў 1960—1980-я гг. На крайні выпадак у Мінску было выдадзена некалькі кніг азербайджанскіх пісьменнікаў. А ў анталогіі паэтаў, якія ваявалі ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну, «І ўспомнім былыя паходы» па-беларуску надрукаваны вершы азербайджанскіх паэтаў Набі Хазры, Алігасана Шырванлы, Гасана Эльсевара. Магчыма, усе гэтыя акалічнасці яшчэ стануць прадметам для новага кніжнага праекта — напрыклад, з такой назвай «Адрасы азербайджанскай літаратуры ў Беларусі»? Чаму б і не. А пакуль раю ўсім прачытаць з алоўкам у руках адметнае даследаванне Б. Ганбарава «Азербайджанская дыяспара ў Рэспубліцы Беларусь…».

**Мікола КАРНЕЕЎ**

## ВЫБРАНАЕ З ПАМЯЦІ




*Изяслав Котляров.*
**ВЕРНОСТЬ.**
**Книга поэзии.**
*Мн.: Издательский дом «Звязда», 2015.*

Ізяслаў Катляроў належыць да тых пісьменнікаў, каго ўмоўна можна назваць дзецьмі вайны. Хоць калі пачалася фашысцкая навала, яму не споўнілася яшчэ і трох з паловай гадоў, ягоная памяць шмат што захавала. Асабліва тое, што тычыцца крыху пазнейшага часу, дый пасляваенных гадоў. Гэтай памяццю — збалелай, выпакутаванай — напоўнены шмат якія ягоныя творы. Сярод іх і верш «*** В днях, к самозабвенью не готовых…», лірычны герой якога, азіраючыся на свой пройдзены шлях, запэўнівае, што перажытае тады не толькі не адпускае яго ад сябе, а, наадварот, прымушае ўсё часцей вяртацца ў тое маленства, якое нават з нацяжкай немагчыма назваць шчаслівым. Аднак яно было, яно — тваё і ад гэтага нікуды не дзенешся. Дый, тым не менш, нягледзячы на голад, холад, усю сваю драматычнасць і нават трагічнасць, маленства гэтае па-свойму адметнае, бо, пры ўсім іншым, было ў ім і тое, што прымушала радавацца жыццю. Як з-за таго, што застаўся жывым, так і з-за спадзяванняў на ўсё лепшае, што чакае цябе наперадзе. А ў гэта верылася, не магло не верыцца. І цяпер, з вышыні пройдзеных дарог, тое маленства паўстае з адзіным жаданнем: каб яно не проста не забылася, а каб адбыўся цуд і час вярнуўся назад:

В днях, к самозабвенью не готовых,
памяти своей ищу приют,
вскормленный в буфетах и столовых,
в чайных, где не чай, а водку пьют.
Не было тогда такой погоды.
Солнце… не любуюсь, а терплю…
Кажется, сейчас в другие годы,
в день другой из комнаты ступлю.
Целый мир мне в будущее светит —
нет того, чего б я не сумел,
но себя держу еще в секрете —
юн, беспечен, голоден и смел.
Воздух сам мне дорогу подскажет
через тридцать или сорок лет
запахом густой перловой каши
и хрустящих корочкой котлет.
Воротом футболочки белею,
руки в брюки… Встречный, обходи!
Отсмеюсь еще и отболею —
стану мною… Время, погоди!

Дарэчы, першы радок гэтага верша ў свой час даў назву кнізе І. Катлярова, якой выдавецтва «Чатыры чвэрці» адкрыла серыю «Дзеці вайны», выхад якой быў прымеркаваны да 65-годдзя Вялікай Перамогі. Сёлета, як вядома, мы адзначаем 70-я ўгодкі разгрому нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод выданняў, якія пабачылі свет да гэтай знамянальнай даты, і кніга паэзіі І. Катлярова «Верность». Не магло не знайсціся ў ёй месца і вершу «*** В днях, к самозабвенью не готовых…». Увайшлі і некаторыя іншыя творы І. Катлярова, вядомыя па ранейшых ягоных публікацыях, а ён паэт — слынны. Яго кнігі

выдаваліся не толькі ў Мінску, а і ў Маскве, паэтычныя падборкі змяшчаліся ў часопісах «Нёман», «Аврора», «Знамя», «Нева», «Юность», у альманахах «Поэзия», «День поэзии». У 2013 годзе І. Катляроў атрымаў 1-ю прэмію на Міжнародным конкурсе «Русский стиль», што праводзіўся ў Германіі.

Ёсць у «Верности», зразумела, і новыя творы. Хоць, думаецца, наўрад ці мэтазгодна падыходзіць да вартасцей кнігі з пункту гледжання таго, калі і што напісана. У дадзеным выпадку, бадай, мусіць быць іншы крытэрый, прытым вызначальны: наколькі ўсё тое, што прадстаўлена пад адной вокладкай, патрапляе пад вызначэнне «кніга паэзіі», а яно пад назвай «Верность», несумненна, пазначана аўтарам невыпадкова. І. Катляроў задумваў менавіта кнігу — цэласную, завершаную, аб'яднаную адзінствам задумы. Акурат такая кніга і атрымалася. «Верность» — ягоны важкі паэтычны ўнёсак у асэнсаванне тэмы Вялікай Айчыннай вайны ва ўсёй шматграннасці гэтай тэмы. Пачынаючы ад першай старонкі да апошняй.

Адкрываецца ж кніга паэмай «Бридский Мох», што мае ярка выражаны спавядальны характар. Праўда, у каго-небудзь гатова з'явіцца пытанне, а пра якую споведзь можа ісці гаворка, калі аўтар гэтага твора ваеннае ліхалецце перажыў дзіцем, а таму пра барацьбу савецкага народа з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ведае толькі па кнігах, кінафільмах, успамінах непасрэдных удзельнікаў усенароднага змагання з фашызмам? Тым не менш — гэта споведзь І. Катлярова. Перад часам і перад самім сабой. Перад уласным сумленнем, якое ні на хвіліну не дрэмле, бо так шмат увабрала яно з таго, што ніколі не падлягае забыццю.

Ужо сам пачатак паэмы сведчыць пра тое, што лірычны герой пастаянна застаецца сам-насам з тым даўнім, што не дае яму спакою:

Так это ты, болото Бридский Мох?!
А где же ил, тростник, ольшаник твой?
И где они, бревенчатые гати?
Тебя узнать мне чей-то взгляд помог,
в котором я теряю свой…
Трава забвенья здесь некстати.

Іншага, як кажуць, не дадзена. Забыць балота Брыдскі Мох — значыць пакінуць па-за ўвагай адзін з важных момантаў наступальнай аперацыі «Баграціён». Гэтая старонка з гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, канешне ж, не забыта, хоць пра тое, што было здзейснена ў тамашніх мясцінах, гаворыцца куды менш, чым пра іншыя эпізоды вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Усё не ўспомніш? Ды трэба ўспамінаць, каб не заставалася «белых плям». Што і робіць І. Катляроў. Не можа не гаварыць ён пра тое, што адбывалася на балоце Брыдскі Мох: «Гранату кто-то в память мне метнул, — // взрывает все, что призрачно и сонно». А пасля такога «ўзрыву» і паўстае малюнак амаль сямідзесяцігадовай даўнасці: «Командные вдруг слышу голоса, // и скоб железно плавающий стук // в артиллерийском громе утопает… // Зло из-под касок светятся глаза, // сползают бревна по движеньям рук // туда, где гать дорогу обретает».

На балоце ж Брыдскі Мох адбылося тое, што яшчэ раз засведчыла сабой аб вялікім воінскім майстэрстве савецкага камандавання і мужнасці байцоў, якія ў неабходных выпадках маглі «не силою, а мужеством» ваяваць. Камандарм Батаў вырашыў правесці танкі не проста праз непраходнае балота, а праз такое, у якога сотні метраў глыбіні. Яго намер падтрымаў начальнік інжынерных войск 65-й арміі Швыдкой…

У паэме паўстаюць воблікі і іншых рэальных гістарычных асоб. Нават самога генералісімуса Сталіна. Інакш і нельга, бо ў творы моцная дакументальная аснова. І. Катляроў не абмяжоўваецца ўзнаўленнем толькі таго, што звязана з падзеямі на балоце Брыдскі Мох. Дзеянне паэмы пераносіцца і ў Крэмль, дзе Сталін сустракаецца з Ракасоўскім, Жукавым, іншымі савецкімі военачальнікамі. Расказваецца пра лёс Ракасоўскага, які перад вайной быў рэпрэсіраваны, аб'яўлены ворагам народа за тое, што быццам з'яўляўся польскім шпіёнам. Больш за тое, сюжэтныя рамкі аўтарскага аповеду пашыраюцца, калі паэт ужо з пазіцыі

сённяшняга дня дае ацэнку тым векапомным падзеям. Сапраўды ўжо:

…Я времени границ не ощущаю,
за памятью своей не услежу, —
то приближаюсь к ней, то ухожу.
Я знаю даже то, чего не знаю.

Дзякуючы гэтаму адбываецца нават свайго роду дыялог з самім Жукавым. На такі крок І. Катляроў пайшоў дзеля таго, каб высветліць, наколькі праўдзівыя тыя, хто, не задумваючыся, сёння называе згаданага выдатнага палкаводца «маршалом расстрельным». Як быццам і падставы для такога абвінавачання ёсць. Менавіта Жукаў у кастрычніку сорак першага года аддаў загад, паводле якога «к измене Родине […] трусость приравнял». Тых, хто панікаваў, гатоў быў адступіць, Жукаў «расстреливать на месте приказал». Аднак, апраўдваецца ён, пры гэтым «был и прокурор и трибунал». Вуснамі самога палкаводца робіцца і такая важная выснова:

Коль хочешь ты истории подробной,
то изучай ее со всех сторон…
Война не может оставаться доброй —
и не жестоких не бывает войн.

Гэта таксама праўда вайны, ад якой нікуды не дзенешся. Але яна нікольki не прымяншае значэнне Вялікай Перамогі, а, наадварот, дазваляе яшчэ лепш зразумець, якой вялікай цаной заплачана за яе. Таму паэму «Бридский Мох» успрымаеш не толькі як мастацкае дасягненне І. Катлярова, а ставішся да яе і як да твора важкага грамадзянскага гучання, у якім паэт прама і бескампрамісна выказаў сваё стаўленне да векапомных падзей.

Неардынарная сітуацыя ў «Балладе о сестре милосердия»: медыцынская сястра, ратуючы двух параненых салдат, цягне іх па снезе. Нечакана высвятляецца, што адзін з іх немец:

Свалилась, обессиленная, ниц,
с плеча брезгливо отстранила тело
и удивленно выдохнула: «Фриц?!.» —
впервые френч змеиный разглядела…

Пасля гэтага ратавала ўжо толькі аднаго байца. Не магла пераадолець пагарды да заваёўніка. Ды так працягвалася толькі да таго, пакуль, дабраўшыся да сваіх, не прыйшла ў сябе. Тады нянавісць да ворага ўступіла месца звычайнай чалавечай спагадзе:

…Потом в окопе было горячо,
спасительно и так привычно было.
Но стыдно ныло левое плечо,
которое тогда освободила.

Тое самае плячо, да якога яна, ідучы з поля бою, прыціскала другога салдата, пакуль не даведалася, што ён «фрыц». З гэтага шэрагу і сітуацыя, што лягла ў аснову верша «*** Две простых кирпичины…». З той толькі розніцай, што чалавечнасць праявіла маці І. Катлярова да чужых дзяцей. Хоць і ўласныя былі вельмі галодныя, першыя аладкі, спечаныя з бульбы, яна прапанавала ім. Але ёсць у кнізе верш і іншага кшталту — «*** — Не смей! — отец ремень снимал». Абурэнне ў бацькі выклікала тое, што ягоны сын, сын франтавіка, абедаў у былога паліцая.

Дарэчы, І. Катляроў нямала твораў прысвяціў свайму бацьку. Яшчэ больш — маці. У гэтых вершах, быццам жывы, паўстае воблік простай жанчыны, якая ў гады вайны, а таксама пасля яе мусіла рабіць усё дзеля таго, каб ўратаваць сваіх дзяцей ад голаду і холаду. Такія творы напісаны з любоўю да яе і смуткам з-за таго, што яна так рана пайшла з жыцця, знясіленая ваеннымі нягодамі. Знясіленая, але не зламаная. Вось маці «голодной военной зимой», ледзьве валочачы ногі, «одной лишь силою души», ноччу з мяшком бульбы спяшаецца да дзяцей. А гэта нібы сам згустак болю, якому не падуладны час. Боль гэты з таго часу, калі ўжо лягла ледзь прыкметная мяжа паміж вайной і мірам. Хлапчук спяшаецца ў бальніцу, каб адведаць маму, але:

Снова дотянулся до окна.
На кровати, где она лежала,
ни матраца нет, ни одеяла —
только сетка ржавая видна.

Женщина какая-то рыдает,
ящик под ногами исчезает.
А сестра совсем с ума сошла:
— Славка, наша мама умерла!

Ад голаду, знясіленая, яна памерла, «моложе молодых» адышла ў вечнасць. Каб прыходзіць у сны і застацца ў памяці. А памяць пра маці таксама збалелая. Не толькі таму, што рана пайшоў з жыцця самы блізкі чалавек. Лірычны герой чым больш жыве, тым часцей пачынае ўсведамляць, што поўніцца ягонае сэрца віной перад маці. Няхай гэта і не прамая ягоная віна, а ўскосная, тым не менш ад гэтага лягчэй не становіцца:

В Чаусы к маме приехал, —
шорох ко мне подбежал…
Детства заплаканным эхом
встретил кладбищенский вал.

Здесь вот, с дорогою рядом,
маму тогда хоронил…
Сколько за этой оградой
Неразличимых могил!

Толькі самае страшнае ў тым, што ён ніяк не можа адшукаць тую магілу, дзеля якой і прыехаў у гэты горад. Як ні сіліцца, але намаганні марныя. Няўмольны час зрабіў сваю справу:

Бабка ступает устало,
кутаясь в черный платок.
Смотрит сквозь годы… Узнала:
— Где ж ты был раньше сынок?

Тое, што І. Катляроў у адным са сваіх твораў выказвае такімі словамі: «Прошлое никак не отпускает, // память от него не отвыкает», канечне, можа прамовіць кожны з нас. Асабліва той, хто дасягнуў ужо свайго сталага веку. Але, на шчасце, пераважную большасць з нас мінула тое, пра што даведваешся з гэтага верша: «Каждый временем украшен, // жить не в нем, — нельзя… // Разошлись дороги наши, // детских лет друзья. // Кто на мине подорвался, // брошенной в костер, // кто на финочку нарвался — на нее, в упор». Ды сутнасць таго часу была б няпоўнай, калі не такія паэтавы радкі: «Вдруг жалели немцев пленных, // а себя — так нет — пасынки послевоенных, // да, жестоких лет».

Гэта таксама з таго, што не прыдумаеш, бо каб сказаць так праўдзіва і пераканаўча, спачатку трэба самому перажыць усё, каб пасля ўжо, праз шмат гадоў вярнуўшыся да яго, прапусціць пражытае праз сэрца, быццам нанава адчуўшы і перажыўшы яго:

Не боялся ножа и кастета,
выходил и один на один
у сверкавших от зимнего света
и победно дымивших руин.

— Ну, давай! — подзадоривал кто-то.
В круг ступали, бледнея слегка,
Витька — сын полицая и жмота,
я — бывалого фронтовика.

Лірычны герой І. Катлярова невыпадкова нікога і нічога не баяўся, бо гэта была ягоная святая помста: «бил его за отца и за маму…» За тых біў, хто для яго — самы дарагі. Гэтаксама шчырыя, на дзіва прачулыя радкі І. Катляроў прысвяціў свайму бацьку, сябрам маленства. Увогуле, кніга «В днях к самозавенью не готовых...» — гэта як бы выбранае з памяці лірычнага героя, але яно змясціла ў сабе вельмі шмат, бо аўтар не абяжоўваецца толькі ваеннымі і пасляваеннымі гадамі (што, зразумела, апраўдана), а звяртаецца і да больш позняга перыяду з жыцця «дзяцей вайны».

Напрыклад, прыемнае ўражанне пакідае верш «*** Разудало лихи, хоть и бедно одеты...», прысвечаны знакамітаму паэту Ігару Шклярэўскаму, у якім гаворыцца пра тое, як «гонорар за стихи из районной газеты // пропивали юнцы в могилевском кафе»:

Их лирический пыл,
по-весеннему резкий,
звал в иные края. Вряд ли знал
Могилев,
что один из них был —
ну конечно, Шкляревский,
а второй — это я, Изяслав Котляров.

Збалелая памяць І. Катлярова — гэта і памяць цэлага пакалення, якое ў маленстве заспела самую страшную ў гісторыі чалавецтва вайну і якая не адпускае яго ад сябе. Тыя ж з гэтага пакалення, каму Бог даў талент, усё звяртаюцца і звяртаюцца да яе ў сваіх творах. Наколькі плённы гэты зварот, пацвярджае і кніга І. Катлярова «Верность».

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# НЕ СЧАРСЦВЕЦЬ ДУШОЙ




**И НЕТ ПУТИ ЧУЖОГО**

**Сост. А. Черота**

*Мн.: Издательский дом «Звязда», 2014*

У адным з інтэрв'ю некалькі гадоў таму Андрэй Федарэнка так характарызаваў сучасную літаратурную сітуацыю на Беларусі: «У нас цяпер у прозы, кажучы медыцынскай тэрміналогіяй, «стабільна цяжкі» стан». З гэтым, зразумела, можна пагаджацца ці не пагаджацца… Але пісьменнік цалкам мае права выказваць падобныя думкі, бо не адзін год адпрацаваў у літаратурных выданнях. З гэтай нагоды хочацца падкрэсліць абавязковую наяўнасць у загадчыкаў аддзела прозы тонкага мастацкага густу, здольнасці размяжоўваць сапраўды вартыя рэчы і графаманства, дапамагаць маладым (ды і не толькі маладым) пісьменнікам даводзіць да ладу іх творы. Адным з прыкладаў рэдактараў мудрых і разважлівых, з несумненным пісьменніцкім талентам і абвостраным адчуваннем фальшу з'яўляецца Алег Аляксеевіч Ждан. З яго дапамогай на старонках «Нёмана» пабачылі свет многія таленавітыя апавяданні, аповесці, раманы… Відаць, таму і наспела неабходнасць выдання зборніка сучаснай беларускай прозы, што друкавалася ў гэтым часопісе. Выдатнай падзеяй літаратурнага жыцця стаў выхад кнігі «И нет пути чужого», укладальнікам якой выступіў галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота. Выбар жанравай формы і канкрэтных твораў бачыцца зусім невыпадковым. Перад намі пяць аповесцей: «Дикий луг» Андрэя Федарэнкі, «Прощение» Алены Брава, «Гений» Алега Ждана, «Послание» Алены Паповай, «…И нет пути чужого» Уладзіміра Саламахі (на рускай мове ці ў перакладах на рускую мову). Аповесць — сапраўднае выпрабаванне на трываласць пісьменніка. Гэта, вядома, яшчэ не раман са шматлікімі сюжэтнымі лініямі, аднак у тым і праяўляецца майстэрства — увесь час трымаць чытача ў напружанні, калі дзеянне сканцэнтравана вакол некалькіх герояў і абмежавана не вельмі вялікім часавым адрэзкам. Часам з-за складанасці і глыбіні аповесць блытаюць з раманам (калі браць пад ўвагу не толькі непасрэдна памер твора). Нездарма ў

заходнім літаратуразнаўстве паняццю «аповесць» адпавядае «кароткі раман» (short novel). Выбар жа аўтарскіх персаналій быў звязаны непасрэдна з павышанай увагай да іх твораў чытачоў і літаратурных крытыкаў.

Пасля першай публікацыі аповесці «Дикий дуг» разгарнулася сапраўдная дыскусія на старонках сеціва і перыядычных выданняў. Папракалі Федарэнку і ў пануючым дэструктыўным пачатку яго творчасці, ачарненні ўкладу жыцця беларускай вёскі, у адсутнасці станоўчых герояў і г. д. Але былі і меркаванні цалкам палярныя, якія ўхвалялі аўтара за адметнасць стылю, дакладныя і праўдзівыя карціны сельскай рэальнасці, добрае веданне псіхалогіі… А гэта значыць, што твор сапраўды незвычайна прыцягальны, не пакідае абыякавым ніводнага чытача. Вярнуцца ў не вельмі далёкае мінулае, палюбавацца шчодрай прыродай таго краю, дзе ў Прыпяці столькі рыбы, што яна сама на бераг выскоквае, парадавацца, а пасля паспачуваць душой страшэннаму людскому гору… Усё гэта можа зрабіць кожны разам з героямі Андрэя Федарэнкі. Пэўна, многія згадаюць людзей, нечым падобных да франтаватага прыгажуна Пятра-Кветкі, заўзятай гаспадыні Махновачкі, «хлопца, які ведае жыццё» Рыгора. Дакладна выпісаныя вобразы-тыпы, якія паказаны ў развіцці, станаўленні іх якасцей — вось сапраўдная заслуга А. Федарэнкі. Аўтара, які не прыхарошвае жыццё, умее знайсці патрэбны тон, уступіць у дыялог з чытачом. Аўтара, кожны твор якога — падзея.

Аповесць «Дараванне» Алены Брава (у перакладзе на рускую мову аўтара) таксама разумее і прымае не кожны, як і творчасць несумненна таленавітай пісьменніцы ў цэлым. Некага раздражняюць яе смелыя высновы і непрыхаваны натуралізм, нехта захапляецца яе мастацкім густам і арыгінальнасцю. Але якія б формы для выражэння думак ні абірала пісьменніца, ніхто не будзе спрачацца, што ў яе творах вырашаюцца праблемы надта актуальныя для сённяшняга грамадства. «Кто охраняет владения Мнемозины, каковы стражи ее границ и почему ни одно поколение не хочет воспользоваться кредитом — беспроцентным — из банка общечеловеческой памяти?» — менавіта такім пытаннем задаецца беларуска Ларыса, якая вымушана клапаціцца пра былога радавога Трэцяга рэйха, які працягвае «ваяваць» і ў мірны час, дома. «Утратив память, неизбежно теряешь истину», — неаспрэчная формула, выведзеная Аленай Брава. І гэта сапраўды так, бо страшна назіраць, калі эміgranцкі часопіс у Германіі ў сувязі з датай 9 мая ўзгадвае толькі Луі Армстранга і пазбаўленне «ад душэўнага гета» прадстаўнікоў нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі. Незвычайна эмацыйным і кранаючым твор атрымаўся, пэўна, таму, што ў галоўную гераіню ўкладзена асабістае: бацька Алены Брава пражыў усё жыццё пад імем свайго малодшага брата, які задыхнуўся, калі бабуля, хаваючыся з дзецьмі ў лесе падчас аблавы, намагалася даць яму грудзі. А яшчэ сімвалічным з’яўляецца тое, што тыраж аповесці асобным выданнем склаў 1418 экзэмпляраў (менавіта столькі дзён доўжылася Вялікая Айчынная вайна). Такім чынам, твор варта прачытаць хаця б для таго, каб зрабіць сабе дзейсную прышчэпку ад гістарычнага бяспамяцтва.

Геніяльнасць — дар ці праклён? Ці трэба мірыцца з празмерным эгаізмам адораных людзей? Ці ёсць прарок на сваёй радзіме? Вечныя пытанні, адназначнага адказу на якія атрымаць, здаецца, нельга. Не дае іх і Алег Ждан у аповесці «Гений». Аднак падштурхоўвае нас да глыбокага разважання, самааналізу. Галоўны герой Трышка, самотны мастак, талент якога не прызнаюць, бо ён малюе не толькі тое, што бачна воку. У кожным чалавеку ён знаходзіць перспектыву развіцця, падае іх на партрэтах старэйшымі, раскрывае тое патаемнае, што не кожны хоча дэманстраваць. Як кажуць, нарадзіўся ён «з вывіхам». Яшчэ ў дзяцінстве, калі прасілі намаляваць котку, маляваў сабаку, прасілі сабаку — маляваў ката. У свае дваццаць пяць ён не ведае жанчын, але з цягам часу вырашае, што валоданне жанчынай — не для яго. Прагна хоча займець сябра — і адракаецца ад

сяброўства. Нават плюе ў твар маці, адзінага чалавека, якога лічыў родным, бо, як яму падаецца, ведае яе з мінулых жыццяў. Але ці павінны мы безапеляцыйна асуджаць такіх людзей? «Я і сам толькі ў канцы аповесці зразумеў майго героя і дараваў яму», — прызнаецца Алег Ждан. Дык давайце ж і мы пройдзем гэты шлях даравання…

Алена Папова — смелы мастак слова. Не баіцца выкарыстання хвосткіх і даволі моцных выразаў, слэнгу, лаянкавай лексікі. Але, як ведае кожны ўважлівы чытач і таленавіты пісьменнік, у гэтай справе лёгка можна і «перасаліць» і «недасаліць». У Алены Паповай — гэта не бязглуздая вульгарнасць, неабумоўленая мастацкімі задачамі. Моўная характарыстыка героям даецца дакладная, выглядае ў тэксце цалкам арганічна, на сваім месцы. Як жа па-іншаму могуць размаўляць «интеллигенты и генетические христиане», якія разумеюць, што вакол іх «всякая сволочь и классические дураки». Тонкай іроніяй пранізана ўся аповесць «Прощение». Бо, не іранізуючы над сабой і жыццём, не змогуць уратавацца яе героі, кожны з якіх бяжыць ад сябе, ад адзіноты, ад жыццёвых турбот… Гэта самыя сапраўдныя сучасныя людзі, якія не могуць «прорваться через салон Анны Павловны Шерер», але могуць злавіць «месседж» ад прафесара Куна. Людзі, якія шукаюць свой «монастырь Клюни» і намагаюцца вырашыць, хто з іх Дон Кіхот, а хто Дульцынея Табоская. Прыпыніцца ў віры падзей, вырашыць для сябе, як не стаць матылём-аднадзёнкай, якія «берагі» злучыць ці раз'яднаць, прыглядзецца да блізкіх людзей і дараваць… Вось тое простае і галоўнае, на што можа натхніць аповесць.

«Не каждый из нас, людей, человек по своей сущности», — сцвярджае Уладзімір Саламаха. Даўно вядома, што сапраўдная сутнасць асобы раскрываецца толькі ў «памежным стане». Ці вінаваты бацька паліцая? Ці можна схавацца ад пакут сумлення? Як выжыць і не прадацца за трыццаць сярэбранікаў «сыцікам»-тылавікам? Такія няпростыя задачы стаяць перад героямі аповесці «…И нет пути чужого». Без перабольшвання адным з самых моцных твораў пра вайну за апошні час можна назваць гэты твор. Чаму? Магчыма таму, што аўтар за доўгае творчае жыццё назапашыў бясцэнны вопыт назірання за светам прыроды і людзей, адрознівае драбнейшыя нюансы ў зменах душэўнага стану, можа яскрава і лаканічна стварыць запамінальную мастацкую дэталь. Праўдзівае апісанне вясковага побыту спалучаецца ў творы з глыбокім роздумам. На першы план выходзіць філасофія простага чалавека, які валодае чулым сэрцам, шукае адказу на вечныя пытанні ў Бога і людзей. Як робяцца злодзеямі, калі «все люди рождаются одинаковыми»? — пакутуе над пытаннем стары Яфім. Ці можна пазбавіцца ад згрызот мінулага, калі змяніць асяроддзе, вырашае Іосіф Кучынскі. І што галоўнае, перад тварам страшэннай катастрофы, знявечаныя жыццём гэтыя людзі, якія быццам бы «загрубели от нелегкой жизни» і саромеюцца радасці, не губляюць пяшчоты і шкадавання. Клапоцяцца пра цяжарную Кацярыну, шкадуюць хворых коней. Ці не галоўная ж гэта адзнака высокай літаратуры — імкненне герояў да маральнага самаўдасканалення? Ды і не толькі гэтым вызначаецца вартасць аповесці. Цудоўныя малюнкі прыроды, тонкія дэталі каляровага свячэння зямлі пасля ночы, зменлівых ценяў на сцяне вясковай хаты, зеленаватага перадвясновага неба… Усё тое ж уменне Уладзіміра Саламахі выхапіць у карціне жыцця нешта, здавалася б, нязначнае, але такое важнае. Рэдкая «вспышка счастья» сярод вайны — шчымлівая сустрэча двух братоў на пероне ці відзежы памерлых у святле свечкі — усё прапісана праўдзіва, з моцным пачуццём і жыццёвай дакладнасцю. Каб адчуць сапраўды магічнае ўздзеянне слова, якое сагрэта рукамі майстра, адкрыйце для сябе яго мастацкі свет.

«… И нет пути чужого» — гучыць і як прызыў да маладых літаратараў. Як бачым, сучасная проза можа быць рознай: даволі традыцыйнай ці падкрэслена сучаснай, мадэрновай. Але толькі калі ісці сваім шляхам, адметным і цікавым, можна не згубіцца сярод шэрагу іншых і атрымаць прызнанне.




**РАДЗІМА. АДЗІНСТВА. ПЕРАМОГА**

**Уклад. Б. Даўгатовіч**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

Паэтычна і ўзнёсла Міншчыну называюць сэрцам Беларусі. А сэрца, як вядома, можа і ад радасці трапятаць, і сціскацца ад болю. З поўнай упэўненасцю можна сказаць, што ўсе найбольш значныя ваенныя падзеі двух мінулых стагоддзяў у той ці іншай меры закранулі землі сучаснай Мінскай вобласці. У вайну 1812 г. тэрыторыя стала месцам баявых дзеянняў расійскага і напалеонаўскага войскаў. Падчас Першай сусветнай вайны крывавыя баі адбываліся каля Маладзечна і Вілейкі ў межах ліквідацыі так званага Свянцянскага прарыву нямецкіх войск, а таксама ў ходзе Нарачанскай аперацыі. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны Міншчына зноў прымае ўдар на сябе: ужо 2 ліпеня 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі здзяйсняюць яе скразную акупацыю. Акупацыйны рэжым знішчае некалькі соцень тысяч чалавек, губіць у полымі 157 вёсак. Аднак адначасова з гэтым распачынаецца і слаўная гісторыя змагання з ворагамі партызанскага руху: да канца 1942 г. у Мінскай вобласці не было такога рэгіёна, дзе б ні дзейнічалі партызанскія атрады. Пад камандаваннем В. Казлова, Р. Мачульскага, І. Бельскага і інш. быў здзейснены шэраг буйных баявых аперацый, у тым ліку «Рэха на Палессі» — узарваны 150-метровы чыгуначны мост праз раку Пціч. Васьмідзесяці ўраджэнцам Міншчыны было нададзена ганаровае званне Героя Савецкага Саюза, тысячы ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Да 70-годдзя Вялікай Перамогі Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі падрыхтавала кнігу «Радзіма. Адзінства. Перамога» — калектыўны зборнік вершаў, апавяданняў, нарысаў, успамінаў. «Вайна была так даўно, і для сённяшняй моладзі яна ў пэўным сэнсе — абстракцыя. Гэтаксама як грамадзянская вайна або Вялікая французская рэвалюцыя: архіўныя дакументы, асабістая перапіска, франтавыя ўзнагароды. Дзеці і моладзь ставяцца да ўсяго гэтага з павагай, але не здольныя ўспрыняць у комплексе», — піша адзін з аўтараў зборніка Лілія Мялешка. Тую ж праблему ўздымае і Алена Стэльмах, разважаючы, як патлумачыць васьмігадовай дачушцы, што такое вайна. І сапраўды, каб зацікавіць сёння маладых людзей тэмай Вялікай Айчыннай, прымусіць адчуваць сапраўдныя моцныя пачуцці, трэба пісаць максімальна шчыра і дакладна, абапіраючыся на мемуарныя, архіўныя матэрыялы. Разумеючы гэта, Аляксандр Раманаў і Зіновій Прыгодзіч у нарысе «Свет его звезды» малююць падрабязны, дэталёвы партрэт Уладзіміра Хамчэнкоўскага, партызанскага разведчыка брыгады імя К. К. Ракасоўскага. На аснове ўспамінаў былых аднакласнікаў узнаўляюць яны жывы абаяльны вобраз таленавітага і цікаўнага хлопца, знаёмяць з яго думкамі і перажываннямі праз радкі асабістага дзённіка, дэталёва і эмацыйна распавядаюць пра выкананне ім адказных і небяспечных даручэнняў штаба, а таксама пра абставіны апошняга подзвігу. Унікальныя матэрыялы, падрыхтава-

ныя на аснове гутарак з выканаўцай смяротнага прысуду над гаўляйтарам Кубэ Аленай Мазанік, прадставіў у кнізе Анатоль Смалянка, былы намеснік старшыні абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, які нядаўна пайшоў жыцця. «Я выполнила волю народа» — шэраг нарысаў, звязаных з жыццём гераічнай жанчыны, фактичную базу для якіх Анатоль Уладзіміравіч збіраў паступова на працягу многіх гадоў, таму і даў працы адпаведны падзагаловак «Из старых блокнотов». Дзякуючы яго руплівай працы чытачы могуць сёння ўявіць жахлівую атмасферу ваеннай пары, калі ў Мінску «на каждом шагу висели на перекладинах люди», даведацца пра тыя факты жыцця і подзвігу Алены Мазанік, якія раней згладжваліся, бо «еще не время обо всем говорить». Тая ж непасрэднасць і шчырасць адрознівае і аповед Браніслава Зубкоўскага пра камандзіра ўзвода разведчыкаў 347-й Бабруйскай дывізіі Б. Прасвірына, і нарыс Дзмітрыя Вінаградава пра разведчыкаў 300-й партызанскай брыгады імя Варашылава, і шмат якія іншыя творы зборніка «Радзіма. Адзінства. Перамога». Маленькая дзяўчынка, якая з гонарам вучыць размаўляць расіян на беларускай мове, бязногі салдат Мікалай, што іграе на гармоніку для жонкі, кантралёр у кінатэатры, чулы да асірацелых дзяцей — героі апавяданняў Таццяны Цехнебедзінай, Кацярыны Хадасевіч-Лісавой, Браніслава Зубкоўскага, несумненна, нікога не пакінуць абыякавымі. Лірычныя вершы Таццяны Мушынскай, Аляксея Суркова, Віктара Кажуры, Галіны Плаксы, Рагнеда Малахоўскага, Алы Лапошыч аб’ядноўвае, з аднаго боку, даволі традыцыйны для беларускай літаратуры падыход да раскрыцця ваеннай тэматыкі, а з іншага — гэта кожны раз новае прачытанне, творчая інтэрпрэтацыя сталых вобразаў-сімвалаў. Жанравая разнастайнасць кнігі «Радзіма. Адзінства. Перамога» прыемна здзіўляе: прадстаўлены ў зборніку і паэма, п’еса… І гэта вельмі каштоўна, бо па-мастацку рэканструяваць падзеі Вялікай Айчыннай вайны, захаваць успаміны пра падзеі «грозных гадоў», пакуль яшчэ засталіся іх непасрэдныя сведкі — сёння наша галоўная задача. «Каму, як не пісьменнікам, публіцыстам, прайсці шляхамі памяці, узнавіць усемагчымыя факты і расказаць пра трагедыі, пра несуцешны боль наступным пакаленням?!» — такімі словамі завяршае краязнаўчы нарыс пра спаленую вёску Беразянку Алесь Карлюкевіч. Дык давайце ж і мы пройдзем разам з аўтарамі кнігі пуцявінамі змагання, веры і праўды. Каб не счарсцвець душой, каб берагчы, каб помніць…

# МАЙ

* * *

З пятага нумара за 1925 год «Полымя» пачало друкаваць — з вялікімі перапынкамі — раздзелы з рамана Цішкі Гартнага «Сокі цаліны». З першай часткай, ці, як называў сам аўтар, квадрай, «Бацькава воля», чытачы маглі пазнаёміцца раней: спачатку, у 1916 годзе, урыўкі з яе публікаваліся ў газеце «Дзянніца», пасля, у 1922-м, «Бацькава воля» выйшла ў Берліне асобнай кнігай. Чаму ў Берліне? Справа ў тым, што ўласнабеларускае кнігавыданне тады толькі пачынала развівацца, натыкаючыся на шматлікія праблемы, і ў канцы 1921 года Гартны быў накіраваны ў Берлін не толькі для пераймання вопыту, але і для выдання падручнікаў і мастацкіх кніг на беларускай мове. Вось, напрыклад, што пісаў ён з Берліна ўпаўнаважанаму беларускага прадстаўніцтва ў Маскве, свайму земляку і сябру М. І. Марозу 16 снежня 1921 года:

«Братка Міхаіл!

Дастаў ад цябе ліст, пісаны 10/XI. Рад яму. Ды чаму ж не радавацца, калі ён адзін прыносіць з сабою вестачку з дарагой бацькаўшчыны і ад дарагіх людзей. Ведаеш, ты сваімі лістамі да мяне адзін падтрымліваеш так патрэбную для мяне духова-ідэйную сувязь. Здаецца, што больш нікому (ды мабыць так і ёсць) няма ніякага дзела да таго, што я тут сяджу і духова цярплю ўсё ж для вялікай ідэі культурнага адраджэння беларускага працоўнага народа. Ніхто, апроч цябе, ні вестачкі, ні слаўца не пасылае — хоць задушыся ў гэтай Нямеччыне...

Вось ты ўжо, напэўна, маеш лісты мае аб тым, што грошы разменяны. З усіх мільёнаў царскіх — выйшла 1.200.000 мар. На гэтыя грошы я сумею аддрукаваць толькі 100 аркушаў — кніжак 8—9. А ў мяне ёсць рукапісаў на 300 аркушаў. Знача, не хопіць грошы вунь сколькі. Гэта дзякуючы затрымцы з вясны ажно. Вось, браток, прылажы ўсе старанні, каб яшчэ дастаць хоць царскіх мільёнаў 50—60. Яны тут (на нашу бяду) ізноў падняліся вартасцю».

Па ўсім відаць, мільёны так і не знайшліся, паколькі ўсяго ўдалося надрукаваць 10 кніжак агульным тыражом 138 500 экзэмпляраў. І, безумоўна, адной з самых цікавых з іх аказалася першая квадра рамана «Сокі цаліны».

Сёння гэты раман запатрабаваны ў большасці сваёй спецыялістамі. Для тых, хто цікавіцца гісторыяй станаўлення новай беларускай літаратуры, ён з'яўляецца надзвычай каштоўным «архіўным» матэрыялам. І справа не толькі і нават не столькі ў тым, што «Сокі цаліны» ўвайшлі ў айчынную літаратуру як першы беларускі эпічны сацыяльна-бытавы раман, як першы беларускі гарадскі раман, дзе галоўны герой — рабочы, а не, да прыкладу, селянін. Прынамсі, не менш цікавы іншы факт: раман быў пачаты ў 1914 годзе, закончаны (з улікам пазнейшых перапрацовак першай квадры) у 1931-м. Ён аказаўся як бы рассечаны на дзве няроўныя паловы, кожная з якіх аказалася ў розных эпохах, і хоць аўтар пасля шмат працаваў над творам, імкнуўся злучыць гэтыя паловы ў адзін непадзельны жывы арганізм, глыбокі шнар паміж імі так і застаўся.

Самай цікавай з мастацкага пункту гледжання з'яўляецца першая квадра «Сокаў цаліны», якую, праўда, пісьменнік змушаны быў істотна перапрацаваць напачатку 30-х, калі рыхтаваў раман — усе чатыры квадры — для свайго Збору твораў у чатырох тамах.

«Бацькава воля» прыцягвае да сябе ўвагу і яшчэ адной акалічнасцю. У 1923 годзе пленум ЦК КП(б)Б прыняў пастанову аб прысваенні Цішку Гартнаму звання народны паэт Беларусі, хоць чамусьці гэтая справа так і не была даведзена да канца. Казалі, быццам пісьменнік сам адмовіўся ад ганаровага звання, аргументуючы гэта тым, што яго яшчэ атрымалі Купала і Колас. Аднак узнікае іншае і зусім лагічнае пытанне: за якія надзвычайныя заслугі аўтара была прынята пастанова? Першы — зусім невялікі — паэтычны зборнік Цішкі Гартнага выйшаў у 1913 годзе. Другі — ужо даволі аб'ёмны, на 102 старонкі — пабачыў свет амаль праз дзесяць гадоў, у 22-м. І хоць Гартны быў прызнаны пачынальнікам рабочай тэматыкі ў беларускай паэзіі, а пасля рэвалюцыі стаў, бадай, самым актыўным правадніком яе ідэй у беларускай паэзіі, як паэт ён не мог параўнацца з тымі ж Купалам і Коласам. Ці не ўлічыў пленум ЦК пры вынясенні сваёй пастановы і дасягненні Цішкі Гартнага ў галіне прозы? Яго «Бацькава воля», сапраўды, карысталася вялікай папулярнасцю, асабліва сярод моладзі. Дый у цэлым у гісторыі беларускай літаратуры Гартны застаўся найперш як празаік.

Праўда, нягледзячы на тое, што раман «Сокі цаліны» ідэальна адпавядаў тагачаснай ідэалогіі і, на самай справе, уздымаў новую, надзвычай актуальную для свайго часу тэму ў беларускай літаратуры, ён не ўратаваў аўтара ад жыццёвай трагедыі. Хоць напачатку здавалася, што калі лёс і можа з кімсьці абысціся надзвычай жорстка, то не з ім — Зміцерам Хведаравічам Жылуновічам (такое сапраўднае імя пісьменніка). Сын гарбара, ён з самых нізоў прыйшоў у вялікую палітыку: пранікся рэвалюцыйнымі ідэямі, прымаў актыўны ўдзел у забастоўках і дэманстрацыях, быў дэпутатам Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, старшынёй Беларускай сацыялістычнай грамады. У 1918 годзе з'яўляўся сакратаром Беларускага нацыянальнага камісарыята пры ўрадзе РСФСР, а з 1 студзеня па 3 лютага 1919 года — Часовым старшынёй урада Беларусі.

Апроч таго, Цішка Гартны працаваў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь» і часопіса «Полымя», дырэктарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР і Дзяржаўнага архіва БССР, загадчыкам Галоўмастацтва і намеснікам народнага камісара асветы Беларусі. Быў сябрам Інбелкульта, а ў 1928 годзе абраны акадэмікам Акадэміі навук БССР.

Паэт Алесь Звонак пісаў у сваіх успамінах: «Не думаю, што мае асабістыя сустрэчы з Цішкам Гартным маюць якое-небудзь значэнне, ды не так і многа іх было. Што магло быць агульнага ў дваццацігадовага ці крыху больш «маладнякоўца», які робіць першыя крокі ў літаратуры, і ў масцітага пісьменніка і дзеяча дзяржаўнага маштабу, на дваццаць гадоў старэйшага за мяне? У студэнта першага курса ўніверсітэта і акадэміка, вучонага? Не падзяляю я і такой «канцэпцыі», што, маўляў, чалавек пазнаецца ў няшчасці і, перакруціўшы гэтую пагаворку ў дапасаванні да Цішкі Гартнага, мудрагеліста высноўваюць, што калі чалавек атулены арэолам славы, дык ён трымае сябе як бог, недасяжна і непрыступна, а калі ён скінуты з прастолу, развенчаны, дык ён становіцца чалавекам, падобным на самога сябе.

Вы сустракаліся з рабочым чалавекам, які доўгія гады свайго жыцця правёў за варштатам ці ля станка? Ён негаваркі. Машына, праца ля станка не любяць гаваркіх. Вось гэтыя засяроджанасць, разважлівасць, задуменнасць і нетаропкасць у размовах — якасці не толькі дадзеныя прыродай чалавеку, яго непаўторнай індывідуальнасці, гэта яшчэ і жыццёвы і прафесійны набытак. Вось гэтыя асабістыя якасці ў поўнай меры былі ўласцівы і Цішку Гартнаму. І гаворка яго пасавала да нетаропкай разважнасці і дакладнасці думкі, выказанай ёмка і лаканічна. Невысокага

росту, каржакаваты, як кажуць, зграбна скроены, заўсёды акуратна апрануты ў замежную вопратку (жыў жа ў той Нямеччыне больш як год!), у капелюшы, у круглых акулярах, з белым глянцавым каўнерыкам і гальштукам, як тады было модна, «матыльком», ён сапраўды меў выгляд у поўнай меры інтэлектуальны, выгляд вучонага або дзеяча неабы-якога маштабу. Але адметная рыса, якая многіх насцярожвала, — гэта адсутнасць мімікі на твары. Акруглы твар яго з праніклівымі ўдумлівымі вачамі з-пад круглых акуляраў быў нерухомым. І толькі зазірнуўшы ў яго праніклівыя, удумлівыя вочы, пачуўшы яго роўны голас з капыльскім «пранонсам» (усе капыляне гавораць крыху ў нос), адчуеш добразычлівасць і цеплыню мудрага і добрага чалавека, які ведае, што азначае мудрасць жыцця…

Я сядзеў і слухаў яго прамову падчас сустрэчы са студэнтамі БДУ і назіраў, з якою ўвагаю пры поўнай цішыні ў перапоўненай зале слухалі яго прысутныя. Спакойна, не павышаючы голасу, роўна і разважліва, ён гаварыў аб заваёвах Савецкай улады ў галіне будаўніцтва сацыялізму, аб ленінскай нацыянальнай палітыцы, аб росце беларускай культуры, мастацтва і літаратуры, аб тых вялікіх і пачэсных задачах, якія давядзецца вырашаць тым, хто сёння знаходзіцца ў сценах першага ў гісторыі Беларусі ўніверсітэта.

Я слухаў яго роўную спакойную прамову і думаў. Як мог гэты чалавек, які скончыў усяго толькі Капыльскую двухкласную школу, які хапіў удосталь бяды і голаду, холаду і знявагі чалавечай годнасці, узняцца так высока ў сваім разумовым, у сваім духоўным інтэлектуальным развіцці? Гэта выступаў сапраўдны акадэмік, сапраўдны грамадскі дзеяч. Доўга не змаўкалі авацыі. Закрануў ён сваёй шчырасцю і пераканальнасцю юныя душы студэнцкія».

Тым не менш, ужо ў 20-я гады хмары паклёпніцтва пачалі згушчацца над пісьменнікам, а 16 студзеня 1931 года ён быў выключаны з партыі за «свядомае правядзенне нацыянал-апартуністычнай і нацыянал-дэмакратычнай лініі, за ўдзел у антыпартыйных групоўках, за сувязь з варожымі справе пралетарыяту нацдэмаўскіх і фашысцкімі элементамі і як рупара варожых сіл, якога выкарыстала ў сваіх мэтах контррэвалюцыя ў барацьбе з дыктатурай пралетарыяту».

16 лістапада 1936 года Цішка Гартны быў арыштаваны. 5 месяцаў правёў ён у мінскай турме, пасля чаго быў пераведзены ў Магілёўскую псіханеўралагічную бальніцу, дзе памёр 11 красавіка 1937 года. У некаторых публікацыях, прысвечаных Цішку Гартнаму, можна прачытаць, што ў бальніцы ён скончыў жыццё самагубствам. Прычым, улічваючы ўмовы знаходжання, зрабіў гэта вось як: лёг на падлогу, пасля ўзняў ножку жалезнага ложка і падсунуўся пад яе так, каб рот аказаўся на лініі яе падзення… Аднак у свой час паэт Мікола Хведаровіч (з Цішкам Гартным яны былі землякамі) расшукаў дактарку, якая тады, у 37-м, працавала ў Магілёўскай псіханеўралагічнай бальніцы, мала таго, сама рабіла ўскрыццё цела нябожчыка. Па яе словах, пісьменнік паступіў у бальніцу з дыягназам «рэактыўны псіхоз», а памёр ад кістознага перараджэння абедзвюх нырак.

У 1955 годзе адбылася рэабілітацыя пісьменніка ў грамадска-прававых адносінах, а першы пасмяротны зборнік яго вершаў пабачыў свет у 67-м, дзякуючы папулярнай серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі». Што тычыцца рамана «Сокі цаліны», то першае яго пасмяротнае перавыданне, якое склала другі і трэці тамы Збору твораў, пабачыла свет толькі пасля 1987 года, калі Цішка Гартны быў рэабілітаваны і палітычна.

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***

